**Вольга Іпатава**

# Свабода да апошняга дыхання

*Аповеды пра падарожжы*

Мінск
«Кнігазбор»
2007

УДК 821.161.3-3
ББК 68 (4 Беи) 1-76

Іпатава В.

Свабода да апошняга дыхання: аповеды пра падарожжы / Вольга Іпатава. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 184 с.

ISBN 978-985-6824-71-8.

Гэтая кніга нарадзілася ў выніку вандровак па Беларусі ў 2005-2006 гг. вядомай пісьменніцы Вольгі Іпатавай, пад час якіх яна, пры падтрымцы Інстытута гуманітарных і экалагічных тэхналогій, наведала дзесяткі памятных знакаў, магіл і помнікаў славутым людзям нашай краіны, якія былі змагарамі і набліжалі да нас Свабоду.

Апрача таго, некалькі артыкулаў прысвечаны нашым землякам, пахаваным ў іншых краінах — Амерыцы. Канадзе, Нямеччыне, — В. Жуку-Грышкевічу, Я. Сурвіллу, А. Грыцуку.

Асобны раздзел склалі згадкі пра беларусаў Вільні — Зоську Верас, Антона Шантыра, Лявона Луцксвіча і іншых, з якімі пісьменніца неаднойчы сустракалася і расказвала пра іх у тэлевізійных перадачах на Гродзенскай студыі тэлебачання, дзе яна працавала рэдактарам ў 1970-1973 гг.

Асобныя матэрыялы гэтай кнігі друкаваліся ў газетах «Наша слова», «Новы час» і «Краязнаўчай газеце».

УДК 821.161.3-3

ISBN 978-985-6824-71-8

***

Першыя старонкі гэтай кнігі нарадзіліся ў Вільні, на могілках, дзе ляжаць вялікія беларусы, што назаўсёды засталіся ў гісторыі краіны...

Напісала гэта і спынілася. Не, мабыць, давядзецца вярнуцца на трынаццаць гадоў раней, у той ліпень 1993 г., калі мы з рэжысёрам Валерыяй Скварцовай прыехалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі па запрашэнню беларускай дыяспары, у прыватнасці, Васіля Мельяновіча. Пасля многіх сустрэч мы прыехалі ў штат Нью-Джэрсі — і нас адвезлі на могілкі Іст-Брансвік. Памятаю, найбольш мяне ўзрушыла тое, што гэта былі першыя па-сапраўднаму беларускія могілкі, якія я ўбачыла ў сваім жыцці. І на многіх, пад імёнамі і прозвішчамі, былі яшчэ надпісы — знаёмыя, дарагія, бо гэта былі радкі з вершаў беларускіх паэтаў. І зноў жа на многіх помніках мы пабачылі выявы Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга.

Праграма наша была вельмі напружанай: за месяц мы зрабілі дванаццаць вялікіх тэлевізійных перадач, аб'ехалі ці не дзесяць штатаў. І на могілкі адводзілася няшмат часу, толькі каб пабачыць, як хавалі сваіх суродзічаў беларусы Амерыкі. Таму я не магла доўга разглядаць кожную магілу, а проста пайшла шчоўкаць фотаапаратам направа і налева: усё тут было цікавым, усё хацелася павезці з сабою і асэнсаваць пасля, дома. Пагартаць даведнікі, зноў усвядоміць, што значылі для нашай культуры і палітыкі Вінцук Жук-Грышкевіч, Мікола Ганько, Алесь Грыцук і іншыя, чые магілы раскіданы па свеце.

Памятаю ўзнёсласць і шчымлівы сум, якія ахапілі мяне на тым вялікім беларускім некропалі, асабліва калі бачыла імя даўно вядомага мне па забароненых крыніцах паэта ці вядомага дзеяча эміграцыі. Здавалася, я прыйшла да блізкіх мне і родных людзей. Ды так, зрэшты, яно і было: іхнія справы перажылі і перасягнулі іхнія зямныя жыцці, засталіся з намі, нашчадкамі.

Цыкл перадач пра беларусаў Амерыкі прайшоў па Беларускім тэлебачанні з вялікім поспехам і яшчэ двойчы паўтараўся, ужо і пасля першых прэзідэнцкіх выбараў, да рэферэндума, на якім былі забаронены нават згадкі пра Пагоню і сцяг, пад якім нашы продкі перамагалі ў стагоддзях.

Але ўжо гады мне часта думалася, асабліва пры ўспаміне пра ўсё знявечанае, знішчанае і забароненае ледзь не праз усю нашу гісторыю апошніх стагоддзяў: гэта ж цяпер мы, сучасныя інтэлігенты, сучасныя творцы, мусім ўзгадаць пра тых людзей, якія жылі для Беларусі, цяпер менавіта мы мусім ўнесці ў нашу энергаінфармацыйную

прастору іхнія любоў і веру, таму што нам катастрафічна не хапае ўсяго — і любові, і веры, і надзеі на добры лёс для нашай зямлі і для нашых людзей.

І па меры таго як апошнія дванаццаць гадоў ўсё звужалася ступень свабоды і грамадзянскай ініцыятывы ў беларускім грамадстве, па меры таго як уздымала галаву ідэалогія сталінізму, якая знішчыла мільёны людзей і працягвала знішчаць памяць пра нашу сапраўдную гісторыю, у маёй душы ўзрасталі жаданне і неабходнасць прычасціцца да памяці вялікіх людзей Беларусі, пабываць на іхніх магілах, сабраць у адно звесткі пра іх і, вобразна кажучы, пракласці маршруты для тых, у кім жывыя душа і памяць. Бо кожны з тых, пра каго расказваецца ў гэтай кнізе, варты ўспаміну. Таму што ён жыў са свабоднай душой і жыў Свабодай — да апошняга дыхання.

Аўтар

## НА МОГІЛКАХ РОСА У ВІЛЬНІ

Той дзень на Радаўніцу, што прыпала на 2 мая 2006 г., мне пашчасціла правесці ў Вільні. Так склалася: семінар, на які мяне ў ліку іншых беларускіх інтэлектуалаў запрасілі літоўцы, пачынаўся менавіта ў той дзень, увечары. Але з Мінска я паехала першым аўтобусам, які адыходзіў у 7.20 раніцы, і а палове дванаццатай была ўжо ў літоўскай сталіцы, на могілках Роса.

Сухі і капрызны вецер, яшчэ з памяццю пра сцюдзёную зіму, матляў ў розныя бакі чэзлае бацвінне ссохлых кветак на жалобных узгорках, дзе-нідзе ўжо прабівалася маладая зялёная трава, і людзі, што там-сям шчыравалі ля магіл, стараліся схавацца ад холаду за вялікімі мармуровымі ці гранітнымі помнікамі.

Я звыкла ўвайшла ў чырвоную цагляную арку — такой жа была і цэнтральная капліца ля ўвахода, спынілася ля магілы Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкая), што месціцца на самым пачатку гэтых славутых могілак.

Адразу ўзгадаўся верш паэта-нашаніўца Янкі Журбы (Івана Івашына):

### ПАМЯЦІ ЯДВІГІНА Ш.

*З прычыны яго смерці*
*26 лютага 1922 г.*

Сумуй, краіна беларусаў,
Жалобны апрані убор,
Бо змоўк пісьменнік твой яскравы.
Смяртэльны ўнёс яго віхор...
Ён шчыра зычыў долі краю,
Чакаў святлейшага жыцця.
І вось зара ўзышла ў краіне,
А ён у царстве небыцця.
Але ў сваіх жывучых творах
Ты ў краі вечна будзеш жыць!
Таго радзіма не забудзе,
Хто шчыра ўмеў яе любіць.
На роднай глебе беларускай
Твая «Бярозка» й «Васількі»
Заўжды тут будуць красавацца,
Як чараўныя аганькі.
Агонь не згасне вострых словаў;
Іх беларусам не забыць,
Пакуль наш край існуе ў свеце.

Пакуль наш люд тут будзе жыць!
Ты гумарам, сатырай ёмкай
Людзей палепшыць жыццё дбаў,
З каханнем шчырым к чалавеку
Яго заганы маляваў.
Жыццё звяроў і розных птушак
Любіў ты шчыра, як дзіця, —
І з-пад пяра твайго паўсталі
На свет малюнкі іх жыцця.
Твайго імя нам не забыцца
У доўгім шэрагу вякоў.
Прымі ж хвалу, пісьменнік слаўны,
Краіны роднае сыноў![1]

Ядвігін Ш. памёр 23 лютага 1922 г.

Помнік яму на гэтых могілках паставілі праз 15 гадоў пасля ягонай смерці, у час, калі Вільня была для Беларусі замежжам, і гэта тлумачыць сам факт ягонага з'яўлення, бо ў Савецкай Беларусі 1937 г. такое ўшанаванне «нацдэмаўскага» паэта было б немагчымым. Яго сям'я засталася ў БССР, і лёс яе быў трагічным: абодва сыны як «памешчыцкія дзеці» былі адпраўлены ў ссылку спачатку ў Котлас, а пасля на лесапавал пад Верхні Томск, дзе адзін з іх памёр, а другі, выпраўлены на фронт, загінуў Дачцэ Вандзе, якой спачатку дазволілі толькі працу пасудамыйкі ў рабочай сталоўцы, пасля не выдалі беларускага пашпарта, і яна вымушана была разам з маці з'ехаць з зямлі, на якой нарадзілася, для якой столькі працавала разам са сваім бацькам-пісьменнікам, ды і сама яна пісала і была творчым чалавекам. Іхняя сядзіба, любая Карпілаўка, куды так часта па-суседску прыходзіў Янка Купала, дзе бывалі лепшыя людзі Беларусі, была разбурана, і на сённяшні дзень там, дзе віравала беларускае жыццё і дзе былі напісаны лепшыя творы Ядвігіна Ш. (такі псеўданім Антона Лявіцкага), захаваліся толькі камяні падмурка...

Вось жахлівая дэталь, пра якую піша ў кнізе «Карпілаўка» знаны наш даследчык Уладзімір Содаль: калі жонка Лявіцкага Луцыя памерла ў час вайны ў Нежыне (у Беларусі ёй месца, як і дачцы, не знайшлося), то на дамавіну ёй не было дошак, і дамоўку сплялі з чароту і аеру. У ёй і пахавалі жанчыну, якая ў час Першай сусветнай вайны разам з мужам самаахвярна ратавала беларускіх дзяцей-

[1] Цыт. па кн.: Журба Я. Творы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993.

бежанцаў, дапамагала яму ва ўсіх ягоных культурніцкіх акцыях і справах...

Зяць Ядвігіна Ш., пісьменнік, публіцыст і мовазнавец Язэп Лёсік, таксама спазнаў горкі лёс. Арыштаваны першы раз яшчэ пры царскім урадзе (1905 г.), ён не аднойчы арыштоўваўся пры ўладзе савецкай. Найперш у віну яму ставіўся ўдзел ва Усебеларускім кангрэсе 1917 г. і ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. За яго, арыштаванага ўжо ў 1920 г., хадайнічаў У. Ігнатоўскі, і таму тады ён быў выпушчаны і нават, пад час кароткай беларусізацыі, зацверджаны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук і дырэктарам Інстытута навуковай мовы. Але пазней, высланы па-за межы Беларусі, ужо ніколі не быў дапушчаны да вяртання на родную зямлю. Як нядобранадзейны, гэты таленавіты чалавек пастаянна быў пад наглядам органаў ДПУ і ў рэшце рэшт расстраляны ў саратаўскай турме адразу пасля абвяшчэння яму пастановы так званай Асобай нарады пры НКУС СССР ад 31.01.1940 г.

Бальшавікі расправіліся з усёй сям'ёй Ядвігіна Ш., у тым ліку і з ягоным зяцем, — і ці адна такая сям'я была знішчана ў час таталітарызму? Мабыць, калі б Антон Лявіцкі не з'ехаў у Вільню (яго павяла туды вестка пра стварэнне незалежнай Сярэдняй Літвы, дзе адчыняюцца беларускія школы), ён гэтак жа без следу згінуў бы на вялізных прасторах Сібіры ці Архангельшчыны. як і яго сыны, тым болей што за ягонымі плячыма быў вызваленчы паход у войску генерала Булак-Балаховіча, паход, які праходзіў пад бел-чырвона-белым сцягам. Ён марыў аб свабодзе, якая некалі прыйдзе на Беларусь...

І нездарма на шэрай пліце помніка Ядвігіну Ш. выбіты наступныя словы:

Даўно гэта было,
Хадзіць чуткі сталі,
Аб вялікай волі
Усе заталкавалі...

Ён быў адным з тых, хто падрыхтоўваў наступленне гэтай «вялікай волі». Але ход гістарычных падзей быў іншым, чым таго чакалі прадвеснікі свабоды Беларусі: таталітарная сістэма, створаная бальшавікамі, не магла не тое што забыцца на іх, але і пакінуць у жывых тых, хто мог клікаць народ да волі.

Беларуская інтэлігенцыя, і ў прыватнасці пісьменнікі (як сведчыць даследчык і пляменнік аднаго з расстраляных паэтаў Леанід Маракоў), спазналі пяць хваляў арыштаў: першая з іх пачалася ў канцы чэрвеня 1930-га, другая — 23 лютага 1933 г. Гады было

арыштавана больш за 60 пісьменнікаў. Трэцяя хваля арыштаў па так званай «разнарадцы» ішла з восені 1936-га і да сярэдзіны 1938 г., калі былі рэпрэсаваны больш за 200 творцаў. Чацвёртая — увосень 1939 г., калі Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь, і, нарэшце, пятая — з канца 1944 г., якая сцішылася толькі са смерцю Сталіна.

Гэта быў сапраўдны духоўны генацыд, вынікі якога, як справядліва адзначаюць даследчыкі сталінскіх карных аперацый, адгукаюцца не толькі сёння, у нашай рэчаіснасці, але і будуць мець жахлівае водгулле ў будучыя часы.

Такі генацыд беларусаў быў не выпадковы: трэба было знішчыць духоўную моц, сам мозг нацыі, якую з даўніх часоў яшчэ царскай гісторыі планавалася ператварыць у «жывое мяса» для бясконцых экспансія імперыі. А народ трываў, змагаўся, яго інтэлігенцыя гераічна і самаахвярна жыла для народа — так, як жыў Антон Лявіцкі. Сапраўды, усё ягонае жыццё было прысвечана Беларусі — усё, да апошняга дыхання…

… Я пастаяла ля гэтай магілы вялікага беларуса, паклала на яе букецік першых вясновых красак, якія прывезла з Мінска. Дай божа прыходзіць сюды яшчэ не раз, каб душою адчуць жывую повязь часоў. Вось жа Ядвігін Ш. вучыўся ў нелегальнай школцы ў Люцынцы, якую арганізавала дачка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча Каміла, а самога пісьменніка вельмі падтрымліваў (вітаў выданне кожнай яго новай кніжкі прыхільнай рэцэнзіяй) славуты Вясковы лірнік Уладзіслаў Сыракомля, які таксама ляжыць на гэтых могілках на так званай Літарацкай горцы.

І гэтая сувязь доўжылася ў стагоддзях: да Ядвігіна Ш. прыносіў свае першыя творы юны Янка Купала, які, у сваю чаргу, разбудзіў цэлае пакаленне беларускіх дзеячаў, што ўзнялі беларускае адраджэнне і ідэалы свабоды ў пачатку XX ст. і неслі іх цераз турмы, праследы і тыранію. І яны ляжаць тут — тыя, каму пашчасціла не згінуць ў бяскрайняй Сібіры, як зніклі там многія тысячы беларусаў…

Успомніла пра Сібір, і адразу памяць звязала мяне з тым, хто першым паказаў мне гэтае славутае месца — віленскія могілкі Роса.

...Першы раз сюды прывёз мяне сын Людвікі Войцік і Фабіяна Шантыра Антон Шантыр (23.1(4.2). 1887 — крас. 1920). Тады, у 1969-1973 гг., я працавала рэдактарам на Гродзенскай студыі тэлебачання і шмат разоў прыязджала ў недалёкую Вільню, каб зрабіць чарговую перадачу пра беларускую інтэлігенцыю 20-40 гг. Я расказвала пра грамадаўцаў, пра КПЗБ, і пад гэтымі азначэннямі можна было гаварыць і пра тых, чые імёны доўгія гады знаходзіліся пад забаронай ці проста былі забытыя на радзіме: братоў Луцэвічаў, Янку Шутовіча,

прафесара, адкрывальніка «аль-кітабаў»[1] Антона Антановіча. Так я дабралася і да маленькай, схаванай у лесе хаткі Зоські Верас, дзе рухавая ветлівая гаспадыня частавала мяне пахкай гарбатай і расказвала пра падзеі далёкіх гадоў. Тады быў жывы і ейны сын Антон, які вярнуўся са сталінскіх лагераў і чамусьці пранікся даверам да маладой паэткі, якой сам захацеў паказаць славутыя магілкі Роса.

Мы паехалі туды гарадскім аўтобусам, і Антон Фабіянавіч правёў мяне па ўсіх сцяжынках, паабапал якіх ляжалі славутыя беларусы. А калі мы ўжо вярталіся і доўга чакалі зваротнага аўтобуса, нечакана расказаў мне пра лагер, пра Кенгірскае паўстанне, у якім ён, адзін з нямногіх, выжыў, а яшчэ расказаў пра славутую аўчарку, якой начальнік лагера загадаў за ейныя пошукавыя поспехі паставіць залатыя зубы.

Мне гэты аповед запомніўся да апошніх драбніц. Шмат я чытала пра злачынствы сталінскага рэжыму, але нечалавечая сутнасць таталітарнай сістэмы найбольш яскрава паўстала перада мной чамусьці нават не ў пакутах і гібелі людзей, а ў гэтым узвелічэнні сабакі над гома сапіенс, у гэтым апошнім прыніжэнні яго, Чалавека, стаўленні да яго як да «лагернага пылу».

... Праз шмат гадоў я напісала пра гэта навелу, так і назваўшы яе — «Аўчарка з залатымі зубамі».

І была ў той сустрэчы яшчэ адна, зусім непрыкметная дэталька, што сталася для мяне адзнакай сапраўднага інтэлігента, да таго ж інтэлігента-віленчука: на тым прыпынку моцна прыгрэла сонца, і схавацца ад яго не было дзе, і гэты немалады ўжо чалавек, стараючыся зрабіць гэта непрыкметна, абышоў мяне і стаў так, каб гарачыя промні падалі не на маю, а на ягоную галаву.

Мы болей не пабачыліся: ён неўзабаве памёр, таму што занадта вялікую цану заплаціў за сваю любоў да Беларусі, за свае дэмакратычныя погляды ў недэмакратычнай краіне.

Антон Фабіянавіч быў адным з тых людзей, што ведалі цану свабодзе і не скарыліся гвалту да самага свайго апошняга дня...

Я часта ўзгадвала гэтую сустрэчу і самога Антона Шантыра, а таксама зацікавілася лёсам яго бацькі.

Праз два дзесяцігоддзі, у яшчэ камуністычна-«вандэеўскай» Беларусі, пераадольваючы неверагодныя перашкоды, я разам са сваімі сябрамі-аднадумцамі ўсё ж нарэшце змагла надрукаваць у часопісе «Спадчына», дзе працавала намеснікам галоўнага рэдактара,

---

[1] Свяшчэнныя кнігі мусульман, напісаныя арабскімі літарамі па-беларуску.

І. Чыгрынава, урыўкі з кнігі Аўгена Калубовіча «Айцы БССР і іхны лёс» (1990, № 4), дзе гаварылася і пра бацьку Антона Фабіянавіча:

«Першай ахвярай з «айцоў» БССР быў сябра І-га ўрада БССР народны камісар нацыянальных спраў Фабіян Шантыр. Пісьменнік-адраджэнец, чые апавяданні і вершы друкаваліся ў «Нашай ніве», «Дзянніцы» і іншых перыядычных выданнях, у сваёй брашуры «Патрэбы нацыянальнага жыцця для беларусаў і самавызначэнне народа» (1918 г.) марыў «працаваць над адбудовай вольнай Бацькаўшчыны-Беларусі... Якая гэта вялікая доля для нас!» Ды вось... па выхадзе з урада БССР ён мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе ўвесну 1920 г. арыштаваны, абвінавачаны ў нацыянальнай контррэвалюцыі і расстраляны.

Смерць ягоная была і першай ахвярай бальшавіцкага тэрору ў беларускай літаратуры».

У Біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» змешчаны невялікі артыкул У. Лебедзева, дзе падаюцца гады жыцця Фабіяна Шантыра: 23.194.20.1887, Слуцк — крас. 1920. Есць і ягоны партрэт — прыгожага, маладога, рамантычна-ўзнёслага юнака, які глядзіць у будучае з надзеяй. Ці маглі яны — маладыя, закаханыя Людвіка Сівіцкая (будучая славутая Зоська Верас) і Фабіян Шантыр — ведаць, што будучае нясе ім жорсткія выпрабаванні, раннюю смерць аднаму і доўгае жыццё другой?! Што нават магілы Фабіяна не застанецца, каб яна магла прыйсці да яе і паплакаць, і што нашчадкі не хутка змогуць падняць з бездані забыцця яго вобраз і яго творы?

...І цяпер, праз столькі гадоў, зноў прыходзячы на віленскія могілкі Роса, я заўсёды ўзгадваю сына Фабіяна Шантыра і Людвікі Сівінкай, які таксама ўдосталь паспытаў бальшавіцкае ласкі. І ягонай памяццю таксама асвечаны людзі, якія навекі ляглі ў гэтую зямлю.

Забягаючы наперад, скажу, што змагла пабываць на магілах і Антона Фабіянавіча, і яго маці, але яны, на жаль, знаходзяцца не на могілках Роса, і таму перапынюся на імгненне, каб зазірнуць у 25 сакавіка 2007 г., калі змагла ажыццявіць сваё жаданне.

## УПІСАНАЯ Ў КНІГУ ЖЫЦЦЯ

Як і ўсім улюбёнкам лёсу, Зосьцы Верас (Людвіка Сівіцкая; 18.9(30.9)1892 — 8.10.1991) было шмат дадзена і нягодаў, і светлых хвілін шчасця. А галоўнае — яе амаль стогадовае жыццё стала энцыклапедыяй для некалькіх пакаленняў беларусаў, асабліва для тых, каму спецсховы перагарадзілі шляхі да праўды пра ўласную краіну.

Толькі ў 60-я гг. гэтыя жалезныя дзверы трохі прыадчыніліся, стала магчымым узгадваць пра дзеячаў нацыянальнага руху пачатку XX ст. Тады і сталі прыязджаць у сціплую хатку на ўскраіне Вільні (даўнішні той адрас памятаю назубок: Чырвонаармейскі праспект, 180) краязнаўцы, даследчыкі, пісьменнікі з Беларусі. А Людвіцы Антонаўне, ужо тады немаладой, але вельмі бадзёрай і энергічнай, было што расказваць: ужо ў 1911 г. яе вершы надрукавала «Наша ніва», з якой яна трымала сувязь, збіраючы кнігі для народнай бібліятэцы ў Гродна. Яна, непасрэдная ўдзельніца заходнебеларускага вызваленчага руху, была знаёма з М. Багдановічам, А. Смолічам, С. Ракам-Міхайлоўскім, З. Бядулем, У Галубком — амаль з усімі значнымі нацыянальнымі дзеячамі ваеннай і пасляваеннай пары. Была дэлегатам з'езда Беларускай сацыялістычнай грамады, а таксама Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 г., рашэнні якога сталі асновай для стварэння Акта аб Незалежнасці 25 сакавіка 1918 г.

Яна шмат працавала як выдавец і заснавальніца часопісаў для дзяцей «Заранка» (1927-1931), «Пралескі» (1934-1935). На свае сродкі выдала зборнік вершаў заходнебеларускага паэта Міхася Машары «Малюнкі».

Рэпрэсіі не абмінулі і яе: загінуў першы муж Фабіян Шантыр, у сталінскіх лагерах адседзеў шмат гадоў сын Антон, які нядоўга пажыў пасля вызвалення.

Яна выстаяла, але амаль на два дзесяцігоддзі адышла ад грамадскага жыцця, узяўшы прозвішча другога мужа — Война і гадуючы дачку Галіну ў хаце, якую пабудавала на ўскрайку Вільні. Зрэшты, тут было ёй утульна і добра: яна нездарма некалі скончыла ў Варшаве курсы «агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства».

...Я была ў гэтай хатцы неаднойчы і навучылася добра арыентавацца ў лясочку, які захіляў жытло Людвікі Антонаўны ад нядобрых вачэй.

Апошні раз пабывала ў 1987-м, на яе дзевяностапяцігоддзі. Мы прыехалі са здымачнай тэлевізійнай групай, паставіўшы на стол вялізны торт са свечкамі. Усе яны не маглі ўмясціцца на паверхні і таму гарэлі навокал торта. Яна шмат і прыгожа расказвала пра М. Багдановіча і іншых, ужо легендарных у нашай свядомасці дзеячаў Беларусі, і рэжысёр А. Сухоцкі ўсё не мог налюбавацца ёю, — твар гэтай жанчыны быў адухоўлены і светлы, і ўзрост не мог згасіць жывы бляск яе вачэй!

На жаль, амаль дзесяць гадоў я не бывала ў Вільні, і сумныя весткі аб яе хваробе, аб тым, што неўзабаве пасля яе смерці згарэла хата ў лесе, даходзілі да мяне толькі праз друк.

І вось 25 сакавіка 2007 г. мы са старшынёй Таварыства беларускай культуры ў Вільні Хведарам Нюнькам і ўнукам З. Верас Яраславам Войцікам паехалі на могілкі ў Панарах (Панерай), што прыкладна ў 12 км ад Вільні.

Стаяў ясны, цёплы вясновы дзень, але трава яшчэ не пачала прабівацца, і таму толькі вечназялёныя стволікі туі ды ядлоўцу зелянелі там-сям на невялікім гэтым некропалі.

Магіла Зоські Верас на самай «макаўцы» ўзвышша. Калі падзяліць могільнік на тры часткі ўздоўж і тры ўпоперак, то магіла З. Верас прыкладна ў чацвёртым квадраце, калі стаяць тварам да капліцы. Але тут ляжыць яна не адна: на каменнай пліце выбіты імёны маці Эміліі Сівіцкай (1869-1944), сына Антона Шантыра (1919-1976), цёткі Антаніны Садоўскай (1872-1943), мужа Антона Войціка (1898-1948). На пліце, пад імем сына, на лацініцы выбіта: «Ludvika Voycik — Zośka Vieras. 1892-1991».

Мы прыбралі магілу, запалілі свечку, паклалі на вільготную зямлю бел-чырвона-белы крыжык.

Мы жылі з ёю ў адным часе. І мы ведаем, што пакаленні беларусаў будуць прыходзіць да яе, бо імя Зоські Верас навечна ўпісана ў Кнігу Жыцця Беларусі.

Калі я ўзгадваю Вільню, заўсёды ўзгадваю і яе — Людвіку Сівіцкую.

А цяпер я ізноў іду разам з вамі, дарагія чытачы, па слаўных віленскіх могілках на Літарацкую горку да тых, каму таксама хацелася пакланіцца...

## БРАТЫ ЛУЦКЕВІЧЫ

І апошні раз была тут, ля іх, разам з сябрамі Таварыства беларускай культуры ў Літве на чале з Хведарам Нюнькам і ўдзельнікамі Другога форума інтэлектуалаў, якія рэгулярна адбываюцца цяпер ў сталіцы Літвы. І гэта было цікава тым, што мы абменьваліся сваімі думкамі аб тым, наколькі людзі, пахаваныя тут, паўплывалі на будучыню Беларусі — тую будучыню, у якой цяпер жывём мы. І ўсе сышліся на думцы — найбольш, безумоўна, працавалі на незалежнасць Беларусі браты Луцкевічы — Антон і Іван.

Гэта яны (разам з В. Ластоўскім і іншымі аднадумцамі) распрацоўвалі ідэі дзяржаўнага самавызначэння Беларусі, пачынаючы ад краёвай аўтаноміі да поўнай незалежнасці ў этнаграфічных межах. Гэта яны ставілі пытанні аб нацыянальным вызначэнні беларусаў на розных міжнародных канферэнцыях, калі пра гэта суседзі не хацелі

нават слухаць і лічылі нашу зямлю ўсяго толькі часткай сваёй тэрыторыі... Пералічваць тое, што яны паспелі зрабіць, не варта — адзін толькі гэты пералік зойме некалькі старонак, а лёс жа адмераў ім не так і многа часу. Іван пражыў усяго трыццаць восем гадоў (28.5. (9.6) 1881 — 20.8.1919) і, зняможаны сухотамі, не пакінуў пасля сябе нашчадкаў, адно толькі ўзнёслыя ўспаміны Юльяны Вітан-Дубейкаўскай расказваюць пра тое, што яму давялося ўсё ж паспытаць шчасця мець ля сябе адданага і блізкага чалавека. Дарэчы, у першыя ж гады нашай незалежнасці паводле яе ўспамінаў быў створаны спектакль пра Івана Луцкевіча, дзе ролю Юльяны выдатна сыграла (і дасюль гэты спектакль ідзе на сцэне тэатра «Зьніч») наша знакамітая актрыса Галіна Дзягілева.

Антон (17(29).1.1884 — год смерці невядомы) пражыў болей, але колькі, мы дакладна не ведаем, дый, магчыма, ужо не ўведаем ніколі. Нават год ягонай смерці не абазначаны дакладна. Прынамсі, калі спыніцца на анатацыі, прыведзенай у кнізе «Антон Луцкевіч. Да гісторыі беларускага руху» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003), дзе датай смерці называецца 1942 г., то пражыў ён усяго пяцьдзесят восем гадоў. Прыгавораны Асобай нарадай пры НКУС СССР да 6 гадоў зняволення, ён, паводле афіцыйных звестак, памёр ў Семіпалацінскай вобласці (Казахстан) у 1946 г. Паводле іншай, неафіцыйнай, ён быў закатаваны ў Вільні ў 1942 г., што і стала падставай для прыведзенай у кнізе даты. Па сутнасці, гэтаю кнігаю (складальнік і «рухавік» яе выдання вядомы даследчык Анатоль Сідарэвіч) Антон Луцкевіч вярнуўся ў палітычнае і культурніцкае поле Беларусі. Яго грунтоўныя, глыбокія артыкулы, зробленыя ім высновы аб гістарычным і палітычным шляху беларускага народа надзвычай актуальныя і сягоння. У артыкуле «На дарозе да новага жыцьця», гаворачы аб уплыве беларускай інтэлігенцыі на культуры Польшчы і Расіі, ён піша: «Калі... беларусы і ў часе свайго сну, ня маючы патрэбных варункаў для разьвіцьця як асобная нацыя, усё ж такі здолелі налажыць сваё кляймо на характар культуры двух блізкіх, але шмат дужэйшых за іх народаў, дык ня можа быць споркі аб тое, што беларускі народ мае ў сабе вялікі запас жыцьцёвай сілы. Гістарычная мінуўшчына і гэта жыцьцёвая сілы — вось фундамэнт, на якім будуецца новае жыцьцё беларусаў. На гэтым фундамэнце апіраем і мы сваю веру ў беларускае нацыянальнае адраджэнне».

Сын Антона Луцкевіча Лявон стаў вядомым беларускім грамадскім дзеячам, аўтарам кнігі «Вандроўкі па Вільні» (Вільня: Рунь, 1998), яго нявестка, Галіна Войцік, дачка славутай Зоські Верас, аддана служыць справе свабоды і дэмакратыі роднай Беларусі і

таксама піша ўспаміны пра тых, з кім звёў яе доўгі жыццёвы лёс, які таксама, як і ўва ўсіх у гэтай сям'і, быў няпростым і часам трагічным. Яны разам з мужам змаглі дастойна прадоўжыць справу сваіх вялікіх родзічаў....

Тут, на могілках Роса, «на Россе», як піша Ю. Вітан-Дубейкаўская, ляжыць толькі адзін з братоў — Іван, які спачатку быў пахаваны ў Закапанэ, адкуль яго парэшткі прывезлі ў Вільню і перапахавалі тут ў 1991 г. Дзе пахаваны Антон, не ведае ніхто. Але помнік работы скульптара Алеся Мірончыка пастаўлены ім абодвум.

Яны абодва пражылі свае нялёгкія жыцці годна і ўзнёсла, служылі роднай зямлі ўсімі сваімі сіламі і абое аддалі ёй сваю шчырую любоў і гарачую веру. Пра іх абодвух можна сказаць словамі спадарыні Юльяны, прысвечанымі каханаму чалавеку: «Іван быў чалавек ідэі, ён для яе ахвяраваў усё: сваю працу, здароўе і асабістае шчасце. І таму яму будзе вечная памяць, ня толькі ў сэрцах тых, што яго зналі й кахалі, але і ўсяго беларускага народу, бо ён «палажыў душу за другі своя»[1].

Разам з імі, як і хацеў таго пры жыцці, ляжыць Лявон Луцкевіч (1922-1997). Ён памёр нядаўна, і кожны з нас, хто любіць Вільню і цікавіцца гісторыяй, не раз прыязджаў сюды і сустракаўся з дзядзькам Лявонам.

Я памятаю яго яшчэ з 70-х, заўсёды ветлівага, добразычлівага, закаханага ў Вільню. Адчувалася, што цяжкі, а нават і трагічны лёс сям'і (ён дастаўся амаль усім нацыянальна свядомым людзям, што любілі Беларусь і змагаліся за яе незалежнасць) лёг на яго плечы вечным цяжарам. Трохі прыгорблены, часта задуменна-маўклівы, ён шмат працаваў. Як напісана ў яго біяграфіі, коратка пададзенай на вокладцы кнігі «Вандроўкі па Вільні», ён «скончыў Віленскую беларускую гімназію і тэхнічны ліцэй. Пад час Другой сусветнай вайны працаваў настаўнікам у Радашкавічах і Баранавічах. Пасля вайны на 10 гадоў быў кінуты за гулагаўскі дрот на Калыме.

У Вільню вярнуўся пасля хрушчоўскай «адлігі»... Быў адным з першых ініцыятараў адраджэння беларускага культурнага жыцця ў Вільні напрыканцы 80-х гадоў. Публікаваўся ў літоўскім і беларускім друку, браў актыўны ўдзел у стварэнні беларускай прэсы ў Літве. Быў аўтарам беларускіх перадачаў на Літоўскім радыё і на Радыё «Свабода».

Дадам, што першую сваю вандроўку па Вільні, звязаную з беларускім рухам, я рабіла якраз у суправаджэнні Лявона Луцэвіча, і з

---

[1] Цыт. па кн.: Вітан-Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. Вільня, 1994.

таго часу Вільня для мяне назаўсёды асвечана яго словамі, яго любоўю...

Каля магілы шмат аднолькавых свечак у чырвоных поліэтыленавых абгортках, сведчанне таго, што да гэтай магілы прыходзяць часта. Так, імі апякуецца Таварыства беларускай культуры ў Літве пад кіраўніцтвам Хведара Нюнькі. Сённяшняя палітыка падзяліла і беларусаў Вільні: частка з іх хоча быць нейтральнай да ўсяго, што адбываецца ў Беларусі, частка не можа змірыцца з адкрытай антыбеларускасцю і антыдэмакратызмам. Не ведаю, ці прыходзяць сюды першыя, ці змрочны покрыў забыцця і замоўчвання нацыянальных святыняў апусціўся і на іхнія галовы.

Але сваю свечку — белую, пляскатую, якой зручна стаяць на пакрытай ігліцай і кропелькамі туману зямлі — я, як і кожны раз, пастаўлю і запалю з надзеяй, што ачмурэнне скончыцца і мы — усе! — будзем прыходзіць сюды разам і паасобку.

Прыходзіць. І памятаць пра іх — Луцкевічаў...

## РАНЕЙ ЗА САЛЖАНІЦЫНА...

На Літарацкай горцы ляжыць і драматург Францішак Аляхновіч (9.03.1883 — 3.03.1944; раней пахаваны на евангелісцкіх могілках, яго парэшткі пасля зліквідавання могілак былі перапахаваны высілкамі Таварыства беларускай культуры ў Літве ў 1993 г. на славутых могілках Роса). Нарадзіўся і загінуў у Вільні, тут і застаўся назаўсёды.

Няўрымслівы і вальналюбны, ён быў таленавітым акцёрам, які беззаганна адчуваў атмасферу тэатральнай творчасці, і таму яго п'есы карысталіся вялікім поспехам. Пераходзячы мяжу паміж Беларуссю (якая тады была часткай СССР) і Літвой, у той час як ішла Грамадзянская вайна, ён рызыкаваў жыццём, але гэта таксама было часткай ягонай натуры: небяспека надавала вастрыні жыццю, якое ён хацеў адчуваць напоўніцу. Аднак жа ён быў не толькі бліскучым акцёрам і драматургам, але і аўтарам глыбокай, грунтоўнай даследчыцкай працы — манаграфіі «Беларускі тэатр», якая выйшла ў Вільні ў 1924 г. Хаця, вядома, тэатральная творчасць стаяла ў яго на першым плане.

Вось што піша пра яго даследчыца З. Лысенка ў артыкуле, надрукаваным ў кнізе «Сыны і пасынкі Беларусі» (Мінск: Полымя, 1996): «Францішак Аляхновіч быў пазначаны ярлыком «ворага народа», з 1928 г. у савецкім друку аб ім не сказана ні слова, усё рабілася дзеля таго, каб вытравіць гэтае імя з памяці тых, хто ўжо быў знаёмы з яго

творчасцю. У пачатку ж 20-х гг. XX ст. ва ўсіх падручніках па беларускай літаратуры змяшчаліся яго творы, а імя ў тэатральным асяроддзі было адным з самых вядомых... У той час як нашы сучаснікі не ведалі нічога пра Ф. Аляхновіча, заходнія вучоныя-літаратуразнаўцы падрабязна разбіралі яго творчасць. Так, італьянскі вучоны Джузэпэ Мэсіна ў 1952-м і англійскі прафесар Арнольд Макмілін у 1977 г. у сваіх навуковых працах па заслугах адзначаюць яго ўклад ў літаратурны працэс».

Аднак жа яшчэ за чатыры гады да гэтага ў Біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (т. І, с. 76-77) яго творчасць усё яшчэ была ахарактарызаваная як такая, якой была ўласціва «невыразнасць аўтарскай пазіцыі, спрашчэнне жыцця». Пра найбольш жа значны яго твор — «У кіпцюрох ГПУ» (1937), напісана, што Францішак Аляхновіч «сваё адмаўленне некаторых з'яў, звязаных з культам асобы, перанёс на сацыялізм». Так, Аляхновіч, па ягоных уласных словах, «Гэтак бяскрытычна верыў у савецкі міраж», што, прыехаўшы ў лістападзе 1926 г. у Мінск на навуковую канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу, вырашыў застацца тут і — папрасіць савецкага грамадзянства!

Па яго прыйшлі на чацвёрты дзень па прыняцці гэтага грамадзянства...

Твор «У кіпцюрох ГПУ» быў напісаны на аснове ўласнага жахлівага вопыту — шэсць гадоў правёў драматург і публіцыст на Салавецкіх астравах, арыштаваны ў 1927 г. нібыта «за шпіянаж у карысць Польшчы», — па гэтым стандартным абвінавачванні пайшлі ў Сібір і на той свет тысячы беларусаў. Напісаная раней за «гулагаўскія творы» А. Салжаніцына, дакументальная аповесць «У кіпцюрох ГПУ» была перакладзена на некалькі еўрапейскіх моваў і выдадзена ў Амерыцы. На жаль, не ўсе, нават прагрэсіўныя дэмакратычныя дзеячы Еўропы, паспелі да таго часу пазбавіцца тых жа, што і ў ранейшага Аляхновіча, ілюзій пра «савецкі міраж».

Як мог Аляхновіч у тыя гады вырвацца са страшных Салаўкоў і надрукаваць свой твор? На той раз яму пашанцавала: у 1933 г. Польшча і СССР абмянялі палітычных вязняў. І абодва былі беларускія творцы: з польскага боку — Браніслаў Тарашкевіч, з савецкага — Францішак Аляхновіч. Аляхновіч тады змог вярнуцца ў Вільню, а Тарашкевіча ў СССР праз некалькі гадоў арыштавалі і расстралялі.

Аднак драматургу давялося ўсё ж яшчэ раз хавацца ад савецкай улады: у 1939 г. Чырвоная Армія заняла Вільню, ён быў змушаны змяняць сваё аблічча, каб не быць наноў вывезеным у Сібір альбо расстраляным на месцы. Мабыць, ён не аднойчы ў той час узгадваў і

першае сваё сядзенне ў турме за напісанне антыцарскага артыкула ў гумарыстычным часопісе «Перкунас», і жахлівы сталінскі канцлагер, і смерць многіх сяброў у Савецкай Беларусі. Вайна прыпыніла актыўнасць НКУС, і ў акупаванай немцамі Вільні Аляхновіч у 1943 г. напісаў камедыю «Круці не круці — трэба памярці», у якой высмейваецца культ «айца ўсіх народаў» Сталіна.

Ці не за гэты твор ён быў забіты невядомымі, якія ў сакавіку 1944 г. прыйшлі да яго на кватэру?

Таямніца смерці Аляхновіча не раскрыта. Але на пахаванне яго сабралася шмат людзей. Францішак Аляхновіч ўсё ж вярнуўся ў Беларусь — сваімі творамі і сваім жыццём і пачынае тут сваё новае жыццё, нягледзячы ні на якія перашкоды...

## ЁН ТУТ, НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ

Год нараджэння Ігната Буйніцкага — 1861 — сімвалічны. Гэта год адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі, а значыць, і на Беларусі. Ганебны стан, у якім знаходзілася шматмільённая частка насельніцтва імперыі, па сутнасці, рабства, не даваў магчымасці развівацца ні эканоміцы, ні палітычным свабодам. І хаця з часоў заняволення нашага краю (гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай) прайшло амаль стагоддзе, памяць аб былых дэмакратычных свабодах, аб вольнасці ніколі не знікала, прынамсі, у асяроддзі былой шляхты, у колах нацыянальнай інтэлігенцыі, яна, хаця ў асноўным была спольшчанай альбо зрусіфікаванай, усё ж нараджала парасткі новага светапогляду, а менавіта — дэмакратычна-беларускага. Такім парасткам і стаў Ігнат Буйніцкі.

Прыналежнасць да шляхецкага саслоўя дазволіла маладому чалавеку з Празароцкай воласці Дзісненскага павета атрымаць адукацыю землямера ў Рызе, і набытае ўменне абыходзіцца з зямлёй дало яму магчымасць давесці да ладу балоцісты кавалак зямлі — бацькоўскую спадчыну. Давесці да ладу — гэта значыць зрабіць няўдобіцу палеткамі, даход з якіх з гадамі даў магчымасць існаваць не толькі ягонай сям'і, але і мець грошы для ўтрымання тэатральнай, па сутнасці, першай па-сапраўднаму прафесійнай трупы тэатралаў.

Задумаемся на хвіліну — чалавек небагаты, які сваёй цяжкай працай землямера на Наваградчыне, Полаччыне, Магілёўшчыне і Ашмяншчыне сабраў грошай і стаў уладальнікам маёнтка, траціць усе грошы з гэтага маёнтка на тэатральную справу! Ці ж гэта нармальна для шляхціца?

Але Ігнат Цярэнц'евіч Буйніцкі быў парасткам асаблівым. Ідэі свабоды люлялі яго душу, акрылялі сэрца. Таму шлях, які ён абраў, стаў не статкава-звыклым, як таго патрабавалі ўмовы нараджэння — кар'ера, грошы, удалая жаніцьба, уладкаванне дзяцей для ўсё таго ж звыклага кола жыцця і звыклага ладу. Гэты шлях стаў цалкам самастойным, адпаведным настрою яго душы і ягонаму светапогляду.

У народным танцы шукаў ён тае зухаватасці, разняволенасці, весялосці, спрыту, якія ўласцівы толькі чалавеку свабоднаму Народ нездарма выпрацаваў менавіта гэты стыль і даў яму імёны — удалая «Лявоніха», смяшлівы «Юрачка», што забыўся на будзённасць і шэрасць ўласнага жыцця і, у танцы, вырываецца і вызваляецца ад іх. Гэтыя рысы ўздымаў і паказваў уласнаму народу Ігнат Буйніцкі — бо ў народа ён падгледзеў іх, у народа, які, нягледзячы на страшэнныя

ўмовы існавання, заўсёды нёс у сабе ідэю не рабства, а якраз яе — Свабоды...

Магіла Ігната Буйніцкага з помнікам ў цэнтры Празарокаў, паміж прыгожым, велічным касцёлам і царквой, заўсёды, нават самай ранняй вясной, атулена кветкамі ці зелянінай. Улетку ж шлях да яе вядзе паўз сапраўдныя кветнікі, якія старанна дагледжаны энтузіястамі, найперш бібліятэкаркай Алінай Сабачэўскай. Цемнавокая, худзенькая і гаваркая, яна трымае ў бібліятэцы пастаянную выставу твораў пра Ігната Буйніцкага і вядзе каталог публікацый пра яго. Пішуць не толькі школьнікі і настаўнікі мясцовай школы (найболей намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Вольга Дзмітрыеўна Гінько), але і вучоныя з гучнымі імёнамі, напрыклад, аўтар самай пакуль што грунтоўнай кнігі пра славутага празарокца Уладзімір Няфёд, «Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра» (Мінск: Навука і тэхніка, 1991). Яго апісанне святаў, якія рэгулярна тут праводзяцца, заканчваюцца 125-мі ўгодкамі з дня нараджэння «бацькі беларускага тэатра», але магу засведчыць, што калі і не з тым размахам, што ў савецкія часы, то, можа, з яшчэ большай любоўю і цеплынёй яны праводзяцца і па сёння, штогод 22 жніўня.

У першы год незалежнасці, а менавіта ў 1991-шы, на святкаванні 130-годдзя з дня нараджэння, была ў Празароках і я, і мяне ўжо тады здзівіла нязмушанасць і непадробны энтузіязм, які панаваў на свяце. Ці мала мне даводзілася бачыць заангажаваных святаў, з самымі высокімі словамі і прамовамі, у час якіх народ цярпліва чакаў і казённымі апладысментамі выказваў сваю «падтрымку» прамоўцам! Аднак жа весялосць і шчырасць тых угодкаў запомніліся як нейкія асаблівыя, як сапраўдны стан душы. І вось цяпер, праз пятнаццаць гадоў, я зноў сустракаюся з празарокцамі і чую ад іх тыя ж словы: «Празарокі — вёска асаблівая, тут ёсць народны дух». І яго адчуваеш — ці гэта гаворыць сакратарка мясцовага сельсавета Валянціна Бурэнь, ці Інэса Міхайлаўна Міхайлоўская — завуч школы, якую мы заспелі знянацку, але якая правяла экскурсію па школьнаму музею так узнёсла і ўмела, нібыта і не яна колькі хвілін назад шкадавала, што найлепш зрабіла б гэта Вольга Дзмітрыеўна Гінько, якой на той час у школе не аказалася, але якая дасюль ўзначальвае ўсю працу па захаванні і папаўненні гэтага кутка народнай памяці.

Трэба сказаць, што школьны музей Ігната Буйніцкага быў адчынены 29 мая 1982 г. менавіта па ініцыятыве настаўнікаў, найперш Рэгіны Карпеза. Нейкія гады апекавалася ім таксама і Г. Сохар. Музей і сёння жывы і дзейсны: з любоўю аздоблены вітрыны, праводзяцца ўрокі мовы і літаратуры. Але новыя экспанаты трымаць няма дзе:

будынак непадалёк адсюль, які меркавалі аддаць музею слыннага сына беларускай зямлі Буйніцкага, даўно ператварыўся ў даўгабуд, а два пакойчыкі школьнага музея не могуць замяніць сабою той клопат дзяржавы, які павінна найперш праяўляць Міністэрства культуры Беларусі і Саюз тэатральных дзеячаў. Траціцца ж немалыя, а часам дык і надта вялікія народныя грошы на гастролі заезджых расійскіх спевакоў, нават не першаразрадных, а так званых «папсовых зорак»! Чаму ж іх не знаходзіцца на музей «бацькі беларускага тэатра»?!

Ігнат Буйніцкі — постаць велічная і пакутная. Як каморнік ён страціў сваю працу з-за таго, што, мераючы зямлю багатай пані ў Горках, абрэзаў на карысць сялян вугал пашы ў 15 гектараў. Як актор і стваральнік тэатральнай трупы пастаянна меў непаразуменні з паліцыяй, якая бачыла ў ягоных пастаноўках элементы бунтарства і непаслушэнства і пільна сачыла за трупай. З успамінаў З. Абрамовіча мы даведваемся, што ўлады «ў кожным слове яго на сцэне і па-за ёй шукалі калі не беларускага сепаратызму, дык, у найлепшым выпадку, вальнадумства». У 1912 г. ён так і не атрымаў дазволу правесці чарговыя гастролі па Беларусі, як гэта было ў 1910 і 1911 гг. Слава яго ў беларускім асяроддзі сягала за межы колішняга Паўночна-Заходняга краю, як называлася Беларусь, яна спадарожнічала ягоным выступленням у Пецярбургу і Варшаве і запальвала сэрцы і душы. Газета «Наша ніва» яшчэ ў 1910 г. пісала пра той будучы час, калі «памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх».

Стыхія народнага духу, прыгажосць народнай душы выяўлялася ім у танцы і дэманстравалася як найвышэйшае дасягненне цывілізацыі. Яго творчасць мела і своеасаблівую афарбоўку — выразны дэмакратычны накірунак. Мелас, слова і танец — усе яны разам стваралі духоўнае і эмацыянальнае адзінства, якое ўздымала чалавека. Пра гэта пішуць усе рэцэнзенты, узгадваюць усе ўдзельнікі трупы, сярод якіх такія выдатныя дзеячы беларускай культуры і літаратуры, як Цётка (Пашкевічанка), Алесь Бурбіс, Паўліна Мядзёлка, У. Галубок і многія іншыя.

І наступныя пакаленні дзеячаў культуры шчодра дзячылі яму і ягонай высокай справе. На святы памяці Буйніцкага збіраліся (і збіраюцца) лепшыя дзеячы культуры Беларусі, яму прысвяцілі вершы такія паэты, як Уладзімір Караткевіч, Пятрусь Макаль, Антон Бялевіч, а таксама колішні дырэктар Псуйскай школы Іван Волкаў. (Іван Волкаў, дарэчы, стаў вядомым краязнаўцам і аўтарам унікальнай кнігі пра легенды і паданні зямлі, на якой жылі Ігнат Буйніцкі і Язэп Драздовіч. Ён пахаваны ля псуйскай царквы, і яго імя трывала ўпісана ў гісторыю Глыбоччыны.)

Ужо праз дзевяць гадоў пасля смерці Ігната Буйніцкага, у 1926-м, тэатральная падсекцыя Інстытута беларускай культуры звярнулася да ўрада Беларусі з прапановай стварыць ягоны музей. На той час у дачкі Буйніцкага Алены Корсак-Нікіфароўскай, якая жыла за мяжой (Празарокі, згодна з Рыжскай дамовай, адышлі да Польшчы), яшчэ захоўваліся фатаграфіі, рэчы і дакументы бацькі і ягонай грамады. Падсекцыя прапаноўвала дапамагчы спадарыні Алене перабрацца ў Беларусь як «старой беларускай культурніцы» і тым пазбегнуць пераследаў беларускіх дзеячаў з боку польскай улады. Прапаноўваўся і яшчэ шэраг вельмі патрэбных для ўшанавання памяці І. Буйніцкага рэчаў. На тым пасяджэнні прысутнічалі такія слынныя тэатральныя дзеячы, як М. Красінскі, Ф. Ждановіч, М. Ільінскі, якія добра разумелі значэнне для нацыянальнай культуры асобы І. Буйніцкага — стваральніка беларускага тэатра. На жаль, адраджэнне захлыналася, пачыналіся ўжо сталінскія рэпрэсіі супраць Інбелкульта і беларускай культуры. Таму нічога з таго, пра што гаварылася, не было здзейснена. Больш таго — пасля Другой сусветнай вайны сляды двух з трох дачок І. Буйніцкага згубіліся, і толькі ў 1975 г. Уладзімір Няфёд даведаўся, што ў Польшчы жыве чацвёртая дачка, ужо ад другога шлюба І. Буйніцкага з Марыяй Аношкай, сямідзесяціпяцігадовая Яўгенія Шчапаньска (у наступным годзе яна памерла). Але, паколькі яна самая наймалодшая з дачок, то памятала з агульнага жыцця з бацькам зусім нямнога, магла толькі падзякаваць за памяць аб родным ёй чалавеку і прыслаць некалькі рэдкіх фотакартак. А таксама адзначыла высокі мастацкі ўзровень помніка, пастаўленага на магіле яе бацькі. Скульптары Іван Міско і архітэктар М. Бурдзін стварылі сапраўды высокамастацкі помнік, які быў устаноўлены на магіле ў 1975 г., пад час перазахавання І. Буйніцкага ў цэнтры в. Празарокі. Гэта было другое перазахаванне — першае адбылося на могільніку ў Палівачах, куды парэшткі І. Буйніцкага былі перавезены дачкой Аленай з вайсковых могілак вёскі Палачаны.

Палівачы — маёнтак І. Буйніцкага, дзе працавалі, прыязджаючы да яго на рэпетыцыі, акторы ягонага тэатра, жыла ягоная сям'я. Там жа, на могілках, была пахавана першая яго жонка — Францыска, народжаная Бржазоўская. Там, па ўспамінах удзельніка трупы І. Голера, «пахаваны ўнучка І. Буйніцкага і зяць, замучаны палякамі ў віленскай турме за арганізацыю ў Вільні беларускага гуртка». Праўда, якраз перад цяжкімі часамі ваеннага ліхалецця Буйніцкі прадаў свой фальварак і пераехаў у Празарокі, але там, у Палівачах, ён правёў вялікую частку жыцця.

Перанос парэшткаў вялікага чалавека ў Празарокі, на думку і сённяшніх празарокцаў, з аднаго боку несумненна станоўчы: тут магіла заўсёды дагледжана, да яе пастаянна прыходзяць людзі. З іншага ж боку, канчаткова страчаны след магіл родных Ігната Буйніцкага — дзякуй богу, хаця паклапаціліся пра яго самога!

Але, магчыма, не ўсё яшчэ страчана?

Старыя могілкі, пасля таго, як там пераставалі хаваць, у нас звычайна занепадалі і рабіліся здабычай мясцовых вандалаў. Так адбылося і з ўласна празароцкімі старымі могілкамі, якія месцяцца ў самым канцы вёскі, за царквой. Перакрыўленыя крыжы, вывернутыя з зямлі некалі магутныя каменныя пліты, — усё гэта добра знаёма кожнаму, у каго баліць душа з-за страты намі, беларусамі, ахоўнага імунітэту Памяці.

Між тым, як здаецца, неабыякавых людзей на старых могілках чакае не адно адкрыццё. Так, у незалежнай газеце «Вольнае Глыбокае» ад 1 чэрвеня 2006 г. змешчаны цікавы артыкул археолага Марата Клімава «Глыбоччына вачамі археолага» пра старадаўні празароцкі цвінтар, дзе нядаўна быў знойдзены надмагільны помнік Ганны Свалынскай з роду Корсакаў (1772-1866), жонкі Траяна Свалынскага, маршалка Дрысенскага павета. Магчыма, калі прывесці ў належны стан гэты стары цвінтар, знойдзецца і нешта іншае, не менш цікавае — імёны, што далятаюць да нас рэхам адзвінелых стагоддзяў і маюць не толькі ўласную гісторыю, яны — часцінка нацыі...

Безумоўна, невялічкая школка ў Празароках, дзе месціцца музей І. Буйніцкага, сама не можа справіцца з праблемай старых могілак, ды і не ейная гэта задача. Аднак на Віцебшчыне ўжо ёсць добрыя прыклады гарадскога шэфства над месцамі вечнага супакою продкаў. Напрыклад, на могілкі ля возера Шо каторы год прыязджаюць полацкія студэнты, працуюць валанцёрамі, — і паступова праз зараснікі праступаюць імёны і даты на крыжах і надмагіллях, а гэта ж найбагацейшы матэрыял для філолагаў і культуролагаў! Ды і мясцовыя людзі павінны адчуваць сваю неўміручую сувязь з продкамі, з усімі, што тут жылі, марылі, ткалі прадзівы сваіх жыццяў на зямлі, дзе цяпер жывуць і яны.

Ігнат Буйніцкі, па некаторых звестках, памёр гэтак жа, як і жыў — непадобна да іншых, у танцы, калі спынілася яго сэрца. Было гэта 9 (22) верасня 1917 г. Калі б ён жыў у савецкі час, несумненна спазнаў бы яшчэ і сталінскія рэпрэсіі, — такія людзі не скараюцца абставінам, не хаваюць сваіх думак і дзейнічаюць заўсёды згодна са сваім сумленнем. Вальналюбны і незалежны, прыгожы і жыццярадасны, «бацька беларускага тэатра» да самага свайго апошняга дыхання заставаўся, нягледзячы ні на што, свабодным...

# ПАДАРОЖЖА Ў БРАСЛАЎ

Тое, што магіла Тамаша Ваўжэцкага (паміж 1753-59 — 5.8.1816) увогуле захавалася на тэрыторыі бальшавіцкай краіны, дзе знішчалася любая памяць пра тых, хто ахвяраваў сваім жыццём дзеля Свабоды, — само па сабе цуд. Тое, што яе не знішчылі яшчэ на пачатку, у першыя часы далучэння Беларусі да Расійскай імперыі, — цуд удвая, бо памяць пра ўдзельнікаў трох вялікіх паўстанняў супраць панавання царскай Расіі была надта ж крамольнай у вачах царскіх уладаў. Наколькі мне вядома, на тэрыторыі нашай краіны гэта — адзіная ацалелая (дакладней, адноўленая пасля знішчэння ў час Першай сусветнай вайны) магіла паўстанца 1794 г. І якога паўстанца! Які пасля паланення Т. Касцюшкі быў абраны кіравацць усім вызваленчым рухам краю, які праславіўся сваімі палымянымі выступленнямі на чатырохгадовым сейме Рэчы Паспалітай 1788-1792 гг., які адным з першых скасаваў у сваіх маёнтках паншчыну, даў сялянам вольную.

Свабода была яго ідэалам.

Свабода прыгнечанага непамернымі падаткамі і працай сялянства, свабода мяшчанства, запалоханага свавольствам магнатаў і шляхты, свабода Чалавека, які нарадзіўся роўным сярод роўных, а жыццё праводзіць у страху і перасцярогах.

Але Т. Ваўжэцкі высока цаніў шляхетна-дэмакратычныя вольнасці Рэчы Паспалітай, якім пагражала знішчэнне, таму прыняў удзел у паўстанні і на свае грошы ўзброіў трыста чалавек, пачаўшы 16 красавіка 1794 г. выступленне ў сваім родавым маёнтку ў Відзах.

Яго ўдзел ў паўстанні каштаваў яму двух гадоў турмы ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Генерал Ваўжэцкі быў пачэсным арыштантам, — яго імя было шырока вядомым, і таму пры арышце, калі ён трапіў у палон да рускага палкаводца Суворава, яму і іншым кіраўнікам паўстанцкіх войскаў была прапанавана воля. Пры адной ўмове: яны не ўздымуць зброю супраць Расіі.

Тамаш Ваўжэцкі не паставіў свой подпіс пад гэтым пагадненнем. Ён выбраў зняволенне — таму што волю гарантавалі асабіста яму, а не краіне, за якую ён змагаўся.

Павел І, які прыйшоў на расійскі трон пасля Кацярыны ІІ, амнісціраваў палітычных зняволеных. Тамаш Ваўжэцкі вярнуўся на Браслаўшчыну, пасля некаторага перапынку стаў браць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, стараючыся быць карысным суграмадзянам.

Памер ён не старым: яму было ўсяго шэсцьдзесят тры гады. Але шмат мітрэнгаў і страт давялося перажыць, а чалавечае сэрца не

можа трываць бязмерна... Ды і сямейнае жыццё былога кіраўніка паўстання не было шчаслівым: жонка Юзэфа — дачка пісара Вялікага княства Літоўскага (гэта быў даволі пачэсны і ганаровы тытул) Міхала Паца — памерла рана, не пакінуўшы дзяцей. Можна толькі ўявіць, якая самота ляжала на сэрцы гэтага чалавека: старыя сябры былі ў выгнанні альбо загінулі, жыццё даводзілася прымаць такім, якім яно ёсць, а не так, як думалася і планавалася ў маладосці.

Пахавалі яго на ўскрайку Відзаў, ля касцёла. Памяць пра генерала паўстанцаў прыводзіла на яго магілу пакаленне за пакаленнем. Цяпер, у нашыя часы, яна апынулася на пачатку мястэчка, ля дарогі, што вядзе праз усю вёску на Браслаў.

...Мы прыехалі да магілы пад вечар, калі прайшоў лівень, і ваза са свежымі нарцысамі і цюльпанамі ляжала на зямлі, у нагах генерала. Але бачна, што праляжала б яна нядоўга: магіла дагледжаная, людзі шануюць яе. Найбольш, вядома, прыхаджане касцёла, у якім служыць ксёндз Андрэй, з якім мы адразу знайшлі паразуменне.

Але не меней зрабілі для захавання і аднаўлення магілы генерала Ваўжэцкага мясцовыя краязнаўцы, і найперш Кастусь Шыдлоўскі, нястомны прапагандыст роднай гісторыі. Гэта ён сабраў найбольш поўныя і дакладныя звесткі пра жыццё і дзейнасць Тамаша Ваўжэцкага, гэта ён разам са сваімі аднадумцамі даказваў колішнім уладам раёна, што трэба ўшаноўваць памяць пра вялікіх людзей Браслаўшчыны, нават калі іх гісторыя звязана і з суседняй Польшчай, — бо некалі мы, жыхары Рэчы Паспалітай, мелі агульную гісторыю, і яна мусіць быць вядома сваім нашчадкам таксама тут, у Беларусі.

Мясцовыя краязнаўцы, якія выпускаюць часопіс «Павет» і «Браслаўскія сшыткі», «раскопваюць» шмат цікавага. Напрыклад, 10-ты (23) нумар «Павета» за 2003 г. прысвечаны 250-й гадавіне з дня нараджэння Тамаша Ваўжэцкага, і ў ім змешчаны здымак знявечанай ў 70-я гг. магілы Т. Ваўжэцкага і надрукавана гісторыя яе аднаўлення, калі пліту з яго надмагілля «папросту здалі на металалом», а ў час візіту кіраўніка Польшчы В. Ярузельскага ліхаманкава аднавілі. Не забыты ў артыкуле імёны тых, хто ў савецкія часы спрабаваў спыніць націск бяспамяцтва — настаўнік С. Адамовіч, паэт і мастак П. Касцюкевіч, ураджэнец Шаркоўшчыны, які не раз звяртаўся да ўладаў з просьбамі і прапановамі аб добраўпарадкаванні надмагілля і нават напісаў верш «На могиле Т. Вовжецкого» (на рускай мове, паколькі пасля вайны ён пасяліўся ў Петразаводску). Тады яго не хацелі і слухаць. Але цяпер, адзначае К. Шыдлоўскі, «памяць славутага нараджэнца Браслаўшчыны ўвекавечана годна».

На магіле цяпер стаіць крыж, на надмагіллі надпіс: «Тамаш Ваўжэцкі. 1753-1816. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.» на беларускай і польскай мовах. Тэкст надпісу прапанаваны супрацоўнікамі музея.

У часопісе надрукаваны і верш Пятра Касцюкевіча, напісаны ў 1972 г., дзе ёсць такія радкі:

Когда-то и его любил народ
И знали все окрестные избушки,
Из Видз родных он уходил в поход,
И руку крепко жал ему Костюшко.

Повстанческие пёстрые полки
Шли в бой жестокий за свою свободу,
Но царские щетинились штыки,
Перекрывая все пути к отходу.

...В кустах сирени высохла роса,
Растаяли под полдень тучи-грозы,
Забытую могилу без креста
Оплакивают старые березы.

Вось ужо, сапраўды, «нам не дано предугадать, как наше слово отзовется»! Петразаводскага паэта ўжо няма, а яго верш жыве, яго чытаюць і цытуюць... Думаю, што за доўгі час нямала сабралася падобных гісторый, і не адзін лёс сплёўся с пасмяротным лёсам генерала паўстанцаў! Магчыма, Т. Ваўжэцкаму прысвечаны вершы і іншых паэтаў. Некалі нашыя даследчыкі зазірнуць і ў польскія архівы, у кнігі, прысвечаныя Т. Ваўжэцкаму. Пакуль што ў нашых бібліятэках амаль нічога, апроч таго, што адшукалі супрацоўнікі Браслаўскага музея, знайсці не ўдалося.

Але гістарычная памяць пакрысе вяртаецца да беларусаў, і новым пакаленням даследчыкаў ёсць што пісаць пра тых, хто пакінуў свае сляды на беларускіх землях...

Краязнаўцы Браслаўшчыны ўзнавілі імя яшчэ аднаго славутага чалавека Браслаўшчыны, а менавіта доктара Станіслава Нарбута (4.5.1853 — 11.3.1926).

Я спачатку думала змясціць аповед пра Станіслава Нарбута ў артыкуле, прысвечаным ягонаму бацьку Тэадору Нарбуту, але ж большую частку свайго жыцця доктар Станіслаў пражыў у Браславе, тут ён і пахаваны. Яго магіла — на стромкай гары, самай высокай ў Браславе.

Магчыма, некалі не толькі ў Польшчы, але і ў нас з'явяцца прысвечаныя яму кнігі. Бо Станіслаў Нарбут таксама быў з тых людзей,

чыё імя было абвеяна подыхам Свабоды. Ён паходзіў са славутага роду, які вядомы з часоў Жыгімонта Кейстутавіча і Вітаўта і ў розных сваіх адгалінаваннях часта ўзгадваецца не толькі ў Лідскіх хроніках, але і ў многіх іншых гістарычных крыніцах. Вядома, напрыклад, імя Казіміра Нарбута (3.1.1738 — 17.3.1807) — мысліцеля-асветніка, аўтара падручніка па логіцы, члена Адукацыйнай камісіі, які займаўся рэформай школьнага навучання ў Беларусі і Літве. Гэты род даў Беларусі, Польшчы і Літве мноства духоўных асобаў, грамадскіх дзеячаў, а не толькі археолага і краязнаўца Тэадора Нарбута, бацьку Людвіка Нарбута (7.91832 — 4.5.1863). Імя Людвіка, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г., што загінуў у баі, было вядома ва ўсіх кутках Рэчы Паспалітай.

Другі брат лекара Станіслава, Францішак, таксама быў удзельнікам паўстання і вымушаны быў эміграваць.

Высакародныя традыцыі роду знайшлі сваё ўвасабленне ў малодшым браце з роду Нарбутаў, які служыў людзям да апошняга свайго ўздыху і быў, згодна з яго жаданнем, пахаваны ў 1926 г. на вяршыні старажытнай гары. Так звычайна хаваюць прарокаў. Ліхтар на месцы яго апошняга спачынку доўга яшчэ служыў своеасаблівым маяком тым, хто мог заблудзіцца ў густым тумане ці змроку. І гэтае, ужо пасмяротнае служэнне людзям, было ўрачыстым і кранальна-сімвалічным, бо і ў сваім жыцці Станіслаў Нарбут быў узорам годнасці і высакародства.

Ён, як і яго браты, атрымаў добрую адукацыю: спачатку скончыў 1-ю Віленскую класічную гімназію, пасля вучыўся ў Баварскім універсітэце ў Мюнхене, дзе ў дваццаць шэсць гадоў абараніў доктарскую дысертацыю, затым, у 1891 г., скончыў Дэрпцкі (Тартускі) універсітэт.

У Браславе ён на ўласныя сродкі пабудаваў бальніцу, дзе займаўся лекарствам да канца жыцця, стаўшы своеасаблівай візітнай карткай горада. Так сталася, што жыццёвыя абставіны раскідалі магілы сям'і Нарбутаў: Тэадор Нарбут пахаваны ў в. Нача Воранаўскага раёна, яго жонка — недалёка ад яго на цвінтары родавай вёскі Шаўры таго ж раёна, магіла Людвіка ў цяперашняй Літве, а Станіслава — у Браславе.

Праўда, і на яго месца пахавання замахнуліся бальшавіцкія ўлады: таблічку з імем лекара яны было замянілі шыльдай з гадамі заснавання Браслава. Але зноў адстаяла яго імя мясцовая інтэлігенцыя, і шыльду з імем С. Нарбута вярнулі на ранейшае месца ў 1990 г., калі ў Браславе быў адкрыты краязнаўчы музей і ў ім сталі працаваць знаўцы гісторыі і палымяныя патрыёты Беларусі. Для мяне кожная сус-

трэча з імі — інтэлектуальнае свята, іхнія выданні я чытаю з асаблівай цікавасцю, матэрыялы пра славутых людзей Браслаўшчыны запатрабаваны і ў раённай бібліятэцы, дзе створаны адмысловы стэнд з буклетамі пра знакамітых землякоў, у ліку якіх апроч ужо названых мастак Пётра Сергіевіч, краязнавец і аўтар кнігі «У пошуках зачараваных скарбаў» (Вільня: Рунь, 1998) Мар'ян Пецюкевіч і іншыя вядомыя людзі.

Сустрэча радасная асабліва ж таму, што гэта былі не першыя энтузіясты беларускага адраджэння, сустрэтыя намі ў падарожжы з Вілейкі на Браслаў.

## НЕВЯДОМЫ КУРАНЕЦ

Едучы ў Браслаў, я спланавала сваё падарожжа так, каб абавязкова заехаць у Вілейку. Там, па просьбе кіраўнічкі мясцовага літаратурнага аб'яднання Зінаіды Крупскай, я правяла так званы «майстар-клас». На Вілейкаўшчыне шмат таленавітых людзей, і сама Зінаіда Васільеўна найбольш піша ў рэдкім на сённяшні час жанры: яна стварае казкі, якія чытаеш з цёплым пачуццём удзячнасці да аўтара.

Там, пасля літаратурных дэбатаў, я распытала дарогу да Куранца — вёскі, дзе таксама ёсць пахаванне паўстанцаў 1863 г., нідзе ў афіцыйным друку яшчэ, здаецца, не абазначанае. Прачытала я пра яго ў часопісе (хутчэй, бюлетэні) «Волат», які на свае сродкі выдаюць аматары роднай гісторыі Вілейкі на чале з Аляксеем Сюдаком. Каля «Волата» згуртаваліся разумныя і здольныя маладыя людзі: паэт Сяргей Макарэвіч, Міхась Кулеш...

І ўсё ж, нягледзячы на падказкі, магілу паўстанцаў знайсці было нялёгка. Як мы шукалі гэты помнік — гэта цэлая гісторыя. Жыхары Куранца адзін за адным то адсылалі нас да помніка загінулым воінам Вялікай Айчыннай, што стаяў каля дарогі за царквой (мы пастаялі ля яго і ўшанавалі памяць барацьбітоў з фашызмам), то ўвогуле не разумелі, пра што ідзе гаворка. Нарэшце дзяцюк ля крамы здагадаўся: «Ці не тыя гэта крыжы, што стаяць за пансіянатам?»

«Пансіянат» аказаўся домам для састарэлых, і, абгароджаныя сеткай і плотам, заціснутыя ў вузкую паласу між двума будынкамі, сярод ужо высокай майскай травы высіўся помнік-крыж і сіратліва бялелі белыя крыжы пахаванняў польскіх салдат часоў савецка-польскай вайны 20-х гг. з надпісамі на польскай мове. Здавалася, дарогі да іх няма ніякай, але, прыгледзеўшыся, мы заўважылі дзіркі і ў сетцы, і ў плоце. Вось праз гэтыя дзве дзіркі, блытаючыся ў траве і зарасніках крапіўніку, мы змаглі наблізіцца да месца вечнага супакою паўстанцаў 1863 г. і шчыра парадавацца, што ён, гэты помнік, усё ж стаіць, хаця і «заблакаваны» агароджамі.

...Вечаровае сонца хілілася да гарызонту, з усходу насоўвалася чорная хмара, і на яе аксамітава-зменлівай гушчэчы яскрава выдзялялася пераліўная рознакаляровая вясёлка. Пакуль мы даводзілі месца пахавання да ладу, хмары перасунуліся, і ўжо не адна, а дзве вясёлкі дугамі выгіналіся проста над нашымі галовамі, а сонца бесклапотна свяціла на паўсцёртыя літары: «W hold zie poległym za ojczyznę».

Каля падножжа крыжа ляжаў даўнавата, але яшчэ цэлы вянок. Выходзіць, нехта прыходзіць сюды. Нехта апякуецца гэтым кавалкам зямлі паміж домам састарэлых і будынкам сельсавета. Чаму ж жыха-

ры Куранцоў не ведаюць, дзе знаходзіцца магіла паўстанцаў 1863 г. і магілы польскіх салдат 20-х гг.?

Іншы скажа: «Гэта не наша айчына! Яны змагаліся за Польшчу!» Але людзі, якія ахвяравалі сваімі жыццямі за Айчыну, як яны яе разумелі тады — у межах Рэчы Паспалітай, — вартыя нашай увагі. Да таго ж — калі няма павагі да мёртвых, адкуль ёй, павазе, узяцца да жывых? Мне даводзілася бачыць могілкі савецкіх (і рускіх, XIX ст.) салдат на землях розных краін Еўропы. Іх, часам ідэалагічных праціўнікаў, не руйнавалі — не, іх даглядалі разам са сваімі. Чаму ж мы аказаліся самымі абыякавымі да людзей іншых нацыянальнасцяў? Чаму зруйнаваны магілы не толькі праціўнікаў, але і аднапляменнікаў, а таксама і тых, хто стагоддзямі жыў з намі разам — напрыклад, па-варварску стаптаныя некаторыя яўрэйскія могілкі ў розных гарадках нашай ціхамірнай Беларусі?!

Шмат передумваецца ў месцах, дзе зямля прыняла зямны прах людзей з узвышанымі душамі, не панураных у дробным, мышыным існаванні, тых, хто спавядаў вышэйшыя чалавечыя каштоўнасці: прагу да волі, да свабоды радзімы. Здаецца, гэты дух вольнасці застаецца і захоўваецца тут. І знішчаючы такія магілы, людзі пазбаўляюць сябе высокіх ідэалаў, высокай энергіі любові і святла... Нездарма справы такіх людзей перажываюць іх саміх. Вось і пра гэтую магілу напісала паэму вілейская паэтка Клаўдзія Дубовік. Магчыма, паэма гэтая пасадзейнічае таму, каб людзі ў Куранцы ўшаноўвалі памяць усіх, хто пахаваны ў іхняй невялікай прыгожай вёсцы, і ведалі пра само паўстанне 1863 г., пра яго герояў — нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага, Валерыя Урублеўскага, якога пазней празвалі «генералам Парыжскай камуны», і многіх іншых. А можа, які юны краязнаўца некалі раскапае архівы і выцягне з невядомасці імёны продкаў, якія тут, на куранецкай зямлі, змагаліся за Свабоду?

## КАБ ВЫ ВЕДАЛІ...

Пры самай дарозе на захад ад Зэльвы месцяцца могілкі, і кожны раз, праязджаючы на Ваўкавыск ці на Масты праз Зэльву, стараюся спыніцца і хаця на хвілінку зайсці за агароджу, на ўзгорак, дзе ляжаць Ларыса Антонаўна (27.7(9. 8.) 1910 — 7.4.1983) і Іван Пятровіч (21.2.1902 — 8.2.1979) Геніюшы.

На гэтым узгорку я стаяла ў красавіку 1983 г., а толькі што выкапаная магіла зеўрала ля ног, чакаючы хвіліны, калі яна прыме ў сябе нябожчыцу. Цела Ларысы Антонаўны Геніюш неслі на руках, ад самай хаты да няблізкіх могілак. Здавалася, уся Зэльва выйшла ў гэты красавіцкі дзень, каб праводзіць жанчыну, якую тут любілі і — баяліся, ненавідзелі — і паважалі. Ненавідзелі тыя, хто быў атручаны ядам таталітарызму, хто спадзяваўся на тое, што ў Беларусі ніколі не будзе асуджаны сталінскі генацыд... Любілі тыя, хто меў надзею, што ачышчэнне ўсё ж адбудзецца, што будзе сказана ўся праўда пра тэрор і гвалт, пра што гаварыла і пісала Геніюш. Прыйшлі ўсе, хто шанаваў яе светлыя, часам трагічна-ўзнёслыя, высокадухоўныя вершы.

Адчувальна гуло над прасторай зэльвенскага могільніка нават нашае маўчанне. Мяне накіравалі на пахаванне Ларысы Антонаўны разам з А. Мальдзісам як афіцыйных асоб ад Саюза пісьменнікаў, але я прыехала б сюды ў любым выпадку, — Ларыса Геніюш была маёй духоўнай настаўніцай, хаця тады, магчыма, я таго як след не асэнсоўвала.

Сюды за мінулыя гады, што прайшлі з часу ейнай смерці, я дабіралася не раз — і адна, і з гуртам аднадумцаў, і з асобнымі сваімі калегамі. Апошні раз з паэтамі Міхасём Скоблам і Эдуардам Акуліным, а таксама слонімскім краязнаўцам і празаікам Сяргеем Чыгрыном. Гэта была кароткая сустрэча з Ларысай Антонаўнай і Янкам Геніюшамі, але, як заўсёды, незабыўная. Душа мая як бы раскрывалася насустрач успамінам аб Сустрэчах, якія былі тут, у Зэльве, у яе хаце ў 70-я гады, калі юнай паэткай я ўпершыню прыехала да Геніюш разам з гродзенскімі пісьменнікамі з нашага абласнога аддзялення, якое ўзначальваў тады незабыўны Аляксей Карпюк.

Жывая, энергічная Ларыса Антонаўна і гаваркі, з блакітнымі дзіцячымі вачыма Іван Пятровіч сустрэлі нас дужа ветліва. На стол паставілі ўсё, што было ў хаце, і за тым гасцяваннем зайшла размова пра свет, мне тады зусім невядомы — нашую эміграцыю, іхнія духоўныя подзвігі — артыкулы, кнігі, часопісы, што выдаюцца ўсе дзесяцігоддзі іхняга жыцця на чужыне. Гаварылі пра Беларускую Народ-

ную Рэспубліку, яе стварэнне і яе ідэалы (Геніюш пэўны час была сакратарам Рады БНР).

Памятаю, зайшла ў нас тады гаворка пра сучасную дэмакратыю ў СССР, і я стала казаць, што зараз інакш, чым было ў 1937 г. Зараз у нас не садзяць у турмы (пра так званыя «псіхушкі» звесткі да нас амаль не прабіваліся), дэмакратыя паступова развіваецца... І яна сказала тое, што навекі стрэмкай засела ў маёй душы: «Дзіця маё, ты і паняцця не маеш, што такое сапраўдная дэмакратыя! Вось калі пачнецца сапраўднае нацыянальнае будаўніцтва Беларусі, а не яе савецкага прыдатка, калі мы зможам адкрыта гаварыць пра акупацыю нашай краіны, — тады і пачнецца дэмакратыя!»

Многа і доўга я асэнсоўвала ейныя словы, шмат чаго адкрылася мне ў акаляючым — і ці ж толькі мне адной! Да яе прыязджалі і вучыліся мужнасці маладыя навукоўцы і мастакі — Міхась Чарняўскі, Аляксей і Ірына Марачкіны, Яўген Кулік, Юрка Голуб і... (хацелася б напісаць «многія іншыя», але такіх, званых ёю, было ўсё ж няшмат).

Маштаб асобы Ларысы Геніюш, асаблівы трагізм яе жыцця, яе веліч я адчула адразу ж, з першай сустрэчы. Але ўсё роўна адкрываю ўсё гэта для сябе наноў.

І прачытаўшы яе «Споведзь». І калі ў Бэры, пад час гасцявання ў Раісы Жук-Грышкевіч, жонкі былога старшыні рады БНР і грамадскай дзяячкі, гаспадыня перадала мне папку з лістамі Ларысы Антонаўны, пасланымі ёй з Зэльвы, і я стала іх чытаць.

І тады, калі ў Празе ў 1996 г., пад час паездкі беларусаў «Бацькаўшчыны», першае, што сказалі нам чэхі: «Даруйце затое, што мы аддалі ім пані Ларысу». Ім — гэта энкавэдэшнікам, якія гвалтоўна вывезлі сям'ю Геніюшаў з Чэхіі і, пасля допытаў і здзекаў, адправілі ў Сібір з прысудам на дваццаціпяцігадовае «выпраўленне» ў папраўчапрацоўных лагерах (яе завезлі ў Інту і Абезь Комі АССР).

Дваццаць пяць гадоў катаргі вынесці немагчыма. Але праз восем гадоў, у 1956-м, калі памёр Сталін, яна, як і сотні тысяч вязняў, нарэшце атрымала свабоду. Але выехаць з СССР ёй, хаця яна была чэхаславацкай падданай, было немажліва. Трэба было жыць ў краіне «перамогшага сацыялізму».

Як яна жыла з гэтым невыносным цяжарам стратаў: бацька прапаў у гродзенскай турме пасля 1939 г., маці памерла ад голаду ў Казахстане, любімы брат Аркадзь загінуў ў бітве з фашыстамі пад Монтэ-Касіна ў Італіі, а адзіны сын застаўся адзін, у Польшчы?

Яе некалі дапытваў сам Цанава, галоўны кат Беларусі, — і яна выстаяла, не зламалася, адна сярод нелюдзяў...

Адкрываю маштаб яе асобы таксама і ў апошнія гады, асабліва калі прачытала кнігу ліставанняў «Каб вы ведалі...», складзеную яе земляком паэтам Міхасём Скоблам (за што, будзь мая воля, рэкамендавала б кнігу на Дзяржаўную прэмію). З гэтых лістоў яшчэ раз бачыш, якой жа адзінокай пачувала яна сябе ў краіне, якую любіла ўсёй душой і для якой ахвяравала ўсім, што ў яе было! Сталінскія лагеры не маглі яе зламаць, — але нават яны не прыгняталі так, як прыгнятала атмасфера ў савецкай Зэльве, дзе за кожным яе крокам віжавалі, дзе з яе здзекаваліся бесперастанку, дзень за днём, год за годам.

Ды ўсё ж духоўная аўра паэткі была вялікай. Тыя, хто ведалі яе па лагерах, не раз узгадвалі, што менавіта ейныя вершы, што перадаваліся з рук у рукі, дапамагалі ім выжыць, бо галоўнае там было — не страціць веры ў сябе і будучае.

Яна ж не проста верыла — ведала, што яна, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, абранніца, абаронца Беларусі, яе гонару і яе мужнасці, і памяць пра яе будзе жыць у сапраўды незалежнай Бацькаўшчыне.

Гэтая памяць і цяпер, праз столькі гадоў пасля яе смерці, прабіваецца да народа з цяжкасцю, як праз здзірванелыя абсягі захмызнячанага, забалацелага кавалка зямлі прабіваецца жытні колас.

У 2005 г., на святкаванні яе 95-годдзя, мы, нацыянальная інтэлігенцыя і прыхільнікі Ларысы Геніюш, сабраліся ў Зэльве. Памяшкання, дзе мы маглі б правесці яе юбілей, мясцовыя улады не далі (адмовілі ў апошнюю хвіліну), і мы адзначылі свята народзінаў пад лівнем, каля царквы, дзе стаіць яе помнік (нават помнік гэты шмат разоў імкнуліся знесці тыя, хто хоча сцерці з памяці страхоцце сталінскіх рэпрэсій і цяжар таталітарызму!).

Шалёны вецер ірваў адзенне, мы хуталіся ў плашчы і ахіналіся парасонамі. А над намі ўздымалася гордая, велічная Геніюш.

Такой яна была і ў жыцці...

## СВЯТЛО ЯГО ДУШЫ

Ліпеньскі мітынг 1931 г. у вёсцы Алекшыцы Бераставіцкага павета скончыўся гвалтоўным яго разгонам паліцыяй, якая наляцела з Гродна, а таксама арыштам выступоўцаў — дэпутатаў польскага Сейма. Адным з іх быў беларускі паэт, публіцыст і доктар філасофіі Ігнат Дварчанін (27.5.(8.6.)1895 — 8.12.1937), што быў абраны ад Наваградскай выбарчай акругі як абаронца беларусаў супраць нацыянальнага і палітычнага ўціску, што разгортваўся супраць насельніцтва Заходняй Беларусі. Пасля хуткага суда ён апынуўся ў равічскай турме.

Хутка, 30 жніўня 1931 г., «дзеля выратавання краіны», быў распушчаны і сам Сейм, што азначала згортванне тых дэмакратычных свабод, што былі дэклараваны для беларусаў пры падпісанні Рыжскай дамовы.

Цяпер тысячы іх апынуліся ў турмах. Зрэшты, і да гэтага часу паслам-удзельнікам беларускага пасольскага клуба «Змаганне» жылося несалодка — іх збівалі, перашкаджалі працаваць. Але турэмнае зняволенне паслоў сталася той дзеяй, якая выклікала шырокі грамадскі рэзананс. У маі 1932 г. з рэзалюцыяй пратэсту і маральнай падтрымкі змагароў выступілі Янка Купала, Кузьма Чорны, Якуб Колас, Валянцін Таўлай і іншыя вядомыя дзеячы. Сярод правадыроў дэмакратычнага руху ў Заходняй Беларусі, пра каго шмат пісала прэса БССР, ёсць і імя Ігната Дварчаніна.

Тады яму было трыццаць сем гадоў. Зусім малады чалавек. Але за плячыма яго было цяжкае і складанае жыццё: акопы і жахі Першай сусветнай вайны і выратаванне свайго параненага камандзіра, якога ён выцягнуў з-пад куляў, вучоба ў Араніенбаумскай школе прапаршчыкаў, удзел у Першым з'ездзе беларусаў-воінаў Заходняга фронту, дзе ён быў абраны членам выканаўчага камітэта, удзел у працы арганізацыйнага з'езда Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), а таксама Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 г., які быў разагнаны бальшавікамі. А яшчэ — праца ў Маскве і арганізацыя Таварыства беларускіх вучоных, вучоба ў Празе і абарона ў Карлавым універсітэце доктарскай дысертацыі па тэме «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе».

...Калі па равічскай турме разнесліся чуткі аб тым, што, паводле дамовы між СССР і Польшчай, будзе праведзены абмен палітвязнямі, Ігнат Дварчанін палічыў, што калі ён патрапіць у лік «абменнікаў», гэта будзе пачаткам яго новага, вольнага жыцця ў Савецкім Саюзе, у ідэалы якога ён верыў усёй душой. І калі ў ліку сарака палітвязняў (а

сярод іх былі Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын і іншыя), пераходзіў дзяржаўную мяжу, ён не хацеў аглядацца назад: ззаду заставаліся турмы і пераследы, наперадзе — воля і здзяйсненні! Ён адчуваў у сабе велізарныя сілы і душэўны пад'ём, верыў у свой лёс...

Але наперадзе ў яго былі толькі чатыры гады...

Зрэшты, амаль нікога з тых, хто пераходзіў тады тую дзяржаўную мяжу і спадзяваўся на светлую будучыню ў першай сацыялістычнай краіне свету, не мінулі жорсткія, нечалавечыя здзекі сталінскай таталітарнай сістэмы. Ацалелы ў крывавай мясарубцы Павел Сцяпанавіч Крынчык, якому ўдалося параўнаўча мірна дажыць свае гады ў Слоніме, расказваў мне, што пастаянна адчуваў сябе чалавекам другога гатунку, — і гэта ўжо ў 70-я гады! Я прасіла яго напісаць успаміны пра ўсё перажытае, але ён таго не зрабіў — ці то не захацеў узгадваць сваё страшнае мінулае, як не хацелі таго ўзгадваць і іншыя вязні сталінскіх канцлагераў, ці то пабаяўся новых магчымых рэпрэсій. Але якраз з ягоных скупых аповедаў узнікалі амаль забытыя да таго часу воблікі змагароў за свабоду беларускага народа, за дэмакратыю і правы чалавека (хаця тады гэта называлася трохі іначай). І хаця амаль усе яны, былыя камсамольцы і камуністы 30-х гг., былі рэабілітаваны савецкай уладай, гаварыць пра іх было не тое што забаронена, але — не віталася, нібы яны ўсё яшчэ заставаліся не тымі камсамольцамі ці камуністамі, якіх гэтая ўлада ўздымала. Так, яны былі сапраўды не тымі, некаторыя з іх, нягледзячы на тое, што паверылі ў ідэалы камуністычнай партыі, былі выхаваны на ідэалах дэмакратыі, а не так званага «дэмакратычнага цэнтралізму», на павазе Да правоў асобы, а не на «рэвалюцыйнай мэтазгоднасці», на агульначалавечай, а не вузка партыйнай маралі. І таму яны аб'ектыўна былі праціўнікамі гэтай партыі, што яна беспамылкова адчувала і ўжо па адной гэтай прычыне не даравала ім таго, што яны змаглі выжыць у страшных жорнах сталінскай машыны, што яны ўвогуле вярнуліся адтуль, хаця і змучанымі, знявечанымі. Але часта не зломленымі да канца.

Большасць жа — не вярнуліся.

Не вярнуўся і Ігнат Дварчанін.

І году не прайшло пасля яго пераезду з Заходняй Беларусі ў Мінск, дзе ён адразу ж апантана ўзяўся працаваць над складаннем беларускага слоўніка, як 16 жніўня 1933 г. у кватэру, дзе ён жыў (Падгорны завулак, № 4) пастукаліся чэкісты і прад'явілі яму абвінавачанне ў стварэнні так званага Беларускага нацыянальнага цэнтра, які нібыта меў на мэце звяржэнне савецкай улады. Разам з

Ігнатам Дварчаніным па гэтай справе праходзілі яшчэ 95 чалавек. Семнаццаць з іх суд прысудзіў да расстрэлу, але затым — да 10 гадоў турэмнага зняволення, якія яны мусілі адбываць на Салаўках. Разам з Ігнатам быў асуджаны яго брат Іларыён, які таксама вучыўся ў Празе, а ў Мінску працаваў намеснікам дырэктара Беларускага дзяржаўнага паляўнічага заказніка.

Але карнікі баяліся, што і ГУЛАГ не прымусіць замаўчаць чалавека, чый талент публіцыста і грамадскага дзеяча жывіўся любоўю да роднай Беларусі. Ім трэба было прымусіць яго замоўкнуць канчаткова.

Ігната Дварчаніна прывезлі назад ў Мінск і зноў катавалі.

Расстралялі яго 8 снежня 1937 г. па пастанове судовай тройкі НКУС па Ленінградскай (!) вобласці ад 27 лістапада 1937 г., праз 11 дзён пасля прысуду. Месца яго пахавання невядома. Хутчэй за ўсё, яго скінулі разам з іншымі ахвярамі ў агульную брацкую магілу і закапалі, як закопваюць жывёлу, — без ніводнага слова шкадавання, без адпявання і ўспомнення — хто яны, гэтыя людзі, былі і што зрабілі для народа...

І ўсё ж імя Ігната Дварчаніна не захіліла чорнае, бяздоннае Небыццё. Яго ўзняў выдатны чалавек Дзятлаўшчыны, стваральнік музея народнай славы Міхаіл Петрыкевіч. Гэта ён стукаўся ў дзверы зачыненых тады для грамадскасці архіваў, гэта ён дабіўся, каб на радзіме Ігната Дварчаніна — вёсцы Погіры — спачатку паставілі мемарыяльную дошку на месцы яго колішняй хаты, а пасля — каб адкрылі помнік выдатнаму сыну зямлі беларускай, а таксама і пайменавалі вуліцу ў яго гонар. У час адкрыцця помніка ў Дзятлаве выступілі пісьменнікі Янка Брыль і Уладзімір Калеснік, былы паплечнік І. Дварчаніна кампазітар А. Шыдлоўскі, былы вучань Віленскай беларускай гімназіі Міхаіл Макулік і многія іншыя. Дырэктар школы Міхаіл Марук нават прысвяціў свайму земляку вершаваныя радкі. І няхай яны не надта прафесійныя, усё ж ўшанаванне памяці І. Дварчаніна вельмі важнае для нас, нашчадкаў, таму хочацца прывесці тут некалькі радкоў з гэтага верша:

А сёння знакамітая нагода
Успомніць Вас, Ігнаці Дварчанін,
Змагар за шчасце нашага народа,
Пачэсны сярод нас грамадзянін...

У цэнтры Дзятлава, недалёка ад музея, стаіць гэты помнік работы скульптара Уладзіміра Летуна. Мы прыйшлі да яго з дырэктарам музея Хведарам Красюком, які пераняў даследчыцкую і грамадзянскую працу Міхала Міхайлавіча Петрыкевіча. Ён жа і падарыў мне

кнігу «І. С. Дварчанін», напісаную А. Я. Місарэвічам і М. Д. Каралёвым і выдадзеную яшчэ ў 1995 г. на сродкі раёна. Хаця нельга пагадзіцца з асвятленнем некаторых фактаў біяграфіі І. Дварчаніна (асабліва аб ролі нацыянальнага фактару ў дзейнасці тагачасных грамадскіх арганізацый), у цэлым гэта ўсё ж першая ў Беларусі асобная кніга пра чалавека, пра якога ў Біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі (т. 2, с. 335), сказана наступнае: «Пасля разгрому Грамады і арышту яе кіраўнікоў (Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і інш.) І. Дварчанін становіцца адной з цэнтральных фігур нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі».

У гэтай кнізе сабрана частка літаратурнай спадчыны Ігната Дварчаніна, асабліва цікавыя яго вершы і пераклад (пад псеўданімам І. Гудок) паэмы Аляксандра Блока «Дванаццаць», а таксама ягоная публіцыстыка. Чытаць яе сёння надзвычай цікава: больш яскрава бачыцца цяпер разбуральніцкая праца тых, хто хацеў (і каму ўдалося гэта ў вялікай ступені) падзяліць беларускіх патрыётаў на прыхільнікаў камунізму і паслядоўнікаў ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Час «прымірыў» Усіх — і тыя, і тыя бязлітасна знішчаліся сталінскай таталітарнай сістэмай, усе яны ўрэшце былі сабраны ў турмы і канцэнтрацыйныя лагеры, і калі другія добра ведалі, хто іх ворагі, і змагаліся з ім заўсёды, то першыя, такія, як Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Ігнат Дварчанін толькі ў вязніцах спасцігалі, што дарога да свабоды беларусаў адна — праз ідэалы незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай краіны, дзе няма і ніколі ўжо не будзе — удушэння Свабоды, за якую яны, хаця і варагуючы адны з аднымі, змагаліся ўсё ж — разам.

Аднак выклікае вялікую трывогу тое, што ў краіне, якая яшчэ не ачуняла як след ад праяваў таталітарызму, дзе выдатныя беларусы толькі пачынаюць займаць належнае ім месца ў народнай памяці, зноў узнімаюцца імя і справы Сталіна. «Лінія Сталіна» паўстала нібы ў насмешку над ягонымі ахвярамі, і таму, гледзячы на помнік, міжволі думалася пра тое, што, як расказваюць жыхары Дзятлава, хутка якраз па гэтай плошчы, дзе стаіць помнік І. Дварчаніну, пройдзе рэканструкцыя, і помнік будуць пераносіць кудысьці на новае месца. А вось куды? І ці будуць увогуле яго ставіць дзе б там ні было ці ціха знясуць у невядомым накірунку?

Не хочацца нават прагназаваць такое. Аднак грамадскасць Дзятлава мусіць ведаць, дзе і як будзе ўсталяваны помнік слаўнаму сыну гэтай зямлі, і павінна прыняць удзел у абмеркаванні яго далейшага лёсу. Ёсць нейкія рухі вакол ушанавання памяці І. Дварчаніна, якія дадаюць гэтай насцярожанасці. Напрыклад, у Погірах вуліца

Ігната Дварчаніна абазначана на рускай мове, — а ён жа быў перш за ўсе беларускім нацыянальным дзеячам! Мемарыяльная дошка на месцы, дзе стаяла ягоная хата, амаль не бачна з вуліцы, і да яе трэба прабірацца праз асабісты гародчык сямейства Саўчанкам праўда, гаспадыня пакуль што ветліва пускае ў свае кветкі. Аднак вельмі цяжка, нават стоячы насупраць, прачытаць надпіс, які зроблены на дошцы: «На гэтым месцы стаяла хата, у якой нарадзіўся асветнік, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў былой Заходняй Беларусі Ігнат Сымонавіч Дварчанін (1885-1937)». Вяскоўцы выказвалі думку, што было б лепей устанавіць камень, і пажадана, каб камень з гэтай мемарыяльнай дошкай стаяў менавіта на вуліцы, дзе лацвей было б ладзіць кожны год у дзень нараджэння І. Дварчаніна хаця якуюкольвек імпрэзу. 27 мая (дата нараджэння) вельмі прыдатны для такіх імпрэзаў тэрмін — заканчваецца школьны год, школьнікі настроены радасна і светла. І хаця школы ў Погірах ужо няма, аднак у суседняй Жукоўшчынскай школе, якая, дарэчы, носіць імя І. Дварчаніна, ёсць невялікі музей, звязаны з яго імем і дзейнасцю. У Дзятлаўскім музеі яму прысвечаны асобны стэнд. Але школьнікі на вуліцах Дзятлава, дзе я правяла невялікае апытанне, з цяжкасцю ўзгадвалі, хто гэта такі. Значыць, не так часта яго ўзгадваюць на ўроках памяці на пачатку навучальнага года, як гэта прынята ў школах.

Такія імёны, як імя Ігната Дварчаніна, павінны памятаць і шанаваць нашчадкі. Бо святло яго душы выпраменьваецца і сёння. Яно — абярог для нас, сённяшніх, якім зноў пагражае небяспека ператварыцца ў манкуртаў...

## ВЕЧНЫ ВАНДРОЎНІК

Творы Язэпа Драздовіча (1888-1954) заварожваюць сваёй амаль дзіцячай наіўнасцю і разам з тым нейкай пракавечнай мудрасцю, нібы браў ён і свае фарбы, і свае сюжэты з нейкіх касмічных сховішчаў, дзе сканцэнтравана лепшае з таго, што вырабіла і захавала чалавецтва.

Музей мастака ў Германавічах Шаркоўшчынскага раёна задумала і арганізавала Ада Райчонак — жанчына незвычайная як па шырыні мыслення, так і па мужнасці ў самыя чорныя гады прыгнёту нацыянальнай інтэлігенцыі. «З-за гэтага музея яе і выгналі», — расказваюць нам на вуліцы Германавіч першыя ж, да каго мы звярнуліся з просьбай паказаць музей. Аду Райчонак, стваральніцу ажно чатырох музеяў і грамадскую дзяячку, якая штогод арганізоўвае і праводзіць пленэры на радзіме Васіля Быкава, а таксама ў іншых слынных месцах Беларусі, тут ведаюць усе — і гавораць пра яе з павагай і нават нейкай сцішанай зайздрасцю. Можа, ад таго, што яны — не такія. Свабода, пра якую Ада Райчонак з імі гаворыць і якую яна спавядае ў сваім жыцці і дзейнасці, многім з жыхароў пакуль недаступная. Але яны добра разумеюць, што тыя, хто валодае свабодай духу, — вышэй за іх, і адсюль інтанацыі і павагі, і адначасна — зайздрасці.

Музей Язэпа Драздовіча ў Германавічах уражвае. Я бязмерна ўдзячная Адзе Райчонак за тое, што яна некалі разам са сваім сынам аб'ехала ўсе навакольныя вёскі і сабрала-ткі тое, што ўцалела ад шматграннай творчасці Язэпа Драздовіча мастака, археолага, скульптара і ўвогуле шматграннага чалавека, сапраўднага Майстра. Цяпер можна хадзіць па музею і ўглядацца ў карціны мастака, на сабе адчуваць нейкую Дзіўную магію, якою яны дыхаюць. Тут жа знаходзіцца і адзіная пакуль кніга пра яго: «Вечны вандроўнік» Арсеня Ліса з ілюстрацыямі Міколы Купавы. Назва гэтай кнігі стала своеасаблівым, як цяпер бы сказалі, брэндам Драздовіча. Сапраўды, Вечны вандроўнік! За многія і многія гады прайшоў ледзь не кожнай сцежкай гэтага краю, глыбока, як сапраўдны вучоны-даследчык, спазнаў яго людзей, іх песні, традыцыі, занатаваў краявіды і курганы, замкі і сядзібы ў безлічы выдатных мастацкіх твораў.

Тут, на Глыбоччыне і Шаркоўшчыне, усё пранізана памяццю пра гэтага вольнага мастака, пра дзівака, які скончыў дні свае ў падарожжах-бадзяннях, нястомна занатоўваючы ўбачанае і не маючы для сваёй катаржнай працы нават уласнага кутка. Меў шматкроць розныя магчымасці зрабіць сваё жыццё больш утульным — але перад усім хацеў найперш Свабоды. Хацеў, каб пранізваў яго вольны вецер.

І каб зоры маглі спакойна струменіць у яго сваю адвечную загадку, напаўняючы душу захапленнем перад бязмернымі таямніцамі Космасу... Вёў дзённікі, верачы, што некалі ягоны досвед спатрэбіцца свабодным, разняволеным людзям, якія перастануць ваявацць, а зоймуцца ўпарадкаваннем жыцця на Зямлі і наладзяць сувязі з іншымі светамі на іншых планетах. Вось радкі з яго дзённіка, старонкі якога пісаліся ў 1933 г.: «Прыйдуць часы, калі бальшыня жыхароў нашай планеты адмовіцца ад удзелу ў войнах, адмовіцца ад гэтага штучна ўзаконенага спрадвеку сільнейшымі свету праз уладу сваю над людзьмі вялікага зладзейства, якое пхае мільёны людзей на ўзаемнае забойства. І ўсю тэхніку з навукамі абернуць не на паслугі гэтаму зладзейству, а на добрую справу. Не на праліванне крыві, калецтва. Асірочванне. Не на забойства праз біццё, рубанне, калоцце, выварочванне кішак. Не на рванне чалавечага цела на кавалкі. Не на душэнне жывых істот і закапванне іх жыўцом у зямлю... А... на падтрыманне гэтага жыцця, каб яно было сытым і здаровым, высокакультурным, добрым, разумным і прыгожым. А перад усім *бясцэнна вольным* [падкрэслена мной. — В. І.], не прыгнечаным тымі нягодамі, у якіх нам, бальшыні роду людскога... даводзіцца жыць...»

Словы гэтыя яшчэ болей актуальныя, чымся тады, калі былі напісаны. Праз жыцці мільёнаў людзей прайшла Другая сусветная вайна, забраўшы незлічоныя ахвяры, і сёння большасць сродкаў зямлян ідзе на вайну. Каб яны вызваліліся, то, можа, ужо сёння здзейснілася б мара Язэпа Драздовіча аб даследаванні іншых планет, пра што ён пісаў у тым жа дзённіку: «Усе тыя затраты сродкаў, што ішлі на вядзенне вайны, пойдуць на... завяяванне прастору не толькі на самой Зямлі з яе сухапутнымі абшарамі ды акіянамі, але і па-за атмасфернага, міжпланетарнага. Перад усім таго прастору, які нас раздзяляе з найбліжэйшаю планетаю, аднак не з Венераю і не Марсам, але яшчэ жывым светам — ясным Месяцам».

Якраз жа, калі я зноў перачытвала гэтыя словы геніяльнага яснабачца і мастака, па тэлебачанню еўрапейцы, як пра бліжэйшыя задачы, гаварылі пра хуткае асваенне Месяца, з якога ракеты неўзабаве паляцяць на названыя ім планеты. І, магчыма, там, і далей за імі, зямляне пабачаць тыя пейзажы і нават тых істот, якіх маляваў ў доўгія асеннія ночы ў сярэдзіне века гэты прыгожы, з дзіцячай усмешкай і мудрымі вачыма чалавек, да асэнсавання чыёй спадчыны мы яшчэ толькі падыходзім...

І жыў ён загадкава для многіх, хаця жыццё яго нібыта ўсё праходзіла на людскіх вачах, і паміраў адзінока, у падсвільскай бальніцы, і пахаваны чамусьці даволі далёка ад яе, нібыта ён раскідаў сваё

жыццё, як каляровыя шматкі нейкага дзівоснага ўбору, па ўсёй Дзісеншчыне...

Музей яго тут, у Германавічах, а магіла — у вёсцы Ліпляны Падсвільскага сельсавета на Глыбоччыне, дзе з 1979 г. стаіць помнік, словамі пра які Арсень Ліс закончыў кнігу «Вечны вандроўнік»: «Прыйдзе вясна, ударыць пругкі паўднёвы вецер у літыя медныя ствалы высозных соснаў, што велічна ўзняліся над ліплянскай ваколіцай. Над вечным спакоем мастака затрапеча маладое лісце бяроз над узгалоўем вечнага вандроўніка, прыйдуць сюды людзі, несучы даніну пашаны і ўдзячнасці творцу, які жыў і працаваў для іх духоўнага ўзвышэння, у імя будучыні, мірнага неба над зямлёй».

Да вёскі Ліпляны ехаць цяжка: няма ніводнага ўказальніка, так што толькі рэдкія ў гэты ліпеньскі дзень праезджыя тлумачылі нам, што там, дзе заканчваюцца Перадолы, трэба ад аўтобуснага прыпынку павярнуць налева. Але і там, на гравійцы, сцежкі-дарожкі бясконца раздзяляліся, так што калі мы нарэшце спыніліся на раздарожжы ў чарговай вёсцы і гукнулі адзінокую кабету, што корпалася на гародзе, то дазналіся напэўна, што мы ўжо ў Ліплянах.

— То чаму ж у вас нідзе няма ніякага ўказальніка і вёска не абазначана таксама?

— А каму мы патрэбныя, каб нас яшчэ і абазначалі? Тут жа засталіся амаль што ўсе пенсіянеры! — песімістычна адказала кабета.

— А пенсіянеры што — ужо не людзі?

— Канешне не! Мы толькі хлеб у дзяржавы адбіраем, а карысці ніякай... — адгукнуўся з другога гарода яшчэ больш песімістычны голас.

Так мы патрапілі ў вёску, дзе пахаваны мастак, этнограф, адкрывальнік беларускай касмалогіі, аўтар паэмы «Трызна мінуўшчыны» і некалькіх фантастычных раманаў, а таксама навуковай працы «Нябесныя бегі» Язэп Драздовіч.

Ён вучыўся ў Віленскай рысавальнай школе, пасля як вайсковы фельчар прайшоў многімі шляхамі Першай сусветнай вайны і пасля дэмабілізацыі вярнуўся на родную Дзісеншчыну. Шмат вандраваў па Беларусі і зарабляў сабе на хлеб пэндзлем і выкладаннем. Арганізаваў мастацкую студыю пры Віленскай беларускай гімназіі (1927). Тры гады (1927-1930) працаваў настаўнікам малявання ў Навагрудскай беларускай гімназіі (дарэчы, яго добра памятае славуты навуковец Барыс Кіт), пасля вайны стаў вольным мастаком і зарабляў свой хлеб, малюючы дываны, з якімі, як часткай ганаровага пасагу, вясковыя нявесты выходзілі замуж. Шмат што прапала, згарэла ў час Другой сусветнай вайны. Тое, што засталося, змаглі сабраць энтузіясты, та-

кія, як Ада Райчонак і яе сын Міхась. Таму музей у Германавічах — гэта збор самых цікавых прац геніяльнага беларускага мастака. Але працы ёсць і ў Браславе, у Глыбокім і, вядома, у Мінску.

Рукапісы фантастычных твораў Я. Драздовіча («Алвазія», «Адрыянопаліс», «Аўрыя», «Жыццё на планеце Сатурн» і іншыя яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў — яны захоўваюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай Рэспублікі.

...А ці ёсць хто ў Ліплянах, хто яшчэ памятае Язэпа Драздовіча?

— А як жа! — Галасы на гародах робяцца куды больш аптымістычнымі. — Вось тут, побач, Ядвіга Бамакоўская, яна вам ўсё і раскажа!

— Я добра памятаю дзядзьку Язэпа, — кажа спадарыня Шымакоўская. — Было мне, пэўна, гадоў пятнаццаць, калі мы, выходзячы з лесу, напаткалі нейкага чалавека, які распытваў нас пра вёску дый нават пажартаваў, што калі не адкажам на ягоныя пытанні, то ён нас зачаруе. Мы спалохаліся і сыпанулі хто куды. А пасля, калі я прыйшла ў вёску, то пабачыла каля хаты Драздовавай (так гаворыць сп. Ядвіга) таго самага чалавека ў белым плашчы, і аказалася, што гэта родзіч не толькі той гаспадыні, але і наш, бо маёй маме тая Драздовічава была свая, прыходзілася нейкай далёкай раднёй. З таго часу мы добра яго спазналі. Ён не жыў у нашай вёсцы, але час ад часу сюды прыходзіў. Добры і разумны быў чалавек, любіў з намі гаварыць. Але мы заўважалі за ім і нейкія дзіўныя для нас рысы: нікому не давяраў гатаваць ежу, рабіў яе толькі сам і любіў нас частаваць тым, што зварыў. Асабліва любіў грыбную полiўку. Памятаю, я неяк запыталася: «Дзядзька, чаму ты не ідзеш у гасударсцвенную службу, ты ж бы са сваім розумам і спрытам зрабіўся б вялікім чалавекам!» А ён з сумам адказвае: «Я шмат працаваў, але маю работу бралі, здавалі як сваю і на ёй зараблялі грошы». Калі ён маляваў дываны, то грошай ад людзей не браў, толькі ежу. Бывала, давалі яму на фарбы які рубель, тады браў.

Калі ж ён памёр у бальніцы, то быў такі бедны, што не было ў чым пахаваць. Бальніца дала прасціну ды коўдру, у тое і загарнулі. А труну яму заапекаваўся дастаць Бельскі, быў такі мясцовы чалавек. Дык тую труну некалі партызаны зрабілі для свайго камандзіра, якога забілі ў лесе. Але як хацелі яго адтуль, з таго месца, дзе забілі, забраць, то аказалася, што цела на месцы няма, ваўкі парасцягалі. Тады гэтую труну паставілі ў нейчы свіран, там яна і стаяла. Дык вось стараннямі Бельскага яе аддалі для пахавання Язэпа Драздовіча».

У нашую размову ўключаецца і Ніна Ліцвінава, якая жыве тут ужо дваццаць гадоў. Яна бярэцца паказаць нам могілкі і месца вечнага супачыну Язэпа Драздовіча.

Могілкі ў Ліплянах вельмі прыгожыя, яны месцяцца на ўзгорку, і магілы акуратнымі радкамі спускаюцца ўніз. Тут спрэс Шантыры ды Арцімовічы, ляжыць тут і першы муж спадарыні Ліцвінавай. Яна ідзе паўз магілы і апавядае пра людзей, што спачылі тут. Апошнімі гадамі дадалося трагічных здарэнняў, гвалтоўных смерцяў, вось і недалёка ад Язэпа Драздовіча надпіс на магіле жанчыны «забітая мужам», паўтораны двойчы.

Помнік Язэпу Драздовічу тут самы прыгожы. Не дзіва: рабіў яго вядомы скульптар Алесь Шатэрнік пры актыўнай дапамозе славутага мастака Аляксея Марачкіна, практычна на іхнія ўласныя грошы. На ружовым валуне цёмным выглядае барэльеф прыгожага натхнёнага твару мастака, унізе надпіс: «Язэп Драздовіч. 1888-1954». Ніжэй — манаграма Драздовіча.

Тут шмат букетаў і вянкоў. Ёсць нават маленькі шкляны глобусік, і я, убачыўшы яго, аж сцепанулася: акурат такі прывезла з Канады і падарыла знаёмаму святару. Няўжо ён прывёз яго сюды? Не, мабыць, гэта супадзенне, і ўсё ж гэты празрысты шарык з залацістай гравіроўкай зямных кантынентаў, здаецца мне прынесеным сюды менавіта мною — можа, у такім самым фантастычным сне, які так пераканаўча апісваў мастак ў сваіх Дзённіках.

Так, не толькі яго мастацкія творы, але і ягоныя дзённікі сапраўды паказваюць нам постаць такой велічыні, якою можа ганарыцца кожная краіна свету.

Усё часцей гавораць пра ягонае яснабачанне, пра рэальнасць ягоных сноў і трызненняў. Пра магчымасць палётаў чалавека ў тонкім целе ўсё часцей пішуць не толькі ў фантастычных раманах, але і ў сур'ёзных навуковых часопісах.

Язэп Драздовіч нашмат абагнаў свой час. І ці яму было служыць у навуковых установах, хадзіць ў адзін і той жа час на абед? Не, гэта быў чалавек, які выбраў самы цяжкі шлях — шлях Свабоды, якая б дазволіла яму быць самім сабой.

Гэтую свабоду ён аплаціў вельмі цяжкай цаной. Адзінокі, беспрытульны, хворы, ён ствараў касмічныя мастацкія серыі з жыцця на Месяцы, Марсе і Сатурне, пісаў пра тое, што бачыў у сваіх дзівосных снах, і не вельмі зважаў, як успрыме гэта грамадства.

Аднак часам самота падступала да горла, і ён пісаў: «Пішу, пішу, а для каго ўсё гэта? Хто яго чытаць будзець?» (Гэта пра свой дзённік.)

Можа, сапраўдны час Язэпа Драздовіча ўсё яшчэ не наступіў? Беларускае грамадства толькі-толькі пачынае асэнсоўваць маштабнасць і незвычайнасць гэтай постаці.

У ягоным жыцці было шмат дзівосаў, шмат таямнічага. І размешчана яго магіла незвычайна. У самым нізе ўзгорка, ля маладога дубка, павернута на ўсход, і, як кажа Ніна Ліцвінава, першыя промні сонца звычайна падаюць на барэльефны твар Язэпа Драздовіча.

Сонца было для яго богам, ён, як сапраўдны яго касмічны сын, адчуваў сябе часткаю гэтай велізарнай жыццядайнай сілы. І яна, тая сіла, у сваю чаргу, адчуваецца намі.

...Мы доўга сядзелі на лавачцы насупраць магілы Язэпа Драздовіча. Можа, якраз у гэтыя хвіліны я па-сапраўднаму адчувала ўсю самаахвярнасць і велізарную стваральную грамадскую працу аднаго з лепшых нашых беларускіх творцаў — Аляксея Марачкіна. Гэта ён узняў голас у абарону памяці Язэпа Драздовіча, ён рабіў музей у недалёкіх адсюль Лужках і ініцыяваў пленэры ў гонар вялікага сына беларускай зямлі. Пленэры гэтыя праходзяць на зямлі, якую ўсю абышоў Язэп Драздовіч і занатаваў яе прыгажосць у шматлікіх працах — Германавічы, Погіры (дзе, дарэчы, жыў славуты Ігнат Буйніцкі), Псуя, Ліпаўскія і Гуркаўскія хутары, — гэты пералік можна доўжыць і доўжыць.

Магіла Драздовіча, нягледзячы на тое, што дабрацца да яе не проста, не выглядае закінутай. Расказваюць, што яе любоўна даглядаў Іван Сцяпанавіч Бельскі, які хаваў Драздовіча (магіла Бельскага і яго жонкі, Францішкі Уладыславаўны, знаходзіцца зусім недалёка ад Драздовічавай). Абодва, муж і жонка, нарадзіліся і памерлі ў аднолькавыя гады: 1928-1997, і можна лёгка вылічыць, колькі ж ім было ў год смерці дзядзькі Язэпа.

Як расказваюць мясцовыя жыхары, бывае, што ад кветак, якія нясуць да Драздовіча, штосьці кладзецца і на магілу Бельскіх — такая своеасаблівая пасмяротная плата за іхні клопат аб геніі...

Да Драздовіча, па словах ліплянцаў, часта прыязджаюць з Падсвілля, з іншых мясцін Беларусі. Пра яго ўсё болей пішуць і часцей узгадваюць яго імя. Вось і ў апошнім — пасмяротным — зборніку вершаў «Лён» Анатоля Сыса, аднаго з найбольш таленавітых творцаў пакалення 90-х гг. ужо мінулага стагоддзя, ёсць верш, прысвечаны Мастаку. Называецца ён «Маналог Язэпа Драздовіча»:

Вяльможны лес. Дубы-машэкі
Прыспалі рэха даўніх дзён,
а ў нетрах Велесавы рэхі
збіраюць ручаёвы звон.

Стыхія спіць. І толькі зрэдку
дзевяцісотгадовы зубр,

яцвяжскае загубы сведка,
рыкае ў дзевяць срэбных труб.

Жалобны рэквіем зубрыны
на мой народ наводзіць сум...
І каб не ўмерці — ручаіны
жабруюць па лясох расу,
бы я сцяжынаю жабрачай,
а думы — пра адвечны шлях, —
там крыўская «Пагоня» скача,
і німб над ёй, як зорны шлях.

Дарэчы, тут, ля магілы, чамусьці ўзгадваецца мастак, пра якога цяпер, бадай, ведае ўвесь свет, бо шмат для таго зрабіла грузінская інтэлігенцыя: Пірасманішвілі. У нечым яны з Драздовічам сапраўды вельмі падобныя, хіба што жыццё да беларускага генія было яшчэ больш суровым. Але затое колькі было таго, пра што варта памятаць маладым, каб яшчэ раз упэўніцца: свет стаіць не на «хлебе адзіным». Таму грузіны аднавілі рамантычны, светлы і вельмі прывабны вобраз свайго Мастака.

Тое самае нам трэба рабіць для памяці Язэпа Драздовіча. Есць пра што гаварыць, паказваць, абвяшчаць свету. Яго вобраз і творчасць уздымаюць усіх нас, беларусаў. Я веру, што мы Дачакаемся новых кніг і фільмаў пра Творцу, які ўсё жыццё жыў так, як тварыў, — свабодным.

## ПРЫПАСЦІ ДА ВЕЧНАЙ КРЫНІЦЫ...

Калі цяжка на душы, калі прыгнятае адчуванне, што зробленае табою за гады нялёгкай працы не патрэбна людзям, што знікае беларускае і ты робішся ледзь не эмігрантам у роднай краіне, — паедзь да магілы вялікага пісьменніка XIX ст. Вінцука Дуніна-Марцінкевіча (23.1(4.2.)1808 — 17(29)12.1884) і пастой перад ягоным апошнім прыстанкам, узгадваючы жыццё Творцы і ягоны духоўны подзвіг — у імя ідэй гуманнасці і духоўнасці, у імя захавання самога беларускага народа. Ён сам і яго жыццё — гэта вечная крыніца, якая бруіцца з тых адвечных, ужо недасягальных для нашага позірку глыбіняў, дзе зараджалася і нашая адметнасць, і нашая гісторыя...

Яго магіла непадалёк ад вёскі Падневічы, побач з ужо зніклай вёскай Тупальшчына, месціцца перад капліцай на прыгожым узгорку, адкуль бачна дарога, па якой увесь час едуць машыны, фурманкі і ровары. Каталіцкім могілкам, на якіх знайшоў вечны спачын гэты самы яркі беларускі пісьменнік-дэмакрат XIX ст., пашанцавала: іх колькі разоў збіраліся зносіць, але, мабыць, якраз перашкаджала магіла славутага чалавека. Затое ў савецкія часы на іх забаранілі хаваць памерлых: каталікі мусілі ляжаць не асобна, і па смерці падкрэсліваючы сваю рэлігійную прыналежнасць, а на агульных (праваслаўных, хаця гэта і не падкрэслівалася) могілках. Забарона была парушана ўжо ў постсавецкі час, калі ў недалёкіх адсюль вёсках людзі амаль забыліся, хто яны па рэлігійнай прыналежнасці, бо ўсе навокал парабіліся атэістамі. Таму недалёка ад Дуніна-Марцінкевіча ёсць усяго дзве магілы канца XX ст., астатнія амаль спрэс адносяцца да пахаванняў XIX ст. І ўсё ж на могілкі было некалькі «нападаў». Мясцовыя людзі дасюль узгадваюць, як каменную агароджу вакол могілак у 60-я гг. «пахавалі» ў спецыяльна вырытых ямах, — мабыць, каб вандалам было лягчэй руйнаваць тое, што адчынена насустрач усім вятрам. Расказваюць, як хацелі ўзарваць капліцу, як здымалі з яе званы. Куды яны падзеліся? «Хто ж ведае, нам не казалі!» — паціскаюць людзі плячамі.

Пра тое, дзе магіла Дуніна-Марцінкевіча, тут ведаюць усе. Аднак школы, дзе быў бы куток, прысвечаны славутаму земляку, у Падневічах няма. Дзеці з гэтай вёскі, як і з іншых шасці вёсак, цяпер ходзяць у суседнія Пральнікі, у школу, якая пастаўлена на ўзгорку, — там некалі хацелі ставіць касцёл. Школьнікаў у Пральніцкай школе ўсяго восемдзесят сем, і надзея на пабольшанне іх — зусім кволая, бо вёска — не з перспектыўных, як і многія іншыя, яна паступова вымірае. Да магілы Дуніна-Марцінкевіча адсюль дванаццаць кіламетраў,

настаўнікі кажуць, што звесткі пра славутага земляка знаходзяцца ў Пяршаях, у музеі, які яшчэ далей за Падневічы. І хаця школка беларуская, у выказваннях некаторых настаўнікаў пад час нашай бяседы пра слаўнага земляка і пра лёс беларускай мовы адчуваецца пэўны песімізм: у якую вышэйшую ўстанову пойдуць беларускамоўныя дзеці? Універсітэта на беларускай мове ў Беларусі, як і раней, няма...

Бібліятэка ў Пральніках, якая носіць імя Дуніна-Марцінкевіча, цяпер зачынена — кажуць, на час адпачынку бібліятэкаркі. Але сама наяўнасць яе ў Пральніках абнадзейвае, — імя слаўнага беларускага пісьменніка-дэмакрата жыве датуль, пакуль у гэтую бібліятэку будзе прыходзіць моладзь...

Так, пасмяротны лёс Дуніна-Марцінкевіча куды больш спрыяльны да яго літаратурнай славы, чым пры жыцці: камедыя «Пінская шляхта» была прызнана савецкімі ўладамі як выкрыванне рэаліяў царскага часу, а ягонае імя — увекавечана ва ўсіх хрэстаматыях па літаратуры і ў школьных падручніках. Ён ідэальна падыходзіў да вобраза выкрывальніка судовай сістэмы і чалавечых нораваў пры царызме, і таму пра яго дазвалялася пісаць і даследаваць ягоную творчасць — хіба што не падкрэсліваючы ні ягонага каталіцкага веравызнання, ні ягонай нязломнасці і крытычнага стаўлення да любой улады.

Аднак жыццё пісьменніка складвалася нялёгка, ён даволі рана трапіў пад нагляд царскіх уладаў, асабліва тады, калі даслаў віленскаму губернскаму прадвадзіцелю дваранства (маршалку) А. Дамейку ананімны ліст з вершам «Адозва сына Айчыны да братоў-ліцвінаў», дзе заклікаў падтрымаць нацыянальна-вызваленчы рух у краі.

Аб тым, якім аўтарытэтам карыстаўся пісьменнік на Беларусі, сведчыць данос у III аддзяленне, аўтарам якога быў студэнт Пецярбургскага універсітэта Юзаф Бярнацкі, якому было даручана даведацца, хто аўтар верша. Ён пісаў: «Гэтае пісьмо напісаў Марцінкевіч, памешчык Мінскай губерні. За ім трэба было б старанна сачыць, бо гэта небяспечная асоба, ён мае, як мне вядома, надзвычайны ўплыў на сялян... Нядаўна гэты самы Марцінкевіч напісаў твор на народнай мове пад загалоўкам «Гутарка старога дзеда»... Гэты твор ужо даволі распаўсюджаны і так пераканальна дзейнічае на сялян, што дзе толькі ён паявіўся, то сяляне пакінулі быць прывязанымі да гасудара...»

З гэтага часу пісьменнік трапіў пад пастаянны нагляд тайнай паліцыі. І не толькі ён, але і ягоная дачка Каміла, якая таксама актыўна падтрымлівала вызваленчы рух на Беларусі. У 1863 г., калі вызвалены рух пашырыўся на ўсю Беларусь, Каміла была зняволена і

сядзела ў мінскім астрозе. Бацьку ж яе шукалі па ўсёй Віленскай і Ковенскай губернях.

...У першыя гады сваёй працы на Гродзенскім тэлебачанні ў 1973 г., прачытаўшы артыкул пра дачку і бацьку Марцінкевічаў ў кнізе Г. Кісялёва «Сейбіты вечнага», я паехала ў Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССCР у Вільнюс і знайшла там справу Камілы Дунін-Марцінкевіч, а ў ёй фота чалавека, якога яна моцна кахала. Гэта быў адзін з галоўных дзеячаў мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі 29-гадовы Карл Станкевіч. Закаханыя знайшлі чалавека, праз якога яны перадавалі адзін аднаму лісты, напісаныя на ўсім, што было пад рукой, — на белых насоўках, на хусцінках... Яны не ведалі таго, што іхняя перапіска ідзе пад кантролем турэмных уладаў, і перш чым трапіць у рукі адрасата, белая насоўка трапляе ў канцылярыю турмы, дзе з яе робяць копію і пераклад і падшываюць у справу.

Памятаю тое моцнае ўражанне ад гэтых арыштаваных лістоў кахання, на якіх стаяў штамп: «Пераклаў унтэр-афіцэр» і ягонае прозвішча. Пра гісторыю гэтай перапіскі я зрабіла тэлевізійную перадачу, але гэтага для маёй захопленасці было мала: тады ж і нарадзіўся верш «Равесніцы», дзе я пісала пра гэтую смелую і разумную настаўніцу музыкі, якая да самай сваёй смерці заставалася гордай і нязломнай (у 1862 г. яна была выслана ў Салікамск, адкуль вярнулася праз 18 гадоў на любую сваю радзіму, дзе, змучаная ссылкай, хутка памерла).

Вось гэты верш:

Равесніцы, у светлай залі блішчыце
Белай аголенасцю плячэй.
Мой шлях другі. Я — бунтаўшчыца.
Мой бацька — таксама. Разам — лягчэй.
Жандары з вамі — шарман, кавалеры.
Са мною жандары, і толькі яны.
Мой шлях сярод іх: даносы, паперы,
Холад і бруд турэмнай сцяны.
Пісульку — у веер альбо ў пальчатку.
Каханкам — забава, гульня, смяшкі...
А на маіх, перахопленых, скрозь пячаткі
І надпіс: «Праверыў... унтэр... такі».
На вас каре ёты. Паветра не будзе —
Хіба скрозь свецкі заўважыце шум!
А ў мяне і так разрываюцца грудзі
У краіне, дзе паліцэйскі на кожную чалавечую душу.
Народзіце дзяцей. Памажы вам Божа!
Расціце іх да чыноў, эпалет.
Мой шлях другі. Згару — дык, можа,
Будзе нехта на кропельку жыць святлей...

Пакуль дачка сядзела ў астрозе і чакала ссылкі, а пасля ехала па этапе, ейны бацька быў знойдзены ўладамі, арыштаваны і таксама змешчаны ў мінскую турму.

За спяванне рэвалюцыйных гімнаў была таксама арыштавана другая дачка Дуніна-Марцінкевіча, Цэзарына, пад падазрэннем была і ягоная жонка Марыя.

Праз нейкі час яго справа была завершана. Прысуд быў адносна мяккі: «Палявы аўдытарыят знаходзіць, што памешчыка гэтага, як нядобранадзейнага ў палітычных адносінах, трэба было б выслаць з краю, але... зважаючы на яго немаладыя гады, Палявы аўдытарыят лічыць: памешчыка Марцінкевіча, на падставе IV катэгорыі і 8 пункта высачайша зацверджаных 11 мая 1863 г. правіл аб парадку накладання спагнанняў на мяцежнікаў і іх супольнікаў, не высылаючы з краю, падвергнуць грашоваму штрафу, спагнаўшы з маёнтка як за яго самога, так і за жонку, якая ўдзельнічала ў дэманстрацыях, пры вызваленні маёнтка ад секвестру, узмоцнены трыццаціпрацэнтны збор і, усяліўшы затым на месца жыхарства, аддаць на ўстаноўленае упаўне добранадзейнае паручыцельства і пад строгі нагляд паліцыі».

Але, нягледзячы на ўсё гэта, В. Дунін-Марцінкевіч «добра-надзейным» так і не стаў. Вярнуўшыся з турмы, ён сеў пісаць твор, які зрабіў яго імя бессмяротным. Гэта быў фарс-вадэвіль У адной дзеі пад назваю «Пінская шляхта».

І сёння, чытаючы яго, адчуваеш крык душы чалавека, якога, як павуціннем, аблытвалі цянётамі кручкатворства, даносаў, падглядвання, — і разам з тым у гэтым сплаве лёгкасці, нязмушанасці, весялосці і сарказму ёсць пячатка нязгаснага таленту, які пераадольваў усё.

Памёр В. Дунін-Марцінкевіч 17 снежня 1884 г.

...Могілкі ля Тупальшчыны зараслі барвінкам. Гэта іх выратавала ад густых зараснікаў крапівы і палыну, скрозь якія так цяжка прадзірацца. Таму, стоячы ля магілы Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, можаш прагледзець усе гэтыя невялікія могілкі наскрозь: і вялікую, надзіва захаваную, нягледзячы на ўсе нягоды, вялікую капліцу былых уладальнікаў, і ўсё яшчэ шыкоўную каплічку Алаізы Набароўскай (з Жэброўскіх), якая памерла ў 1850 г., маючы 75 гадоў. Дунін-Марцінкевіч мог ведаць гэтую жанчыну: ягоны маёнтак Люцынка знаходзіцца зусім недалёка. Ёсць тут і пахаванні 1829 г. і, магчыма, яшчэ стара-жытнейшыя, бо надпісы на камянях зусім сцерліся.

Можа, маладыя даследчыкі паспеюць занатаваць і іншыя прозвішчы і высветліць, што гэта былі за людзі і ці звязвала што іхнія лёсы з лёсам чалавека, які сярод усіх іх быў найбольш смелым, найбольш свабодным — да апошняга дыхання...

## ЯГО ПАМЯТАЮЦЬ ДАСЮЛЬ...

Тапчэўскі Фелікс (каля 1838 — 17(29).12.1892) памёр, па сённяшніх мерках, даволі маладым — усяго ў пяцьдзесят чатыры гады. Магіла яго была згублена, але знайшоў яе нанова мясцовы глыбачанскі настаўнік Іван Васільевіч Законнікаў, бацька знанага паэта Сяргея Законнікава, які ведаў і любіў літаратуру.

Але з кнігі Генадзя Каханоўскага «Адчыніся, таямніца часу» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1984) даведваемся, што адкрыццю І. В. Законнікава ўсё ж папярэднічала паездка ў 1971 г. у гэтыя мясціны знанага краязнаўца, які даўно хацеў «прайсціся па слядах напаўзабытага беларускага паэта XIX стагоддзя Фелікса Тапчэўскага». Знайшоўшы па карце Рукшаніцы (паэт падпісваўся псеўданімам «Хвэлька з Рукшэніц»), Г. Каханоўскі пераканаўся, што гэтая вёска ўжо злілася з в. Глыбачка Ушацкага раёна. Ягоная паездка прыцягнула ўвагу Івана Васільевіча, і менавіта пасля гаворкі з Каханоўскім ён і стаў шукаць магілу «напаўзабытага паэта». Шмат давялося адкапаць урослых У зямлю ці разбітых камянёў, пакуль натрапіў на доўгачаканы каменны стод. Ліст аб гэтай знаходцы ён прыслаў Г. Каханоўскаму ў 1982 г.

Сёння гэтую магілу на вясковых могілках у Глыбачцы ведаюць усе, хто не забыўся, што такое чытаць альбо хаця б распісвацца ў ведамасці. Праўда, калі першы раз мне паказваў яе Сяргей Законнікаў (пад час Дзён літаратуры на Віцебшчыне ў 1989 г. мы, некалькі пісьменнікаў, па запрашэнню Івана Васільевіча прыехалі і ў Глыбачку), у памяці засталося ўражанне, што мы доўга прадзіраліся скрозь нейкія зараснікі. Цяпер жа аказалася, што знаходзіцца гэтая магіла зусім блізка ля ўвахода, і выглядае яна добраўпарадкаванаю: абкладзена павапнаванымі камянямі, чыстая, пасыпана жоўтым пяском. Праўда, надпіс ўжо паўсцёрты і літары чытаюцца з цяжкасцю, тым болей па-польску: «С. П. Фелікс Тапчэўскі памёр 17 снежня 1892 года, маючы 54 гады. Просім аб прыняцці анёльскім». Дарэчы, дата смерці разыходзіцца з тою, якая памылкова ўказана ў хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» (Мінск: Вышэйшая школа, 1988; там стаіць дата — 1910 г.) Дарэчы, там жа падаецца і яшчэ адна магчымая дата нараджэння Ф. Тапчэўскага — 1835 г.

Зусім недалёка ад Фелікса Тапчэўскага цяпер ужо ляжыць і сам Іван Васільевіч Законнікаў, і яго жонка Валянціна Фёдараўна. Я ведаю, што Іван Васільевіч збіраў пра паэта-дэмакрата XIX ст. што мог і дзе толькі мог. Нават, расказваюць, апроч хрэстаматыйных, вядомых, запісаў ўспаміны тых, хто яшчэ мог нешта працытаваць па памяці з Тапчэўскага, і сабраў ледзь не сто старонак успамінаў, выразак з

газет, розных навуковых гіпотэз. Але прыехаў нехта з мінскіх краязнаўцаў, узяў той рукапіс, абяцаючы аддаць яго ў Акадэмію навук, ды так ўсё на тым і скончылася... Наш шаноўны прафесар Адам Мальдзіс выказаў меркаванне, што, магчыма, рукапіс узяў Генадзь Каханоўскі, але перадаў яго ці ў Маладзечна, ці то ў Акадэмічную бібліятэку імя Я. Коласа, але ні там, ні там гэта не пацвердзілі. Сам жа Каханоўскі ў час той, 1971 года, паездкі змог, пасля доўгіх роспытаў, знайсці родную пляменніцу паэта Стэфанію Бацяноўскую. Яна, хаця і няшмат, усё ж магла нешта расказаць пра свайго дзядзьку. Вось фрагмент з іхняе размовы: «Мне здаецца, што ён меў адукацыю каморніка, бо ўсё складаў зямельныя планы, яго прасілі. Працаваў там [у Вухавішчах. — В. І.] мусіць, аграномам.

— Ці бываў жа ён у Рукшаніцах?

— Як жа, тут у яго заставалася бібліятэка, дзеці... У кожную нядзелю прыязджаў на кані. Дачка Тэкля хараша іграла на раялі, а гэта дзядзьку было проста дадушы, любіў музыку, сам іграў па нотах на скрыпцы. Любіў народныя песні, хараша іх спяваў».

Пляменніца змагла расказаць і пра тое, што Фелікс Тапчэўскі быў удзельнікам паўстання 1863 г., што ў яго было два сыны і дачка, але старэйшы сын памёр яшчэ юнаком, а малодшы быў цяжка хворы і замерз у хаце, пасля таго як памерлі ўсе родзічы. Ад Тэклі ў Тапчэўскага быў унук Мечыслаў, які загнуў у час Грамадзянскай вайны. Маёнтак іх ва ўрочышчы Лесава, які стаяў на высокай горцы і ад якога яшчэ дасюль бачны падмурак, быў разбураны.

Пляменніца памятала і паховіны свайго дзядзькі: на іх, па яе словах, было шмат людзей, бо «паважалі ў ім прастату, ведалі яго вершы».

У народзе гэтыя вершы памяталі сапраўды доўга — не кожны паэт зможа тым пахваліцца! І не кожны — тым, што пра яго некалі, праз колькі дзесяцігоддзяў, напішуць верш. Бо верш народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, што неўзабаве пасля знаходкі з'явіўся ў «Літаратуры і мастацтве», быў прысвечаны і І. В. Законнікаву, і — праз яго — Феліксу Тапчэўскаму:

І слова крэўнасцю пачэснае,
Іскрынкай радасці былой,
Як камень Фелікса Тапчэўскага,
З зямлі
Узыдзе над зямлёй.
Часаны любасцю і вераю
Валун —
Пястун ледавіка —

Не лёг над прахам
Глыбай шэраю,
А ўстаў — нямы працяг радка
Шаноўнейшага Хвэлькі з Рукшэніц,
Паўстаў,
Каб далягляд шырэў.
Зноў камень,
З-пад дзярноўя зрушаны,
Вяльможнай яснасцю ўшарэў.
Грудкі магільніка спрадвечныя,
Нібы радкі чарнавіка
Жыцця.
Гарыць хваінкі свечкаю
І грэюць памяць земляка...

Калі я патэлефанавала нашай пісьменніцы і мясцовай журналістцы Галіне Варатынскай, што хацела б разам з ёю паехаць да магілы Ф. Тапчэўскага, яна адразу адгукнулася на прапанову Ды патэлефанавала ў Глыбачка — магчыма, там захочуць правесці агульную літаратурную імпрэзу разам са старэйшымі калегамі сябры літаратурнага гуртка пры школе? Там адказалі, што сустрэнуць нас з радасцю. І сапраўды: у Глыбачцы, каля магілы Фелікса Тапчэўскага, нас сустракаюць настаўніца мясцовай школы Тамара Пятроўна Чумакова, некалькі вучняў-паэтаў і мясцовыя краязнаўцы. Шэсць дзён да васьмідзесяцідвухгоддзя Васіля Быкава, геніяльнага земляка з недалёкіх адсюль Бычкоў, і таму настрой у юных паэтаў адпаведны. Можна было б сказаць — у паэтак, таму што паэт сярод іх толькі адзін — Саша Тускевіч. Ён чамусьці якраз найболей і саромеецца чытаць свой верш пра Чарнобыль, дзяўчаткі ж, асабліва Алеся Шаршнёва, чытаюць прыгожа і артыстычна, хаця таксама трохі бянтэжацца.

Я ўзгадваю тыя некалькі вершаў Фелікса Тапчэўскага, з якімі ён увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры, і чарговы раз пераконваюся, што ўсё не вечнае, вечнае толькі Слова. Яно, ягонае слова, сабрала нас тут, праз сто чатырнаццаць гадоў пасля паэтавай смерці, магчыма, якраз яно гукнула юныя душы водгуллем чароўнай хвалі Паэзіі, на якой абудзіўся іхні дар.

Другі час, другая эпоха, зусім іншыя тэмы. З аднаго боку, сучаснасць і тэмы: юначае каханне, ружовыя Папялушкі, якія шукаюць сваіх прынцаў, — і з другога — суровыя, выкрывальна-горкія ноткі:

Кажуць, мужык — хам, няцнота,
Гультай, шэльма, усё ліха!
А чыя ж гэта работа —

Хатка, хлебіц і грачыха?

Хто ж разробіў лес на поля?
Абсушыў балоты, тоні
І для ўсіх зрабіў раздолля?
Усё ж гэта тыя хлопы.

І далей, ва ўсіх пяці вершах, малюнкі іншага жыцця, іншай мовы, што панавала тут па-над тутэйшай, беларускай, іншага веравызнання, іншых рэалій. Але што яднае ўсе вершы Фелікса Тапчэўскага — гэта пратэст супраць несправядлівасці, крык болю за простага чалавека, вялізная прага роўнасці ўсіх людзей адзін перад адным і перад Богам.

Ці зразумеюць гэта юныя паэты Глыбачкі? Ці стануць ім блізкія менавіта гэтыя ноты паэта-дэмакрата, які жыў тут на паўтара стагоддзя раней за іх? І ці сёння паўсюдна праўда, паўсюдна справядлівасць і болевы парог для душы ў мінулым?

Мне вельмі хочацца спытацца пра гэта ў вучняў. Але нягласныя ўмовы гэтай сустрэчы — гаварыць толькі пра паэзію, пра гісторыю літаратуры, не закранаючы ані сённяшняй палітыкі, ані сённяшніх адносін да літаратараў, а лепей увогуле нічога «такога» не гаварыць. Іначай я падвяду арганізатарку імпрэзы — Галіну Варатынскую. І мы проста слухаем юных паэтаў, і я супакойваю сябе тым, што беларускі паэт на тым свеце, у тым сваім вечным вымярэнні, мабыць, суцешаны: яго магіла не забыта, яго імя гучыць у вуснах нашчадкаў, а значыць, памяць пра яго жыве. Можа, дзеці, вывучаючы яго радкі, убачаць за каструбаватымі, цяжкаватымі і часам незразумелымі ў нашай сучаснасці выразамі і словамі тое жывое, што ёсць у іх і сёння?

Магіл беларускіх паэтаў нават і не такога далёкага ад нас XIX ст. у Беларусі зусім няшмат: Янкі Лучыны ў Мінску, на Кальварыйскіх могілках, Францішка Багушэвіча ў Жупранах Ашмянскага раёна, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча ў Тупальшчыне Валожынскага, ды, здаецца, знойдзена слуцкім краязнаўцам Рыгорам Родчанкам у Слуцку магіла Альгерда Абуховіча...

Апошні прыстанак Фелікса Тапчэўскага — адзіная на Віцебшчыне магіла літаратара XIX ст., і яна, безумоўна, можа стаць месцам паломніцтва як беларускіх, так і замежных турыстаў.

... Я слухаю вершы дзяцей вёскі Глыбачка, апяянай маім равеснікам Сяргеем Законнікавым, і міжволі прымружваю вочы, так што дзіцячыя тварыкі як бы накладаюцца на радкі паэта (ніводнага яго партрэта для нашчадкаў не захавалася). На тэлебачанні гэта называецца «рапідам».

Я знаю сам, дзе наша панства,
Яны ёсць тут, ды не той лад,
Як аднялі у ўсіх падданства,
Пайшоў другі і лад, і склад.

Усё пайшло цяпер найзнанку,
Начальства стала ад казны,
Назвалі Аннай ужо Ганку,
На ўсіх канцах стаяць ражны.
*(«Саўсім не тое, што было»)*

Гэта не буркатня старога дзеда, для якога ўсё мінулае — лепшае. Гэта — ацэнка таго, што робіць у новых варунках, у новай дзяржаве — Расійскай імперыі — мясцовая інтэлігенцыя і як закручваецца ў краі гвалтоўная русіфікацыя. Зрэшты, праекцыя на сённяшні час проста здзіўляльная: у нас забараняюць беларускае Слова, не дазваляюць большасці пісьменнікаў выступаць у бібліятэках ды школах. Але і тады ўжо былі дасканалыя цэнзары, якія добра разумелі, што да чаго ў быццам бы наіўнаватых радках Тапчэўскага. Таму і падпісваўся паэт псеўданімам «Хвэлька з Рукшэніц»: яшчэ блізкія былі ўспаміны пра вісельні Мураўёва і пра пакаранне на шыбеніцы Кастуся Каліноўскага і найбольш блізкіх яго паплечнікаў, а таксама гвалтоўны секвестр маёнткаў паўстанцаў і выгнанне іх у Сібір; прайшло ж усяго дваццаць сем гадоў, і на катарзе гібелі яшчэ ўдзельнікі паўстання 1863 г., якія ацалелі ад вісельні. Не дзіва, што і сам Тапчэўскі не друкаваўся: некаторыя яго вершы захаваліся ў рукапісным зборніку беларускага дзеяча прафесара Б. І. Эпімаха-Шыпілы, неяк трапіў ў «Беларускі каляндар» за 1915 год верш «Вечарынка». А калі б не Эпімах-Шыпіла? Праходзілі б міма магілы «невядомага», і навекі зацягнула б яшчэ адно імя паэта-патрыёта ў чорную бездань небыцця

А колькі разбураных магіл, колькі вандалізму ў адносінах да іншых, невядомых — ужо навекі невядомых месцаў пахавання...

Мы не ведаем, якія жыццёвыя акалічнасці прывялі ўраджэнца Лепельшчыны на Вушацкую зямлю, чаму менавіта г ут знайшоў ён вечны спачын. Мала што ведаем пра ягоныя жыццёвыя шляхі, ягоных бацькоў, прадзедаў. Але ж не ўсе архівы, што спачываюць на паліцах, прагледжаны, не ўсе яны нават і знойдзены: вывезлі ж у Расію, у яе далёкія гарады ўсе (!) архівы з былых уніяцкіх цэркваў, і па сёння да іх, як кажуць, не даехаць, не дайсці. А гэта нашыя архівы, нашае мінулае.

У 1999 г. на сумесным пасяджэнні Міністэрстваў культуры Расіі і Беларусі з удзелам інтэлігенцыі колішні міністр культуры Беларусі

Леанід Гуляка адзначыў, што ў нашых краін няма прэтэнзій адна да другой. На маё ж запытанне аб вяртанні беларускіх архіваў расійскі міністр Швыдкі неяк скамечана-хутка паведаміў, што ў Расіі прыняты закон, па якому архівы іншых краін застаюцца ў краіне і не вяртаюцца.

— Але ж гэта закон несправядлівы ў дачыненні да Беларусі!

Ды высокія чыноўнікі не пажадалі працягваць гэтую размову: трэба было дэманстраваць еднасць і ўзаемаразуменне, і не да страчаных беларусамі вялікіх духоўных (і матэрыяльных!) каштоўнасцяў было тады!

Не да іх і цяпер, хаця Беларускі фонд культуры выдаў некалькі зборнікаў адных пералікаў(!) таго, што ад нас вывезлі, забралі і, магчыма, ужо знішчылі...

А можа, яшчэ нешта засталося? Можа, калі не мы, то хаця б беларусы Расіі змогуць патрапіць ў фонды, архівы, сховішчы і дазнацца пра многае, чаго мы яшчэ не ведаем?

І можа, там, у далёкай Расіі, адшукаюцца сляды і нашых паўстанцаў, высланых у Сібір, і нашых паэтаў? І творы, якія ляжаць у невядомасці, прыйдуць да тых, дзеля каго яны пісаліся?

Мне хочацца ў гэта верыць...

## ПА ВАКОЛІЦАХ ЛЮБЧЫ

Магілу гэтую — труну і частку помніка — выратаваў вядомы Любчанскі краязнавец Міхаіл Міхайлавіч Карповіч, былы дырэктар Любчанскай школы і стваральнік пры ёй дужа прыстойнага, нават на раённы ўзровень, музея.

Мы сустрэліся з ім ў школе, каб узгадаць пра мясцовую ўраджэнку, слаўную дзяўчыну Людмілу Сечка, што загінула ў баі, падняўшы мужчын у атаку супраць немцаў ля вёскі Лугамавічы ў 1944 г. Яе прыгажосць і яе подзвіг некалі так уразілі мяне, дваццацігадовую, што я сваю першую перадачу на Гродзенскім тэлебачанні зрабіла менавіта пра яе. Тэленарыс той меў вялікі поспех, мне бесперапынна тэлефанавалі. Пасля я напісала пра яе паэму, але і гэтага падалося мала: зрабіла эсэ ў часопіс «Советская женщина», ён атрымаў першае месца на нейкім конкурсе, які тады праводзіўся, і маё эсэ надрукавалі больш чым на дваццаці мовах (не памятаю дакладна, на колькіх мовах выдаваўся часопіс «Советская женщина», але ішоў ён і ў Індыю, і на Кубу, і ў іншыя экзатычныя і далёкія краіны).

Музей існаваў ужо і тады. Памятаю, што мяне асабліва ўразіла кужэльная сарочка Людмілы, парваная разрыўной куляй, і аповеды яе маці Таісіі Міхайлаўны пра дзяўчыну, сходную характарам з Любкай Шаўцовай, якою тады захапляліся юныя.

Час ідзе, мы шмат даведаліся пра савецкія міфы, у тым ліку і часоў Вялікай Айчыннай вайны, — узяць хаця б панфілаўцаў, якія засталіся ў жывых, а патрэбны яны былі толькі мёртвымі. Можа быць, і маё даўняе захапленне таксама міф? Можа, яно звязана не толькі з подзвігам Людмілы Сечкі, а з памяццю пра юную маю маму, якая памерла адразу пасля вайны, перажыўшы жахі блакады, партызанскі лагер і штодзённую пагрозу смерці? Праўда, маці мая лячыла людзей, у атаку хадзіць ёй не Даводзілася. Але ж — маглі даць і ёй у рукі аўтамат... І яна магда б думаць так, як думала ў паэме мая гераіня — змагарка з фашызмам, сярод мужчын і хлопцаў — амаль адна...

Ах, мамачка! Тая — яна —
За гэты год пастарэла.
І зразумела — вайна
Будзённае, страшнае дзела...

Але, на шчасце, ніхто не абверг за гэты час подзвігу Сечкі, і русявая прыгажуня Людміла, усё такая ж маладая, глядзела на мяне са сцяны музея Любчанскай школы, куды мы прыехалі ў спякотным ліпені 2006 г. Сустрэў нас былы дырэктар школы, а цяпер настаўнік гісторыі Міхаіл Міхайлавіч Карповіч. Я прыязджала сюды ў 1996 г. на

Дзень пісьменства і друку, і школа гэтая сустракала мяне натоўпам вучняў ды караваем. Цяпер жа была яна пустэльнай, нашы крокі рэхам адгукаліся ў калідоры. У музеі дадалося некалькі новых экспанатаў, адно газетны ўрывак з надрукаванай маёй паэмай пра Людмілу Сечку пажаўцеў і пастарэў ажно на сорак гадоў.

І калі я, як шмат гадоў таму, спынілася перад партрэтам маладой дзяўчыны, хваляванне зноў ахапіла мяне, як калісьці: памерці такой юнай, чыстай, на ўзлёце жыцця! Безразважлівасць маладосці, вера ва ўласнае бессмяроцце ды і, канешне ж, ідэалы: ворагаў трэба бязлітасна знішчаць. У гэтага, савецкімі ідэаламі выхаванага пакалення, ворагамі былі і тыя, хто стаў на другі, не сталінскі, бок, спадзеючыся нешта ўзяць для Беларусі, ашчадзіць яе ад татальнага знішчэння, ад правакацый, пасля якіх палілі цэлыя вёскі і прымушалі ацалелых ісці менавіта ў партызаны... Я шмат прачытала за гэтыя гады пра тую частку беларускай інтэлігенцыі, якая ладзіла на акупаванай тэрыторыя беларускія школы, выхоўвала і вучыла дзяцей, а потым змушана была пакінуць родную зямлю і ехаць у выгнанне, бо наперадзе яе чакалі сібірскія канцлагеры...

Але гэтая дзяўчына, падобна, у гэтым процістаянні не ўдзельнічала, яна ляцела наперад, у змаганне, не азіраючыся па баках...

Мы паехалі ў вёску Чарэшлю, каб пабыць каля помніка. Міхаіл Міхайлавіч хаця і пачуваў сябе не лепшым чынам, самаахвярна згадзіўся паказаць магілу маладой партызанкі. Без яго мы наўрад ці знайшлі б яе, хаця некалі, у 1973 г., я прыязджала сюды з маці Людмілы Таісіяй Міхайлаўнай.

Навокал ні душы, і такая ж цішыня пануе ў недалёкай вёсцы, дзе засталося ўсяго некалькі хат. Відавочна, вёска Чарэшля вымірае. На вялізных могілках (бачна, што сюды год за годам перасялялася асноўная частка насельніцтва вёскі), на брамцы зашчапка, якую лёгка адчыніць. І Сечкаў там, ля ўвахода, дзе ляжыць побач са сваім дзедам і бацькамі Людміла (1924-1944), поўна — ці не ўся ацалелая радня? «Не, — гаворыць Міхаіл Міхайлавіч, — брат яе жыве ў Навагрудку, сястра — настаўніца — ужо на пенсіі. Сюды з усяе Гродзеншчыны прыязджаюць на Радаўніцу ці на Дзяды». Можа, таму могілкі такія дагледжаныя, хаця цяпер дабірацца сюды далекавата ды і складана. На грудзях, калі так можна сказаць, Людмілінай магілы раптам заўважаю дзве буйныя (ніколі не бачыла такіх!) суніцы. Яны як кропелькі крыві на яе кужэльнай кашулі, якія я памятаю яшчэ чырвонымі. Цяпер яны ўжо зусім выцвілі, а сама кашуля стала часткай музейных экспанатаў. Час ідзе...

Дзед Людмілы нашмат пеража́ў сваю ўнучку. Магчыма, прасіў, каб іх пахавалі побач. Мабыць, моцна яе любіў. Дзяўчына і ў памяці народнай засталася такой вось — узнёслай, прыгожай, рамантычнай. Некаторыя сябры-паплечнікі нават крыўдзяцца пад старасць, што ёй — і назвы вуліц (у тым ліку і ў Навагрудку, дзе некалі месцілася славутая Беларуская гімназія, цяпер — школа з рускай мовай навучання), і месца ў музеях, і творы мастацкія — таксама ёй, юнай. Можа, якраз таму і жыве гэты вобраз, што ён, рамантычна-ўзнёслы, сваёй кароткасцю і жорсткай завершанасцю ўзнесены над крыўдамі і праявамі чалавечага жыцця, нібы гэтая юная партызанка, як птушка, прыляцела сюды, у гэты свет, і, мільгануўшы крыламі, знікла, як ластаўка (зрэшты, такая была ў яе і падпольная клічка). Гучныя словы: «змагалася за свабоду да апошняга дыхання» — якраз пра яе... Ціхі шэлест сосен аявае магілы. Няхай і ёй, і ўсім, хто тут, добра спіцца пад іхні шэлест!

Хацелася б яшчэ пахадзіць па могілках, але летні дзень выдаўся спякотным, я бачу, як цяжка Міхаілу Міхайлавічу, які быў нашым правадніком і ўпэўнена правёў машыну не па пыльнай гравійцы, а цераз лес, зэканоміўшы некалькі кіламетраў, і таму, пастаяўшы яшчэ крыху ля магілы Людмілы, мы вяртаемся той жа дарогай назад, у Любчу.

М. Карповіч увогуле шмат зрабіў для памяці змагароў супраць фашызму, у тым ліку і Людмілы Сечка. Але ён не толькі настаўнік і грамадскі дзеяч, ён краязнавец паводле сваёй натуры, яму дарагая гісторыя не толькі нядаўняя, але і самая далёкая.

Вось чаму, калі некаторы час таму ён даведаўся пра разбурэнне магілы славутага генетыка, батаніка, палеантолага і фалькларыста Уладзіслава Дыбоўскага (18.4.(12.5)1838 — 27.7.1910), адразу ж зрабіў усё магчымае дзеля таго, каб спыніць вандалізм і выратаваць тое, што засталося.

Пра У. Дыбоўскага сучаснаму беларусу вядома няшмат, і Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (т. 3, с. 322) дае нешматлікія звесткі. Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын Вілейскага павета, цяпер гэта Маладзечанскі раён. Вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) універсітэце (1862). Разам з братам, прафесарам Варшаўскага універсітэта Бенядзіктам Дыбоўскім, удзельнічаў у паўстанні 1863-1864 гг., за што быў прыгавораны да турэмнага зняволення. Сем гадоў пасля таго працаваў у тым жа Дэрпцкім універсітэце, але пасля вярнуўся на Беларусь, дзе жыў на Навагрудчыне, даследаваў яе флору і фауну, а таксама фальклор. Яго артыкул «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета» і «Беларускія загадкі з Мінскай губерні» былі апублікаваны ў часопісе

«Збор звестак па айчыннай антрапалогіі» (на польскай мове). Пражыў У. Дыбоўскі семдзесят два гады, але ў старэйшага брата, які адбыў шматгадовы тэрмін у Сібіры, век аказаўся даўжэйшы — Бенядзікт Іванавіч пражыў дзевяноста сем гадоў і, атрымаўшы па сваіх вялікіх заслугах перад навукай званне замежнага члена-карэспандэнта АН СССР у 1928 г., памёр у 1930-м. Энцыклапедыя не ўказвае, дзе пахаваны Дыбоўскія, але мясцовыя краязнаўцы знайшлі магілу малодшага з братоў менавіта тут, на Наваградчыне.

Усыпальніца У. Дыбоўскага — ля самага выезда з Любчы ў бок Чарэшлі, ля масласырзавода, які заняў будынак маёнтка (хутчэй, месца былога маёнтка Войнава, ад якога засталіся толькі руіны).

Калісьці тут быў храм, і ў нядзелю людзей збіралася столькі, што ўся даліна ажно да самага Нёмана была імі запоўнена (гэта, па маіх прыкідах, каля двух кіламетраў). Цяпер — зараснікі, храма няма, а масласырзавод неяк глуха і непрыязна адгароджаны ад гэтых зараснікаў.

М. Карповіч кажа, што магіла Уладыслава Дыбоўскага была такой жа, як суседняя: высокая каменная калона ў выглядзе дуба з абсечанымі сукамі. Пасля нехта выварнуў каменны дуб, можа, вывез яго пад свае патрэбы. Гэта ж не аднойчы бачыла я на новых могілках старыя надмагіллі, на якіх, сцёршы імёны папярэдніх уладальнікаў, несуцешныя нашы грамадзяне пісалі свае чулыя эпітафіі, накшталт: «Вася, мы никогда не забудем тебя», начыста забыўшыся на такія словы, як «грэх», не кажучы ўжо пра такія паняцці, як захаванне культурнай спадчыны... І

Калі вываруцілі і вывезлі надмагілле, агалілася і труна ў глыбіні скляпення. Каб яе зберагчы, Міхаіл Міхайлавіч прапанаваў наноў закапаць труну ў зямлю, а на месца абрубка-падмурка, што застаўся, прыладзіць хаця б памятную таблічку з надпісам па-беларуску: «Рыцар навукі Дыбоўскі У. Я. 1838-1910», якая і была прымацавана да надмагілля ў 1996 г.

Чаму Дыбоўскі пахаваны менавіта тут? Разгадка, як кажа М. Карповіч, простая: ягоная сястра Мальвіна была замужам за ўладальнікам маёнтка Наргілевічам, таму суседнія магілы, хутчэй за ўсё, сямейныя, — царква ж, відаць, была таксама свая, сямейная. На суседніх каменных слупах над магіламі цяжка разабраць прозвішчы, таму, намацваючы літары, так-сяк разабралі на адным нешта падобнае да: «Iulian Marcielewicz», і яшчэ на суседнім ужо толькі адно імя: «Тадэвуш». Ад каго з сямейства ці то Наргілевічаў, ці то Дыбоўскіх засталося гэтае імя? Усё ж іхнія, хаця і моцна пашчэрбленыя, надмагіллі яшчэ захаваліся, яшчэ можна вярнуць хаця б імёны...

Напісала — і спынілася: мабыць жа, невыпадкова рука вывела «яшчэ». Ці захаваюцца яны ў будучых дзесяцігоддзях, гэтыя сведкі іншага жыцця і іншых лёсаў нашае зямлі, ці згінуць навечна, не пакінуўшы для наступных пакаленняў нават згадку пра тое, як жылі, як хавалі, якія пісалі эпітафіі? А якраз гэта найбольш цікавіць кожнага з тых, хто не пазбыўся яшчэ цікавасці да культуры, — прыехаўшы ў тую ж Любчу, даведацца: а ці праўда, што менавіта тут у XVII ст. выпускалі лепшы ў Еўропе лак? А ці так гэта — што тут ажно з 1416 г. працавала царкоўнапрыходская школа, і, як сведчаць дакументы, неблагая для свайго часу? І дазнацца пра многае іншае, не кажучы ўжо пра славуты замак, які паспяхова разбураецца ад дзесяцігоддзя да дзесяцігоддзя ўжо на нашых вачах, хаця ёсць і на яго апантаны энтузіяст Пячынскі, які на свой кошт ачысціў адну з вежаў і нават паспрабаваў яе рэстаўраваць, прыцягнуўшы да гэтага знаўцаў. Ды неўзабаве асадзілі і Пячынскага, бо раптам ён прыватызуе тую вежу? Няхай ужо лепш яна, як і замак, разбураецца, за гэта ніхто нават не паківае пальцам...

Любча дрэмле ў спякоце. Адно з нашых слаўных сваёй гісторыяй мястэчак, слаўных для тых, хто ведае.

Але ніхто з тых прахожых, у каго я пыталася пра ўзрост замка і магілу Дыбоўскага, нічога не ведаў. Можа, проста не пашчасціла сустрэць цікаўнага, адукаванага мястэчкоўца. Бо не можа такога быць: жыць тут і хадзіць міма, і не пацікавіцца — хто і што? У школе ім, вядома, расказваюць — той жа Міхаіл Міхайлавіч Карповіч, але праз гады ўсё выветрываецца з памяці, бо Ужо цягам некалькіх пакаленняў яна, беларуская Памяць, адвучае памятаць... Асабліва тых, хто набліжаў да нас Свабоду...

# АРЫЯНСКАЯ ШКОЛА Ў ІЎІ

Ужо амаль адвергнута даследчыкамі тэза, што славутая друкарня, дзе была надрукавана «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага, знаходзілася ў Іўі Гродзенскай вобласці. Пра гэта, як пра неаспрэчны факт, піша БелСЭ (1972, т. V): «У 17 ст. тут працавала адна з першых на Беларусі друкарняў». Але насамрэч за гэтыя трыццаць пяць гадоў знойдзены новыя дадзеныя, і сучасныя погляды перамагаюць. «У Еўі яна была, ля Вільні, сцвярджаюць яны, — а Іўе — гэта проста граматычная памылка, зробленая па сходнасці гучання». Але нават калі згадзіцца з гэтым (прызнацца, з сумам, бо сучаснае Еўе знаходзіцца цяпер не на нашай тэрыторыі), то аматарам даўніны застаецца яшчэ вельмі цікавая з'ява сярэднявечнага жыцця Іўя: у XVI — пачатку XVII ст. знаходзілася арыянская школа, і гэтага, на шчасце, не аспрэчвае ніхто. Але дзе яна размяшчалася?

У Іўі няма музея, у якім можна было б удакладніць тыя ці іншыя звесткі. У аддзеле культуры параілі звярнуцца з гэтым пытаннем да мясцовага краязнаўца Івана Мечыслававіча Буйко, які працуе ў лясгасе. Але па тэлефоне ён не мог, зразумела, паказаць тое месца, дзе, на яго думку, была славутая школа і дзе даўно варта было б паставіць хаця які памятны камень. Усё ж не будзённая гэта з'ява — арыяне ў Іўі, іх навучанне, рэктар, які скончыў еўрапейскі універсітэт і прыехаў на гэтыя землі. Ды і час цікавы. Таму мы з Іванам Мечыслававічам сталі па тэлефоне дамаўляцца аб сустрэчы.

— Толькі прыязджайце ў суботу альбо нядзелю, каб я мог удзяліць Вам больш увагі, а так жа цэлымі днямі даводзіцца ездзіць па ўсім раёне, і дадому прыязджаю позна, — папярэдзіў ён, а я стала перачытваць тое, што мяне даўно цікавіла: час Рэфармацыі, людзі, якія спадзяваліся вярнуць чалавецтва да першаснтоў быцця, да страчанага раю Свабоды. Аб Сымоне Будным, Лаўрэнціі Крышкоўскім ды і самім Намыслоўскім я ўжо пісала ў аповесці «Чорная княгіня». Але месцам дзеяння тады быў Нясвіж. У Нясвіжы нешта захавалася — памяшканне былой друкарні, гандлёвыя рады. А што захавалася ад таго часу ў Іўі? І што гэта быў за час?

Тады, у канцы XVI ст., рэфармацыйны, гуманістычны рух набраў сілу, моц і аказваў значны ўплыў на развіццё асветы ў Вялікім княстве Літоўскім.

Крызіс каталіцтва, недавер да ягоных інстытутаў, найперш да інстытуту папства, прывёў да шырокага народнага руху. Вялікае княства Літоўскае, як еўрапейская краіна, зразумела, не магла застацца ў баку ад рэфарматарства.

Гуманісты і рэфарматары асабліваe значэнне надавалі асвеце народа, школьнай справе. На тэрыторыі ВКЛ узнікла вялікая колькасць школ, друкарняў, з'явіліся першыя падручнікі і кнігі на беларускай і польскай мовах, а таксама на латыні. У гэты ж час была адкрыта школа арыян у Іўі. Яе заснаваў магнат Ян Кішка, якому у той час належала мястэчка. Тут трэба растлумачыць, хто ж такія арыяне. Гэта прадстаўнікі радыкальнага напрамку Рэфармацыі, якія крытычна адносіліся да некаторых догматаў хрысціянства. Яго пачынальнік — святар Арый (пам. у 336 г.) з г. Александрыі, ён вучыў, што Хрыстос як стварэнне Бога-Айца роўным самому Тварцу быць не можа. І гэтым разбураўся царкоўны догмат Тройцы. Самі сябе на Беларусі яны называлі літоўскімі братамі.

Акрамя Іўя арыянскія школы існавалі ў Клецку, Койданаве, Любчы, Нясвіжы, Наваградку і іншых мясцінах.

Вышэйшай інстанцыяй ў арыяй з'яўляўся сінод. Інспектарамі і апекунамі арыянскіх школ прызначаліся свецкія асобы, т. зв. сеньёры. (У Іўі гэта быў Ян Кішка.) Узначальваў школу рэктар. Ён жа з'яўляўся настаўнікам старэйшага класа.

Калі ў 1585 г. у Іўі была заснавана школа, паўстала пытанне, каго прызначыць яе рэктарам. Вядомы гуманіст Лаўрэнцій Крышкоўскі параіў на гэтае месца маладога выхаванца Кракаўскага універсітэта Яна Ліцынія Намыслоўскага (пач. 1560-х — паміж 1633-36). Выхадзец з сілезскага горада Намыслова, Ян Ліцыній прыехаў у Іўе, поўны маладой энергіі і творчых планаў.

Ён нездарма дадаў да свайго славянскага імя яшчэ і лацінскае (у той час гэта была даволі распаўсюджаная традыцыя). Узятае ім імя народнага трыбуна IV ст. да н. э. рымляніна Ліцынія сведчыла, што маладому настаўніку і рэктару дарагі дэмакратызм старажытнага дзеяча і што сам ён гатовы прысвяціць сваё жыццё служэнню народу.

У Іўеўскай школе вучыліся дзеці, якія належалі да розных веравызнанняў, што гаворыць пра яе дэмакратычны характар. Плата за навучанне ў школе была рознай. Багатыя (а там вучыліся і дзеці шляхты) плацілі больш, дзеці беднаты іншы раз вызваляліся ад аплаты. Калі бацька аддаваў у школу двух сыноў, то за аднаго плаціў ў год 12 літоўскіх грошаў, за другога — толькі шэсць. У некаторых выпадках дазвалялася плаціць за навучэнне натурай — хлебам, скацінай, дровамі, сенам і іншым.

Дзякуючы дзейнасці Яна Ліцынія, адукацыя ў Іўеўскай школе мела дэмакратычны, гуманістычны накірунак. І сёння здзіўляе праграма, якую засвойвалі вучні школы. Першым прадметам было, безумоўна, багаслоўе. Але акрамя таго тут выкладалі асновы матэма-

тыкі, логіку, гісторыю, паэзію, грамадскае права і кодэкс Юстыніяна, рыторыку, этыку, музыку, медыцыну, фізіку, грэчаскую, лацінскую, старажытнаяўрэйскую, польскую, беларускую мовы. У школе вывучалі творы старажытных і сучасных філосафаў і пісьменнікаў. І гэта было ў той час, калі ў другіх школах, па словах Васіля Цяпінскага — знакамітага вучонага-асветніка, «вучылі толькі чытаць». Нездарма ж Іўеўскую арыянскую школу называлі акадэміяй.

У якасці вучэбных дапаможнікаў тут карысталіся Старым і Новым Запаветамі, перакладзенымі з лацінскай мовы Сымонам Будным, напісаным ім на беларускай мове «Катэхізісам», у якім аўтар крытычна аналізаваў старонкі Бібліі. Акрамя гэтага, у Іўі і іншых арыянскіх школах ВКЛ і Польшчы шырока карысталіся вучэбнымі дапаможнікамі, спецыяльна напісанымі Намыслоўскім. У 1586 г. Ян Ліцыній склаў і выдаў на лацінскай мове падручнік па логіцы «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля». Падручнік логікі Намыслоўскага меў на мэце ўзброіць вучняў асновамі логікі і падрыхтаваць іх для правядзення дыспутаў са сваімі ідэалагічнымі праціўнікамі (у першую чаргу з езуітамі). У гэтай кнізе Ян Ліцыній даводзіў, што асноўныя догматы хрысціянства ў святле логікі Арыстоцеля з'яўляюцца фальшывымі. У Лоскім друкарскім двары ў 1589 г. выйшаў у свет і другі вучэбны дапаможнік Намыслоўскага на лацінскай мове — «Сентэнцыі для ўсеагульнага карыстання ў жыцці». У прадмове да яго аўтар у вершаванай форме пераказвае гісторыю стварэння Іўеўскай школы. Прысвячаючы кнігу сваім вучням, аўтар, звяртаючыся да іх, пісаў: «Калі настаўніка, якога яны цяпер любяць і паважаюць, з часам ужо не будзе, то ў іх застанецца нешта накшталт памяткі, разглядаючы якую, яны ўспомняць аб працы і стараннях настаўніка, успомняць і ў маладосці, і ў сталым узросце». Подпіс паведамляе, што напісана гэта было «в Івьевской усадьбе в январские календы 1585 года».

Гэты твор выхоўваў у вучняў любоў да літаратуры, гісторыі, філасофіі. У кнізе ўслаўляліся веды і людзі, якія да іх імкнуцца. Ну вось, напрыклад, некалькі з іх:

Старэйшаму шлях саступі,
слабейшага пашкадуй,
роўных табе паважай, —
жыццё пражывеш ты як трэба.

Той больш прыносіць карысці,
хто з розумам робіць работу,
чым той, хто працуе бяздумна,

выконвае слепа загад.

Гэту кнігу Яна Ліцынія Намыслоўскага можна лічыць таксама першым падручнікам жывых замежных моў у тагачаснай краіне, таму што ў ёй чаргаваліся розныя аналагічныя па зместу выказванні па лацінскай, польскай і нямецкай мовах.

Захоўваўся і вершаваны накід праграмы, складзены Намыслоўскім для старэйшых класаў Іўеўскай школы. Тут значнае месца адводзіцца творам класічных аўтараў.

У сваёй дзейнасці Намыслоўскі кіраваўся ўстаноўкамі Буднага: мацаваць адзінства антыезуцкіх сіл і ўсімі сродкамі пашыраць асвету сярод народа. Прытрымліваючыся гэтых прынцыпаў, Намыслоўскі распрацаваў праграму сярэдняй і часткова вышэйшай адукацыі для моладзі і праводзіў яе ў жыццё ў Іўеўскай школе. У выніку Іўеўская школа пераўзышла езуіцкія, брацкія і кальвiнісцкія, дзякуючы ўласціваму ёй духу гуманізму і грамадзянскага выхавання.

Пасля смерці Яна Кішкі (1592) Іўе перайшло ў рукі нашчадкаў. У 1593 г. Ян Ліцыній ад'язджае ў Навагрaдак.

Іўеўская школа (або акадэмія) праіснавала да пачатку XVII ст. і пакінула значны след у развіцці адукацыі ВКЛ.

Дарэчы, яшчэ раз пра «Сентэнцыі».

У Францыі ў 1665 г. выйшла кніга «Развагі, ці Маральныя выказванні і максімы» Ф. Ларошфуко, якая вельмі хутка стала шырокавядомай. У прадмове да яе Вальтэр пісаў: «Кніга прывучыла людзей не толькі думаць, але і заключаць думкі ў жывыя, дакладныя, сціснутыя і вытанчаныя абароты».

Аднак за 76 гадоў да яе (у 1589 г.) у Лоску былі выдадзены «Сентэнцыі» Яна Ліцынія Намыслоўскага, рэктара Іўеўскай арыянскай школы. Беларускі даследчык Я. Парэцкі лічыць, што пры параўнанні «Максімаў» і «Сентэнцый» перавагу трэба было б аддаць менавіта Намыслоўскаму, бо, па-першае, яго сентэнцыі вершаваныя, па-другое, яны напісаны на трох мовах — лацінскай, польскай і нямецкай, і, што самае галоўнае, яны напісаны больш простай і даступнай для асэнсавання мовай. Вось што піша пра гэта Я. Парэцкі: «Калі супаставіць большую частку «Максім» Ларошфуко з сентэнцыямі Намыслоўскага, то аказваецца, што як адзін, так і другі імкнуліся да абагульнення асабістага жыццёвага вопыту, які накапіўся ў ходзе намаганняў зразумець супярэчнасці сучаснага ім грамадства і акалічнасцей уласных поспехаў і няўдач.

Разгляд выказванняў Намыслоўскага праз прызму трох моў раскрывае больш пераканаўча рысы задумы аўтара, яго паглядаў і высноў. Асабліва пытанне — гэта выкарыстанне вершаванай формы

на мовах, якія належаць да розных груп. Напрыклад, сентэнцыя аб любві да Радзімы ў лацінскім варыянце гучыць: «Кожны сумленны гарыць такім каханнем да радзімы, што кіне няўзброенае цела ў вогнішча, якое разарыцца», у польскім — «Кожны, хто вызначаецца доблесцю, так любіць сваю радзіму, што гатоў згарэць у агні, каб яна асталася непашкоджанай». У нямецкім — «Кожны годны чалавек кахае сваю радзіму і з ахвотай пойдзе на смерць за яе шчасце».

Але дзе ж тая сядзіба, у якой пісаліся гэтыя высакародныя словы? Прафесар Адам Мальдзіс лічыць, што школа магла размяшчацца ля плябаніі колішняй лютэранскай кірхі, якую пазней, што найбольш верагодна, перарабілі ў касцёл.

Думае так і Іван Мечыслававіч Буйко, на сёння ўладальнік самай буйнога ў раёне краязнаўчага збору, які смела можна назваць музейным. Калі мы нарэшце сустрэліся, то першае, пра што загаварылі — пра яго працу збіральніка, пра скарбы, якім ён аддае ўвесь свой вольны час. Да касцёла ж вырашылі ісці пазней.

Прызнаюся: калі ён гаварыў пра сваю «камору гісторыі», думалася, што гаворка ідзе пра колькі сот экспанатаў накшталт ўзораў беларускага сялянскага побыту. У сапраўднасці ж калекцыя Івана Мечыслававіча ўключае унікальныя рэчы, кожная з якіх мае сваю гісторыю і была літаральна выратавана нястомным збіральнікам памятак гісторыі роднага краю. Узяць хаця б 7-мы том «Дзей народа літоўскага» (Вільна, 1840) Тэадора Нарбута. Гэты бясцэнны том мог бы згарэць, як згарэлі іншыя кнігі, пра якія мы ўжо ніколі не дазнаемся, іх паліла гаспадыня, адзінока дажываючы свае дні на хутары, можа, нават і не падазраючы, што дасталося ёй па спадчыне. А некаторыя ён знаходзіў у хлявах, дзе, закіданыя снегам, яны наўрад ці дажылі б да вясны. А іншыя ў пакінутых хатах, што паволі разбураліся без гаспадароў. А яшчэ ім сабрана калекцыя унікальных карункаў, якія тут называюць фрэнзлі. А яшчэ каля трох тысяч старых фотакартак, некаторыя з іх яшчэ канца XIX ст. А яшчэ калекцыя манет, і шэраг аўдыёзапісаў пра людзей Іўеўшчыны, у тым ліку 15 касет з аповедамі маці.

Усё пералічыць немагчыма, але адзін збор крануў мяне асабліва. І. М. Буйко хацеў сабраць 500 вершаў мясцовых паэтаў, бо, як і паўсюль на беларускай зямлі, на Іўеўшчыне яшчэ не выveліся таленты. У апошнія часы, праўда, паменела паэтычных падборак у мясцовай газеце, не дастукацца да сталічных выдавецтваў. Але аўтар, зразумела, хоча, каб яго творы чыталі, каб яны засталіся для некага, хто, можа быць, прачытае іх пасля смерці творцы, як, магчыма, спадзявалася адна смяротна хворая паэтка, пасылаючы яму свае так і

не надрукаваныя вершы. І ў выніку збіральніку, які заклікаў мясцовых аўтараў прысылаць у «камору гісторыі» свае творы, іх прыслалі болей за тысячу! І я чытала лірычны верш ужо даўнавата памерлай, зусім невядомай мне паэткі, і душа ў мяне шчымела ад таго, што зараз немагчыма выдаць іх у паэтычным зборніку, а друкуюцца і шчыруюць цяпер у дзяржаўным выдавецтве нашмат менш здольныя, чым яна…

Яшчэ больш шкада, што такі збор мог бы служыць Іўеўшчыне куды больш эфектыўна, калі б быў ён размешчаны ў адпаведным будынку. Прыходзяць да Івана Мечыслававіча цікаўныя і сябры, пішуць ў захапленні панегірыкі, як вось гэты, напрыклад:

Энтузіяст ты не на жарты,
Аб тым, бадай што, кожны скажа,
А твой музей, канешне ж, варта
Назваць мясцовым Эрмітажам.
Няхай жа славіцца музей,
Як Луўр, Версаль ці Калізей!

16.09.2005 г. А. Гарачаў

А калі б ягоны збор стаў асновай раённага музея, то наколькі больш эфектыўнай быў бы ўплыў «каморы гісторыі» на сучаснікаў!

Адразу ўзгадваецца імя славутага закладніка Слонімскага музея І. Стаброўскага. Там Стаброўскі ўшанаваны, імя яго трывала ўвайшло ў гісторыю беларускай культуры. А чаму б і Іўю не ўзяць прыклад са Слоніма, тым болей што Іван Мечыслававіч і сам сёння падшукаў месца для сваёй калекцыі: адзін з трох будынкаў сінагог, якія тут некалі існавалі. Гэта былі сінагогі для багатых, бедных і сярэдняга дастатку яўрэяў. Цяпер яны стаяць пустыя і паступова разбураюцца.

— Але ж гэта ўласнасць яўрэйскай абшчыны? — пытаюся.

— Нядаўна ў нас памёр апошні яўрэй. Няма гаспадароў, і будынкі гэтыя з часам знікнуць.

Пакуль што праблема з пустымі будынкамі і перадачай іх пад музей ніяк не вырашаецца. Магчыма, гэтае пытанне можна было б урэгуляваць з сённяшняй беларускай яўрэйскай абшчынай, з тым каб у музейным будынку быў адчынены аддзел «Яўрэі ў Беларусі» і захавана памяць аб іх менавіта ў былой сінагозе… Урэшце, калі вельмі захацець, то вырашыць можна ўсё, было б на тое жаданне. І грошы на музей таксама маглі б знайсціся.

… Але мы адхіліліся ад нашай галоўнай задачы — наведаць мяркуемае месца Іўеўскай школы.

Цудоўны Іўеўскі касцёл зараз адбудоўваецца. Гэтае месца, бадай, самае прыгожае ў горадзе — на ўзвышшы, адсюль відаць амаль ўсё

Іўе. Ззаду за касцёлам — хаты, даволі закінуты лапік зямлі, далей — гароды і садкі з зялёнымі шнуркамі націння буракоў.

— Вось тут, мяркуючы па вядомых нам крыніцах, магла знаходзіцца арыянская акадэмія, — паказвае І. Буйко.

— А ці праводзіў хто калі-небудзь тут раскопкі?

— Наўрад ці. Але нейкія муры тут здаўна бачылі, і памяць пра гэта засталася.

Я гляджу на зямлю, дзе ляжаць будаўнічыя матэрыялы і растуць дрэвы пакінутай сядзібы.

Ян з горада Намыслова! Магчыма, і сапраўды якраз тут прыходзіў ты ў школу, пісаў крэйдай на дошцы мудрыя высновы старажытных мысляроў і часам свае сентэнцыі аб свабодзе чалавечага духу, аб адвечнай вольнасці душы, якая была дадзена Усявышнім чалавеку.... Тут, магчыма, пісаў ты свае падручнікі. Але пра іх няўдзячныя нашчадкі ведаюць так мала і так мала шануюць свабоду і вышыню чалавечага духу, што ты, мабыць, прыйшоў бы ў адчай, калі б мог пабачыць нас сёння...

Касцёл, які, на шчасце, захаваўся праз усе дзесяцігоддзі мураўёўскага змагання з вольным духам на Беларусі (некалі, у 1863 г., рускія вайскоўцы на конях уехалі ў гэты касцёл) дый праз часы змагання з рэлігіяй, у гэты час яшчэ зачынены. Але мілы і ветлівы, яшчэ зусім малады ксёндз сустракае нас і праводзіць ўнутр яго. Тут пахаваны Ян Кішка, уладар мястэчка і фундатар арыянскай школы.

І не толькі вось такая памятка часу ёсць у Іўі, ёсць таксама буйнейшая ў Беларусі мячэць, якая не была зачынена і ў самыя лютыя часы барацьбы «з опіумам для народа». Мы едзем туды з мясцовымі краязнаўцамі. Іван Адольфавіч Пракопчык, былы сувязіст, расказвае нам пра забытыя магілы ў наваколлях Іўя, а тонкі малады месяц ужо ўстаў над зямлёй. Калі мы ідзем да мячэці, бачым, як паўмесяц на храме амаль сумяшчаецца з залатым сярпом на небе.

У Іўі, як сцвярджаюць нашы суразмоўцы, заўсёды быў і зараз існуе «кансенсус» паміж рэлігіямі. Тут здаўна спавядалі іслам, праваслаўе і каталіцтва, а колішняе існаванне Іўеўскай школы сцвярджае, што некалі на Беларусі былі дзейсныя асяродкі рэфарматарства. Праўда, пра гэтую старонку нашай гісторыі ведаюць няшмат: яе амаль начыста сцерлі з народнай памяці, а рэчавыя яе доказы — кнігі, трактаты, запісы палемічных спрэчак — захоўваюць найбольш замежныя бібліятэкі.

Магчыма, некалі кнігі Яна Ліцынія Намыслоўскага (не кажу пра арыгіналы, але хаця б копіі) вернуцца туды, дзе яны былі напісаны. І беларусы яшчэ раз пераканаюцца, што рабская псіхалогія (яе яшчэ

называюць рахманасцю!) ніколі не была ўласціва народу, як яшчэ і сёння спрабуюць давесці нашым людзям некаторыя «дабрадзеі». Мы былі свабодным еўрапейскім народам, які спавядаў ідэалы свабоды, гуманнасці, чалавечай годнасці і іншыя агульначалавечыя каштоўнасці.

Пра гэта трэба ўспамінаць як найчасцей. І тады мы забудземся на «рахманасць», а ўспомнім вольнасць, забудземся на той «каўтун у валасах», з якім малявалі беларуса, а ўзгадаем самакіраванне, магдэбургскае права гарадоў і знаны ў Еўропе «Статут», у якім былі прапісаны свабоды і правы Чалавека.

## ТРЫ КРЫЖЫ ЛЯ МАЛОГА ОЛЬЖАВА

Вось ужо дванаццаць гадоў на гэтым полі ладзіцца імша ў гонар паўстанцаў 1863 г., якія на гэтым полі біліся з царскім войскам і на якім многія склалі свае галовы. Праводзяць яе ксяндзы з навакольных касцёлаў гэтага рэгіёна Лідчыны, штогод прыходзяць жыхары блізкіх вёсак Мохавічы, Белагруда, Малое Ольжава і прыязджаюць людзі з розных куткоў Беларусі.

Сёлета, 30 ліпеня 2006 г., сюды прыехала моладзь нават з Наваполацка. Чакалі, што з імі будзе бард Сяржук Сокалаў-Воюш, які якраз цяпер гасцюе ў Беларусі. Сяржук не прыехаў, і Станіслаў Суднік, пісьменнік і галоўны рэдактар газеты «Наша слова», хвалюецца — якім будзе сёлетняе набажэнства?

Бо гэта ён, Станіслаў Суднік, які ачольвае лідскую гарадскую арганізацыю Таварыства беларускай мовы, шматгадовы арганізатар і гэтае імшы, і многіх іншых імпрэз, што рэгулярна ладзяцца на Лідчыне.

На гэтым полі я ўжо была ў 2003 г. разам з паэтамі Міхасём Скоблам і Эдуардам Акуліным і нават напісала пра тое верш, але сэрца клікала прыехаць сюды яшчэ раз, тым больш што сёлета ў Лідзе мелася адбыцца знамянальная падзея: устаноўка помнікаў на магіле паўстанцаў, найперш ксяндза Адама Фалькоўскага. Але рашэнне аб тым было ўсё яшчэ не зацверджана на ўзроўні райвыканкама, хаця і ўзгоднена, і таму давялося адкласці спадзяванні і задаволіцца тым, што ёсць.

А ёсць поле, на якім далёка віднеліся тры крыжы ў гонар палеглых тут калісьці змагароў за свабоду, і купкі людзей, што ехалі да іх на роварах ці шыбавалі напраcткі. Была святочная і разам з тым ўрачыста-чакальная атмасфера, якая заўсёды пануе, калі думкі людскія накіраваны да высокага і святога.

Нягучны голас ксяндза Рычарда, здаецца, быў чуцён далёка-далёка, і ў прысутных (а тут былі людзі розных канфесій), складвалася ўражанне, што душы палеглых у бітве таксама слухаюць высокія і вечныя словы аб святле чалавечага подзвігу і памяці жывых. Сцішыліся міліцыянеры, якія пільна сачылі за прысутнымі, замоўкла нават шапаценне ветру ў блізкім кустоўі, і людзі былі знітаваны ў адно цэлае...

Хто тут ляжыць? Калісьці ў гонар іх былі пастаўлены і крыжы, і камні-волаты, здольныя стагоддзямі захоўваць імёны. Пасля, у савецкія часы, усё, што нагадвала пра слаўных паўстанцаў 1863 г., было знішчана, камяні з надпісамі ўтоплены ў глыбокай сажалцы (так

кажуць людзі, грунтуючыся на тым, што ўсе яны зніклі неяк адначасна і ўначы, калі ніхто не мог прасачыць, куды што падзелася). На полі год за годам збіралі ўраджаі, і мінулым разам, калі я пабачыла тут бясконцыя шэрагі буракоў, міжволі адзначыла ў вершы:

Тут буракоў чырвонае націнне —
Сляды невысыхальнае крыві...

Нястомны Станіслаў Суднік сабраў і апублікаваў ў газеце «Наша слова» спісы лідскай шляхты, што прымала ўдзел у паўстанні, рэканструяваў падзеі апошніх дзён свабоды, жорстка задушанай царскім войскам, апісаў пахаванне на парафіяльных могілках каля агароджы фарнага касцёла тых, хто загінуў у апошнім баі пад Лідай. Дарэчы, недзе да 1939 г. на лідскім, цяпер ужо праваслаўным, саборы была шыльда ў гонар Людвіка Нарбута, камандзіра паўстанцаў і сына славутага гісторыка Тэадора Нарбута, але зноў жа ў савецкія часы яе садралі — не тая канфесія, не той подзвіг... Магчыма, падыходзіць час і для яе новага ўсталявання, — грамадскасць Ліды, асабліва ж актывісты ТБМ на чале са Станіславам Суднікам, увесь час уздымаюць гэтае і іншыя набалелыя пытанні.

...На заключных словах святара ўсе, хто быў на полі, апусціліся на калені. І гэта таксама знамянальна: мінулым разам хто-кольвечы стаяў. Час ідзе, мяняецца свядомасць, прыходзіць адчуванне, што Бог адзін і мы, чалавецтва, таксама адзінае, нягледзячы на ўсе свае непадобнасці.

Імша скончылася, і мы паехалі ў Ліду, каб ускласці кветкі да магілы расстралянага ксяндза Фалькоўскага.

З гэтай магілай звязаны не толькі розныя гісторыі, але ўжо і легенды. Па загаду Мураўёва-вешальніка месца на выгане за горадам, дзе закапалі цела расстралянага Адама Фалькоўскага, было заліта вапнай, па ім узад-уперад прагналі эскадрон, але назаўтра на гэтым месцы быў пастаўлены крыж. І так паўтаралася шмат разоў. Пасля, у спрыяльныя для таго часы, нямногія, хто прысутнічаў пры расстрэле і памятаў месца, капалі, аж пакуль не наткнуліся на вапну, што абазначала месца пахавання. На ўзніклай магіле зноў з'явіліся крыжы і кветкі, якія пасля Другой сусветнай вайны зноў зніклі, бо былі забаронены. Ужо ў 1996 г. дэмакратычная грамадскасць Ліды адшукала людзей, якія даглядалі магілу да вайны, і зноў на тым жа месцы ўзніклі і крыж, і кветкі, — толькі іх раз за разам, год за годам зноў зносілі і тапталі. Лідчукі ўпарта аднаўлялі крыж, — яго зносілі чатыры разы, а шэсце да магілы да нядаўняга часу суправаджалі міліцыянеры з аўчаркамі. Былі суды, прысуды, актывісты спазналі і іншыя праследы. Аднак, як гавораць людзі, па дзіўнаму супадзенню, пасля

таго як два міліцыянеры, што асабліва раз'ятрана зносілі крыж, адзін за адным патанулі, а ў адказнага чыноўніка, што выносіў забароны, памёр ад незразумелай хваробы сын, усё неяк само сабой сцішылася, замоўкла і ўсталявалася. Афіцыйны дазвол быў урэшце дадзены.

Мы ўсклалі вянок з кветак на гэтую магілу, якая цяпер знаходзіцца не на ўскраіне горада, а ў парку, без ранейшага пільнага дагляду міліцыі, пастаялі ля яе пад дажджом, які пачаў набіраць сілу, і я яшчэ раз падумала пра тое, што дарэмна беларусаў называюць надта рахманымі. Падзеі ў Лідзе даюць прыклад таго, што можа чалавечая воля і бясстрашша...

Магіла жанчыны — удзельніцы таго ж паўстання 1863 г. Валерыі Цехановіч — знаходзіцца на ўскраіне горада, амаль адразу ж ля ўвахода на старыя могілкі, злева. Вялікі чорны камень, на якім надпіс на польскай мове: «С. П. Валерыя з Цыбульскіх Цехановічава. Удзельніца паўстання 1863. Жыла 92 гады. Пам. у Лідзе 23 студзеня 1933 г.».

«Яна выратавала цэлыя могілкі, — расказвае Станіслаў Суднік. — Некалі, калі хацелі іх зруйнаваць, мясцовыя адмовіліся гэта рабіць. Тады прывезлі камсамольцаў з Наваградку, — бо трэба было руйнаваць пад выглядам таго, што могілкі занядбаныя. Але гэтая магіла была дагледжаная, вельмі прыгожая, і ніхто на яе не замахнуўся, бо як жа руйнаваць, калі ёсць догляд? Таму засталіся і могілкі...»

Жанчын — вядомых нам сёння ўдзельніц паўстанняў — не так і шмат, многія іхнія імёны знаёмы: Эліза Ажэшка, дочкі пісьменніка-дэмакрата Дуніна-Марцінкевіча Каміла і Цэзарына. Яшчэ — легендарная Эмілія Плятэр, так належным чынам і не ўшанаваная ў Беларусі, хаця ёй прысвяціў свае незабыўныя радкі Адам Міцкевіч у вершы «Смерць палкоўніка»:

Хто ж мог знаць, што баёў завадатар
Быў... дзяўчынай! Была — слёз не трэба, жанкі, —
То ліцвінка Эмілія Плятэр!

Рэдка хто дажывае да такіх гадоў, як Валерыя Цехановіч. Дарэчы, у Ліду прыязджаў ейны ўнук з Польшчы, яго артыкул надрукаваны ў часопісе «Лідскі летапісец», які выдае ўсё той жа Станіслаў Суднік (проста дзіўна, колькі можа зрабіць адзін энтузіяст!).

І як жа добра, што ў Лідзе ёсць яшчэ адно месца, дзе можна ціха пастаяць і падумаць пра Час, пра лёсы людзей, якія набліжалі Свабоду і ўмелі змагацца за яе...

## СТВАРАЛЬНІК

Даўно цягнула прыехаць на Дзятлаўшчыну, зайсці ў гісторыка-краязнаўчы музей, які я заўсёды пра сябе называла музеем народнай памяці, калі была яшчэ маладой рэдактаркай Гродзенскай студыі тэлебачання. Тут я запісвала тэлевізійныя перадачы, на якія пасля прыходзіла шмат лістоў і якія нямала далі і маёй уласнай душы. А сустрэчы ў Дзятлаве былі глыткамі чыстай крынічнай вады для мяне найперш таму, што тут працаваў дырэктарам вялікі патрыёт роднай зямлі Міхаіл Фёдаравіч Петрыкевіч.

Нас – немаладога, сівога чалавека і маладую паэтку — аб'ядноўвала не толькі любоў да гісторыі роднага краю, але і блізкія абодвум людзі — Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Народны пісьменнік Беларусі і знаны літаратуразнаўца былі разам з маімі бацькамі ў партызанскім атрадзе, і абодва яны сябравалі з Петрыкевічам, а Уладзімір Калеснік дык нават вучыўся разам з ім у Мінскім педінстытуце, пра што напісаў у цікавым нарысе «Партрэт друга» (Сейбіты разумнага, добрага вечнага. Мінск: Народная асвета, 1966).

Уладзімір Калеснік у гэтым нарысе добра перадаў тое, што складала сэрцавіну характару ягонага былога аднакурсніка: праўдзівасць і імкненне да свабоды. Вось ён апавядае пра спробу сфатаграфаваць сябра, а той не хоча сядзець у штучна навязанай позе: «Ён глядзіць на маё захапленне фатаграфіяй як на забаўку. Гэта раз, а другое — не церпіць пазёрства і няпраўды.

Ён заўжды глядзіць на праўду, як на нешта такое, чаго не зменіш і не адменіш, бо праўда — як стыхія. Ухіліцца ад яе можна, а забараніць нельга».

Вось Уладзімір Андрэевіч апісвае, як прыязджае ў вёску Валеўку Наваградскага раёна, дзе Петрыкевіч на той час працаваў настаўнікам. Жонка Марыя Барысаўна расказвае пра іхняе жыццё: «Толькі што прыйшоў Фёдаравіч. Гэта ж называецца ў адпачынку, ад цямна да цямна са школьнага пляцу не сходзіць. Інтэрнат будуе з дзесяцікласнікамі. (...) Усё для школы: зіма і лета, дзень і ноч. То нешта піша, то нешта рысуе, то будуе. Адзін ты хіба там? Другія ж настаўнікі ёсць. І дырэктар...»

Ды Міхаіл Фёдаравіч не толькі вучыў дзяцей, але і збіраў разам са школьнікамі экспанаты па гісторыі роднага краю, бо добра ведаў, што без гісторыі чалавек будзе ўсё жыццё адчуваць сябе не грамадзянінам сваёй краіны, а толькі часовым прышэльцам, які не глядзіць у будучае і не азіраецца на мінулае, каб адтуль браць урокі жыцця.

Музей, створаны ў гады ягонай працы ў Валеўцы, стаў адным з лепшых школьных музеяў у Беларусі.

Вось чаму ў 1967 г. ён быў запрошаны на Дзятлаўшчыну, — мясцовыя энтузіясты вырашылі там рабіць музей і шукалі, хто можа ўзяцца за гэтую нялёгкую справу. Памятаецца мне адзін ягоны аповед пра тое, што будавалі музей ледзь не канспіратыўна — пад Дом быту, бо Савет Міністраў БССР такога дазволу не даваў. І толькі тады, калі будынак быў здадзены, усялякімі праўдамі і няпраўдамі (маўляў, праект для Дома быту не зусім удалы, вось частка яго якраз бы падышла хіба пад які музей, да таго ж, ягоная канцэпцыя ўжо распрацавана Петрыкевічам) дабіліся таго, што ў Дзятлаве музей быў нарэшце адкрыты... Ужо тады мяне гэта моцна ўразіла: выходзіць, каб не энтузіясты ды не самаадданая праца Міхаіла Фёдаравіча, у горадзе з такой мінуўшчынай музея магло б і не быць! І па сённяя я магу параўноўваць — вось жа ў Іўі, напрыклад, ці ў Воранаве раённага музея няма і дасюль...

Петрыкевіч, па прафесіі настаўнік, стаў Настаўнікам з вялікай літары для многіх дарослых людзей, бо ён адкрываў ім таямніцы многіх стагоддзяў, а найперш, вядома, бурлівага XX ст.

Ён першы зацікавіў мяне расповедамі пра Грамаду і Таварыства беларускай школы, якія ў 30-я гг. мінулага стагоддзя пабралі немалую моц на так званых Крэсах усходніх, у першую чаргу на Гродзеншчыне. Узгадваў пра Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Лёсіка, Ігната Дварчаніна, Сымона Рака-Міхайлоўскага, апавядаў пра трагічныя перыпетыі іхніх лёсаў.

Ягоны ўласны лёс быў таксама няпросты. На ягонае жыццё прыпала трагічнае XX ст. (нарадзіўся ён 31 ліпеня 1913 г. у в. Падкасоўе Навагрудскага раёна, напярэдадні Першай сусветнай вайны і за пяць гадоў да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі). Быў яшчэ падлеткам, калі родная Беларусь была Разарвана на дзве часткі і падзелена між Польшчай і Расіяй паводле Рыжскай дамовы. У беларусаў ніхто не пытаўся, чаго хочуць яны, прадстаўнікоў Беларусі на перамовы нават не запрасілі.

Сталеў ў часы, калі зашчэмленая ў сваіх адвечных правах нацыя ў Заходняй Беларусі пачала змаганне. Ва Усходняй жа пачыналася беларусізацыя, якая вельмі хутка пачала задыхацца, бо лепшых прадстаўнікоў народа знішчалі мэтанакіравана і зацята, каб абезгаловіць народ: толькі дзеячаў культуры і пісьменнікаў да часу Другой сусветнай вайны было расстраляна каля 80 адсоткаў. Але інфармацыя пра гэта была закрыта: нават сусветная дэмакратычная супольнасць не ведала сапраўднага размаху рэпрэсій.

Міхась Петрыкевіч, вучань беларускай Наваградскай гімназіі і беларускі патрыёт, уступіў у камсамол. У 1931 г., калі ён быў на апошнім курсе гімназіі, быў арыштаваны і трапіў у турму, бо не мог змірыцца з няпраўдай, з тым, што закрываюцца беларускія школы, а беларусы, насуперак міжнародным пагадненням, на сваёй зямлі не маюць права на адукацыю на роднай мове, што яны не маюць ні зямлі, ні волі. Наваградскім акруговым судом быў прыгавораны да трох гадоў зняволення і на дзесяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў.

Выйшаўшы з турмы, ён не спыніў змагання. Верыў у будучае вызваленне народа. Прагна слухаў радыё з Мінска, верыў, што там, на савецкай тэрыторыі, усе гэтыя адвечныя чалавечыя правы на зямлю і волю, на родную мову — здзяйсняюцца.

У 1940 г. паступіў ў Беластоцкі педінстытут, дзе правучыўся крыху больш за год. З фашызмам змагаўся у партызанах.

У вайну знайшоў сваё шчасце — Марыю Філон, з якой ажаніўся 30 студзеня 1943 г. у Любчы. З ёю пражыў усё сваё жыццё. Яна ж закрыла яму вочы ў Вільні, якая стала прытулкам ягоных апошніх гадоў.

Пасля вайны, скончыўшы Мінскі педагагічны інстытут, ён зразумеў, што ўсе свае сілы аддасць на тое, каб беларусы нарэшце адчулі сябе Народам — з тысячагадовай і велічнай гісторыяй, поўнай мужнасці і велічы народнага духу.

Дзятлаўскі музей стаў здзяйсненнем жыцця Міхаіла Петрыкевіча. Ён, як калісьці ў Валеўскай школе, аддаваў усе свае сілы на тое, каб аднавіць на разбуранай і знявечанай зямлі Памяць.

«Па яго ініцыятыве былі адкрыты многія помнікі, мемарыяльныя дошкі, вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка», — піша ў сваіх успамінах пра яго адна з навуковых супрацоўніц музея Т. Палховіч.

Вяртанне гэтых імёнаў не заўсёды было простым. Закляймёныя ярлыкамі «нацдэмаў», «нацыянал-фашыстаў» і знішчаныя ў засценках НКУС, многія беларускія патрыёты, здавалася. назаўсёды зніклі ў бяздоннай цемры забыцця. Петрыкевіч мужна і настойліва дабіваўся іх рэабілітацыі, пісаў, даказваў і, урэшце, неаднойчы перамагаў. Але не заўсёды. Нягласная забарона на многія імёны — такія, напрыклад, як В. Ластоўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, як дзеячы Беларускай Народнай рэспублікі, — існавала ажно да канца 80-х.

Толькі ў 1983 г. удалося адкрыць мемарыяльную дошку Ігнату Дварчаніну ў в. Погіры. А помнік яму ў Дзятлаве (скульптар У. Лятун)

— толькі ў 1989 г., калі сам Міхаіл Фёдаравіч, якому споўнілася ўжо семдзесят шэсць гадоў, паехаў жыць у Вільню да дачкі Святланы.

На музей ён не забываўся ніколі. Пісаў, даваў парады сваім маладым калегам, якім уклаў у душы сваё захапленне гісторыяй. І яны ўзгадваюць яго з са шчырасцю і цеплынёй.

«М. Ф. Петрыкевіч быў чалавекам высокай культуры, энцыклапедычных ведаў. Пра кожную музейную рэч, экспанат, падзею мог расказаць цікавую і захапляючую гісторыю. Калі ён праводзіў экскурсіі — час для наведвальнікаў не доўжыўся, час ляцеў імгненна», — піша Тамара Палховіч. Яшчэ раней, у 1966 г., гэта адзначыў і Уладзімір Калеснік, расказваючы пра падарожжа па Наваградчыне, у якім ім з Янкам Брылём вельмі дапамог іхні даўні сябра. Спачатку, калі яны абмяркоўвалі будучае падарожжа, «Міша называе нам дзесяткі імёнаў рэвалюцыйнага руху, дае адрасы і рэкамендацыі па ўсёй Наваградчыне, расказвае, як лепш даехаць, што ў каго можна даведацца, дзе заначаваць». Пасля, падумаўшы, вырашыў ехаць разам: «Пры мне людзі будуць смялей расказваць. Апуджаны за акупацыю народ, не кожны захоча давярацца незнаёмым».

Мы прымаем прапанову з удзячнасцю.

Многае з пачутага і ўбачанага ў часе таго падарожжа перайшло потым у творы Янкі Брыля, а мне ўдалося запісаць пару дзесяткаў рэвалюцыйных песень былой Заходняй Беларусі, яны апублікаваны ў 1956 годзе ў «Полымі», а нядаўна — у зборніку «Сцягі і паходні».

Кніга У. Калесніка «Сцягі і паходні» была калісьці адкрыццём для нас, маладых паэтаў... Толькі нядаўна я даведалася, хто натхняў аўтара.

Як жа шмат можа зрабіць адзін чалавек!

У Дзятлаве я сустрэлася з сынам Міхаіла Фёдаравіча Валерыем — пра яго таксама піша ў нарысе «Партрэт друга» Уладзімір Андрэевіч. Узгадвае школьніка, пасля студэнта, які заўсёды побач з бацькам, многае бярэ ад яго. І тыя ж самыя рысы, якія мне найбольш запомніліся ў ягоным бацьку, убачыла я зараз і ў сыне: імкненне да праўды і шчырасць. Яму баліць усё беларускае, ён імкнецца, каб навакольнае жыццё было такім, пра якое марыў бацька.

Дачка Святлана, якая актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці беларусаў Літвы, расказала пад час нашай сустрэчы ў Вільні, што бацька яе паміраў (гэта адбылося 3 сакавіка 1999 г.) спакойна і годна, нібыта адчуваў: ён спаўна здзейсніў тое, што было яму наканавана зрабіць у жыцці. Пахаваны на новых могілках Vilniaus Zunda, на ўчастку № 103-18-4. Зямля на тым узгорку камяністая, але там, дзе капалі магілу, нечакана аказалася мяккаю, і магільшчыкі здзіўлена

казалі: «Што ж гэта за такі чалавек, якога хаваем? Мабыць, незвычайны!»

Вось і я, праз столькі гадоў, усё ўзгадваю Міхаіла Фёдаравіча. Памятаю яго амаль такім, якім апісаў Уладзімір Калеснік: «У светлым гарнітуры, саламяным капелюшы без следу заломаў, Міхаіл Фёдаравіч выглядае пачцівым, крыху старамодным інтэлігентам. Бледныя шчокі, паараны маршчынамі лоб, ля вачэй прытаілася зморанасць». Гэтая зморанасць была ад тытанічнай працы, якую ён рабіў дзень за днём, год за годам. Гэтая зморанасць была і ад барацьбы з ваяўнічай бяспамятнасцю і нахабнай русіфікацыяй...

...У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі яму прысвечана даволі ладная экспазіцыя. Але гэтага, на погляд многіх, хто яго ведаў, недастаткова. Музей павінен насіць яго імя — імя заслужанага настаўніка Беларусі, барацьбіта з фашызмам і змагара за свабоду і незалежнасць нашай радзімы.

Стваральніка...

## ВАЎКАВЫСКАЯ ХАРУГВА У БІТВЕ ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

Даўно хацела наведаць Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей П. Баграціёна, нядаўна перайменаваны ў проста ваенна-гістарычны. Яшчэ з юнацтва чытала пра славутую Ваўкавыскую харугву, што геаічна змагалася ў 1410 г. пад Грунвальдам і разам з іншымі змагарамі ў складзе аб'яднанага беларуска-польскага войска здабыла адну з самых славутых перамог сярэднявечча. Рэканструявала гэтую бітву ў сваім рамане «Знак вялікага магістра», перачытаўшы мноства кніг і артыкулаў польскіх і беларускіх даследчыкаў.

Музей гэты, заснаваны ў 1935 г. на грамадскіх пачатках як краязнаўчы, утрымлівае шмат цікавых экспанатаў, асабліва ж уражваюць зборы з напалеонаўскіх часоў, у большасці сабраныя сапраўдным энтузіястам расійскай і французскай ваеннай славы Георгіем Пехам. Старадаўні дом з мезанінам (многія, пішучы пра музей, узгадвалі і гэты мезанін, і сціплую абаяльнасць гістарычнага будынка), выдатна падкрэслівае нешматлікую зберажоную ў Ваўкавыску даўніну.

Мілая навуковая супрацоўніца Наталля Серба ахвотна правяла мяне па пакойчыках з калекцыямі напалеонаўскага часу. Аднак жа, калі яна падрабязна распавядала пра той ці іншы экспанат, мне так і карцела яе перабіць: а дзе ж тая экспазіцыя, дзеля якой я прыехала сюды і якая значыцца ў пераліку найбольш значных калекцый ў кнізе «Музеі Беларусі» 2001 г. выдання? Але я стрымлівала сябе, бо знаёмства з музеем — справа адказная, тут усё абвеяна стагоддзямі, і тым большаю будзе мая радасць ад сустрэчы з той эпохай, пра якую я зараз пішу і якую вывучаю, а менавіта — XII і XV стагоддзі...

Маё расчараванне было такім вялікім, што я спачатку не мела нават слоў, каб штосьці сказаць. Ні якой літаграфіі; ці карціны, ці вытрымкі з летапіса, ці нават згадкі пра гераічны подзвіг продкаў, у выніку якога была на некалькі стагоддзяў спынена нямецка-крыжацкая экспансія на ўсход, — нічога гэтага не было ў ваенна-гістарычным музеі горада Ваўкавыска!

Згадка ў выглядзе карціны М. Аксаміта «Ваўкавыская харугва» знайшлася ў іншым музеі, не абазначаным ні ў кнізе «Памяць», ні ў якім-небудзь артыкуле пра ваўкавыскую даўніну. Не абазначаным — бо знаходзіцца ён ў прыватным будынку. І ўбачыць яго багацці змажа адно толькі запрошаны ў госці чалавек.

Мне пашанцавала быць госцяй ў гэтым доме, гаспадар якога, інжынер Мікалай Іванавіч Быхаўцаў, працуе на гістарычнай і краязнаўчай ніве ці не за ўвесь раённы музейны штатны расклад. Яго калекцыя — гэта любоўна сабраныя колькі тысяч экспанатаў, кожны

з якіх выклікае цікавасць і сагрэты сапраўднай любоўю. Тут і серыя гравюр «Стары Ваўкавыск», і мноства папак з унікальнымі дакументамі, прысвечанымі роднай зямлі. Бярэш у рукі гэтыя папкі з назвамі «Прывілеі», «Царква», «Гісторыя прадпрыемстваў», «Тыгоднік» — і ад душы жадаеш Мікалаю Іванавічу стварыць на аснове гэтых дакументаў кнігу «Ваўкавыск пад трыма ўладамі (1920-1945)», грошы на якую ён спадзяецца здабыць. Як? «Магчыма, дапамогуць прадпрымальнікі», — уздыхае краязнавец, і я разумею, што на дзяржаўную дапамогу ён не разлічвае. Я ўзгадваю вялікую колькасць «гістарычнай» лухты, якая цяпер шырока друкуецца на дзяржаўныя грошы, альбо шыкоўна выдадзеную кнігу «Сталіну, Еўропа, пакланіся», і больш ні аб чым не пытаюся. Як я даведалася, у новай экспазіцыі ваенна-гістарычнага раённага музея будзе партрэт Сталіна (!) — на яго выяву дзяржаўныя грошы знайшліся...

Зрэшты, можна суцешыць сябе думкай, што ўсё, зробленае з любоўю, некалі праб'е дарогу да чытача ці гледача. Прабіваў некалі тую дарогу Анатоль Карпыза (1913 г. нар.), які доўга займаўся гісторыяй Ваўкавыска і шмат «накапаў». Праца краязнаўца нялёгкая: колькі трэба перачытаць старых дакументаў (а спачатку знайсці іх!), каб вылавіць патрэбнае для невялікага артыкула, не кажучы ўжо пра кнігу!

Мікалай Іванавіч Быхаўцаў такіх артыкулаў напісаў шмат, стаўшы пераможцам і такіх спецыфічных конкурсаў, як «Польшча — прыязная суседка Беларусі». Пяць з паловай гадоў працаваў у «Местной газете», і ягоныя гістарычныя нарысы чыталі з вялікай цікавасцю і ахвотай. Цяпер час іншы: у газеты зноў вяртаюцца цяжкія і нудныя справаздачы аб нарыхтоўках малака ці буракоў, гісторыя ж адсоўваецца ў самы далёкі кут, а то і ўвогуле замоўчваецца, нібыта незалежнай дзяржаве не трэба разграбаць друз даўняга і цяжкага забыцця. Старой і мудрай ісціне «не хлебам адзіным жыве чалавек» зноў трэба стукацца ў людскія сэрцы, не даючы ім забыцца на сваё касмічнае прызначэнне. Тое, што чалавек нарадзіўся не для таго, каб з'есці пэўную колькасць абедаў ці знасіць пэўную колькасць ботаў, ваўкавыскі інжынер Мікалай Быхаўцаў разумее вельмі добра. Не толькі ягонаму музею, але і бібліятэцы, якую сабраў, можа пазайздросціць любы спецыяліст. Я пабачыла там кнігі, якія, як мне здавалася, прадаваліся толькі ў Мінску і тое вельмі абмежаванымі тыражамі. Як ён іх набываў? Падумалася: гэта таксама робіцца з любоўю і захапленнем — а значыць, адбываецца і зваротны працэс: кніга сама як бы шукае свайго чытача і прыходзіць да яго. Поўны збор твораў Юзафа Крашэўскага, які пісаў, па сутнасці,

нашу, беларускую гісторыю, канчаткова мяне ўразіў. Падумалася: такі чалавек, як М. Быхаўцаў, надта ж патрэбны гораду, яго культурнаму асяродку, яго музею, і праца яго павінна быць запатрабавана дзяржавай... На жаль, у сапраўднасці ўсё далёка не так, — і гэта таксама знак часу, нелітасцівага да сапраўднага энтузіяста і сапраўднага Знаўцы...

А як жа быць з вайсковай славай продкаў сучасных ваўкавысцаў? Няўжо яна зводзіцца толькі да пераваг расійскага войска ў бітве з французамі ці перамог савецкага войска ў апошняй вайне? У стагоддзях захаваўся не толькі подзвіг ваўкавыскай харугвы пад Грунвальдам, ніяк не адзначанай у мясцовым музеі.

З Мікалаем Іванавічам мы паехалі таксама на ваўкавыскія каталіцкія могілкі. Сярод акуратных, добра дагледжаных магіл стаіць Крыж паўстанцам 1863 года.

Яны, у большасці маладыя людзі, паўставалі супраць гвалту і прымусу, дзе, між іншым, быў і такі, як «Указ Сената аб забароне царом Мікалаем I ужываць назвы Беларусь і Літва» ад 16 ліпеня 1840 г. Замест гэтых назваў «государь император, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний каждой отдельно Витебскую, Могилёвскую, Виленскую и Гродненскую, причём последовало собственноручное высочайшее повеление: «Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии».

Мікалай Іванавіч паказаў мне і высокі ўзлобак насупраць 8-й сярэдняй школы, дзе некалі, як сведчаць дакументы, без суда і следства пакаралі смерцю некалькіх паўстанцаў, якіх, закутых у кандалы, вялі гэтай дарогай з Гродна. Грамадскасць пакуль не можа дамагчыся паставіць тут памятны камень.

Памяць не можа быць выбарачнай: тое закрэсліць, а гэтае выпнуць і паставіць на п'едэстал. Яе трэба ведаць усю — і цёмныя, і светлыя старонкі жыцця нашага народа. Бо толькі праўда дасць нам бясцэнны гістарычны вопыт на будучыя часы.

Калі мы хочам мець Будучае.

## ВАЛЬНАДУМЕЦ З МАЛОЙ БЕРАСТАВІЦЫ

Яму было ўсяго восем гадоў, калі адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, і краіна, у якой ён нарадзіўся і дзе бацька яго, уніяцкі святар, быў паважаным чалавекам, перастала існаваць. Не, усё нібыта засталося: палі і рэчка, і непаўторныя краявіды Малой Бераставіцы, і царква, дзе ён, стараючыся крочыць у нагу, бег услед за бацькам і нёс вялікую свечку пад час набажэнства, — але з усходу прыходзілі новыя, нечуваныя парадкі і прыніжэнні адвечных вольнасцяў, якія ён асэнсаваў пазней, у маладосці.

Ігнат Сымонавіч Анацэвіч (1780-18.2.1845), аднак, яшчэ змог выкарыстаць адну з ранейшых прывілеяў — паехаць вучыцца ў замежныя навучальныя ўстановы: спачатку ў настаўніцкі інстытут у Прусіі, затым у Кёнігсбергскі універсітэт.

Маладога вучонага, які цікавіўся археалогіяй і гісторыяй роднага краю, запрасіў у свой новаатрыманы на Беларусі маёнтак у Гомелі вядомы мецэнат і збіральнік старажытных каштоўнасцяў граф М. Румянцаў. Шмат дакументаў, старажытных грамат і розных экспанатаў, якія сведчылі пра гісторыю гэтай далучанай да Расіі зямлі, трэба было даследаваць. Гэта быў скарб — і Ігнат Анацэвіч разумеў гэта лепей за іншых. Ён ведаў, што сабраныя ў уніяцкіх манастырах і храмах дакументы былі вывезены з Беларусі ў Расію. Але не ведаў тады, на пачатку свайго жыцця, што яны, гэтыя гістарычныя, археалагічныя і этнаграфічныя скарбы, зачаруюць яго і будуць весці за сабою ўсё астатняе жыццё.

З'ехаўшы ад Румянцава ў Віленскі універсітэт, ён неўзабаве быў прызначаны на пасаду намесніка прафесара і стаў чытаць ва універсітэце курс усеагульнай гісторыі.

«Сапраўднай красой аддзялення палітычных навук быў тады Жэгота Анацэвіч. Адзін з найбольш сімпатычных і заслужаных віленскіх прафесараў. Прыбыўшы ў Вільню [у 1818 г.], стаў адным са слупоў гуманітарных навук», — пісаў пра Анацэвіча даследчык гісторыі Віленскага універсітэта Людвік Яноўскі. Яшчэ адзін яго сучаснік, Я. Івашкевіч, так характарызаваў Анацэвіча: «Адораны вялікімі здольнасцямі прамоўцы, выключнай памяццю, Анацэвіч мог быць красой любога універсітэта».

Летам 1822 г. Ігнат Анацэвіч здзейсніў «бібліяграфічнае падарожжа», як назвала тое рэдакцыя часопіса «Северный архив», дзе быў надрукаваны «Урывак з падарожных запісак прафесара Віленскага універсітэта Ігната Анацэвіча пад час праезду яго праз адну частку Гродзенскай губерні ў ліпені і жніўні 1822 года». Ён пабываў у

Наваградку, Шчорсах, Дзятлаве, Слоніме, Лаўрышаве, Дзярэчыне, Росі, Ваўкавыску, Мсцібаве, Свіслачы, Бераставіцы і іншых мясцінах, дзе змог пазнаёміцца з дакументамі па гісторыі роднага краю. Асабліва ўразіла яго багаццем старажытных рукапісаў славутая бібліятэка Адама Храптовіча ў Шчорсах.

Але час мяняўся. Ды жорсткасць дэспатызму працягвала свой наступ. Неўзабаве ў Віленскай гімназіі здарыўся выпадак, здавалася б, дробны: адзін з гімназістаў напісаў на дошцы прывітанне ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

Гэта стала падставай для рэпрэсій і рэарганізацыі сістэмы асветы ў так званых Заходніх губернях. Крызіс гэты наспяваў даўно, — адносная мяккасць да вальнадумства, якую напачатку дэманстравала расійская улада, павінна была нарэшце скончыцца.

Расправа з Таварыствам філаматаў пацягнула за сабой і змену рэктара. На чале універсітэта замест Сымона Малеўскага, мяккага і сумленнага чалавека, прыйшоў Вацлаў Пелікан, куратара князя Адама Чартарыскага замянілі М. Навасільцавым. У спісе прафесараў, якія, «братаючыся з моладдзю, наносілі шкоду пашане да ўсяго выкладчыцкага складу», былі названы славуты гісторык І. Лялевель, І. Даніловіч, І. Анацэвіч, М. Баброўскі, Ю. Галухоўскі — вучоныя, добра вядомыя і прызнаныя ў Заходняй Еўропе. Пачаўся разгром «вальнадумцаў», і першым, як пісалі тады, «з Тарпейскай скалы» паляцеў І. Лялевель, за ім — іншыя...

Ігнат Анацэвіч, які пакуль нейкім цудам заставаўся ва універсітэце, рэзка крытыкаваў новыя парадкі — заахвочванне шпіёнства і даносаў, цэнзуру, уціск свабоднай думкі. Таму кіраўніцтва універсітэта шукала повада, каб з ім расправіцца. І такі повад неўзабаве з'явіўся.

Студэнты універсітэта ўтварылі тайную арганізацыю «Патрыёты Айчыны», сталі выдаваць пракламацыі, выкрываючы цэнзуру і гвалт над свабодай думкі і слова. Калі ж гэтую арганізацыю выкрылі з дапамогай правакатара, запалоханыя студэнты паказалі, што да ідэі аднаўлення Таварыства філаматаў іх падвялі лекцыі І. Анацэвіча.

Прафесар Анацэвіч быў арыштаваны, у яго забралі ўсе паперы (сярод якіх былі сведчанні аб фінансавых злоўжываннях кіраўнікоў універсітэта). Следства нічога не даказала. Больш таго: студэнты, якіх пакаралі розгамі і выслалі на Каўказ, публічна прызналіся ў тым, што абылгалі свайго выкладчыка. Але савет універсітэта пад моцным ціскам рэктара пастанавіў адхіліць І. Анацэвіча ад пасады прафесара і выслаць з Вільні. Абвінавачванне прафесара адбывалася ў яго адсутнасці, а вырак, запісаны ў кнізе пасяджэнняў савета, унікальны

па сваёй выснове: «Такога чалавека нельга цярпець ва універсітэцкім саслоўі. Каб яго ўчынак як прыклад не зрабіў спакусы ў вучнёўскай моладзі і не расстройваў парадку, з такімі цяжкасцямі і намаганнямі заведзенага...» Учынак жа гэты заключаўся ў тым, што І. Анацэвіч прыйшоў на развітанне з пакаранымі студэнтамі, дзе яны і засведчылі лжывасць ўсіх абвінавачанняў...

Высланы ў Малую Бераставіцу, І. Анацэвіч жыў пад наглядам паліцыі, яго карэспандэнцыя праглядалася. Але, як пісаў ён І. Лялевелю, «мая душа моцна загартавалася. Ніводнага са сваіх апошніх крокаў не шкадую... пакуль душа ў целе, буду помсціць за беззаконне...»

Але і рэарганізаваны паслухмянымі слугамі рэжыму універсітэт быў, урэшце, зачынены як нядобранадзейны. Гэта адбылося ў 1832 г. А праз два гады апальны прафесар атрымаў дазвол ехаць у Пецярбург.

Яго справу так і не вырашылі да канца. Але ў Паўночнай сталіцы па пратэкцыі земляка І. Анацэвічу ўдалося патрапіць у склад толькі што створанай Археаграфічнай камісіі.

І тут наш зямляк вылучаўся сярод усіх сяброў камісіі сваёй актыўнасцю і навуковай падрыхтаванасцю. Ён працаваў, як і раней, апантана. Вывучаў рэдкія рукапісы, рабіў выпіскі, спадзеючыся некалі напісаць вялікую працу па гісторыі роднай зямлі. Аднак нястачы і неспрыяльны клімат чужыны не далі яму таго запасу энергіі, з якім толькі і здзяйсняюцца падобныя задумы.

Ён, які ўсё жыццё аддаваў любімай працы ў гонар радзімы, жыў у атмасферы мікалаеўскай Расіі і яе агульнай «палачнай дысцыпліны», якую вельмі трапна ахарактарызаваў у лістах да Адама Міцкевіча: «Варварства, рабаўніцтва ёсць галоўным прынцыпам дзейнасці ўрада і народа. Дэспат грэбуе дабрачыннасцю і асвечанасцю, бо яны падкопваюць аўтакратыю, якая не дабрадзейства, не асвечанасці, а толькі рэкрутаў, падаткаў і паслушэнства патрабуе».

Нягледзячы на ўсе нягоды свайго жыцця, археолаг, гісторык і архівіст Ігнат Анацэвіч да канца сваіх дзён заставаўся прыхільнікам свабоды, у якой адной бачыў ён сэнс чалавечага жыцця і абавязковую ўмову любога выхавання.

На яго ж жыццё прыпала эпоха, калі гвалту падвяргаўся яго бацька, яго брат Міхаіл і ён сам. І калі памёр яго любімы брат (які разам з малабераставіцкай раднёй прадаў каня і вала, каб даць Ігнату грошы на паездку ў Пецярбург), Жэгота з Малой Бераставіцы з асаблівай горыччу адчуў, што ён зусім адзінокі на чужыне.

Вярнуцца на радзіму ён не мог — на што там жыў бы? Але перад смерцю зрабіў завяшчанне, у якім прасіў пахаваць яго ў Малой Бераставіцы, каля брата Міхаіла. Помнік для той магілы быў заказаны ў Пецярбургу, і ён прасіў пляменніка Вацлава паклапаціцца аб тым.

Тады, адразу пасля смерці, завяшчання не выканалі, пахаваны ён быў на Смаленскіх могілках у Пецярбургу 20 лютага 1845 г. Каму было везці яго цела ў далёкую Бераставіцу? Праўда, памяць пра выдатнага вучонага планавалі ўвекавечыць у Віленскім музеі старажытнасцяў Яўстафій Тышкевіч і Тэадор Нарбут. Але...

Неўзабаве пачалося паўстанне 1863 г., і трагічныя для нашай гісторыі страты і царскія рэпрэсіі нібы перакрэслілі памяць пра далёкага пецярбургскага «мужа, заслужанага для гістарычнай навукі». Гісторыя пайшла іншым кірункам. Знішчалася самая памяць пра гісторыю народа гістарычнай Літвы-Беларусі, пра традыцыі вольнасці.

У Беларусі першыя згадкі пра І. Анацэвіча з'явіліся толькі ў гады незалежнасці, у прыватнасці, першым, наколькі мне вядома, быў артыкул у энцыклапедыі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі» (Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 1995). Праз дзесяць гадоў гродзенскія гісторыкі С. А. Габрусевіч і С. В. Марозава напісалі кнігу «Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына» (Гродна, 2005). Кніга напісана жывой, яркай мовай, з адчуваннем значнасці постаці, якой прысвечана.

...Сёння памяць пра І. Анацэвіча жыве на Бераставіччыне. Магіла, дзе пахаваны брат Міхаіл, захавалася. Яна знаходзіцца ля ўвахода ў сённяшнюю праваслаўную царкву, у самой царкоўнай агароджы.

Прывялі нас туды кіраўнічка школьнага краязнаўчага музея Тамара Іванаўна Эйсмант і дырэктар Вяліка-Бераставіцкага раённага музея (які толькі ствараецца), Мікалай Пацэнка. З Мікалаем Пацэнкам мы знаёмы даўно, яшчэ з юначых гадоў, і я, праз гады, не перастаю дзівіцца яго маладой няўрымслівасці, цікаўнасці да жыцця і любові да роднага краю. Гэта ён дабіўся таго, каб раённай бібліятэцы прысвоілі імя другога славутага земляка — прафесара Восіпа Міхайлавіча Кавалеўскага, якому ў Варшаўскім універсітэце адведзены два мемарыяльныя пакоі. Ён адшукаў на старых каталіцкіх могілках магілу паўстанца 1863 г. Івана Жука, і шмат чаго яшчэ з бяздоння даўніх часоў выйшла на свет дзякуючы гэтай ягонай нястомнай працы. У кнізе «Памяць» Бераставіцкага раёна шмат напісаных ім артыкулаў, і прэмія «За духоўнае адраджэнне», якой ён нядаўна быў узнагароджаны, заслужана ім, як, можа, нікім іншым.

Перад гэтым у нас была цікавая гутарка ў краязнаўчым музеі сярэдняй школы, дзе юныя краязнаўцы расказвалі, як шукалі экспанаты па навакольных вёсках, што найбольш значнае ў музеі. Невялікі і ўтульны музей, сапраўды, уражвае. Тут няма копій, тут адны арыгіналы. Спачатку рабілі ўсё настаўнікі і вучні, потым, калі 1 ліпеня 2004 г. адкрылі музей, мясцовыя жыхары, пабачыўшы, колькі напрацавалі энтузіясты, сталі самі прыносіць сюды сямейныя рэліквіі, розныя экспанаты. Зрэшты, і вучні добра пакорпаліся ў хатніх шуфлядах, каб аднавіць памяць пра сваіх бацькоў і дзядоў праз лісты і розныя дакументы: Оля Данік, напрыклад, прынесла лісты свайго дзядулі — удзельніка апошняй вайны, і яны тут, на гэтых стэндах...

Школа ганарыцца сваім выпускніком, прафесарам Сяргеем Габрусевічам. Ён шмат дапамагае музею, а цяпер вось і ягоная кніга пра Ігната Анацэвіча ляжыць тут на самым ганаровым месцы. Зрэшты, ужо паслана хадайніцтва ў адпаведныя інстанцыі, каб музей гэты быў названы імем іхняга славутага земляка — вальналюбнага прафесара гісторыі. Дарэчы, артыкул пра яго ў Бераставіцкай «Памяці» напісаў Аляксандр Палубінскі — вядомы свіслацкі краязнаўца, з якім я шмат гадоў хацела сустрэцца. І ўсё ж Мікалай Нацэнка найперш вучань славутага Алеся Белакоза — стваральніка Гудзевіцкага музея, які цяпер шырока вядомы не толькі ў нашай краіне. Любоў Алеся Мікалаевіча да роднай гісторыі, яго вялікая ахвярнасць і энтузіязм не прапалі бясследна, у яго шмат захопленых багатай беларускай культурай вучняў, такіх, як дырэктар будучага раённага музея, які, як мне верыцца, стане такім жа цікавым і багатым, як і ў яго папярэдніка і настаўніка. Так што зараз, стоячы ля вялікай, абкладзенай белым каменнем магілы, я слухаю дыскусію, якую вядуць паміж сабой Мікалай Пацэнка і Тамара Эйсмант. Тэма вельмі цікавая: ці пахаваны тут сам Ігнат Сымонавіч, ці толькі яго радзіна? На каменным пастаменце крыжа ледзь можна разабраць надпісы, выразна чытаецца толькі на адным баку, а менавіта там, дзе запісана (на польскай мове), што тут апошні прыстанак Міхаіла Анацэвіча, каноніка брэсцкага, дэкана гродзенскага і сакольскага, які памёр 11 верасня 1837 г. Гэта побач з ім завяшчаў пахаваць сябе яго славуты брат. І, можа, сапраўды перавёз яго парэшткі сюды пляменнік, выканаўшы, нарэшце, волю нябожчыка? Але дакладна сказаць гэта не можа ніхто. Здаецца, прафесар Сяргей Габрусевіч збіраўся паехаць у Пецярбург, на Смаленскія могілкі, але ці ўдасца там адшукаць якія-небудзь дакументы ці самую магілу? Столькі войнаў, рэвалюцый пранеслася над гэтымі помнікамі, над крыжамі, што і камень сціраецца, не тое што людская памяць...

І ўсё ж нешта заўсёды застаецца. Застаўся помнік над магілай Івана Жука, паўстанца 1863 г., які памёр 24 мая 1901 г., маючы ад роду 60 гадоў. Тут жа, на магільным камяні, высечана і іншае імя — Станіслаў Жук, які памёр у 32 гады, у 1877 г. У час паўстання яму было 12-13 гадоў. Магчыма, гэта браты ці проста родзіч. Але нездарма некалі пахавалі іх на адным з лепшых мясцін гэтых могілак — на высокім узгорку, дзе вечназялёныя туі спляліся ў нешта падобнае да ганаровай аркі, адкуль далёка бачны цудоўныя краявіды і дзе ўнізе віецца дарога, па якой бясконца ідуць і едуць людзі.

Гледзячы на дарогу, я думаю пра тое, што не ўсім нашым славутым землякам было суджана самае простае шчасце: памерці і быць пахаванымі менавіта на роднай зямлі. У Парыжы, на могілках Пер-Лашэз, пахаваны людзі, для каго бераставіцкая зямля была дарагой: генерал Парыжскай камуны Валерый Врублеўскі, у Рызе — граф Леан Патоцкі, гісторык і мемуарыст, якому належаць пранікнёныя словы пра родны край: «...кожнае векавое дрэва, кожны насыпаны курган, кожны адламаны кавалак муру прамаўляюць да нас тымі таямнічымі словамі, якія даюць сілы цярпець, заклікаюць да трываласці. І сярод успамінаў, засыпаных друзам, у нашым мінулым мы адшукваем надзею на будучае, высноўваем яе...» Выдатна сказана: выснoўваць надзею на будучае, узгадваючы мінулае! А яно гаворыць з намі — храмамі, крыжамі, надмагіллямі. Словамі, што чытаюцца з такім жа хваляваннем, з якім чыталі іх і сто гадоў таму людзі, якія змушаны былі пакінуць радзіму і для якіх мемуары Леана Патоцкага былі і суцяшэннем, і магчымасцю сагрэць сэрца шчырымі ўспамінамі. Яму пашанцавала. Як расказвае ў сваім грунтоўным артыкуле М. Пацэнка, Л. Патоцкі змог вярнуцца ў Бераставіцу пасля аб'яўлення паўстанцам амністыі, у 1834 г., аднак лёс зноў закінуў яго на чужыну, дзе ён і памёр.

Чытаць пра лёсы людзей, звязаных агульнай любоўю і агульным лёсам, захапляльна, бо гэтыя постаці былі ўзвышаны да трагедыйнасці герояў старажытнасці яшчэ пры жыцці, і час аказаўся да іх літасцівым: пасля забыцця яны зноў вяртаюцца ў Гісторыю.

Бераставіцкая зямля расказала не пра ўсе свае таямніцы. Але такія энтузіясты, як Мікалай Пацэнка, Сяргей Габрусевіч ці Тамара Эйсмант шчыруюць на ніве роднай гісторыі, дапамагаючы сучаснікам аднавіць памяць пра папярэднікаў, якія пракладвалі праз жыццёвую дрыгву насыпы, па якіх лягчэй было ісці наступнікам.

І я ведаю: калі наступны раз пакліча мяне дарога, я, можа, зноў паеду ў Бераставіцу — Вялікую і Малую. Тут, на гэтай зямлі, у Мастаўлянах, нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, тут выбраўся ў вялікую

дарогу сын уніяцкага святара Ігнат Анацэвіч і пайшоў у свет навукі прататып Юзэфа з паэмы А. Міцкевіча «Дзяды» — Восіп Кавалеўскі. Вялікае імя Міцкевіча лунае ў гэтых мясцінах па сёння — бо і Анацэвіч называў сябе Жэготам ў гонар блізкага сябра геніяльнага паэта Ігната Дамейкі.

Беларускай душы, як, зрэшты, і кожнай на гэтым свеце, патрэбна натхненне ідэаламі свабоды і справядлівасці. Таму будзем прыходзіць да герояў — шанаваць іх памяць, іх упартасць і нязломнасць…

# ЯКІМІ КВЕТКАМІ АБСЫПЛЕМ ЯГО ТРУНУ?..

Легенды суправаджаюць кожнае жыццё, якое ўразіла сучаснікаў.

Жыццё Міхала Валовіча, які пражыў усяго 27 гадоў і быў павешаны па загаду Мураўёва-вешальніка каля Скідзельскай заставы ў Гродна, таксама абвеяна легендамі. Паводле адной з іх, маці Міхала падкупіла катаў, каб яны аддалі ёй цела сына, і патаемна прывезла яго ў родавы маёнтак Парэчча, што пад Слонімам, каб пахаваць на царкоўнай зямлі, ля уніяцкай царквы, дзе маліліся з пакалення ў пакаленне ягоныя продкі.

Некаторыя даследчыкі ўсё ж сцвярджаюць, што парэшткі маладога нашчадка слонімскага падкаморага са старадаўняга беларускага роду Валовічаў, хутчэй за ўсё, адшукаць не ўдалося: надта ўжо раз'ятрана і ўтрапёна стараліся затаптаць памяць пра паўстанне 1831 г. (як, зрэшты, і пра 1794-га, 1863-га) на Беларусі царскія служкі. Затаптаць і ў прамым, і ў пераносным сэнсе: напрыклад, па магіле расстралянага ксяндза Фалькоўскага ў Лідзе пусцілі кавалерыю, а само цела залілі вапнай, каб нават костак не засталося для тых, хто ўсё роўна хацеў ушанаваць памяць пра высакародных і смелых сваіх землякоў і родзічаў. Указанні на гэты конт былі яснымі і безапеляцыйнымі павінна было быць зроблена ўсё, «чтобы не могло быть тайных молении над телом преступника», як пісаў пра тое ў сваім рапарце віленскі губернатар Далгарукаў на імя ваеннага міністра Расійскай імперыі графа Чарнышова.

З гэтага ж рапарта відаць, як паводзіў сябе абвінавачаны, закляймёны як «разбойнік» і «преступный бродяга» малады шляхціц, удзельнік тайнага таварыства карбанарыяў Міхал Валовіч пад час экзекуцыі над яго таварышамі, — іх каралі на ягоных вачах, маючы на мэце, каб ён, выстаўлены перад смерцю на агульны догляд тысяч сведкаў, сабраных на пакаранне «банды мяцежнікаў», зламаўся, паказаў страх і раскаянне

А жахнуцца было ад чаго: удзельнікаў паўстанцкага атрада як. сфарміраваў Міхал Валовіч, узяўшы на сябе функцыі паўстанцкага начальніка Слонімскага і Наваградскага паветаў прыгаварылі альбо да жахлівай экзекуцыі, альбо да не меней жахлівай смерці: праз чацвертаванне. Да апошняга віду пакарання быу прыгавораны не толькі сам Міхал Валовіч, але і ягоны паплечнік Міхал Сакоўскі, які даў яму прытулак і дапамагаў ва усіх справах. Яшчэ пяцех вырашана было павесіць (усяго ж апроч Валовіча было захоплена дзесяць паўстанцаў). Астатнія таксама атрымалі смяротны прысуд у розных яго формах

гашэнне суда было накіравана на разгляд каменданта Гродна генерала Казлова, які прапанаваў замяніць чацвертаванне на павешанне, хаця яно лічыцца асабліва ганебным для шляхціца. ІІрадыктавана гэтае рашэнне было не гуманнасцю Адсячэнне рук і ног, а пасля і галавы падсуднага на вачах шматлікай публікі магло аказаць адваротнае ўздзеянне: яшчэ болей настроіць яе супраць расійскага войска, выклікаць супраціўленне такой мярзотнай дзеі. А патрэбна было запалохванне, каб здрыгануўшыся, мяцежная шляхта прыціхла і прысягнула пераможцам. Таму, урэшце, канчатковае рашэнне было прынята на карысць павешання.

Яшчэ будуць напісаны старонкі, прысвечаныя дню 21 жніўня 1833 г., калі у Гродна паміж сённяшнімі вуліцамі Лідскай Бялуша і Парахавым завулкам, на вачах у вялікага натоўпу чакаў смерці прыгожы, яшчэ зусім малады змагар за свабоду Ён глядзеў, як аднаго за адным вядуць паміж шарэнгамі салдатаў ягоных паплечнікаў, якіх прыгаварылі да больш «мяккай» меры пакарання — біццём так званымі шпіцрутэнамі, як салдаты з усяе сілы б'юць пругамі па жывым целе — і гэтак пяцьсот разоў! Глядзеў, як ападае прывязанае да штыкоў ужо непрытомнае цела, але яго сякуць і сякуць, атрасаючы кроў і шматкі мяса

Ці шкадаваў ён у гэтыя свае апошнія хвіліны, што не змог уседзець у ціхім, утульным маёнтку ў Парэччы, дзе над зялёнымі берагамі Шчары раніцай ўздымаецца сіняватая смуга і сонца, прабіваючыся праз яе, рассыпае сярэбраныя лугавіны па вадзе? Але ці мог ён там насалоджвацца спакойным жыццём, калі рассякалі па жывому цела ягонай Айчыны? Калі здзекаваліся над памяццю дзядоў, разбураючы уніяцкія цэрквы і вывозячы архівы ў чужую Расію, каб ні каліва памяці не засталося для нашчадкаў аб былых вольнасцях і былых подзвігах?

А можа, узгадваў шляхціц Валовіч Віленскі універсітэт куды патрапіў шаснаццацігадовым юнаком і дзе сябрамі яго былі Ігнат Дамейка і Ігнат Ходзька?

Ці паўставалі перад ягонымі вачамі, каб схаваць крывавае відовішча пакарання, светлыя твары блізкіх, яго сябры — філаматы і філарэты, настаўнікі, такія, як славуты Іаахім Лялевель?

Мы ніколі не даведаемся пра гэта, але можам, хаця на хвіліну, уявіць твар яго маці, якая, магчыма, таксама стаяла ў тым натоўпе, не адрываючы вачэй ад сына і нічога не могучы зрабіць, каб захіліць яго ад бязлітаснай ваеннай сілы, што гэтак жорстка распарадзілася іхнімі лёсамі... І зноў жа — можна толькі ўявіць, як яна, выкупіўшы цела сына ў ягоных катаў, патаемна везла яго дадому, у родавы

маёнтак Валовічаў, як хавалі яго каля мясцовай царквы, баючыся, што нехта падгледзіць і данясе...

З часоў Багародзіцы мы ўшаноўваем смяротныя пакуты Маці над целам Сына, — і ўсё яшчэ не спыняецца на зямлі здзек і гвалт, усё яшчэ гінуць і гінуць сыны, і маці схіляюцца над імі ў смяротнай, не выказнай ніякімі словамі пакуце...

Чытаючы данясенні аб тым, што Міхал Валовіч рабіў і казаў у свае апошнія хвіліны, уяўляючы атмасферу, у якой праходзіла пакаранне, дзівішся і захапляешся мужнасцю гэтага маладога чалавека, яго высакароднасці. Вось што піша той жа Далгарукаў графу Чарнышову: «Казнь Волловича совершена 21 числа сего месяца в г. Гродно со всевозможною торжественностью, и на сем позорище были несколько тысяч разного звания народа, при всём том тишина была вполне соблюдена, и столько были все тем поражены, что при столь многочисленном стечении народа решительно все безмолвно смотрели. Сие произвело весьма сильное влияние на умы обывателей, которые, наконец, видят, что правительство, преследуя преступников, не стремится гнусных похвал неблагонамеренных и действуя во всём законно, наказывает злодеев бестрепетно, не тайно, но публично, для всеобщего примера»[1].

Вядома, што Міхал Валовіч, звяртаючыся да прысутных, усю віну за арганізацыю паўстання ўзяў на сябе і дадаў, што спакойна аддае сваё жыццё за Айчыну.

Застаўся ліст да маці, які сведчыць, што ён свядома глядзеў у твар небяспекі і гатовы быў, у выпадку паразы паўстання, да смерці. Ён, яшчэ зусім малады чалавек, ведаў цану Свабоды...

Прайшло два стагоддзі. За гэты час памяць пра подзвіг Міхала Валовіча то затухала, то зноў уздымалася ў спрыяльныя для таго часы. Месца пакарання было ў ваеннае міжчассе названа пляцам Валовіча, аднак ў савецкія часы пра гэта не ўзгадвалі белы мармуровы помнік, які быў пастаўлены ў яго гонар у Парэччы, таксама быў разбіты. Згарэла уніяцкая царква, ля якой той помнік стаяў.

Аднак памяць пра мужнага змагара за свабоду канчаткова выкарчаваць не ўдалося, і ў часы Адраджэння, а менавіта 4 лістапада 2000 г. на Дзяды слонімскія адраджэнцы паставілі у гонар не знойдзенай пакуль магілы Міхала Валовіча вялікі памятны крыж.

Гісторыю гэтага крыжа, які зносілі чатыры разы (!) мясцовыя праваслаўныя вернікі на чале з прыезджым з Малдовы бацюшкам расказваў мне калега па пяру Сяргей Чыгрын летам 2006 г.

---

[1] Цыт. па арт.: Талерчык А. Як Міхаіл Мураўёў вешаў Міхала Валовіча II Наша слова. 2001. № 36. 12 верас.

Мы паехалі туды ўлетку, калі вакол могілак буяла высокая трава, і з узгорка бачылася ўся прастора поймы ракі Шчары. Крыж стаяў трывала, на ім, як і раней, быў надпіс: «Ва ўшанаваньне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806-1833) і ягоных паплечнікаў, якія ахвяравалі сваё жыцьцё ў баравое за вызваленне Беларусі ад расейскага царызму». Аднак жа той, першы крыж прастаяў толькі адзін месяц. Пасля было упартае змаганне з абодвух бакоў, якое доўжылася ледзь не пяць гадоў. Урэшце, цвёрдасць і мужнасць адраджэнцаў, і ў першую чаргу Сяргея Чыгрына, а таксама і родная зямля, відаць, дапамаглі памяці Валовіча: бацюшка з'ехаў, а чацвёрты раз пастаўлены крыж застаўся.

Мы ўшанавалі 200-годдзе з дня нараджэння беларускага паўстанца хвілінай маўчання. Узгадалася: ён, удзельнік паўстання 1831 г., якое было жорстка падаўлена, спачатку з'ехаў быў у эміграцыю, у Францыю. Але не змог там доўга заставацца, праз два гады вярнуўся, каб памерці тут, на радзіме. Гэтак жа праз паўтара стагоддзя вернецца на родную зямлю, каб змагацца і загіне на ён Янка Філістовіч (1926-1954?), сябра Рады БНР. Трапіўшы па вайне на Захад і паступіўшы ў Сарбонскі універсітэт, ён заснаваў там моладзевую арганізацыю, што сваёй мэтай ставіла атрыманне Беларуссю незалежнасці. Закінуты ў 1951 г. у Беларусь як камандзір антысавецкай партызанскай групы, быў у верасні 1952 г. затрыманы чэкістамі і засуджаны на смерць. Месца яго пахавання невядома. Усе, хто ведаў яго гавораць аб гарачай любові Філістовіча да Беларусі, за якую ён свядома ахвяраваў жыццём.

І як па спіралі часу, падабенствы: усе, хто дапамагаў Міхалу Валовічу і каго выкрыла следства, былі пакараны, і сярод іх сябры, родныя, а таксама уніяцкі святар Парэцкай царквы Марцін Якутовіч.

Родныя Янкі Філістовіча былі таксама пакараны — толькі не мураўёўскім, а сталінскім рэжымам. Дапамагаючы роднаму чалавеку, яны сталі закладнікамі рэпрэсіўнай сістэмы.

Пасля мы паехалі да царквы, якая стаіць на месцы той, уніяцкай, і дзе стаяў некалі помнік з белага мармуру, пастаўлены Валовічу. Дзіўна — але гэтая, ужо «мураўёўская», таксама гарэла, як і папярэдняя...

Цяпер яе аднаўлялі нанова, таму была ўся, як ашчацінены вожык, — у рыштаваннях. А вакол былі ямы, зямля горбілася ні то даўнімі пахаваннямі, ні то ўзгоркамі, насыпанымі за гэтыя дзвесце гадоў па розных прычынах і з рознымі мэтамі.

Сяргей Чыгрын прывёў мяне да таго месца, дзе, як ён лічыць, было захавана цела Валовіча і дзе стаяў той белы мармуровы помнік, пра які згадваецца ў дакументах.

Апантаны краязнаўца, мужны і таленавіты чалавек, гэта ён шматкроць ратаваў крыж Валовіча, ён вяртае памяць пра яго, як і пра іншых знакамітых людзей Слонімшчыны. Дзякуючы яму газета «Наша слова» адзначыла артыкулам 200-годдзе знакамітага паўстанца, смерць якога І. Лялевель ўспрыняў з горыччу і пісаў генералу Дзярніцкаму аб зверствах Мураўёва: «Падлюга, хто зневажае постаць Валовіча ці безнадзейна брэша на яго шляхетнасць. Скажы мне, генерал, якімі кветкамі абсыплем яго труну, якімі слязамі яго абмыем? Ён быў маім вучнем».

Постаць Міхаіла Валовіча, яго гераічная смерць лягла асаблівым кляймом на зверствы Мураўёва, здзейсненыя на беларускай зямлі. Менавіта пасля гэтай смяротнай кары той, выступаючы перад гродзенскім дваранствам, сказаў вядомыя словы аб тым, што ён, граф Мураўёў, не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць (маючы на ўвазе дзекабрыста Мураўёва-Апостала), а з тых, якія вешаюць. З гэтым азначэннем «вешальнік» ён навечна і застанецца ў гісторыі Беларусі, як бы ні спрабавалі некаторыя прыхільнікі «вялікай і недзялімай» прадставіць яго перад гісторыяй «асвабадзіцелем» і героем.

Адзін быў катам, другі — ахвярай. Але ахвяра гэтая была прынесена свядома, і ад таго яна, гэтая ахвяра на алтар Свабоды, застаецца ў народнай памяці.

# НЕЗАБЫЎНАЯ РАДЗІМА ФРАНЦА САВІЧА

Часам сама паездка да памятнага знака, прысвечанага знакамітаму чалавеку Бацькаўшчыны, дае столькі ўражанняў, выклікае столькі думак і перажыванняў, што яны становяцца асобнай тэмай для ўспамінаў яны адны здольныя кампенсаваць патрачаны ў архівах ці ў кніжных гушчэчах час.

Такой была паездка на Піншчыну, на радзіму рэвалюцыянера і паэта Франца Савіча, які памёр зусім рана — недзе ў трыццаць гадоў, паспеўшы, аднак, пражыць яркае і поўнае прыгод жыццё.

Калі цягнік да Пінска загрукацеў коламі і загайдаліся па сценах вагона жоўтыя ліхтарныя водбліскі святла, я стала ўзгадваць усе, што некалі (і зусім нядаўна) чытала пра чалавека які са студэнцкіх гадоў стаў для мяне сімвалам імкнення да Свабоды, чые жыццё нагадвае прыгодніцкі раман і пра якога так нічога і не напісана на Беларусі (маю на ўвазе мастацкія творы пра яго, а не тыя нешматлікія даследчыцкія працы, з якімі знаёмы ў асноўным студэнты-філолагі).

Ён, як і многія беларускія патрыёты, быў сынам уніяцкага святара (некалі даследчыкі звернуцца і да гэтай выключнай ролі менавіта уніяцкіх святароў ў выхаванні моладзі часоў Рэчы Паспалітай і яе падзелаў). Духоўным жа бацькам рана асірацелага хлопчыка стаў наглядчык Пінскага павятовага вучылішча Францішак Махцінскі, пра якога пазней у мемуарах Франца Савіча былі напісаны пранікнёныя і поўныя ўдзячнасці радкі аб тым, што менавіта гэты чалавек абудзіў у ім, хлопчыку грамадзянскія пачуцці і прагу да вольнасці роднай зямлі.

У васемнаццаць гадоў ён прыязджае ў Вільню, каб працягваць далейшую вучобу. Хацеў паступіць у славуты Віленскі універсітэт, але ён быў ужо зачынены — за надта вальналюбныя настроі студэнтаў. Таму юнак паступіў у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію. Нянавісць да прыгнёту, да тых вузкіх рамак, у якія ўлады імкнуліся ўціснуць студэнтаў, прывялі хлопца да ідэі стварыць нелегальную студэнцкую арганізацыю. Ад прыроды красамоўны і абаяльны, Франц Савіч здолеў пераканаць сваіх сяброў і паплечнікаў у тым, што яны мусяць падтрымаць вальналюбныя ідэі філаматаў і філарэтаў, змагацца за правы чалавека, за тыя дэмакратычныя ідэі, якімі жыве Еўропа. Вось з якімі словамі звяртаўся ён да равеснікаў, заклікаючы іх да барацьбы: «Паўстанне ў імя растаптаных правоў чалавека!.. Сцеражыцеся, браты, пастак. Уводзяць нас у марнатраўства, называючы яго старадаўняй польскай велікадушнасцю, насаджаюць п'янства і бяздзейнасць пад імем гасціннасці... Хочуць нас падкупіць золатам, кладучы

на вагі яго дабрачыннасць, свабоду, асабістую годнасць, хто ж можа са спакойным сэрцам браць шчадроты жыцця за такую дарагую плату... Прыстасоўваючы нас да рабства, дазваляюць і загадваюць нам быць дэспатамі»[1].

Яго высокае душэўнае гарэнне вылівалася не толькі ў палымянай публіцыстыцы, але і ў вершах.

На жаль, ад яго паэтычнай спадчыны для нашчадкаў захаваўся ўсяго адзін верш — «Там блізка Пінска...». Яго ён, як лічаць даследчыкі, напісаў менавіта ў студэнцкія гады — самы светлы перыяд надзей, жаданняў і спадзяванняў на тое, што арганізацыя, якая няспынна пашыралася, зможа падняць на паўстанне значную частку насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага, што да падзелу Рэчы Паспалітай складала разам з Польшчай адзіную дзяржаву, а цяпер стала «Северо-Западным краем» Расійскай імперыі. Умацавала яго ў гэтых памкненнях знаёмства са славутым польскім барацьбітом за вольнасць, былым паўстанцам 1830-1831 гг. Шыманам Канарскім, які прыехаў на тэрыторыю былога ВКЛ, каб аб'яднаць сілы для барацьбы.

Аднак пабольшаная актыўнасць патаемных арганізацый на Беларусі і Польшчы не засталася незаўважанай царскай паліцыяй і адпаведным дэпартаментам, і неўзабаве быў арыштаваны Канарскі, а ў 1838 г. і Франц Савіч.

Следства было цяжкім і пакутным. З маладога барацьбіта здзекваліся, яго неаднаразова жорстка білі, патрабуючы прызнанняў. Там, у турме, ён стаў пісаць сваю «Споведзь». Пінскі краязнавец Міхась Самуйлік лічыць, што пазней яму дапамог закончыць яе славуты краязнавец Аляксандр Гроза[2].

Праз паўгода, калі следства скончылася, Франца Савіча выслалі на Каўказ — як многіх іншых вальнадумцаў з нявскоранага краю. Ішла Каўказская вайна, маладога беларуса магла чакаць смяротная куля горца, ён мог загінуць, як і многія іншыя у аоароне чужых для яго імперскіх інтарэсаў.

У сваіх «Успамінах» ён піша: «Я павінен быў страляць у чэркесаў, якія маёй айчыне і мне не зрабілі нічога благога павінен бараніць справу, якая супярэчыла маім перакананням, ваяваць у радах прыгнятальнікаў у вайне, якая вялася дзеля іх гонару і інтарэсаў Я не быў супраць тых, хто ваяваў за сваю незалежнасць. Таму не меў намеру

[1] Цыт. па кн.: Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мінск, 1977. Ч. I. С. 84.

[2] Аляксандр Гроза — польскі краязнавец, які ў альманаху «Рубон» (1842, т. I; 1843, т. 3) надрукаваў цікавыя звесткі пра беларускія народныя святы і сабраныя ім народныя песні. Ён стварыў паэму «Ваўнянкі» пра стварэнне Ваўкавыска.

зацята абараняць ні справу якую не пераносіў, ні жыццё, якое мне стала абыякавым».

Дарэчы, гэтыя «Успаміны» маладога пісьменніка былі надрукаваны ў Беларусі толькі ў 1994 г., у гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў», дзе, дарэчы, змешчаны і верш «Там блізко Піньска...» у поўным аб'ёме, а не ўрэзаны, як гэта было у ранейшых публікацыях. Можна зразумець аўтараў кнігі «Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя» (Мінск 1988) калі яны друкавалі верш ў выглядзе, дазволеным цэнзурай (бо іначай мы ўвогуле б не ведалі анічога пра гэтую яркую драматычную постаць ў нашай літаратуры), аднак жа парэзаны і перакроены гэты верш не даваў магчымасці ў поўнай ступені ацаніць паэтычны талент і грамадзянскую накіраванасць аўтара. Хаця, як сцвярджаў адзін з першых адкрывальнікаў творчасці Ф. Савіча Сцяпан Александровіч, гэты верш, які захаваўся у следчых матэрыялах, у копіях, не можа лічыцца цалкам падобным да арыгінала. І ўсё ж ён мае такую самую каштоўнасць, як і адзіны верш Паўлюка Багрыма, які таксама пераканальна сведчыць пра тое, што, насуперак імперскім міфам беларускі народ не надта радаваўся магчымасці апынуцца пад ярмом царызму

Адпраўлены ў салдаты (як і Паўлюк Багрым), пінскі змагар аднак, не збіраўся аддаваць сваё жыццё за чужыя інтарэсы. Ён вырашыў бегчы, як толькі надарыцца такая магчымасць Аднак на ўсім шляху ад Вільні да Стаўрапаля (а ішлі арыштанты пехатой) такой магчымасці ў яго не было.

...Часам мне здаецца, што я чую тыя словы, з якімі ён, відаць, развітваўся з дарагой яго сэрцу зямлёй, з ранейшым жыццём, якое было, як тонкае дрэўца пад напорам навальніцы, вывернута з карэннем чужой уладнай воляй. Пад дажджом і сонцам, пад ветрам і лістападам ішоў ён побач з іншымі ахвярамі пад пільным наглядам канвойных, уяўляючы невядомы яму Кізляр, куды накіравалі яго на салдацкую службу, і ўзгадваючы твары дарагіх яму людзей, з якімі, магчыма, развітаўся назаўсёды.

Ён і праўда не вярнуўся болей на радзіму, хаця наперадзе чакала яго яшчэ шмат прыгодаў: у Тыфлісе, Кізляры, Таганрогу. Па дарозе Савіч інсцэніраваў самагубства: пакінуў на беразе вопратку і запіску, што вырашыў развітацца з жыццём. Тройчы яго затрымоўвалі, вярталі ў салдаты. Ізноў мільгалі гарады: турма ў Ціраспалі, служба ў Чарнігаве, затым Кіеў, затым шлях на Бярдзічаў, куды не дайшоў, пад чужым імем Гельгега.

Перадканчатковым пунктам ягонага зямнога жыцця стаў Янушпаль на Жытоміршчыне, дзе ён затрымаўся зноў не па сваёй волі, а

таму, што вывіхнуў нагу і не мог ісці далей. А потым — потым пачынаецца эпідэмія халеры, і ён, медык, стаў дапамагаць людзям. Халера яго не пашкадавала: ратуючы іншых, заразіўся сам і памёр недзе ў 1845 г. Быў пахаваны ў Астражку на Чарнігаўшчыне. Гэтак жа, дапамагаючы людзям, толькі ад тыфу, праз семдзесят адзін год (11 лютага 1916 г.) памерла іншая медычка і іншая паэтка, але з той жа гарачай крывёй змагаркі і з тым жа бунтарным беларускім духам, а менавіта Алаіза Пашкевіч — знаная Цётка.

Знайсці яго мемуары, яго «Споведзь» і сёння нялёгка. Яны практычна не перавыдаваліся, а першы і адзіны тыраж зусім невялікі. Аднак імя яго ведае нацыянальная інтэлігенцыя, хаця апошнія гады не былі спрыяльнымі для памяці змагара з царскім самаўладдзем і дэспатызмам.

І ўсё ж помнік на яго радзіме яму пастаўлены. Гэта прыгожая разьбяная скульптура ў народным стылі, што стаіць ля былой уніяцкай, а зараз праваслаўнай царквы ў вёсачцы Вяляцічы Пінскага раёна. Аўтобус ідзе міма вёскі, далей, таму квіток трэба браць на рэйс Пінск — Малыя Дворцы. На аўтобуснай шыльдзе і на білетах назва вёскі скажоная: замест Вяляцічы паўсюдна стаіць Віляцічы. Чаму? «А хто яго ведае?» — раўнадушна паціскае плячыма касірка. «Каму прысвечаны гэты мемарыяльны знак?» — пытаюся ў мужчын, што разам са мной ідуць паўз разьбяную скульптуру, калі аўтобус, пакінуўшы нас каля вёскі, кіруе далей на Малыя Дворцы. «Ды нейкаму рэвалюцыянеру», — раўнадушна паціскаюць плячыма жыхары Вяляцічаў.

Мабыць, не ўсе яны такія. Проста мне не пашчасціла натрапіць на тых, хто ведае нешта пра свайго земляка. І ў Пінскім музеі Палесся мне не адказалі на пытанне, хто ж і калі зрабіў памятны знак ў гонар Ф. Савіча. Дазналася пра гэта толькі ў бібліятэцы імя Яўгеніі Янішчыц, дзе бібліёграф Людміла Яўгенаўна Казлова адразу ж прынесла мне папку з матэрыяламі пра іхняга земляка. Прынамсі, радуюся, што нагадала і гэтыя імёны, і ўдакладніла дату ўстаноўкі памятнага знака для музея: стваральнікі памятнага знака ў Вяляцічах — рэзчыкі па дрэве калгаса імя Горкага Віталь Руско і Анатоль Гарбацэвіч а пастаўлены гэты знак у 1994 г., калі да галасоў мясцовай інтэлігенцыі яшчэ кароткі час прыслухоўваліся. Часу хапіла, каб адну з вуліц Пінска назваць у гонар паэта, напісаць пра яго шэраг артыкулаў і паставіць памятны знак.

Але яго, часу, не хапіла на тое, каб заказаць у Варшаве фотакопіі «Споведзі» ці «Успамінаў» іхняга земляка ці хаця б запісаць успаміны старых людзей у Вяляцічах, — раптам хто яшчэ штосьці памятаў з аповедаў дзядоў...

Цяпер такіх людзей ужо няма, і імя Савіча зноў грузне ў дрыгве соннага, раўнадушнага забыцця...

...Лістападаўская раніца была вільготнай і карычнева-зялёнай ад збуцвелага лісця. Маленькая, пафарбаваная ў сінь цэркаўка ў Вяляцічах адзінока стаяла недалёка ад дарогі, абгароджаная з усіх бакоў.

Я глядзела на белую мармуровую табліцу, дзе было напісана чамусьці па-руску: «Деревня Велятичи — родина белорусского революционера-демократа, поэта и публициста Франца Андреевича Савича. Род. в 1815 г, ум. около 1845 г.».

Пацямнелая разьба выяўляла суровыя твары, нібыта самі Судзяніцы выглядалі з гэтага кавалка дрэва, якое ўвасобіла ў сабе памяць пра чалавека, які тут нарадзіўся, хадзіў у школку вось па гэтай вуліцы, дзе зараз няма ні душы. Калісьці гэта была, відавочна, вялікая вёска, цяпер тут у трыццаці хатах жыве ці не палова жыхароў, шмат хат пустуюць: старыя памерлі, маладыя сюды не вяртаюцца.

Адсюль, з гэтае вулачкі, з гэтае вёскі пачаўся шлях, які затаптаць, на які забыцца ўжо нельга. Бо занадта вялікай і гарачай была любоў, скіраваная на гэты куточак зямлі. Аб Вяляцічах узгадваў Франц Савіч пастаянна, мабыць, і ў свае апошнія трагічныя хвіліны ўяўляў гэтыя краявіды, гэтую вуліцу. Бачыў сваю зямлю свабоднаю, дзе людзі з павагай ставяцца да думкі кожнага, бо ён — Чалавек

Бо ён — свабодны Чалавек...

## ПАЧНУ ШАПТАЦЬ...
## АБ СВАБОДЗЕ

Некалькі апошніх гадоў карцела прыйсці ў музей Цёткі (Алаізы Пашкевіч; 3( 15).7.1876 — 5(17).2.1916), што знаходзіцца ў школе яе імя ў Астрыне Шчучынскага раёна. Пастаяць, гледзячы на яе партрэты, пагартаць старонкі ейных кніжак, якія друкаваліся даўно, яшчэ да майго нараджэння, асабліва ж рэдкае і асабліва дарагое для нас прыжыццёвае выданне «Першага чытання для дзетак беларусаў» Цёткі 1906 г. Чаму не апошнія па часе, якія ёсць у маёй бібліятэцы? Можа, таму, што праз энерга-інфармацыйнае поле, праз аўру гэтых старых кніжак могуць выплысці і вобразы тых, хто дакранаўся да гэтых старонак, хто чытаў іх і думаў пра трагічны ў яе рэчаіснасці і зайздросна-шчаслівы ў пасмяроцці лёс беларускай паэткі, што ўсім сваім палымяным сэрцам любіла Свабоду і Беларусь — любіла аднолькава страсна, так што яны, і свабода, і Беларусь, для яе зліваліся ў адно цэлае, бо не ўяўляліся адна без адной.

Апроч таго, хацелася перадаць у гэты, даўно вядомы мне музей артыкул пра Цётку, з любоўю напісаны ў 1952 годзе на другім мацерыку, у другой краіне і знойдзены мною ў старой, пажаўцелай ад часу падшыўцы газеты «Беларускі эмігрант», якая вось ужо колькі дзесяцігоддзяў ляжыць на верхняй паліцы ў царкве святога Кірылы Тураўскага ў Таронта (Канада). Аўтар гэтага артыкула, Аляксей Грыцук, памёр трыццаць гадоў таму назад, пахаваны ў Кінгстане, у 250 кіламетрах ад Таронта. Ён, арганізатар беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў гады вайны, пасля эмігрант, стаў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК) і ўсё сваё жыццё займаўся беларускім асветніцтвам на чужыне і, на жаль, не паспеў абараніць напісаную ім і ўжо ўхваленую навуковым кіраўніком дысертацыю пра Максіма Багдановіча. Творчасць Цёткі, як і Багдановіча, ён шчыра любіў і быў ініцыятарам шматлікіх імпрэз у гонар гэтых класікаў беларускай літаратуры пачатку XX ст.

Не ведаю, ці ёсць сярод доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, абароненых у Беларусі, хаця адна, прысвечаная асвятленню асобы Цёткі менавіта ў эміграцкім друку. Не аднойчы сустракала я ў газетах ці кнігах творчых людзей, што апынуліся на чужыне, згадкі пра тое, чым была ейная свабодалюбная, яркая творчасць для душаў беларусаў, што не мелі магчымасці прыехаць на радзіму і маглі толькі спадзявацца, што дажывуць да гэтага шчасця. Юбілеі Цёткі заўсёды адзначаліся ў беларускіх асяродках розных краін, дзе атабарыліся нашы суродзічы. А гэта значыць, што яе паэзія адпавядала народнай

душы, якую асабліва стараліся захаваць і зберагчы на эміграцыі. У савецкай жа Беларусі найбольш акцэнтавалі ўвагу на яе рэвалюцыйных матывах, і толькі па-за імі, як бы недзе збоку, узгадвалі іншае, бадай што самае галоўнае: імкненне да сапраўднай свабоды беларусаў, да смеласці і супраціўлення гвалту:

Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута.
Пара, братцы, парваць путы!

Мелася на ўвазе, што мара Цёткі асягнута: народ здабыў свабоду, путы прымусу і няпраўды парваны. Аднак у тым і быў парадокс, што гэтая нібыта дасягнутая ўжо свабода толькі дэкларавалася. У таталітарнай краіне свабода ўслаўлялася як нешта абстрактнае, якое адносіцца да чаго заўгодна, толькі не да нас. Мы ж, як дзень і ноч цвердзіла нам прапаганда, жылі ў самай свабоднай краіне свету. Дэкларацыямі пра свабоду адцягвалася ўвага ад яе адсутнасці, калі душылася вольная думка, калі ішла гвалтоўная, з дзяржаўным размахам русіфікацыя — куды больш вытанчаная і глыбінная, чымся нават пры жыцці самой паэткі.

«Майце сілу і адвагу ўсюды трымацца роднага слова!»

Гэтыя словы казаліся ў часы, калі ўсё сялянства яшчэ гаварыла на роднай мове, і вёска, у процілегласць гораду, мовы сваёй не страчвала. Губляла яе інтэлігенцыя, і да дзяцей вёскі, што, прыйшоўшы ў горад, цураліся свайго, роднага, з болем звярталася паэтка, у іхнія грудзі білася яна палкімі словамі заклікаў: «Гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларускае б'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай».

Словам гэтым ужо другая сотня гадоў, але гучаць яны так, як быццам былі напісаны ўчора. Менавіта таму трэба раз-пораз прыязджаць туды, дзе пануе дух Цёткі, дзе рэчы і кнігі ствараюць той непаўторны водар яе часу, што перакідваецца ў час сённяшні.

Вось і зараз у музеі ў Акрынскай сярэдняй школе першае, што разанула мяне па сэрцы, — гэта знаёмы да драбніц партрэт Алаізы Пашкевіч, што шмат дзесяцігоддзяў знаходзіўся ў кабінеце старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, затым перайменаванага ўладамі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. У верасні 2006 г. быў ён вынесены разам з іншымі партрэтамі пісьменнікаў з нашага Дома літаратара, калі нас нарэшце канчаткова выганялі з нашага ўласнага дома, пабудаванага на нашыя ж, а не на дзяржаўныя грошы. Я несла іншы, інкруставаны дрэвам партрэт Цёткі (іх у нас было два). Той застаўся ў падвале Дома літаратара. А гэты, што зараз вісіць у музеі ў Астрына, перадаў сюды

сённяшні старшыня СБП Алесь Пашкевіч. Пра гэта расказала мне сённяшняя кіраўнічка музея Ала Балабан, азірнуўшыся папярэдне, каб не чулі вучні, што прыйшлі сюды ўслед за ёю. Паводле сённяшняй ідэалогіі, я не маю права выступіць у гэтай школе (як, дарэчы, і ўва ўсіх іншых школах Беларусі) без дазволу ідэолагаў раёна, і таму я толькі задаю пытанні, на якія дзеці дружна мне адказваюць.

Так, гэты музей адкрыты 15 снежня 1982 г., а ініцыятарам яго стварэння была настаўніца беларускай мовы Галіна Багумілаўна Пугач (памятаю, як радасна сустракала яна нас, пісьменнікаў, калі мы прыехалі сюды на свята беларускай літаратуры недзе ў сярэдзіне 80-х гг.). Сёння тут працуюць гурток «Антарэс», народна-паэтычны тэатр «Волат» і клуб «Спадчына». У фондах музея больш за 500 экспанатаў, у тым ліку і кнігі з дарчымі надпісамі пісьменнікаў.

Я таксама дару музею сваю кніжку і развітваюся з дзецьмі і Алай. Яна — паэтка, і разумее ўсё, што адбываецца сёння, але ж яна на дзяржаўнай службе, і таму бачу ў яе вачах смутак і няёмкасць. Я спяшаюся яшчэ на адну сустрэчу з Цёткай — на тую сустрэчу, якая ў ЯЕ будзе доўжыцца з усімі, хто прыедзе на яе магілу, столькі, колькі стаіць зямля беларуская...

У 2006 г. Ёй споўнілася 130 гадоў. І ўжо дзевяноста гадоў ляжыць яна ў вёсцы Стары Двор — на сваёй радзіме. Да яе прыязджаюць, з ёю размаўляюць, яе вершы чытаюць і раздумваюць над імі.

10 кастрычніка 2006 г. каторы раз прыехала сюды і я.

Прыгожая, па-летняму маладая, зялёна-жоўтая восень раскашавала на палях, пругкім, зусім не кастрычніцкім лісцем гайдалася на алешынах і дубах, на бярозах, што ледзь не змыкаліся над галавой, пакуль машына ляцела да Васілішак з яго чырвона-жоўтым касцёлам і ядавіта-ружовым аграгарадком а потым па вузкай шашы пад сінім, з шэрымі купкамі аблокаў небам — да маўклівай вёскі Стары Двор.

Магіла гэтай вялікай дачкі Беларусі — злева ад шашы на самым пачатку вёскі, амаль адразу пасля шэра-белага ўказальніка.

Пасля многіх занядбаных і забытых магілаў слынных дзеячаў нашай культуры гэтае апошняе прыстанішча паэткі глядзіцца як нешта амаль нерэальнае: абкружаная чыгуннай агароджай вялікая прастора вакол магілы з вялікім густам упрыгожана кветкамі. Чырвоныя і жоўта-крамяныя гваздзікі і рамонкі аздабляюць каменную стэлу, дзе на лацініцы высечаны словы-

«S.P. Ciotka z Paśkiewičau — Aloiza Kiejrys. 3.VII.1876-5.11.1916.

Na magile uzyjdu dubam,
Pačnu śopat bratnim hubam
Ab ich doli, ab svabodzie,

Stanu piesniaj u narodze.
(«Na magile uzyjdu dubam»)

Цішыня апаноўвае душу. Тут скончылася жыццё зямное і пачалося быцце пасмяротнае нашай слаўнай паэткі: у вершах у чалавечай памяці, у нацыянальным жыцці беларусаў. Міжволі спрабуеш уявіць сабе яе, такое кароткае нават і па зямных мерках жыццё прадоўжаным — на пяць, дзесяць, дваццаць гадоў

Яна, безумоўна, была б адной са стваральніц Беларускай Народнай Рэспублікі — БНР. Але ці засталася б тут, ці не паехала б у эміграцыю, як усе іншыя, каб там працягваць змаганне? Ці дажыла б да вяртання ў БССР і ці вярнулася б сюды?

1926 год — росквіт беларусізацыі, стварэнне дзяржаўных беларускіх інстытуцый, дзейнасць Інбелкульта. Ці была б яна ў першых шэрагах стваральнікаў БССР — хай сабе і марыянетачнай, але ж беларускай дзяржавы?

1936 год... Расплюшчваю вочы і абрываю мроі, якія ператвараюцца ў жахлівыя малюнкі допытаў, расстрэлаў, сібірскіх ледзяных прастораў і гвалту, гвалту, гвалту... Усплывае твар другой вялікай беларускі — Ларысы Геніюш, якая адна з нямногіх усё ж здолела вярнуцца — адтуль...

Якое, выходзіць, шчасце, што Алаізы Пашкевічанкі не кранула рука ката-энкавэдыста, што яна не прапала ў бездані Сібіры і не зведала крывавых шляхоў Другой сусветнай вайны!

Яе пакутлівая — у тыфознай гарачцы, у трызненнях — смерць была адной з першых ахвяраў крывавага, нялюдскага XX ст. У ім Беларусь, як і ў XVIII ст., дзялілі па жывому, не пытаючыся ў яе згоды, дзе ўжо не тысячы, а мільёны ляглі ці ў сваю, ці ў чужую зямлю і ў якім усё ж прарасла, у самым канцы веку, кволая раслінка незалежнасці, якую цяпер абараняем мы, як можам і як умеем.

Адзін з першых вершаў Цёткі «Мужыцкая доля» быў змешчаны ў нелегальным выданні Беларускай рэвалюцыйнай партыі «Свабода» і знішчаны разам з накладам. Цяпер, у XXI ст., ужо, здаецца, у незалежнай Беларусі, быў гэтак жа бязлітасна знішчаны наклад кнігі паэта Эдуарда Акуліна — зноў за тую ж страсную ноту свабоды, якая пранізвае ягоныя вершы.

Або яшчэ: у 1912 г. у Вільні, Нова-Вілейцы і Лідзе Цётка арганізавала некалькі нелегальных беларускіх школ. Тры гады спатрэбілася, каб адна з іх, а менавіта Лідская, стала легальнай.

У наш жа час усе апошнія гады скарачаецца і скарачаецца колькасць беларускіх школ. У той жа сённяшняй Лідзе іх ужо, здаецца, няма ніводнай!

Паралелі гэтыя сякуць па душы. Аднак жа радуе, што дзірван нематы і чалавечае боязі, што ўзрывала сваім гарачым імпэтам Алаіза, сёння, хаця і цяжка, усё ж таксама арэцца, засяваецца і нават дае ўраджай. Бо незалежнасць, няхай сабе і сённяшняя, усё ж прабівае дарогу, абуджаецца ў душах беларусаў успамінам пра былыя вольнасці, пра роднасць з еўрапейскімі вольнасцямі Еўропы, у якой наша краіна жыла колькі стагоддзяў як роўная сярод роўных — з дзяржаўнай беларускай мовай, са сваімі сімваламі і з Будучым, якое, на жаль, не спраўдзіла спадзяванняў.

...Шмат аб чым перадумваецца ў цішы і адзіноце каля магілы Цёткі. Я паклала ля надмагілля свой сціплы букет восеньскіх красак і пайшла, адчуваючы, як ўздымаецца ў душы бадзёрасць і светлы настрой.

І хочацца жыць, і ствараць, і працягваць тое, што рабіла ЯНА...

## ГОРАД СЫРАКОМЛІ

Нясвіж часта называюць горадам Радзівілаў. І гэта справядліва: менавіта гэты самы славуты і магутны магнацкі род ствараў, упрыгожваў, аздабляў горад, што набыў шырокую вядомасць і славу як родавае гняздо Радзівілаў, якія далі Беларусі Польшчы і Літве шмат таленавітых, дасведчаных дзеячаў культуры і палітыкі. Варта ўзгадаць Юрыя Радзівіла, празванага «літоўскім Геркулесам», ці Міхала Сіротку, ці Уршулю Радзівіл з роду Вішнявецкіх, ці, нарэшце, Барбару Радзівіл і ейных магутных братоў

Аднак для мяне гэты горад заўсёды быў найперш горадам Уладзіслава Сыракомлі (29.9.1832-15.9.1862), празванага за свае вершы Вясковым лірнікам.

«Але ж Людвік Францішак Уладзіслаў Кандратовіч, знаны пазней як славуты Сыракомля, нарадзіўся не тут, а даволі далёка ад Нясвіжа — у фальварку Смольгава Бабруйскага павета!» — можа мне запярэчыць любы, хто добра ведае не толькі творы, але і біяграфію Сыракомля І ён будзе мець рацыю — і памер жа паэт не ў гэтым горадзе, а ў Вільні, дзе і пахаваны на могілках Роса, на так званай Літарацкай горцы, куды год за годам ідуць і едуць пілігрымы з Польшчы і Беларусі.

І гэта праўда. Ды і пражыў знаны паэт, крытык, краязнавец і перакладчык ў Нясвіжы не так і шмат — усяго якіх пяць гадоў: тады, калі вучыўся ў дамініканскай школе (1833-1835) і калі працаваў у нясвіжскай канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі (1841-1844). Пасля, праўда, часта прыязджаў сюды (калі восем гадоў арандаваў фальварак Залуча Стаўбцоўскага раёна, што знаходзіцца блізка ля Нясвіжа) Але трынаццаць гадоў з няпоўных сарака, што ён пражыў на зямлі — гэта таксама нібыта не вызначальнае.

Аднак жыццё Творцы не вызначаецца часавымі рамкамі. Час цячэ для яго па-свойму і робіць самым значным тое, што глыбока закранула душу, што дало глебу для творчага ўздыму, што, нарэшце, засталося нашчадкам.

Што застаў малады выхаванец дамініканаў у Нясвіжскім замку? Вось як апісвае ён тое ў сваіх падарожных запісах «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (няхай чытач параўнае тое, што мы маем з гэтых, пазней начыста разрабаваных багаццяў:

«У некаторых залах на сценах, абабітых некалі багатымі дыванамі ці аздобленых ад столі да падлогі суцэльнымі люстэркамі, чаго ўжо і следу не засталося, раскіданы старажытныя карціны, іх больш за ўсё на чацвёртым паверсе ў асобнай зале, названай сёння

гучна Карціннай галерэяй. Сэрца сціскаецца, калі глядзіш на многія з тых карцін, асабліва калі зойдзеш у «галерэю», дзе выдатныя палотны, каштоўныя і з боку мастацкай вартасці, і як дарагія памяткі, што захавалі для нас вобразы гістарычных асоб, старасвецкія ўборы альбо асобныя падзеі гісторыі, — без парадку, без рам, без надпісаў вісяць на сцяне, чакаючы лепшых часоў, і разасланыя па падлозе, марнеюць на нашых вачах... Найбольшай увагі заслугоўваюць перш за ўсё вялізныя карціны, пакуль яшчэ не поўнасцю яшчэ сапсаваныя, напрыклад: наданне Мікалаю Чорнаму Радзівілу княскага звання імператарам Карлам V; нейкі ўрывак пра казацкія войны часоў Яна-Казіміра, паляванне з XVI ці XVII стагоддзя... паказ войск перад Аўгустам II, учынены Міхалам Казімірам Радзівілам, гетманам літоўскім. Да каштоўных, магчыма, сучасных, карцін патрэбна аднесці партрэты Вітаўта,... Уладзіслава Ягайлы, Барбары і яе роднага брата Мікалая, празванага Рудым, такія цудоўныя творы пэндзля, як партрэты Мікалая Чорнага, канцлера літоўскага Альберта, аднаго з Астрожскіх, Януша Радзівіл, Міхала Казіміра Гетмана і іншых».

Прашу прабачэння ў чытача за доўгую цытату, але гэты спіс, нават і пры тым, што ў апісальніка сціскалася сэрца ад жалю да папсаваных твораў мастацтва, гучыць сёння ўвогуле як рэквіем. І гэты рэквіем мы маем права (і абавязак!) узнаўляць зноў і зноў, бо, не выключана, нашыя наступнікі некалі знойдуць сляды таго, што сёння здаецца незваротна загубленым... Таму я працягваю разам з Сыракомлем хадзіць па апусцелых залах Нясвіжскага палаца і ўяўляць тое, што ён бачыў увачавідкі:

«Нічога не было б дзіўнага, калі б які знаўца сярод некаторых з іх адкрыў творы аднаго з найвыдатных майстроў італьянскай ці фламандскай школы, ёсць жа ў нас звесткі, што Рэмбрант ахвяраваў за паслугі свой пэндзаль Крыштофу Радзівілу, слаўнаму гетману літоўскаму. Мастацкую вартасць уяўляюць і пазнейшыя карціны, дзе намаляваны ва ўвесь рост кароль Станіслаў Аўгуст (мастак Гескі) і князь Дамінік Радзівіл (мастак Дамэль). Да значных твораў мастацтва можна аднесці бюсты кардынала Юрыя Радзівіла, падканцлера Міхала Радзівіла і яго жонкі з роду Сабескіх, партрэты Льва Сапегі, Аляксандра Служкі, Караля Аўгуста II Флемінга і іншыя. З гістарычных карцін патрэбна адзначыць выдатную, майстэрскага, элегантнага пэндзля «Каранацыю каралевы Барбары», адноўленую некалькі гадоў назад. З твораў айчыннага пэндзля заслугоўваюць ўвагі партрэты Ярэмія Вішнявецкага, кіеўскага мітрапаліта Пятра

Магілы, гетманаў Паца, Пацея, Казіміра Сапегі Станіслава Кішкі і многіх іншых»[1].

Акрамя збору карцін, Сыракомля звяртае ўвагу і на славуты радзівілаўскі архіў, дзе месціцца тое, «што некалі складала багацце роду і краю» і што «можа праліць нямала святла на шматлікія гістарычныя падзеі». Нам цікава тут усё, бо кожны сказ нясе нейкую інфармацыю, напрыклад, тое, што гэты архіў «займае некалькі залаў над галоўнай брамай».

Але не толькі гэтыя вялізныя духоўныя багацці жывілі тут у Нясвіжы, душу Сыракомлі. Тут сустрэў ён сваё першае каханне, якое, па ягоных словах, «цягнулася некалькі гадоў». Сёння можна пакпіць з таго, што самому закаханаму, калі ён убачыў Мальвіну, па ўласнаму прызнанню, «ішоў дванаццаты год». Аднак жа з вопыту сусветнай літаратуры мы ведаем, што менавіта ў дзяцінстве, калі абвостранае пачуццё прыходу ў гэты свет яшчэ не згасла, здараюцца самыя моцныя эмацыйныя перажыванні. Але каханне гэтае сталася толькі прэлюдыяй да сапраўднай захопленасці жаночым хараством. Недалёка ад Нясвіжа, у фальварку Жукавы Барок, ужо стаўшы арандатарам, у 1841 г. ён сустрэў замужнюю Тэафілю Радзевіч, з роду Пяткевічаў, якая, на жаль, хутка памерла. Гэта было вялікай трагедыяй для юнака, але прайшоў час — і сэрцам яго завалодала Міхаліна Рыхтэр, бацька якой быў удзельнікам паўстання 1831 г. і служыў у замку Радзівілаў, як і Людвік.

Многія лірычныя вершы Сыракомлі прысвечаны гэтай капрызнай і бясконца абаяльнай панне, якая чаравала яго бляскам жыцця і абаяннем свабодалюбнай, дружнай і інтэлігентнай сям'і, якую сам ён хацеў бы стварыць гэткай жа.

На жаль, не спраўдзілася і гэтае каханне: ягонай жонкай у рэшце рэшт стала Паўліна Мітрашэўская. З фальварка Залуча Кандратовіч пісаў сябру аб сваім шлюбе, звязваючы яго з горадам, які ён бясконца любіў: «Шаснаццатага красавіка зайгралі арганы, і я атрымаў маладую жонку. Бывай, Нясвіж, бывай, мінулае! Бывайце, нябесныя музы, прыгажосць краявідаў, мары, ідэалы. Бывай, залатая маладосць!.. Бывай, старажытны замак, дом дзяцей Войшунда, у якім убогі канцылярыст правёў шмат мілых і горкіх хвіляў, якія закончыліся вясельным баляваннем. Бывайце, былыя калегі, былыя абавязкі, былыя знаёмыя, раманы. Бывайце, нясвіжскія музы. У знак падзякі прымайце калі-нікалі Вашага летапісца»[2].

---

[1] Цыт. па кн.: Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах II Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2006 / Пер. з пол. К. Цвіркі.
[2] Цыт. па кн.: Шышыгіна-Патоцкая К. Я. Тры каханні Сыракомля Мінск, 2002.

Як бачым, сам паэт адчуваў сябе менавіта нясвіжскім летапісцам. Сапраўды, ужо за тыдзень да вяселля ён стаў пісаць артыкул пра гэты горад, дзе адбылося ягонае душэўнае сталенне і нараджэнне яго як паэта. Пра Нясвіж напісаў ён у 1844 г. санеты, дзе сцвердзіў сябе як выдатны паэт, і якія ўпершыню падпісаў псеўданімам Сыракомля. У ягонай душы з таго часу ёсць ўпэўненасць у тым, што ні горад, ні ўдзячныя чытачы не забудуцца на гэтае «летапісанне» «ўбогага канцылярыста».

І сапраўды: хаця паэт і пахаваны ў Вільні, дзе ў касцёле святога Яна ёсць спецыяльная капліца Сыракомлі і дзе ён знайшоў вечны спачын, памяць яго ўшанавана і ў Нясвіжы: на сцяне касцёла Божага Цела, пабудаванага Янам Бернардоні, у якім пахаваны магутныя Радзівілы, недалёка ад увахода, на сцяне, вісіць памятная дошка, прысвечаная вялікаму паэту і «нясвіжскаму летапісцу». На ёй, пад выявай паэта, кароткі надпіс: «S. P. Ludwik Kondratowicz (Władysław Syrokomla) 1862-1902».

Гэтая памятная дошка была прымеркавана да 40-годдзя з дня ягонай смерці. Мабыць, толькі ў касцёле і можна было ўшанаваць паэта, які столькі зрабіў для сваёй Бацькаўшчыны як культурны дзеяч і як творца. У той час Нясвіж належаў да Расійскай імперыі, а паэт, што пісаў на польскай ды беларускай мовах, не надта цікавіў царскія ўлады. Больш таго — калі ў красавіку 1861 г., на пачатку паўстання, вядомы ў краі паэт выступіў на некалькіх маніфестацыях супраць тыраніі, за свабоду прыгнечанай радзімы, ён быў арыштаваны і зняволены ў віленскую турму. Менавіта турма канчаткова падарвала і без таго слабае здароўе Сыракомлі, і 15 верасня 1862 г. ён згас, перажыўшы дваіх сваіх дзяцей, хаця і ўласнае яго жыццё было зусім кароткім.

Ад першых да апошніх сваіх радкоў ён быў тым, хто прызначаў сваё служэнне тром музам: паэзіі, каханню і Бацькаўшчыне. Бацькаўшчыну ён бачыў у будучым свабоднай — гэта было яго асноўнае жаданне. Нездарма ў вершы «Добрыя весці» (напісаным у 1848 г. на беларускай мове) Уладзіслаў Сыракомля адгукаецца на рэвалюцыйную сітуацыю ў Еўропе (гэта і ёсць «добрыя весці»), прымяраючы яе да беларускай рэчаіснасці:

Здаровыя ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на Захадзе, праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў.

Яго паэзія і проза па сваёй дэмакратычнай накіраванасці і вальналюбнасці застаецца актуальнай і сёння. Але для нас постаць Сыра-

комлі, які пісаў на польскай і беларускай мовах, важная яшчэ і тым, што ён меў добрыя сувязі з мінскім літаратурным асяроддзем, а таксама актыўна падтрымліваў В. Дуніна-Марцінкевіча — таленавітага беларускага творцу, які таксама спавядаў ідэі свабоды і якога мы ўважаем як класіка, аднаго з пачынальнікаў новай плыні нацыянальнага адраджэння. Гэтая падтрымка, як і сама творчасць Сыракомлі, прыкметна паўплывала на фарміраванне беларускай літаратуры новага часу.

...Калі я бываю ў Нясвіжы, то заўсёды знаходжу час, каб паблукаць па ягоных сцежках, узгадаць трагічныя ці лірычныя падзеі з маленства ці юнацтва паэта, а таксама абавязкова зайсці ў касцёл Божага Цела і пастаяць ля памятнай дошкі Уладзіслава Сыракомлі. Часам бяру ў гэтае падарожжа кнігу ягоных вершаў і ўзгадваю іх на мове, якая была для яго таксама роднай і блізкай гэтак жа, як блізкая нам і Гісторыя, якою дыхаюць гэтыя вуліцы, адноўленая ратуша, замак, што рэстаўруецца нанова:

Толькі чым, мае долы, ўзамен вам аддзячыць?
Можа, блаславеннем, вандроўным, жабрачым,
Яго з ветрам пусціўшы па родным абшары,
Каб збыліся людзей нашых лепшыя мары:
Над лясамі, над Нёманам, на мужычым загоне
Хай жа лепшыя песенькі птушкі зазвоняць...[1]

Паэзія, калі яе адухаўляе Неба, дае творцу палымяную і адначасна пяшчотную душу, якую глыбока раніць чалавечая недасканаласць. І да таго ж на яе, як на згустак святла ў шэрай будзённасці, палююць злыя сілы, стараючыся згасіць гэтае святло. Таму лёс многіх творцаў такі трагічны.

Сыракомля жыў у часы, калі змянілася пакаленне тых, хто балюча перажыў заняпад ранейшых, часам недасканалых, але ўсё ж рэальна існуючых вольнасцяў еўрапейскай краіны — Рэчы Паспалітай, і трапіў у палон краіны з дэспатычным тыпам праўлення. Прыгоннае права, якое прыходзіла на Беларусь, суправаджалася сялянскімі хваляваннямі, якія жорстка падаўляліся. Былі не менш жорстка падаўлены і тры паўстанні — 1794, 1830 і 1863 гг., у якіх найбольш актыўна ўдзельнічала шляхта. Ягонае жыццё абарвалася якраз перад апошнім паўстаннем, якое нібы абдало паэта подыхам навальніцы, што, на жаль, не стала ачышчальнай: менавіта пасля гэтага паўстання быў закрыты Віленскі універсітэт, скасаваны апошнія вольнасці ў навучальных установах і пачалося актыўнае знішчэнне са-

[1] Пераклад К. Цвіркі.

мой беларускай Памяці. Вядомае выказванне Мураўёва: «То, что не доделал русский штык, доделает русская школа», — пачало здзяйсняцца, а назва Беларусь была ўвогуле забаронена.

Аднак імя Сыракомлі і яго творчасць не забытыя. Тая высокая энергія душы, якой напоўнены яго творы, сёння ўсё болей набірае сілу і ў душах беларусаў. Прароча гучаць словы Янкі Купалы, прысвечаныя яго вялікаму папярэдніку:

Покі ж будзе душа хоць адна жыць на свеце,
Будуць жыці і лірнікаў песні…
Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, —
Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,
Не забыўся ты, лірнік вясковы…

Але не толькі вялікім паэтычным талентам дарагі нам Сыракомля. Калі б вызначыць яго жыццёвыя погляды адным сказам, то гэта маглі б быць словы з яго празаічнага твора «Біяграфія Косача»: «Свабода спрыяе маральнасці люду…»

## НАШАНІВЕЦ

Не верыцца, але ён, нашанівец Янка Журба (1881-1964), што надрукаваў свой першы верш яшчэ ў 1909 г., быў і маім сучаснікам, бо памёр, здаецца, зусім нядаўна — 7 студзеня 1964 г. Я, трэцякурсніца БДУ завочнага аддзялення, працавала тады настаўніцай пад Віцебскам і па радыё пачула, што памёр беларускі паэт Янка Журба. Да сораму свайго, мала чаго з яго паэзіі і прозы я памятала, хіба адно толькі апавяданне пра Каляды, на якія багаты дзядзька ні каліва не даў свайму беднаму пляменніку, калі той прасіў у яго хаця трохі збожжа, каб неяк накарміць галодных дзяцей. Апавяданне «Перад святам» не дужа мяне ўразіла, але псеўданім падаўся надта ж прыгожым і адразу запомніўся: Янка Журба! Журба — прыгожае, вельмі старадаўняе беларускае слова, і гучыць яно неяк пяшчотна, нібы лёгкі павеў ветру ці шалясценне лісця вярбы, што нізка схілілася над рэчкай. І было адчуванне нейкай блізкасці: паэт памёр у недалёкім адсюль Полацку і, значыць, быў амаль земляком…

З таго часу я шмат чаго даведалася пра беларускага паэта Янку Журбу (Івана Якаўлевіча Івашына), якога беларускі ўрад ушанаваў тым, што адну з бібліятэк у Полацку, недалёка ад Ксавер'еўскіх могілак, якія цяпер ужо ўвайшлі ў гарадскую рысу, назвалі імем гэтага беларускага творцы, аднаго з «плеяды беларускіх адраджэнцаў» (А. Лойка. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мінск, 1989. Ч. 2).

Пра яго пісалі М. Гарэцкі і У. Ігнатоўскі, В. Рагойша і Т. Кабржыцкая, І. Кудраўцаў і С. Майхровіч, І. Чыгрын і С. Шушкевіч, і многія іншыя даследчыкі. Яго шлях, які пачаўся ў Чашніках, ішоў праз Украіну, Расію і завяршыўся ў старадаўняй сталіцы беларускай зямлі, якую ён так моцна любіў.

Паэт-лірык, ён выяўляе сваю чулую, тонкую душу ў вершах, што здаюцца лёгкімі матылькамі, народжанымі пад сонцам:

Яснасць сонца, лёгкі ветрык,
У паветры звон,
Пах ад жыта, пах ад красак, —
Дзіўна ўсё, як сон.

Аднак жа сялянскі сын, які прайшоў нялёгкі шлях да асветы, не мог заставацца адно ў свеце «чыстай красы». І, можа, найбольш моцны пласт ў ягонай паэзіі — гэта нацыянальна-дэмакратычны. Свабода, роўнасць, зямля, што павінна належаць таму, хто на ёй працуе, — усе гэтыя матывы вельмі выразна выказалі сябе ў яго дарэвалюцыйнай паэзіі, якая, услед за тытанамі нацыянальнага пісь-

менства Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цёткай, Максімам Багдановічам, закранала самыя балючыя і важныя для тагачаснага грамадства тэмы. Голас Янкі Журбы гучыць досыць самабытна і разам з тым уліваецца ў агульны покліч да Свабоды, як, напрыклад, у вершы «Вольны шлях», надрукаваным у «Нашай ніве» 12 чэрвеня 1915 г.:

А ўгары смяюцца зоры,
Ноч пануе на палях.
Прэч ідзі ты, злое гора, —
Перад намі вольны шлях!

І ў першыя гады савецкай улады паэт шчыра верыў, што Беларусь, як герой верша «Раскуты Праметэй», сапраўды ідзе да новага, вольнага жыцця, дзе пануе «вялікае свята свабоды» (Савецкая Беларусь. 1921. 6 лістап.). Верыў ён ў ідэалы дабра і справядлівасці, якія непазбежна пераможуць, нягледзячы на ўсе цяжкасці, — і ўсё ж з гадамі, асабліва ў 50-я, паэзія яго цяжэла, рабілася выхалашчанасухой, хаця і ідэалагічна-правільнай. Страшэнны прэс на свабодную душу творцы, які быў характэрны для сталінскіх часоў, паўплываў і на яго паэзію, якая ўжо не мела тых крылаў узнёсласці і веры, якія былі характэрны для яе ў дарэвалюцыйныя часы.

Паступовая страта зроку, інваліднасць таксама, мабыць, мелі вялікае значэнне ў яго «правільнасці», але не гэта вызначае для нас, сённяшніх, паэтычную велічыню творчасці Янкі Журбы.

...Ягонае 125-годдзе з дня нараджэння мы адзначылі ўдваіх з полацкай паэткай і грамадскай дзяячкай Лерай Сом, прыбраўшы яго магілу на Ксавер'еўскіх могілках і ціха пастаяўшы каля яе. Было сонечна і цёпла, цішыня клалася на велічэзныя клёны ля цэнтральнага ўвахода, ад якога ў некалькіх кроках направа і месцілася магіла гэтага, на сёння амаль паўзабытага паэта і аўтара некалькіх апавяданняў, а таксама некалькіх кніжак, апошняя з якіх, «Роднае», выйшла ў 1980 г. Сонца грала на ружовай гранітнай пліце, на якой было напісана:

Беларускі паэт
ЯНКА ЖУРБА
1881-1964.

Ніяк не ўдавалася падабраць такі ракурс, каб гэтае сляпучае сонца не адлюстроўвалася на блішчастым камяні, зацьмяваючы то надпіс, то выяву раскрытай кнігі з гусіным пяром упоперак старонак, якая была выбіта ўнізе. Урэшце, я вырашыла: няхай здымак будзе з гэтай зіхоткай сонечнай плямай, падобнай да сэрца, што б'ецца ў целе помніка. Той жа, ля магілы, дзе мы стаім побач з Лерай, застаецца ў маім падарожным альбоме як памяць пра гэтае падарожжа ў Полацк,

калі я ехала, думаючы пра паэта, і ўзгадвала чамусьці верш Еўтушэнкі пра Ахматава дзе ён пісаў:

Ахматова двувременной была.
О ней и плакать как-то не пристало.
Не верилось, когда она жила,
Не верится, когда её не стало.

Она ушла, как будто бы напев
Уходит в глубь сиреневого сада.
Она ушла, как будто бы навек
Вернулась в Петербург из Ленинграда...

(Гэты верш я цытую па памяці, і, магчыма, нехта мяне паправіць, але галоўнае, што ў ім ёсць, гэта — адчуванне нейкага несупадзення такіх розных стагоддзяў, як XIX і XX, у жыцці аднаго чалавека.) Вось і ў жыцці Янкі Журбы ёсць, на маю думку, гэтае несупадзенне розных эпох: той час, калі ён, дзевятнаццацігадовы сын селяніна, скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю і ўбіўся ў нашмат вышэйшы за яго ранейшае сацыяльнае становішча стан інтэлігенцыі (тады перад настаўнікам не толькі дзеці, але і іхнія бацькі здымалі свае магеркі ды капелюшы), істотна розніўся ад таго, у якім давялося жыць далей. Вытанчаны юнак у пенснэ, якім ён паўстае на сваіх першых здымках, стаў спярша невялікім савецкім чыноўнікам (інспектар акруговых аддзелаў народнай асветы), а пасля і простым настаўнікам ў Чэрыкаўскай сямігодцы і Магілёўскім медвучылішчы. І гэта пры тым, што ён меў на той час рэдкую — вышэйшую! — адукацыю, бо скончыў яшчэ ў 1909 г. Глухаўскі настаўніцкі інстытут.

Даведнік «Беларускія пісьменнікі: 1917-1990 (Мінск: Мастацкая літаратура, 1994) кажа: «З 1941 г. і пасля вайны жыў у Чашніцкім раёне, быў настаўнікам спеваў Апошнія гады жыцця [амаль аслеп, стаўшы пенсіянерам у 53 гады. — В. І.] правёў у вёсцы Слабада пад Полацкам і ў Полацку». Што да ягоных савецкіх патрыятычных вершаў, то ім няма веры: не мог гэты разумны і тонкі чалавек усёй душой, як таго патрабавала партыя, верыць у ейныя ідэалы.

Можа, таму перайшоў ён на ніву дзіцячай паэзіі? Там было больш бяспечна: у вобразах Пастуха, Шпака і Коціка цяжка было ўгледзець крамолу.

За тыдзень да 43-й гадавіны яго смерці, што прыйшлася якраз на Божае Нараджэнне — 7 студзеня (бо паніхіды ў гэты дзень не служаць), я заказала па ім паніхіду. Стаяла ў натоўпе вернікаў і слухала, як святар прагаварыў імя Янка, крыху запнуўшыся на пачатку ад нязвыкласці гэтага беларускага імя. Ён не мог мяне паправіць, што

Іван, магчыма, было б правільней, што так стаіць у святцах дый, відавочна, стаяла і ў пашпарце, — яму заставалася толькі прагаварыць «Янка», мабыць, і блізка не здагадваючыся, хто з соцень тысяч памерлых, каго яму давялося памінаць, стаіць за гэтым імем. Гэта мог быць Янка Купала, Янка Брыль, Янка Лучына — ды, зрэшты, любы з беларускіх дзеячаў. На тым свеце ўсе яны — і вядомыя, і не — аднолькава сталі перад Вышэйшым судом і перад Вечнасцю.

Гэта ў зямным жыцці кожны з творцаў адрозны і непадобны да іншых, кожны з іх дарагі тым, што служыў народу Беларусі, «як моц яго магла».

А тыя, хто служыў, апроч гэтага, і ідэі ВОЛЬНАЙ Беларусі, даражэйшы шматкроць. Бо не бывае шчаслівай краіна, народ якой не мае волі.

## ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ НА ЗАХАД..

У Воранаўскі раён прыехаць не проста: трэба браць дазвол у пашпартным стале Савецкага раёна г. Мінска, дзе я жыву Дасюль не магу зразумець, чаму грамадзяніну Беларусі нельга ездзіць па усей сваёй краіне і чаму памежнымі лічацца цэлыя раёны, дзе, бывае, да той самай «страшнай» мяжы з Еўрасаюзам ажно дзесяткі кіламетраў Але — правілы, нават самыя недарэчныя, мусіш выконваць, тым болей што я даўно марыла пабываць ля магілы аўтара «Дзеяў народа літоўскага», дзе столькі звестак менавіта пра нашу Беларусь. Апроч таго, Т. Нарбут — аўтар праекта Бабруйскай крэпасці і ўдзельнік яе будаўніцтва, а таксама і археолаг, які даследаваў Лідскі замак. Усё гэта блізкія і цікавыя для мяне падзеі і мясціны. Таму ўсе паперы і патрабаванні давялося выконваць асабліва старанна. Пасля афармлення ўсіх неабходных дакументаў, праверыўшы кожную паперку, каб, крый божа, на якую не забыцца, я нарэшце, у ліпені 2005 г., адправілася ў жаданае падарожжа.

У Воранаве самы пік рамантавання: на плошчы, як мурашы, паўсюдна мітусяцца будаўнікі. Хутка будуць адзначаць 460-годдзе горада. Але, на жаль, у горадзе няма музея — ні гістарычнага, ні краязнаўчага. Ці ёсць тут дзе якія весткі аднаго з самых слынных людзей Воранаўшчыны? У раённай газеце мне параілі зайсці ў мясцовую школу, дзе ёсць невялікі школьны музей. Там мяне чакаў сюрпрыз: музей гэты арганізавала і ім апякуецца мая старая знаёмая, з якой у юнацкія гады мы разам працавалі, а пасля згубілі адна адну — Нэля Пушнянкова, цяпер ужо, вядома, Нэля Казіміраўна, намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце. Але апроч папак з легендамі Воранаўшчыны ды самага старога экспаната — плана фальварка маёнтка Боркі 1895 г., што падарыла школе праўнучка колішняга ўладальніка Фелікса Маліноўскага, нічога са старажытнасці там няма.

«У Начы шмат ўспомненняў пра Тэадора Нарбута, там жа ён пахаваны, ды і ў Радуні добры музей, яму нават званне народнага надалі», — падказала мне Нэля Казіміраўна, убачыўшы маю рэакцыю на адсутнасць матэрыялаў пра Тэадора Нарбута ў самім Воранаве. Яна, як бы апраўдваючыся, узгадала, што некалі арганізоўвала першую краязнаўчую канферэнцыю пра сям'ю Нарбутаў, і я зразумела, што і тут краязнаўчы энтузіязм першых гадоў Адраджэння па волі нашай постсавецкай дзяржаўнай ідэалогіі перайшоў на звыклы шлях узгадвання толькі гераізму ваеннага часу...

У Начу, што месціцца цяпер на самай мяжы з Еўрасаюзам, ехаць можна толькі праз Радунь. Там, па звестках раённай газеты,

жыве і працуе адзін з самых цікавых краязнаўцаў Воранаўшчыны Іван Іванавіч Фясенка (ёсць у Начы і Уладзімір Руль, але з ім мы, нягледзячы на ўсе намаганні, сустрэцца чамусьці не змаглі). Сустрэчы з краязнаўцамі для мяне заўсёды былі як свята: іхняя шчырая любоў да гісторыі свайго краю захоплівае, яна надае новых сілаў і імпэту для цяжкай працы над гістарычнымі творамі.

Народны музей ў Радунскай сярэдняй школе суцешыў маю душу: усё тут дыхала любоўю да гісторыі радзімы, знаёмыя твары дзеячаў гісторыі і культуры глядзелі са сценаў. Маладая дырэктарка Галіна Янаўна Ганевіч распавяла, што званне народнага музею далі ў 1993 г., а цяпер у школе праходзяць курс «Воранавазнаўства», і мясцовыя школьнікі, асабліва ўдзельнікі клуба «Родынь», заўсёды здзіўляюць прыезджых сваім веданнем гісторыі. Нездарма тут пастаянна праходзяць розныя семінары, і мноства самых розных рэспубліканскіх дыпломаў на паліцах музея нібы служылі пацвярджэннем ейных слоў. А душою гэтага музею быў і ёсць ён — Іван Іванавіч. Усё тут зроблена дзякуючы яго нястомнаму энтузіязму, без аніякіх дзяржаўных ці спонсарскіх грошай. Сярод яго шматлікіх здзяйсненняў найбольш важнае тое, што ў 2005 г. Міністэрствам адукацыі зацверджана трохгадовая праграма «Воранавазнаўства».

І. І. Фясенка якраз і аказаўся такім, якім яго можна было ўявіць па створаным ім музеі, — гарачы, парывісты, неабыякавы чалавек, закаханы ў сваю справу. Пра сям'ю Нарбутаў ён сабраў многае, што толькі можна было дастаць дзе-кольвечы ў скупыя на любоў да гісторыі часы. Нездарма ў музеі ёсць дыплом Рэспубліканскага цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій Міністэрства адукацыі за лепшую работу «Нарбуты. Паходжанне і радаслоўная» па выніках Рэспубліканскага конкурсу «Гісторыя славутых родаў Беларусі». І таму Фясенка з гатоўнасцю адгукнуўся на нашу просьбу — паказаць нам у вёсках Нача і Шаўры магілы Тэадора Нарбута і ягонай сям'і якія і былі мэтай нашага падарожжа. А яшчэ — капліцу сямейства археолага Вандаліна Шукевіча — усё ў той жа Начы.

Ліпеньскі поўдзень раскашаваў ва ўсю моц: па ўсей Начы выглядалі з-за агароджаў галіны, усыпаныя яшчэ недаспелымі яблыкамі ці пунсовымі вішнямі, тоўстыя зялёныя конікі лянiва скакалі па пажаўцелай пасля спёкі траве.

У сельсавеце мы заспелі старшыню Ніну Адольфаўну Дзятчык. Пільна праверыўшы нашыя дазволы на ўезд у раён, яна згадзілася праехаць з намі да капліцы Вандаліна Шукевіча.

Вандалін Шукевіч (10.12.1852 — 1. 12.1919) — гэта таксама гонар не толькі Воранаўшчыны. Член-карэспандэнт Кракаўскай акадэ-

міі навук, даследчык археалагічных помнікаў, ён зрабіў вялікі ўклад ў краязнаўчую і гістарычную навуку аб Беларусі. Нарадзіўшыся ў Начы і ў дваццаць гадоў вярнуўшыся сюды, ён за гады сваей дзейнасці раскапаў і даследаваў 170 каменных магіл. Раскапаў 16 курганоў і 376 так званых жальнікаў (каменных магіл). Энцыклапедыі называюць яго беларускім археолагам, антраполагам, краязнаўцам і этнографам. І гэта справядліва. Вось толькі некаторыя назвы яго шматлікіх артыкулаў: «Музей Федаровіча», «Успаміны з 1863 года», «Замак у Лідзе», «Раскопкі ў Начы (Лідскі павет)». Усё гэта — нашая даўніна, пра якую мы ведаем зусім невялікую частку...

Яго родавы маёнтак недалёка адсюль (трэба напісаць знаходзіўся), бо зараз там воданапорная вежа і зараснікі. Буслы, што звілі на вежы сваё гняздо, аб нечым клякочуць сваім буслянятам, а пасля ўздымаюцца і лятуць на захад. Для іх усё роўна, што праз якіх дзвесце метраў яны перасякаюць паветраную мяжу між краінамі, яны кружаць над лапікам зямлі, дзе заканчваецца асфальт і стаіць шлагбаум. Гэта ўжо тэрыторыя, куды заходзіць забаронена, бо за недалёкімляском ашчацінілася дротам дзяржаўная мяжа з Літвой. А з нядаўняга часу з Еўрасаюзам. Родавая капліца Шукевічаў стаіць на поўдзень ад вёскі Нача, на ўзвышшы, сярод магутных соснаў.

У нядаўнія часы гэтая капліца ў гатычным стылі, што была пабудавана каля 1850 г. па ініцыятыве бабкі В. Шукевіча Ганны з роду Каспшыцкіх, а таксама і склеп з парэшткамі пахаваных тут прадстаўнікоў роду Шукевічаў, была разбурана, косці нябожчыкаў валяліся вакол, і спраў да гэтага не было, здавалася, нікому. Не раз капліцу рабавалі рознага кшталту вандалы, шукалі, мабыць, багацці ці каштоўныя рэчы (знойдзеныя сярод парэшткаў савецкія процівагазы паказваюць маштабы гэткіх «пошукаў»). Таму шкілеты, чарапы, косткі былі раскіданы па зямлі, перамешаныя самым жахлівым чынам. Сама капліца была моцна пашкоджана і амаль разбурана.

Апошнімі часамі перад самай перабудовай мясцовы старшыня калгасу, кажуць, збіраўся на месцы падмурка пабудаваць рыбацкі дамок, каб удалечыні ад цікаўных вачэй частаваць тут прыязджае начальства. Зрэшты, ва ўсе савецкія часы асаблівым шыкам афіцыйных разбуральнікаў лічылася «баляванне на касцях»: на месцы могілак рабілі танцавальныя пляцоўкі, на месцы храмаў — прыбіральні альбо склады. Такіх прыкладаў безліч, дык чаму ж атэіст-начальнік павінен быў думаць пра павагу да памерлых, пра цішыню ў месцы апошняга чалавечага прыстанішча? Ды, зрэшты, і пра тое, што тут пахаваны людзі, якія нямала зрабілі для свайго краю? Не сумняваюся: ён ведаў, што тут пахаваны археолаг і гісторык Шукевіч!

Ведаў, бо ў пяцідзесяці метрах ад капліцы стаіць касцёл Ушэсця Дзевы Марыі, дзе месціцца магіла гісторыка Теадора Нарбута, а гэтыя імёны звязаны між сабою і духоўнай дзейнасцю, і родавымі сувязямі.

Нават у савецкія часы штосьці ж далятала да вушэй «слуг народа», асабліва тых, хто тут нарадзіўся і ад бацькоў і дзедаў чуў хаця б абрыўкі тутэйшай гісторыі!

Часы адраджэння дазволілі знаўцам гісторыі, перш за ўсё Івану Фясенку, узняць голас у абарону памяці выдатнага вучонага. Яны ж, энтузіясты, знайшоўшы грошы, хаця і невялікія, у суседняй Польшчы, змаглі пачаць адбудову капліцы, да чаго нарэшце далучыліся і ўлады. Агульнымі намаганнямі, да пачатку рэспубліканскай навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі, што адбылася ў г. п. Радунь 11 снежня 2004 г., прысвечанай гісторыі Воранаўшчыны, капліца была адбудавана і добраўпарадкавана, а памерлыя знайшлі, нарэшце, прыстанак ізноў (спадзяемся, цяпер ужо назаўжды). І. Фясенка расказваў пра тое, як гродзенскім археолагам Генадзем Семенчуком быў ідэнтыфікаваны шкілет самога Вандаліна Шукевіча па ... уласнаму апісанню сваіх (г. зн. Шукевічавых) антрапаметрычных дадзеных.

Гучала гэта як нейкая легенда, і, забягаючы наперад, зазначу, што я, адшукаўшы гродзенскі тэлефон археолага, патэлефанавала яму.

— Гэтую ідэнтыфікацыю правяло некалькі нашых навуковых супрацоўнікаў, і перш за ўсё з дапамогай польскай даследчыцы Марыі Магдалены Бломберговай, — адказаў Г. Семянчук. — Калі Вам цікава, магу выслаць наш агульны даклад з той навуковай канферэнцыі.

Безумоўна, мне было гэта надзвычай цікава! І вось, атрымаўшы некалькі старонак з дакладам «Вынікі археалагічна-антрапалагічных даследаванняў родавай капліцы Шукевічаў у вёсцы Нача Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці», перад якім стаялі прозвішчы даследчыкаў А. А. Дабрыяна, В. А. Емяльянчык, С. А. Піваварчыка, Г. М. Семенчука, я даведалася пра гісторыю гэтага сапраўды незвычайнага даследавання.

Прыводжу цытаты з гэтага даклада:

«Прафесар універсітэта ў Лодзі Марыя Магдалена Бломбергова перадала нам спіс 9 асобаў, якія, магчыма, былі пахаваны ў капліцы ў Наны (за гэта аўтары шчыра дзякуюць ёй). Гэта:

1. Вандалін Шукевіч нар. 28.11/11.12.1852 — памёр у 1919.

2. Першая жонка В. Шукевіча — Браніслава з Паўловічаў Шукевіч — памерла 18.11.1885(7).

3. Ванда Аліна, дачка В. Шукевіча, нар. 28.11.1879 — пам. 19.1.1910. Жонка Тэадора сына Баляслава і Габрыэлі з Нарбутаў.

4. Ідалія Седлікоўская, сястра В. Шукевіча, нар. у 1850 — пам. у лістападзе 1919.

5. Аліна, дачка Мацея Воўк-Карачэўскага, маці В. Шукевіча, — памерла 18.11.1909.

6. Анна з Каспшыцкіх Шукевіч, бабка В. Шукевіча.

7. Аляксандр Шукевіч. Бацька В. Шукевіча, нар. 29.11.1819 — пам. 22.12.1891.

8. Браніслаў Паўловіч, сын Уладзіслава Абакановіча, настаўніка В. Шукевіча. Рэдактар газеты «Goniec Codzienny», — памёр у 1912 (праф. Бломбергова пераканана, што пахаваны ў капліцы).

9. Уладзіслаў Абакановіч, настаўнік і сябра В. Шукевіча, — памёр у 1895 (мог быць пахаваным у капліцы, але таксама і на могілках у Начы) (?).

10. Тэадор, сын Баляслава і Габрыэлі з Нарбутаў (таксама пад пытаннем).

Але як знайсці сярод усіх іх менавіта самога гісторыка і археолага? Паколькі і сапраўды ва ўзросце 49 год ён падрабязна апісаў свае антрапалагічныя дадзеныя, якія даследчыкам даслала тая ж пані Марыя Магдалена, то яны і зрабілі свае вывады пасля вымярэння парэштак на іхняй аснове, а таксама «на падставе супастаўлення звестак аб узросце на час смерці». У Вандаліна Шукевіча, апроч таго, «чэрап вылучаецца надзвычай вялікімі памерамі, ... выходзіць за межы максімальных велічынь нармальных варыяцый памераў мужчынскіх чарапоў».

Такім чынам, выкінуты з труны няўдзячнымі нашчадкамі, славуты вучоны нарэшце супакоіўся разам з блізкімі яму людзьмі там, дзе і ляжаў раней. Адноўленая ж капліца пакуль пустая, але мяркуецца, што нейкія экспанаты (магчыма, дакументы) аб сямействе Шукевічаў там будуць знаходзіцца, каб наведвальнікі маглі хаця што-кольвечы даведацца пра дзейнасць гісторыка і пра яго блізкіх. А ведаць хацелася б многае. Хто такі, напрыклад, Уладзіслаў Абакановіч і чаму ён мог быць пахаваным у сямейным склепе Шукевічаў? З «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» даведваемся, што В. Шукевіч у сваім артыкуле «Народныя вераванні і абрады (забабоны, прымхі, варожбы і г. д.), сабраныя ў Віленскай губерні», выкарыстаў фальклорныя запісы свайго настаўніка У. Абакановіча. Відаць, іх звязвала моцнае сяброўства і духоўная блізкасць. З энцыклапедыі ж робім высновы, што ў Беларусі сёння адшукаць усе артыкулы В. Шукевіча, мабыць, немагчыма: з пералічаных там артыкулаў у крыніцах цытавання і звестак узгадваюць толькі тры.

Дарэчы, мясцовыя вандалы зноў не сунімаюцца: выкапалі тры серабрыстыя елачкі, пасаджаныя ля капліцы, а таксама вывернулі і скралі трохметровы крыж каля яе. Вынікі гістарычнага бяспамяцтва і адносін да гісторыі — наяве. Але няма іншага шляху, як вяртаць нашаму народу Памяць, а з ёю і правілы чалавечага быцця, выкладзеныя яшчэ ў Евангеллі...

І з гэтымі думкамі мы паехалі да касцёла Ушэсця Дзевы Марыі, які адсюль, ад капліччкі, выглядаў асабліва велічным і нетутэйшым.

Ён ўзвышаўся над ваколіцай і здаўся мне занадта вытанчаным тут, у глушэчы, куды не проста заехаць турысту ці аматару даўніны, увогуле старонняму чалавеку.

Магіла Тэадора Нарбута месціцца ля самага ўвахода, ля касцельнай агароджы, і той, хто ідзе ў касцёл, абавязкова пройдзе паўз яе. Нядаўна пад час навальніцы на чыгунную ўзорыстую агароджу вакол магілы звалілася недалёкае дрэва, выдрабіла з яе кавалак, які ледзьве трымаецца. Надпіс на польскай мове, выбіты на надмагіллі, чытаецца з цяжкасцю, асабліва даты жыцця і смерці: «Тэадору Осцік-Нарбуту, аўтару «Дзеяў народа літоўскага». Нар. 8 лістап. 1784 г. Пам. 15 лістап. 1864 г.».

...Поўнага дзевяцітомніка Т. Нарбута няма нават у Нацыянальнай бібліятэцы (ёсць восем тамоў з яго, але першы ўзяты зусім з іншага выдання). Сёння гэта — рарытэт. Але як жа нам было б патрэбна ягонае, хаця б ратапрынтнае, выданне! А яшчэ лепей — пераклад з польскай мовы ўсіх дзевяці тамоў. Як на мой не надта дасведчаны погляд, дык Нарбут ўсё ж блытаў жмудзінаў і літвінаў, і, скажам, першы том пра міфалогію «народа літоўскага» цалкам апісвае толькі язычаскія вераванні жмудзінаў, у той час як астатнія тамы у большай сваёй частцы апісваюць гісторыю сучаснай Беларусі (як адзначаў наш славуты даследчык Мікола Ермаловіч, Літвой называлася ў гістарычныя часы Прынямонне са сталіцай у Наваградку, вакол якога сабраліся беларускія і літоўскія землі).

Але і вераванні сучасных літоўцаў (жмудзінаў) нам надзвычай цікавыя, паколькі вякамі звязаны з нашай, беларускай гісторыяй.

Нарбут блізкі нам і як гісторык (ён прыводзіць у сваіх кнігах шмат страчаных на сёння дакументаў), і як змагар за Свабоду.

Лёс раскідаў магілы яго блізкіх: сын Людвік, славуты камандзір паўстанцаў 1863 г., спіць вечным сном ужо за мяжой, у Літве, Станіслаў, браслаўскі лекар, пахаваны на старажытнай гары ў Браславе. Жонка Крысціна ляжыць паблізу недалёкага адсюль родавага маёнтка ў Шаўрах.

Маёнтка, праўда, даўно няма, адно няспешна бруіцца ўнізе Кабылін ручай. Калісьці сюды, да каменя са следам конскага капыта, прыходзілі людзі, каб палячыцца, і легенды, узніклыя на Кабыліным ручаі, Нарбут запісаў. Пазней, адразу пасля паўстання 1863 г., Мураўёў-вешальнік загадаў раскідаць «асінае гняздо». У савецкія часы, па звычайнай завядзёнцы барацьбітоў з «праклятым мінулым», на месцы падмуркаў пабудавалі кароўнікі. Цяпер пустыя і кароўнікі: мясцовыя жыхары расказваюць, што гады са тры таму пасля іхніх пратэстаў на малыя заробкі закрылі гэтую ферму і кароў перавялі ў суседнюю вёску Доцішкі, пакінуўшы людзей увогуле без працы. Бунтарны дух Нарбутаў жыве тут і цяпер: кажуць, што пад час апошняй выбарчай кампаніі ўся вёска галасавала за апазіцыю. У гэта можна паверыць, наведаўшы мясцовы могільнік метрах у трохсот ад вёскі Шаўры: магілы Крысціны Нарбут і двух Нарбутаў — Жыгімунта, які памёр у 22 гады, і Баляслава (памёр у 46-ць), што месцяцца налева, адразу пасля ўвахода, хаця і не ў ідэальным стане, але не занядбаныя: тут стаяць свечкі, ляжаць вянкі са штучных кветак, яшчэ не надта выцвілыя ад дажджоў Значыць, людзі прыходзяць сюды пастаянна, і, хутчэй за ўсё, гэта якраз мясцовыя, — дабрацца да Шаўраў турыстам ой як не проста!

Мы з Іванам Фясенкам і маім мужам Ягорам Ягоравічам выпалалі маладую траву, што паспела нарасці на магілах, папраўілі вянкі, што пахіліліся ад ветру. Пратапталі сцяжыну да помніка ў гонар Нарбутаў, пастаўленага гродзенскім клубам «Пагоня», чальцом якога быў у той час знаны гісторык Міхась Ткачоў. Гэта вялізны валун пад два метры вышынёй, на якім прымацавана таблічка з надпісам: «Narbutam udzielnikam paustannia 1863-64 h» і які стаіць па-за могілкамі ля дарогі.

Навокал не было ні душы, толькі паныла скрыгатаў ад ветру кавалак бляхі непадалёку ад нас ды шумела кустоўе вакол могілак. Мне бачыліся іншыя часы, калі тут кіпела жыццё і ў недалёкі маёнтак прыязджала інтэлігенцыя з усяго краю. Тэадор Нарбут да часу паўстання меў ужо пад восемдзесят, ягоны інтэлектуальны набытак быў значны і важкі. Дзяржаўны гвалт, які адбыўся над Рэччу Паспалітай, калі яе раздзерлі «тры каранаваныя драпежнікі», быў для яго невыносны. Дзеля Свабоды ён ахвяраваў усім, што ў яго было: маёмасцю, спакоем, а галоўнае — сваёй горача любімай сям'ёй.

Вальналюбныя традыцыі былі ў рода Нарбутаў заўсёды. Яго стрыечны брат Юстын (1773-1845) камандаваў ў час паўстання 1794 г. палком, што змагаўся пад Соламі, а было яму тады ўсяго 19 гадоў.

Беларускія гісторыкі за кароткі час апошняга адраджэння змаглі зрабіць мноства спраў па ўвекавечанні памяці славутых людзей Бацькаўшчыны, асабліва забытых у савецкія часы ўдзельнікаў паўстанняў на Беларусі. Шмат паспеў зрабіць Міхась Ткачоў. Гэта ён і яго паплечнікі аднавілі помнік паўстанцам, што знаходзіцца за касцёлам непадалёку ад магілы Т. Нарбута ў Начы, гэта ён разам з археолагам і пісьменнікам Міхасём Чарняўскім і біёлагам, знаным грамадскім дзеячам і краязнаўцам з Гродна Андрэем Майсяёнкам дапамагаў настаўніку Радунскай школы Івану Фясенку ў арганізацыі музея. Ён марыў рабіць раскопкі радунскага замка, бо, апроч усяго іншага, менавіта тут была падпісана шлюбная дамова між славутай Барбараю Радзівіл і ейным першым мужам Станіславам Гаштольдам. Ткачоў напісаў пра замкі Беларусі кнігі, якія, безумоўна, будуць патрэбнымі і праз шмат гадоў. Колькі мог бы зрабіць яшчэ гэты мужны і таленавіты палітык і гісторык, каб не заўчасная смерць! Імя Міхася Ткачова сёння — у пантэоне барацьбітоў за Свабоду, якую ён абараняў і спавядаў да апошняга дыхання...

Тут, у Шаўрах, на ўскрайку беларускай зямлі, асабліва яскрава разумееш ролю неабыякавых людзей, у сэрцах якіх гарыць імкненне бачыць сваю радзіму свабоднай і дэмакратычнай. Таталітарызм не любіць узгадваць пра герояў, якія жылі і змагаліся не за яго, ён знішчае кожны напамінак пра Свабоду і яе рыцараў. Але такія, як Міхась Ткачоў, як Іван Фясенка, ва ўсе часы стараліся, каб не згасла полымя светлых душаў, дух супраціўлення злу.

І па тым, як кранае Іван Іванавіч волат-камень, што стаў помнікам змагарам за свабоду, амаль патанулы ў буйной зеляніне, як расчышчае сцяжынку да яго, адчуваецца, наколькі дорага яму ўсё, што ён паказвае, у што разам з сябрамі ўклаў немалую часціну сваёй душы. Мы працуем, расчышчаючы сцяжынку, і я пачынаю распытваць яго пра сям'ю, пра паходжанне. Як высвятляецца, яго радаслоўная ідзе ад прусаў, якія ў часы крыжацкай навалы збеглі на Украіну, так што бацька яго — з Палтаўшчыны. Маці ж, Лёгкая Ванда Антонаўна, з Брэстчыны. Двое сыноў, добрая сям'я. Ці разумее жонка ягоныя імкненні, асабліва ж тыя траты, якія з сямейнага бюджэту ідуць на музей, на грамадскія справы? Так, іначай цяжка было б працаваць, бо на пачатку адраджэння было пэўнае супраціўленне ўсім высілкам энтузіястаў. Ён з горыччу расказвае пра зніклыя ў 90-я гг. у некаторых школьных музеях Воранаўшчыны экспанаты, пра свае дарэмныя хаджэнні з кабінета ў кабінет і непаразуменні. І тут жа зноў пераходзіць на тэмы, якія яго найбольш хвалююць: на тое, чым яму дарагі Вандалін Шукевіч («Зрабіў болей, чым сёння які дыпла-

маваны і ганараваны акадэмік»). Гаворыць пра разбурэнне унікальных татарскіх могілак і самай старажытнай у ВКЛ мячэці. Калі мы скончылі расчышчаць сцяжыну, ён рашуча кіруе да аўто:

— Гэтыя могілкі я вам мушу паказаць!

Прызнаюся — у гэткую спякоту хацелася хутчэй заехаць у цянёк, выпіць вады, ды і паесці ўжо было б зусім няблага... Але, як усе апантаныя людзі, Іван Іванавіч не прымаў нашых слабых пярэчанняў. І мы павольна паехалі па закінутай утравелай дарозе, дзе магутныя сцябліны хвасталі па днішчы машыны, і зайшлі-такі на абгароджаны каменнем старажытны могільнік, дзе сярод бур'яну тырчэлі каменныя стэлы. Спатыкаючыся аб камяні, якіх не бачна было ў траве, што дасягала ледзь не да плячэй, з цяжкасцю дабралася да самай прыгожай, дзе яшчэ захаваўся пашчэрблены надпіс: «Гардемарин Морского корпуса Александр Искандер Абу-Тамбович Мухля, сын полковника артиллерии. Род. 17 марта 1890 г. Умер 7 февраля 1912 г. во Франции в Ницце. Мир праху твоему, дорогой сын».

Кароткі надпіс — а за ім цэлая гісторыя! Дваццацігадовага гардэмарына бацька вёз з самой Ніцы, каб пахаваць на зямлі, якую ён сам і яго нашчадкі лічылі роднай... А само рассяленне татар на гэтай зямлі звязана з вялікім князем Вітаўтам, пра якога я якраз і пішу... Так што нездарма, мабыць, я апынулася тут, на татарскіх могілках, побач з мячэццю, ад якой засталася толькі яма, парослая бадыллем! Можа, для таго, каб хаця ў Слове захаваць памяць пра нашае гераічнае мінулае і пра іншаземцаў, якія ў сваіх «аль-кітабах» зберагі фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, амаль страчанай самімі яе носьбітамі! Вось толькі горыч падступала да вуснаў ад гэтага занядбання, ад надпісаў на старых магілах, якія не тое што гаварылі — галасілі, бо за кожным словам — боль і спадзяванне на тое, што Памяць — застанецца...

І ўсё ж дзякуй Вам, Іван Іванавіч, — і за гэтую горыч, і за ўсё, што ўбачыла ў Радуні, Начы і Шаўрах. Бо горыч — яна мае асаблівасць зноў клікаць да рабочага стала, зноў занатоўваць перажытае, бо я ўпарта веру ў тое, што хоць нешта з напісанага ўсё ж застаецца.

## Я Ў КРОШЫНЕ ЖЫЦЬ НЕ БУДУ...

Калісьці, яшчэ працуючы на Гродзенскай студыі тэлебачання, я шмат ездзіла па вобласці і рабіла перадачы пра многіх дзеячаў Заходняй Беларусі, а таксама пра тыя мясціны, якія хацела пабачыць. Кажуць жа жартаўліва, што навука — гэта спосаб задаволіць сваю цікаўнасць за дзяржаўныя грошы. Я таксама задавальняла гэтую сваю цікаўнасць, а тым часам і расказвала люду паспалітаму пра гісторыю роднага краю. Што гэта было ім цікава, даказвалі шматлікія лісты, што прыходзілі на адрас тэлевізійнай студыі.

Аднойчы, недзе ў 1971 г., выправіліся мы з фатографам Янушам Габінскім у Крошын Баранавіцкага раёна (ці, як казалі мясцовыя, Крашын). Якраз тады ў «Гродзенскай праўдзе» з'явілася невялікая зацемка адной з супрацоўніц гістарычнага архіва пра дакументы адносна «бунту крошынскіх сялян» (якія раней належалі дзяржаве) супраць паншчыны, уведзенай новым уладальнікам маёнтка. Узгадваўся там і Паўлюк Багрым, сасланы ў салдаты на 25 гадоў, і ягоны верш, і ягоная жырандоля ў мясцовым касцёле. Чым не тэма для перадачы?

Спачатку мы заехалі ў Баранавіцкі краязнаўчы музей, каб папоўніць свае веды пра Паўлюка Багрыма. На маё здзіўленне, там ніхто (сёння нават не верыцца, што былі такія часы!) не ведаў ані пра Багрыма, ані пра ягоныя вершы. Заставалася ехаць у Крошын.

... Касцёл, дзе тады месціўся склад зерня, быў зачынены, а ўладальнік ключа, загадчык склада, адсутнічаў. Але, абышоўшы касцёл, мы зразумелі, што зрабіць здымкі мы здолеем: адно акно было выбіта. «Можа, нас не заарыштуюць за набег?» — пасмяяліся мы з Янушам (у тыя часы тэлевізійшчыкі былі ў зоне асаблівай аховы і ўвагі ідэалагічных службаў і ніякі старшыня калгасу не асмеліўся б рабіць нам заўвагі!) і рашуча палезлі ўнутр. Побач з акном валяўся кавалак каванай агароджы, і па ім, як па драбінах, першым палез фатограф, за ім — я. Паспяхова скочылі на адзінокі мех з зернем і агледзеліся.

У касцёле было пуста, пыльна і самотна. Вольныя галубы лёталі туды і назад, сілкуючыся колькі хацелі калгасным зернем, рассыпаным на падлозе. Жырандоля, узорыстая і нейкая адрачоная, нагадвала ўдаву ў чорных карунках, што пасылае малітвы ў нябесную высь, не зважаючы на тое, што дзеецца навокал.

Перадача ўдалася. Хапіла для таго дакументаў у гродзенскім архіве, нашых здымкаў ды самога верша Паўлюка Багрыма, інсцэніраванага пад міні-спектакль. Мабыць, тут мела значэнне і любоў, з якою

я рабіла перадачу пра людзей, што змагаліся за сваю свабоду. Гледачоў таксама захапіла гісторыя хлопца, у якога

Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача:
«Дзе ж ты пойдзеш,
Небарача?...»

І як шчымліва гучыць наступная страфа, у якой шчасцем сталася тое, што хлопец змог ператварыцца ў ваўкалака і пайсці прэч ад усяго, што раней было дарагім. Пайсці прэч — ад гвалту і несправядлівасці:

Дзе ж я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
З шчасцем на вас азірнуся.

У адным гэтым вершы адлюстравалася амаль ўсё жыццё хлопца, дзе марай было наступнае:

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
У рэкруты б не забралі
І ў маскалі не аддалі.

Тады ж, пасля таго як тэлевізійная перадача пра Паўлюка Багрыма з вялікім поспехам прайшла на Гродзенскім абласным тэлебачанні, я напісала абразок пра сталага Паўлюка Багрыма, які вяртаецца пасля дваццаці пяці гадоў салдатчыны на радзіму, у Крашын. Рэкрутчына не зламіла яго — ён усё роўна захаваў душу, ён творыць. Ужо не вершы, а вырабы з жалеза, бо ён стаў кавалём. Творчасць — гэта яго форма пратэсту супраць сістэмы, якая спрабавала зрабіць яго ўсяго толькі бяздушным выканаўцам чужой волі... Абразок быў надрукаваны ў кнізе «Перакат» у 1987 г.

За гэты час пра паэта-каваля было складзена шмат вершаў. І ў часопісе «Спадчына» (1990. № 1) змешчаны, на мой погляд, лепшы з іх — «Магіла паэта», прысвечаны памяці Паўлюка Багрыма, які напісала Людміла Паўлікава. Я прыводжу тры яго страфы:

Паміраў стары, гаварыў людзям:
«Клопат маю я перад смерцюхнай, —
Вы запомніце, людзі добрыя,
Што скажу я вам у апошні час, —

І сказаў стары: — Ёсць касцёл у нас
На кладах дзядоў нашых, прадзедаў,

На рагу яго спіць паэт адзін
Пад вялікім зымшэлым каменем.

У няволі жыў — ледзь не ўсё жыццё,
Ледзь не ўсё жыццё — у салдатчыне.
На чужыне той думы грозныя
У радкі складаў мовай наскаю.

Вершаў пра «заступніка за волю» можна цяпер ужо адшукаць нямала, калі пакорпацца ў кніжках нашых беларускіх паэтаў. І гэта не выпадкова: надта маляўнічы і прыгожы вобраз паэта-каваля немінуча будзе натхняць яшчэ не адно пакаленне!

Яшчэ праз нейкіх дзесяць гадоў, на свяце Багрыма ў Крошыне, баранавіцкі краязнавец Міхась Маліноўскі ўшчэнт раскрытыкаваў усе працы пра паэта Багрыма, называючы іх легендамі. Ён сцвярджаў, што верш пісаў не Багрым, а нехта іншы, і жырандолю рабіў таксама не ён. Вось і ў часопісе «Гістарычная брама» (Пінск, 2004. № 1 (22) разам з матэматыкам Аляксандрам Ільіным ён сцвярджае: «Найбольш магчымым аўтарам згаданага верша, на наш погляд, з'яўляецца польскі і беларускі паэт У Сыракомля (Л. Кандратовіч), творчасць якога ўвабрала ў сябе магутную моц вялікага Кабзара. Ці не пра тое гаворыць і вядомы яго верш «Сельскі музыка»?» (з артыкула «Паўлюк Багрым і Тарас Шаўчэнка: хто ў каго пераймаў?»).

Гэтае абвяржэнне пакуль што не прыжылося. Людзі звыкліся з легендай (калі гэта сапраўды легенда!). І сёння на магілу Багрыма прыязджаюць і прыходзяць маладыя і сталыя людзі, а сама магіла набыла новы выгляд, — тут стаіць сучасны помнік, а ў касцёле даўно, ужо другое дзесяцігоддзе, ідуць набажэнствы, і маладым не верыцца, што тут быў склад зерня, і галубы лёталі праз разбітае шкло, і пыл уздымаўся ля сцен...

1 верасня 2006 г. я пабывала тут ізноў. На гэты раз на паэтычную сустрэчу да магілы Багрыма прыехалі сябры баранавіцкай суполкі Таварыства беларускай мовы пад кіраўніцтвам цудоўнага чалавека, шчырага беларускага патрыёта-дэмакрата Віктара Сырыцы. Сярод іх — паэты Алесь Корнеў і Алесь Бакач, бард Галіна Ярашэвіч, іншыя маладыя творцы.

Мы чыталі вершы, якія, як чара з віном, ішлі па крузе, і здавалася, што сам дух свабоды лунае навокал. Усе мы ўсведамлялі, што нашая сустрэча — незаконная, бо калі збіраецца звыш трох чалавек, павінен быць дазвол уладаў, іначай за гэта мы маглі панесці адказнасць. Кожны з нас даўно быў «пад прыцэлам». І сапраўды: Сырыцу, напрыклад, за дэмакратычныя погляды прымусілі пакінуць любімую

працу выкладчыка. У яго абарону мы складалі заяву на імя баранавіцкіх уладаў.

Але свята, наладжанае ў Крошыне ў першы дзень навучальнага года, запомніцца надоўга. Былі маладыя, шчырыя вершы, і гарачыя словы, і свята Літаратуры, якое мы наладзілі каля старадаўняга касцёла (там мы сабраліся пасля паэтычнай імпрэзы), дзе жырандоля з запаленымі свечкамі здавалася мне ўжо не маркотнай удавой, а строгай паннай на малітве за Беларусь.

І, папраўдзе, мне не так ужо і важна, хто пісаў той славуты верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы» і ці той жа паэт рабіў гэтую жырандолю. Яны як матэрыяльны і духоўны набытак засталіся для нас, нашчадкаў, і вельмі хачу верыць, што і ў наступных стагоддзях тут будуць збірацца людзі, для якіх свабоду здабывалі і нашыя папярэднікі, і — у ланцугу гадоў — мы, сённяшнія беларусы...

# СВІСЛАЦКАЯ ГІМНАЗІЯ

Я не ведаю іншай навучальнай установы на сучаснай беларускай зямлі, якая на ўсё XIX ст. стала б сімвалам супраціўлення і свабоды так, як гэтая...

Сёння тут месціцца бальніца. А мусіў бы знаходзіцца філіял гісторыка-краязнаўчага музея, бо адно выпускнікі Свіслацкай гімназіі, якая ўзнікла на пачатку XIX ст., іхнія выявы, адлюстраванні лёсаў і здзяйсненні занялі б ўвесь гэты даволі вялізны будынак з дарычнымі калонамі і тоўстымі, як у крэпасці, сценамі.

Хаця гісторыя Свіслацкай гімназіі пачалася раней, а менавіта ў 1806 г., калі яна месцілася ў іншым, драўляным, будынку, гэты, захаваны часам да сёння гмах таксама ўтрымлівае многія таямніцы, і цені мінулага, відаць, уначы блукаюць па калідорах, дзе некалі юныя гімназісты складалі планы супраціву і змагання.

Дзякуючы менавіта гэтым вызваленчым ідэям, што луналі і сярод выкладчыкаў, і сярод вучняў, тут ужо ў 20-я гг. XIX ст. існавалі тайныя таварыствы і менавіта адсюль выйшлі будучыя кіраўнікі паўстання 1831 г. Віктар Гельтман, Леан Зянковіч і Рэйнальд Сухадольскі, а таксама будучы славуты мастак, піяніст і кампазітар Напалеон Орда. Імёны іншых не менш вядомыя: гэта і Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў ужо наступнага, 1863 г. паўстання, два браты-пісьменнікі Юзаф Ігнацы і Каэтан Крашэўскія, браты Кастусь і Віктар Каліноўскія, выдатны вучоны, акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук, сын бераставіцкага уніяцкага святара Восіп Кавалеўскі (сёння яго імя носіць бібліятэка ў Вялікай Бераставіцы), прафесар Станіслаў Бантысь Горскі і многія іншыя.

Але, безумоўна, самы славуты з усіх выпускнікоў Свіслацкай гімназіі — Кастусь Каліноўскі, якога бацька, следам за старэйшым сынам Віктарам (які вучыўся тут з 1841 г.), прывёз у Свіслач ў 1847 г.

Характэрна, што многія з гэтых славутых выпускнікоў не маглі менавіта з-за сваіх вольналюбных ідэй і ўдзелу ў супраціўленні заставацца на радзіме, і сёння магілы іх раскіданы па ўсім свеце: Віктар Гельман памёр у Бельгіі, Леан Зянковіч — у Парыжы, дзе доўгі час жыў і Напалеон Орда.

Дзе магіла Кастуся Каліноўскага, павешанага ў Вільні 22 сакавіка 1863 г., дасюль не вядома.

Меры супраць ідэй вольналюбства прымаліся жорсткія: вучняў каралі розгамі, выключалі з гімназіі, аддавалі ў салдаты. Але нічога не дапамагала: дух вольнасці тут не знікаў ніколі.

Улады добра разумелі, што такую гімназію трэба тэрмінова зачыняць, расфарміроўваць. Таму яшчэ 2 студзеня 1845 г. выйшаў загад аб пераводзе Свіслацкай гімназіі ў ціхі павятовы горад Шаўлі Ковенскай губерні. Праўда, гэта ажыццявілі крыху пазней (у сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі ў Еўропе 1846-1848 гг.): толькі ў 1851 г. На месцы ж гімназіі ў Свіслачы было створана пяцікласнае дваранскае вучылішча, — яго Кастусь Каліноўскі закончыў у 1852 г., пасля чаго пераехаў у Маскву, дзе ва універсітэце ўжо вучыўся старэйшы брат.

Паколькі хваляванні і ў вучылішчы не сціхалі, яно таксама было рэфармавана — на гэты раз у чатырохкласную навучальную ўстанову — прагімназію. Затым, за ўдзел гімназістаў у паўстанні 1863 г., прагімназія па асабістаму распараджэнню Мураўёва была зачынена канчаткова.

Папярэдняе паўстанне трагічна скончылася і для ўладара Свіслацкага маёнтка Тадэвуша Тышкевіча, які кароткі час быў старшынёй цывільнага ўрада Літвы ў час паўстання: указам ад 6 мая 1831 г. маёмасць графа, у тым ліку і сама Свіслач, былі канфіскаваны. Палац стаў разбурацца, сяляне маёнтка перайшлі ў разрад дзяржаўных сялян. Сам Тадэвуш Тышкевіч паспеў выехаць за мяжу. Сёння мала што засталося ад тых маёнткаў, сядзібаў і паркаў, якія будавалі яго папярэднікі і спадчыннікі. Не засталося і следу ад сядзібы ў недалёкай адсюль Якушоўцы, дзе ў 1849-1855 гг. жыў Кастусь Каліноўскі і дзе цяпер у знак таго пастаўлены памятны валун.

Кастусь Каліноўскі — постаць такая яркая, велічная і разнастайная, што памяць аб ім жыве і па сёння ажно ў трох народаў. Але менавіта Беларусь — вольная, дэмакратычная дзяржава, у аснову якой павінны быць пакладзены канстытуцыйны і парламенцкі вопыт Францыі, Англіі і ЗША — была той вяршыняй яго спадзяванняў, дзеля якой ён змагаўся і дзеля якой загінуў.

Асновы таму былі закладзены ў Свіслацкай гімназіі. Тут, у гэтых сценах, юны Кастусь слухаў захопленыя аповеды пра герояў паўстанняў супраць царскай дэспатыі, тут вучыўся гісторыі сваёй зямлі і спасцігаў, як здабывалі свабоду іншыя народы. Адсюль бруіцца выток яго мужнага слова ў першай дэмакратычнай газеце Беларусі — «Мужыцкай праўдзе», высокі пафас і паэтыка яго апошніх перадсмяротных радкоў:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду дзеля дабра твайго.

Усе тыя даследчыкі, што дасюль адмаўляюць Каліноўскаму ў нацыянальнай беларускай ідэі, трактуючы яго беларускую мову як вымушаную афарбоўку пад «мужыка» і ўздымаючы яго прыязныя да Польшчы выказванні як кампраметуючыя, хай узгадаюць гэтыя радкі. Перад смерцю чалавек не хлусіць. Калі б Каліноўскі не верыў у Беларусь, у яе будучае, ён пісаў бы на іншай мове. І не пра «мужыцкі народ»... Пры ўсёй маёй павазе да эміграцыйнага гісторыка Юрыя Весялкоўскага, не магу згадзіцца з ягонай крытыкай Каліноўскага як недальнабачнага палітыка, што ўзвышаў «братоў з-пад Варшавы», якім «стараўся дапамагчы коштам крыві беларускіх мужыкоў»[1].

Тыя беларускія мужыкі ішлі ваяваць за сваю волю, за свае сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы. І ахвярная смерць кіраўніка паўстання магутнай цаглінай лягла праз амаль паўтара стагоддзя ў падмурак менавіта беларускай незалежнасці...

Кастусь Каліноўскі вярнуўся ў дарагую яму Свіслач 3 лістапада 1958 г. помнікам работы Азгура, што стаіць у цэнтры горада. Ёсць і другі, што стаіць амаль насупраць былой гімназіі, сярод іншых. Праўда, тыя іншыя помнікі ў Алеі памяці насупраць былой гімназіі складаюць неверагодны кангламерат, што сустракаецца, мабыць, толькі ў Свіслачы: тут стаяць не толькі помнікі загінулым воінам апошняй вайны ды Траўгуту, кіраўніку паўстання 1863 г., але і... Леніну са Сталіным!

Аднак штогод на Дзяды людзі ідуць менавіта да помніка Каліноўскаму. Ідуць на магілу яго брата Віктара, нягледзячы на пераследы і штрафы (за ўжыванне так званай «незарэгістраванай» сімволікі — бел-чырвона-белага сцяга, пад якім нашыя продкі перамагалі захопнікаў на працягу стагоддзяў), за недазволеныя маніфестацыі (на якія не даецца афіцыйнага дазволу!), за памяць, якая, як я глыбока веру, цяпер ужо не згасне, як амаль згасала яна ў мінулым.

Спадзяюся, што былая вуліца Мсцібаўская, перайменаваная ў гонар Каліноўскага ў студзені 1993 г., так і застанецца з гэтым перайменаваннем назаўсёды, — па ёй некалі хадзіў разам з сябрамі гімназіст Каліноўскі. І школа № 1, якой 30 кастрычніка 1987 г. было прысвоена імя беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, таксама будзе з годнасцю насіць ягонае імя. Памяць павінна заставацца — і духоўная, і матэрыяльная...

Засталася і сама гімназія — яе сцены, яе аўра. І патроху вяртаецца памяць аб усім, што было звязана з ёю. Вяртаюцца ўспаміны вучняў і настаўнікаў, хаця далёка не ў поўным аб'ёме, выдавацца

[1] Цыт. па кн.: Старонкі Свіслацкага краю. Гродна, 2001. С. 157.

зборнікі матэрыялаў праведзеных навуковых канферэнцый. Прарывам для вяртання гэтай памяці сталі першыя гады адноўленай беларускай незалежнасці, пачынаючы недзе з 1989 г. Прынамсі, апошнія гады не збіраліся ў Свіслачы такія прадстаўнічыя канферэнцыі, як тая, што прайшла ў 1998 г. і занатавана ў кнізе «Старонкі гісторыі Свіслацкага краю» (Гродна, 2001) альбо праведзеная 3 верасня 1999 г. навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня заснавання Свіслацкай раённай бібліятэкі.

У Свіслачы, праўда, многія гады працаваў краязнавец Аляксандр Палубінскі, які шмат зрабіў для арганізацыі раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Вялікая яго заслуга і ў тым, што менавіта пры ім школа № 1, дзе ён працаваў, стала насіць імя Кастуся Каліноўскага. Але адзін энтузіяст, нават такі працавіты і нястомны, не можа запоўніць усе белыя плямы ў гісторыі краю, якіх багата набралася за стагоддзі забыцця і непавагі да нацыянальнай гісторыі. І хаця ён выгадаваў вучняў, пакуль што, наколькі мне вядома, яны яшчэ не здзейснілі таго, на што здатныя. Вядома, час сёння не надта спрыяльны для краязнаўчай працы, — у некаторых раёнах галоўныя рэдактары «раёнак» ужо растлумачылі сваім пастаянным аўтарам, што лепш ім перайсці на апісанне працоўных будняў на заводах і фермах, чымся корпацца ў старых паперах... Да таго ж, многія краязнаўчыя працы Аляксандра Сямёнавіча апошніх часоў раскіданы па выданнях і асобнымі кнігамі не выдаваліся. Добрае выключэнне складаюць кнігі «Памяць» Свіслацкага і Бераставіцкага раёнаў...

Я сустрэлася з А. Палубінскім на зусім кароткі час: сталы ўзрост і хваробы не дазволілі нам пагаварыць як след, бо некалькі гадзін размовы аб найбагацейшай гісторыі Свіслацкага краю, аб людзях, якія набліжалі Свабоду, — гэта зусім мала. Аднак жа ён узгадаў яшчэ цэлы шэраг людзей, чые імёны звязаны са Свіслаччу: гэта аўтар першага беларускага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» М. Касцевіч (Макар Краўцоў), вучоны, пісьменнік, драматург і аўтар «пакуль неадшуканай, напісанай ім першай літоўскай (беларускай) граматыкі Станіслаў Іванавіч Богуш-Сестранцэвіч» (цытата з артыкула А. Палубінскага), дырэктар першай беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, аўтар «Граматыкі беларускай мовы» Баляслаў Пачобка і нават нямецкі вучоны Рудольф Абіхт, які настаўнічаў у Свіслачы і выдаў у 1918 г. беларускі буквар «Просты спосаб стацца ў кароткі час граматным».

Кожнае імя, тут згаданае, — гэта гонар не толькі Свіслацкага краю, але і ўсёй Беларусі. Таму, стоячы ля сцяны былой Свіслацкай гімназіі, я ўсёй душой верыла, што некалі яшчэ прыеду сюды, прыйду

не да бальніцы, а ў музей (альбо яго філіял), і сустрэну на сценах партрэты дарагіх кожнаму свядомаму беларусу людзей, а таксама перагартаю старонкі іхніх твораў (няхай сабе не арыгіналы, а хаця б прысланыя з Польшчы, Расіі альбо Літвы, дзе шануюць памяць, копіі). І гэта будуць і падручнік Абіхта, і ўласнаручныя запісы мясцовых песень Рыгора Шырмы, і матэрыялы пра жыццё і дзейнасць Макара Краўцова, родзіча беларускага паэта Міхася Васілька, «Гісторыя Сьвятая або Біблійная Старога Закону» замучанага фашыстамі ксяндза В. Гадлеўскага, — і яшчэ многія, для каго свабода была неад'емнай часткай іхняга жыцця, прысвечанага Радзіме.

Пра кожнага з іх можна сказаць словамі Язэпа Малецкага, звернутымі да памяці апошняга з іх: «Кс. В. Гадлеўскі быў вялікай ахвярай на нашым нацыянальным аўтары, ня толькі як мучанік, але й як змагар вялікага стылю за вызваленне беларускага народу... Благое часам можа гіайсьці ў забыцьцё, але гэраічная пастава волата-мучаніка В. Гадлеўскага будзе нам сьвяціць вечна».

У Якушоўцы да 150-годдзя з дня нараджэння Каліноўскага вучні высадзілі алею, якую некалі распачалі рабіць яшчэ браты Каліноўскія, а раскопкі, праведзеныя незабыўным Міхасём Ткачовым, славутым беларускім гісторыкам, на месцы спаленага хутара Якушоўка, далі колькі бясцэнных экспанатаў, звязаных з домам Каліноўскіх.

І ўсё гэта — толькі часцінка таго, што нам усім трэба зрабіць дзеля ўшанавання памяці пра тых, хто змагаўся за Свабоду...

## ПА СЛЯДАХ ЛЕГЕНДЫ

Сапраўдныя кнігі чытаюцца не адзін раз. Сталеючы, ты знаходзіш на знаёмых старонках нешта новае, тое, чаго не заўважаў колькі гадоў таму. Прычын гэтаму бывае шмат — больш дакладна вызначаеш стыль, праўдзівасць характараў, літаратурныя вартасці вобразаў...

Але кнігу Элізы Ажэшкі «Над Нёманам» я ацаніла і як бы ўбачыла новымі вачыма толькі пасля таго, як, нарэшце, набралася ведаў і досведу аб паўстаннях (1794, 1830-1831, 1863-1864), якія адбываліся на нашай зямлі пасля далучэння яе да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст., а менавіта пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай

Тады па-сапраўднаму разам з аўтаркай адчула неймаверную горыч паражэнняў, ацаніла пакладзеныя за ідэю свабоды, знішчаныя альбо зламаныя жыцці адных і ўзважыла цану адрачэння ад ідэалаў тых, хто выбраў несвабоду. Тады, нарэшце, больш выразна пабачыла гістарычную знітаванасць беларускага і польскага народаў і няпростыя варункі іх агульнага жыцця ў сумеснай дзяржаве, а таксама неабходнасць памятаць пра ахвяры, некалі разам прынесеныя на алтар Свабоды.

Тады і ўзнікла неадольнае жаданне пабываць ў тых мясцінах, пра якія піша пісьменніца — несумненна, польская, але адначасна як бы і нашая, беларуская. Бо яе героі — шляхта і мужыкі — жылі тут, на Гродзеншчыне, у сённяшнім Мастоўскім раёне, дзе месцяцца Багатырэвічы. Гаварылі і на той, і на гэтай мовах, даглядалі зямлю-карміцельку і ўкладалі ў яе свой пот, працу і любоў. Яны сышлі, а зямля, у якую ляглі, засталася, на ёй сёння жывём мы, для якіх не перастаюць шапацець дрэвы, спяваць крыніцы і няспынна несці свае воды ў мора нёманскія хвалі.

Засталася і легенда — пра Яна і Цэцылію, што некалі, яшчэ недзе ў XV ст., прыйшлі сюды ў глухія нетры лесу, каб схаваць ад пераследаў сваё каханне. Ян быў простым, не знатным чалавекам, Цэцылія ж належала да высокага роду, і ў грамадстве сумеснага жыцця стварыць ім бы не далі. Але тут, у глухой пушчы, яны былі свабодныя, і каханне дало ім сілу асвоіць гэтую зямлю, нарадзіць і вырасціць дзяцей — багатыроў, што, у сваю чаргу, далі жыццё шматлікаму роду, якому, захоплены іх мужнасцю і свабодалюбствам кароль дараваў дваранства і загадаў род гэты (і вёску) назваць Багатыровічы, альбо, як яна цяпер называецца, Багатырэвічы...

Такіх легендаў шмат ходзіць па беларускай зямлі, не ўсе яны захаваліся. Магчыма, калі б не апяяла гэтае незвычайнае каханне пяро пісьменніцы, нашчадкі забыліся б на тое, чым плацілі Ян і Цэцылія за сваё каханне і чаго дасягнулі яны ўрэшце: чыстай і светлай

старасці сярод шматлікіх нашчадкаў, увекавечанай пашанай самога караля Жыгімонта Аўгуста, які надаў ім шляхецтва і прозвішча, вартае іх подзвігу, — Багатыровічы.

Трохі далей ад Багатырэвіч якраз і знаходзіцца магіла паўстанцаў, апісаная ў рамане «Над Нёманам» з вялікай літары — Магіла. Яшчэ тады, у часы напісання рамана (1886-1987) яна знаходзілася ў лесе, і апісанне духоўнага стану галоўнай гераіні рамана Юстыны Ажэльскай, якая прыязджае сюды разам з каханым Янам, на мой погляд, лепшае ў гэтай узнёслай, светла-трагічнай кнізе:

«У жыцці асобных людзей і цэлых народаў бываюць перыяды такіх нягод, што кубак гора здаецца перапоўненым да краю. Юстына была дзіцём такога бясчасся, і таму з магільнага кургана ў душу як ўварвалася плынь пачуццяў і думак, калі і не зусім новых для яе, дык усё ж мала знаёмых і не зусім акрэсленых. І яна так ўвайшла ў іх, што зусім забылася на сябе.

Магчыма, першы раз у жыцці прыйшло да яе гэтае забыццё; яна адчувала толькі, што сэрца яе шырылася, спявала і напаўнялася цяплом, быццам з травы, да якой яна прыхінулася грудзьмі, вырывалася нейкае нябачнае полымя і працінала яе. Ці не быў гэта менавіта той агонь, які гарэў некалі ў грудзях тых, хто спаў цяпер непрабудным сном ў адзінокай магіле, ці то былі нябачныя іскрынкі, якія выкідала ў свет вечнае полымя, якім гарэлі пад зямлёй іх косці, — полымя, атрыманае імі ў дарунак замест лаўровых вянкоў?

Адзінота і забыццё. Колькі вёснаў, колькі зім прайшло над гэтым магільным узгоркам, што высіўся за возерам бясплодных пяскоў, абкружаны старым борам! Колькі за гэты час пранеслася над светам радасных, гучных, воклічных крыкаў, але ніякае рэха не даносіла іх сюды!»

Сапраўды, ужо адны гэтыя радкі абуджаюць у душы адчуванне цаны вечных чалавечых каштоўнасцяў — служэння высокім ідэям дабра, справядлівасці і свабоды, якія сапраўды падобныя да полымя, якое ўсё роўна праб'ецца скрозь друз забыцця няўдзячных нашчадкаў. Вырастуць новыя пакаленні — і яны прыйдуць да магіл герояў, адновяць памяць пра іхнія подзвігі і перададуць іх далей, у няспынны ланцуг пакаленняў..

Таму і карцела самой пастаяць там, ля магілы герояў паўстання, самага вядомага для беларусаў — можа, з-за таго, што з ім звязана імя Кастуся Каліноўскага.

Але прайшло столькі гадоў! Пра гэтую магілу не згадваюць нават ў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», выдадзеным у канцы

80-х гг. у «Беларускай савецкай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі». Дзе ж шукаць той лес і тое пясчанае балота «без канца і краю»?

І думалася, што там, дзе былі пахаваны паўстанцы, бадай што ўжо нічога не засталося. Тым болей усё неяк не ставала часу ў віхуры падзеяў апошняга дзесяцігоддзя...

Аднак летась мы ўсё ж выбраліся ў Мастоўскі раён. Мы ўжо ведалі, хто мог бы паказаць месца, якому Эліза Ажэшка прысвяціла самыя натхнёныя радкі свайго рамана (яна, якая нарадзілася недалёка адсюль, у Мількаўшчыне, сама брала ўдзел у тым паўстанні як сувязная атрада пад кіраўніцтвам Р. Траўгута).

Гэта, вядома ж, Лявон Карповіч — дэмакрат і патрыёт, які цудоўна ведае ўсе куточкі роднай мясцовасці і жыве ў в. Луна, ад якой да Багатырэвічаў куды бліжэй, чымся да Мастоў.

Сапраўды, спадар Лявон, даведаўшыся аб мэце візіту, адкінуў усе свае тэрміновыя хатнія справы і разам са сваім сябрам краязнаўцам Віктарам Сымонавічам Дубіцкім вызваўся паказаць і помнік Яну і Цэцыліі, і магілу паўстанцаў.

Багатырэвічы (як пішацца ў 2-м т. БелСЭ) «вёска ў Мастоўскім р-не Гродзенскай вобл., на р. Нёман. Цэнтр сельсавета. За 34 км на ПнЗ ад Мастоў, 38 км ад Гродна, 16 км ад чын ст. Чарлёна. ...Легенду пра ўзнікненне Б. падала Э. Ажэшка ў рамане «Над Нёманам». Жыхары Б. удзельнічалі ў паўстаннях 1794 пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, 1863, у Айч. вайне 1812. У часы бурж. Польшчы нас. вёскі актыўна змагалася за сац. і нац. вызваленне».

Як для 1970 г., дык такі тэкст падаецца нават рэвалюцыйным, — успомненне пра Т. Касцюшку дый азначэнне вайны 1812 г. як Айчыннай!

Аднак, як з болем канстатуюць мае суразмоўцы, вёска вымірае. Яна ўжо не цэнтр сельсавета і былога калгаса «40 год БССР», — цяпер цэнтр у в. Глядавічы. Няма дзяцей для школы — і яе разабралі на іншыя гаспадарчыя патрэбы.

Хто ж прыязджае і прыходзіць да магілы Яна і Цэцыліі?

— Кожны год тут усё роўна бывае фэст. Ксёндз ладзіць імшу, і людзі прыязджаюць нават здалёк, — адказвае спадар Лявон, кіруючы машыну да глыбокай цясніны, на краёчку якой здаля відаць разьбяны помнік, што пастаўлены на магіле заснавальнікаў вёскі Багатырэвічы, якая знаходзіцца недалёка ад вёскі Мінявічы (якой, дарэчы, няма на карце Мастоўскага раёна ў 7-м томе БелСЭ).

Адразу скажу: наўрад ці знайшлі б мы самастойна той «невялікі ўзгорак», пра які піша Эліза Ажэшка. Хіба што патрацілі б немаведама колькі часу. А так — машына, якою кіраваў Лявон Карповіч,

час ад часу ўсё ж кансультуючыся ў Віктара Сымонавіча, упэўнена пераваньвалася на выбоінах лясной дарогі, кіравала ў зарослыя высокай травой пясчаныя адгалінаванні таго, галоўнага шляху, каб аб'ехаць асабліва непрыдатныя для язды мясціны, і зноў вынырвала з глыбокіх каляін. Пасля, калі між высокіх ялін і клёнаў мільганулі хаціны Мінявічаў і засінеў Нёман, машына спынілася, і далей мы пайшлі пешкі на ўсходнюю ўскраіну вёскі і трохі далей. Вёска пустая, ды, па сутнасці, тут усяго некалькі хат. Яшчэ раз падумалася: былі б мы без нашых «праваднікоў», дык і падказаць, куды ж трэба ісці, няма каму...

Пясчанага балота тут болей няма, усё густа зарасло хвойнікам. Аднак там, дзе стаіць крыж на магіле, высокія сосны нібы паўсталі на варце, — яны атуляюць ценем і крыж, і агароджу вакол яго. Мне расказваюць, што ўсё гэта — і крыж, што нібы вырастае з вялікай цёмна-шэрай пліты, і ланцуг агароджы на тоўстых слупках — аднаўляў, а дакладней, рабіў усё нанова разам з каталіцкай грамадскасцю ксёндз Адам у 1993 г., як толькі надарылася магчымасць дэмакратычных пераменаў. Цяпер тут ёсць і надпіс: «Pamęci 40 powstańców 1863. 1993 г.». А на самім крыжы выбіта «Gloria victis» — слава ахвярам. І гэта таксама невыпадкова: менавіта так назвала Эліза Ажэшка свой апошні зборнік навел, які выйшаў у год яе смерці, а менавіта ў 1910-м. Усё сваё жыццё яна правяла на Гродзеншчыне, дзе і памерла. І даўно заняла сваё, толькі ёй належнае месца ў сэрцах як палякаў, так і беларусаў. І сваіх сучаснікаў, і нашчадкаў.

Так сталася, што першаю вуліцай, па якой я пайшла, прыехаўшы ў Гродна, была якраз яна — вуліца Ажэшкі. У якіх пяцідзесяці метрах ад яе і ад самога дамка пісьменніцы месціўся дзіцячы дом № 1, дзе я жыла з шостага па дзевяты клас і хадзіла ў школу, што была побач з тым дамком. Варта было перайсці рачулку Гараднічанку, і ты ўжо ў школе, і адтуль можна назіраць ў цёмныя зімовыя раніцы, як запальваецца святло ў бібліятэцы, а потым і ў Гродзенскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое працавала там ажно, здаецца, да самага 2000 г., калі яго бесцырымонна адтуль выставілі.

І гэта ля бюста Ажэшкі фатаграфаваліся мы, бесклапотныя дзесяцікласніцы, скончыўшы нарэшце школу...

І гэта яе творы я першымі чытала менавіта на польскай мове — спачатку з цяжкасцю, вельмі марудна, пасля ўсё хутчэй і хутчэй. І ўбірала ў сваю душу яе жывую, яркую, напоўненую пратэстам супраць прыгнёту і занядбанасці чалавечага духу прозу. І таму, калі апынулася ў яе мясцінах — тых, дзе нарадзілася, і тых, якія яна апісвала, узгадвала старонку за старонкай.

Адчувалася, што і для прысутных усё навокал нібыта дыхала духам яе творчасці, асабліва ж узгадваліся словы з рамана «Над Нёманам» аб занядбанасці гэтага апошняга прыстанішча паўстанцаў 1863 г., дзе побач ляглі беларусы і палякі і якое ў царскія, а потым у савецкія часы зберагала толькі народная памяць ды, мабыць, той агонь Духу, пра які піша Эліза Ажэшка.

І цяпер, праўда, дайсці і даехаць сюды нават у летні час няпроста. Аднак жа, калі пакліча душа, калі ўстрапянецца яна пасля палымяных словаў знанай польскай пісьменніцы, то — трэба ехаць. Ці ад Мінска, ці ад Полацка — на Луна. Там, на каталіцкіх могілках, недалёка ад дарогі на Мінявічы, ёсць яшчэ адна магіла, у якой пахаваны Ян Камінскі, які ў рамане выведзены пад прозвішчам Карчынскі. Спыніцеся і каля яе і ўжо адтуль дабірайцеся да Мінявічаў (падкажа калі не карта, дык мясцовыя жыхары). А там, не губляючы з вачэй Нёман, які віецца ўздоўж вёскі, шукайце самыя высокія сосны на усходняй яе ўскраіне — і ўзгледзіце крыж, які яны сцерагуць. І, можа, там яшчэ раз прачытаеце палкія словы жанчыны, якая заўсёды, да самага свайго апошняга дня, памятала твары высакародных сяброў па атрадзе — і шляхціцаў, і мужыкоў, і пісала пра іх, арыентуючыся на Вечнасць, дзе яны і засталіся. І словы, якія гаворыць свайму бацьку малады Вітальд, пляменнік расстралянага паўстанца, звернуты да ўсіх, хто зрабіў альбо яшчэ будзе рабіць гэты вечны выбар паміж сытым, але паднявольным існаваннем, і жыццём ахвярным, жыццём за свабоду і вольнасць чалавека: «Што закінула нам у сэрца бясконцую любоў да ўсяго малога і безабароннага, да кратоў, што рыюцца ў зямлі, — такую любоў, што мы ідзем у іхнія цесныя, цёмныя норы, хаця б гэта пагражала нам немінучай гібеллю? Што не дае нам магчымасці жыць спакойным, бесклапотным жыццём сярод раскошы і задавальненняў, што прымушае нас бегчы, ратаваць, суцяшаць, вучыць, абуджаць і ўваскрасаць».

Мне здаецца, што варта прыязджаць сюды, у сасновы лес на ўскрайку маленькай вёскі, каб час ад часу задаваць сабе тыя ж пытанні.

І — адказваць на іх...

# ЯВАР НА ВУЛІЦЫ МІХАСЯ

У тым самым Мастоўскім раёне, з Лявонам Карповічам і Віктарам Дубіцкім, мы пабылі не толькі на магіле паўстанцаў 1863 г. каля вёскі Мінявічы.

Прывезлі яны нас таксама да апошняга прыстанішча беларускага паэта Міхася Явара, ураджэнца вёскі.

Імя Явара стала ўзгадваць ўжо адразу ж там, на беразе Нёмана, калі мы выйшлі з ляска і накіраваліся да вялікага валуна, на якім белымі літарамі быў зроблены надпіс: «Марам Міхася Явара».

Краязнаўцы пачалі расказваць гісторыю ўспомнення і паэта, і яго творчасці тут, у яго родных мясцінах.

— Гэта, безумоўна, заслуга Алеся Мікалаевіча Белакоза, тады дырэктара славутага Гудзевіцкага музея, — казалі яны. — Ён першы загаварыў аб тым, што імя паэта трэба дастойна ўвекавечыць: паставіць на яго магіле помнік.

— Вельмі дапамагла ў тым Валянціна Мікалаеўна Карповіч, у 90-я гады старшыня Лунінскага сельсавета. Яна змабілізавала ажно два сельсаветы, старшынь калгасаў. Ды і Уладзімір Іванавіч Вашко, бацька пісьменніка Лявона Вашко, тады старшыня райвыканкама, падтрымаў грамадскую ініцыятыву. І былую вуліцу Энгельса ў Луна назвалі ў гонар паэта. (Старшыня калгаса Уладзімір Брыцько пасадзіў на гэтай вуліцы явары, і цяпер яны падраслі, хараша аздабляюць вуліцу. Каля яе прытуліліся каталіцкія могілкі, дзе знаходзіцца магіла паўстанца Камінскага, апісанага Элізай Ажэшка пад прозвішчам Карчынскага.)

Трэба дадаць, што і яны, нашыя вядоўцы па славутых мясцінах Мастоўскага раёна, таксама прыклалі шмат намаганняў для таго, каб вяртаць людзям самае дарагое, што насельніцтва робіць народам, — Памяць. Адчуваецца, як дорага ім тое, пра што яны расказваюць.

Міхась Явар (сапраўднае Міхась Андрэевіч Карась) — постаць трагічная. Адораны юнак, на долю якога выпала Першая сусветная вайна, Рыжская дамова, што разарвала напалам Беларусь і пакінула яго радзіму пад уладай Польшчы. Ён спаўна перажыў горыч таго становішча, калі, змяніўшы русіфікацыю, у Заходняй Беларусі стала набіраць моц не менш заўзятая паланізацыя беларусаў і праслед тых, хто хацеў годнага жыцця і нацыянальных свабодаў.

Вядома, ён не мог не падтрымаць камуністычныя ідэі, — на той час многім, у тым ліку і вядомейшым еўрапейскім пісьменнікам-дэмакратам здавалася, што ў Савецкай краіне ўсталёўваюцца тыя ідэалы свабоды, пра якія марыла чалавецтва. Як галілейскія рыбакі

пайшлі некалі за Хрыстом, так і гэты сялянскі сын, нёманскі рыбак, пайшоў за запаветамі, якія гучалі амаль па-хрысціянску. За вершы пра свабоду, роўнасць і братэрства, што чытаў на вясковых вечарынках і ў час самадзейных канцэртаў, атрымліваў арышты і пераспелы. Жыццё было цяжкім і гаротным. Здавалася, што вершы стануць тым парусам, які выцягне ўгару яго душу, дасць магчымасць узняцца над будзённасцю шэрага існавання, якое давяло яго да сухотаў. Аднак вершы яго не сустрэлі той прыхільнасці, на якую спадзяваўся. І ўсё гэта разам — і хвароба, і адзінота, і расчараванне — нахлынуўшы, прывялі да страшнага — самагубства.

На гэтую падзею адклікнуліся вядомыя ў Заходняй Беларусі творцы: паэты Міхась Машара і Міхась Васілёк, якія сябравалі і перапісваліся з паэтам. Першы прысвяціў яму верш, надрукаваны ў часопісе «Шлях моладзі» (1933, № 10):

СП. МІХАСЮ ЯВАРУ[1]

І каго ты маўчаньнем спужаеш,
Адышоўшы ў падзорную даль?
І над чым там цяпер разважаеш?
Ці нічога Табе тут ня жаль?

Наша поле здаўна небагата,
У асотах заглохлі жыта:
Але там не сьпяваюць дзяўчаты,
Не шумяць ціха з ветрам кусты.

Абарваліся звонкія струны,
Распяяны раптоўна замоўк,
Безнадзеныя хмурыя будні
І жыцьцёвая сьцежка ў змрок.

На абліччы сьцюдзёна-маўклівым
Прад сьмяротнай пячаткаю сум.
Дзе агонь тваіх творчых парываў
І ўздымы бунтуючых дум?

Я ня знаю, хто тут вінаваты
І нікога судзіць не бярусь.
Ў сэрцы боль ад прадчаснае страты

---

[1] Друкуецца без правак, згодна з часопісным варыянтам.

І за долю тваю, Беларусь.

Толькі знаю, што там, у Падзорным
Няжывым і сьцюдзёным краю
Засумуеш, Міхась, ты па родным,
Як прыпомніш жыцьцё і зямлю.

Няма часу на сьлёзы над мёртвым,
Нам, жывым — на жыцьцёвым шляху,
Трэба быць і ўпартым і цьвёрдым
У гэтым жорсткім няроўным баю.

Толькі шкода да болі вясёлых
Тапаліных напеваў тваіх.
Адшумеў між калосьсяў зялёных
І зялёным загас між жывых.

Няжывыя сьцюдзёныя рукі
І ўсьмешку балючую губ
Без дакору, бяз крыўды і мукі
Ты, зямелька, прымі-прыгалуб.

Міхась Васілёк, пра сяброўства якога з «бабылём, рыбаком сярэдніх гадоў» хораша пісаў Уладзімір Калеснік, адгукнуўся на смерць сябра лістом да Рыгора Шырмы (ад 6 лістапада 1933 г.): «Явар — гэта быў паэт з такой уражлівай, чулай душою, якіх я яшчэ не сустракаў. Прыходзілася дзівіцца, гледзячы на яго: няўжо гэты рыбак, які вось так проста сядзіць у сваім чоўне, без шапкі, чорны, загарэлы, з дзвюма ўпадзінамі замест вачэй, — мае такую паэтычную душу? Ён глядзеў на свет вачыма дзіцяці, баючыся пакрыўдзіць каго нават думкай сваёй...

Ён яшчэ жыў бы, можа, для свайго таленту, для свае песні-ідэі, але яго веру ў паэтычныя сілы разбіў Ст. Станкевіч, якому ён без майго ведама паслаў пару вершаў і які забіў яго сваёй бязлітаснай крытыкай».

Думаецца, што тут вінаваты не крытык... Проста сабралася ўсё разам, і «паэт з дзіцячай душой» не змог сумясціць рэалій жыцця і ідэалу, пра які ён пісаў у вершы, прысвечаным таму ж Міхасю Васільку:

І здавалася мне, што плывём мы туды,
Дзе пануе ўжо сьветлае раньне,
Дзе няма ўжо той мукі, ні сьлёз, ні нужды, —
Сьветазарным тым дням на спатканьне.

Вершы яго засталіся жыць — у хрэстаматыі заходнебеларускай паэзіі «Сцягі і паходні», якую склаў Уладзімір Калеснік, у іншых кнігах і газетных публікацыях (у газеце «Літаратура і мастацтва» за 1984 г. пра яго пісаў А. Пяткевіч). У Гудзевіцкім музеі Алесь Белакоз зрабіў цэлы стэнд, прысвечаны творчасці Міхася Явара.

І гэта справядліва. Бо вершы маюць сваё жыццё. Яны жывуць пасля паэта, — і гэта самае яскравае сведчанне таго, што ў іх закладзена духоўная моц і энергетыка любові. Любові да Беларусі, да роднай зямлі.

З гэтымі размовамі мы і ехалі з Мінявічаў, дзе нарадзіўся паэт, праз трохі больш людную вёску Мяшэтнікі ды кукурузнае поле, дзе жаўтаватыя мяцёлкі кукурузы амаль змыкаліся над машынай, да вёскі Навасёлкі, адкуль з паўкіламетра да Падбаранскіх, альбо, іначай кажучы, Радзівонавіцкіх могілак.

Могілкі гэтыя, некалі, відаць, закінутыя і зарослыя, цяпер выглядаюць досыць прыстойна. Адчуваецца, што тут не так даўно выразалі кустоўе, спілоўвалі старыя паламаныя дрэвы. Магіла паэта — амаль насупраць увахода, ля яе вялікая прастора і няма іншых магіл. Кажуць, тут стаяла некалі царква, што была і праваслаўнай, і уніяцкай, ад якой цяпер засталіся ледзь бачныя камяні падмурка. Але і прастора гэтая да самай магілы ўжо паспела зарасці травою, як і сама магіла.

У 6-м томе Біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменнікі» гаворыцца пра тое, што «на магіле паэта пастаўлены арыгінальны помнік з дрэва». Я і чакала пабачыць адноўлены той помнік. Але — час ідзе, і на магіле паэта цяпер пастаўлены зусім новы, над якім часу яшчэ трэба старацца і старацца дзесяцігоддзямі, а можа, хопіць яго і на стагоддзе.

Па вяртанні ў Мінск я патэлефанавала Алесю Мікалаевічу Белакозу і папрасіла яго ўдакладніць — куды падзеўся стары помнік і як адбывалася аднаўленне памяці паэта? І вось што ён мне расказаў:

«Недзе ў сярэдзіне 60-х гг. я стаў шукаць магілу паэта Явара. Месца пахавання паказаў мне мой дзядзька, які добра памятаў, колькі людзей прыйшло праводзіць паэта ў апошні шлях. Тады святар не хацеў хаваць яго на могілках, бо гэта ж быў самагубца, але пазней уступіў пад напорам грамады, якая любіла вершы паэта і настояла на тым, каб пахаваны ён быў менавіта ля самай царквы, блізка ля ўвахода. На тым месцы ўжо нічога не заставалася, аднак мы сапраўды недалёка ад яго знайшлі помнік з імем аднаго з пахаваных тут, а на адваротным боку быў надпіс аб Явары. Сястра Явара, да якой я звярнуўся, паказала тое ж месца, праўда, трохі лявей.

Паўстала пытанне — як заказаць помнік? Мне такога дазволу не далі — сумняваліся, ці варта ўшаноўваць гэтае імя. Да таго ж я чалавек чужы, не сваяк. Тады я зноў звярнуўся да сястры паэта, каб яна пацвердзіла, што я раблю ўсё ад ейнага імя як родзічкі. Аднак яна спалохалася і такога дазволу мне не дала. Ды што дазвол! Я папрасіў у родзічаў, каб яны падарылі Гудзевіцкаму музею буфет, які Міхась рабіў сваімі рукамі. Яны і тут не зразумелі, што ўсё гэта робіцца не для мяне, а для ўсіх нас: запрасілі за той буфет ажно дзевяноста рублёў! Гэта было непасільна для нашага сямейнага бюджэту (бо ўсё ж рабілася на ўласныя грошы). Праўда, нашмат пазней, калі той буфет ужо падгніў, мне ўсё ж удалося прывезці яго ў музей. Таксама шмат давялося пахадзіць, пакуль ўсё ж я выхадзіў дазвол уладаў на ўстаноўку помніка. Дзе толькі не чытаў вершы Явара, не гаварыў пра тое, як шанавалі нашага земляка па Беларусі! Прыводзіў у прыклад лісты Васілька і Машары! Нарэшце той помнік зрабілі з дубу, усталявалі пры дапамозе добраахвотнікаў, і стаяў ён на магіле недзе з 1969 года. Там, на пліце з нержавейкі, быў выгравіраваны ўрывак з ягонай паэмы, які мы пасля паўтарылі на новым помніку, калі стары адвезлі ў Гудзевіцкі музей.

Калі наступіла перабудова і набліжалася 100-годдзе з дня нараджэння Міхася Явара, я зноў звярнуўся ў сельсавет і пасля ў райвыканкам з прапановай, каб вуліцу Энгельса ў Луна, па якой Міхась Явар часта хадзіў, перайменавалі. Спачатку тую прапанову прынялі, як кажуць, у штыхі. Я пайшоў на пасяджэнне сельскага выканкама, там было чалавек шэсцьдзесят, і доўга расказваў, хто ёсць Явар. Сказаў нават, што і сам Энгельс выказаўся б за перайменаванне, бо ён тут ніколі не быў і ніяк з нашым Луна не звязаны... Урэшце, прагаласавалі аднагалосна...»

Вынік гэтых тытанічных намаганняў Алеся Белакоза, гэтага слыннага змагара за Беларусь і яе гісторыю, мы цяпер змаглі пабачыць на свае вочы, праехаўшы па вуліцы Явара і вось цяпер тут, на могілках. Прынамсі, высокі васьміканцовы ружовы помнік з граніту стаіць моцна і цвёрда. Злева на ім змешчана фотакартка паэта. Прыгожы, з чорным матылькам-гальштукам на снежна-белай кашулі хлопец падобны да опернага спевака. Нават не верыцца, што гэта — просты рыбак. Пад фотакарткай словы: «Міхась Явар. Карась. 1903 — 27.VI .1933».

У камень увінчана белая дошка з выбітымі словамі:

Няхай жа лёгкім пухам будзе
Зямелька родная табе,
Якую шчыра ты любіў,

Дзе шмат страдаў, ды мала жыў…

*З паэмы «За сэрцам»*

Магіла абгароджана пафарбаванымі ў зялёнае тонкімі трубамі, замацаванымі на чатырох больш тоўстых, і абазначана на зямлі каменным чатырохкутнікам.

У спякотны дзень тут было неяк прахалодна, зацішна і маркотна. Да могілак увосень, ды і ўзімку, дабірацца, мабыць, не проста. Ды і жыхароў навокал ўсё менее і менее. Мабыць, ад самай вясны магілу Явара не прыбіралі, таму мы з задавальненнем ўзяліся за справу — вырвалі пустазелле, абрэзалі прагнае кустоўе, якое цягнецца да агароджы, пратапталі зарослую было сцяжынку.

Пастаялі, яшчэ раз прыгадваючы ў думках ягоныя радкі з верша «Паклон чалавечаму страданню»:

Я мучанікам тым, каму ў страданьнях вечных
За волю мілую пяе кайданаў звон…
Я скатаваным усім… я ценям іх — магілам,
Касьцям струхлеўшым іх — я шлю гэты паклон!!!

Мне думалася, што паэт, узросшы ў вёсцы, на ўскраіне якой пахавалі сорак паўстанцаў, несумненна, ведаў словы Элізы Ажэшкі, прысвечаныя ім, і менавіта іх меў тут на ўвазе. Слова «воля» тут не выпадковае, не паэтычны сімвал. Для яго, чыё Слова прыгняталі, над чыёй гісторыяй смяяліся, каму не давалі магчымасці жыць у свабодзе, — для яго яна, Воля, была «мілай», жаданай і — няспраўджанай у яго кароткім пакутным жыцці.

Але да апошняга дыхання ён пра яе марыў, ёю жыў свае кароткія трыццаць гадоў…

## У ГОНАР КАСІНЕРАЎ

Той, хто цікавіцца роднай гісторыяй, не можа прамінуць увагай бітву пад Мілавідамі 22 мая (3 чэрвеня) паміж паўстанцамі і расійскімі вайскоўцамі ў час паўстання 1863 г.

Тады аб'яднаныя сілы паўстанцаў Слонімскага, Ваўкавыскага, Гродзенскага, Наваградскага і Пружанскага паветаў перамаглі рэгулярнае войска, якое мела не толькі вінтоўкі, але і 4 гарматы, і пераўзыходзіла паўстанцаў у колькасці.

Расійцамі кіраваў падпалкоўнік Булгарын, паўстанцамі — Аляксандар Лянкевіч (сюды, дарэчы, за два тыдні да бою, прыязджаў з інспекцыяй сам Кастусь Каліноўскі).

Атрады знаходзіліся па розныя бакі лясной дарогі, якая і па сёння вядзе на Слуцк (да якога 115 кіламетраў), і на Івацэвічы (адпаведна 41 кіламетр), і пасля бою булгарынцы, якія імкнуліся захапіць лагер па той бок дарогі, адышлі назад, страціўшы 50 чалавек. Уначы ж, даведаўшыся, што сюды падыходзіць ваенная калона з Нясвіжа і наўрад ці хто з паўстанцаў застанецца ў жывых, Лянкевіч загадаў усім разысціся. Таму раніцай бітва не аднавілася. Засталося толькі пахаваць забітых. І не толькі расійцаў. Васемнаццаць паўстанцаў навекі асталіся ляжаць пад Мілавідамі. Да гонару падпалкоўніка, ён загадаў пахаваць забітых паўстанцаў, толькі на тым, іхнім, баку шашы, хаця і без аніякіх азначэнняў (у XIX ст. да праціўніка ставіліся іначай, чым ў веку XX, калі іх без аніякіх ваганняў пакідалі варанню). На месцы ж пахавання расійцаў быў пастаўлены вялікі чыгунны крыж. Тут магутна і ўпэўнена ўсталёўвалася Расійская імперыя, двухгаловы арол уладна выціскаў не толькі Белага Арла, але й Пагоню. Гэтыя землі яшчэ памяталі пра свой гонар і сваю былую славу ў ВКЛ. Гербы з Пагоняй былі ў многіх з тых, хто абараняў сваю зямлю са зброяй у руках цаной уласнага жыцця.

Таму з роднай зямлі тым, хто выжыў пасля бітвы, давялося з'язджаць. У тым ліку і камандзіру паўстанцаў

Пра Аляксандра Алаізавіча Лянкевіча вядома значна болей, чым пра падпалкоўніка Булгарына. Ды і нашто нам варта было б памятаць пра яго? Прыйшоў на чужую зямлю, выконваў загады і служыў «царю и Отечеству, усмиряя непокорных». На штыхах прынёс свае традыцыі, веру, мову, стараючыся знішчыць мясцовыя (напрыклад, архівы ўсіх уніяцкіх цэркваў, якіх, па сведчанню прафесара А. Грыцкевіча, было да 75 адсоткаў ад усіх храмаў ВКЛ, амаль адразу пасля заняцця войскамі тэрмінова вывозілі ў Расію, і лёс іх дасюль невядомы).

Імя ж Аляксандра Алаізавіча Лянкевіча (псеўданім Ландэр) ужо ўвекавечана ў Беларусі: яно прысвоенае школе ў в. Мілавіды.

Што мы ведаем пра яго? У 4-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» коратка ўзгадваецца, што праз два месяцы пасля бітвы пад Мілавідамі ён разам з іншымі паўстанцамі (сярод якіх, як мяркуюць, быў і Ф. Багушэвіч), перайшоў Нёман і дзейнічаў у Аўгустоўскай губерні, але пазней усё ж вымушаны быў пакінуць радзіму, бо завочна быў прыгавораны да смяротнага пакарання. Болей, наколькі нам вядома, на радзіму ён не вяртаўся і памёр у выгнанні. У артыкуле І. Монціка «Даль мілавідная» пішацца пра легенду, нібыта ў мілавідскім храме быў прачытаны маніфест аб тым, што ўся зямля аддаецца сялянам. Гэта магло быць перад самой бітвай, і, вядома, А. Лянкевіч пры тым абавязкова прысутнічаў.

Нагадаем, што зямельнае пытанне было самым балючым, якое абмяркоўвалася не аднойчы на пасяджэннях кіраўнікоў супраціўлення: ці пойдуць сяляне на барацьбу, ці падтрымаюць паўстанне?

Думаецца, некалі зоймецца Інстытут гісторыі тымі сапраўднымі навуковымі даследаваннямі, якія дадуць магчымасць беларускім пісьменнікам напісаць мастацкія творы паводле гэтых трох паўстанняў, якія дасюль паказваюць нам, што нашыя продкі мелі высокі дух вольнасці. Да таго ж, колькі гарачых маладых сэрцаў згасілі шыбеніцамі і расстрэламі, колькі было выгнана на эміграцыю альбо пайшло ў Сібір!

Па некаторых, вельмі скупых звестках, якія пакуль што немагчыма праверыць (бо такія даследаванні праводзяцца на прафесійным узроўні і на сродкі дзяржавы), продкі геніяльных Цыялкоўскага, Вернадскага, Фларэнскага, Чыжэўскага, магчыма, паходзяць з засланых некалі ў бяскрайнія сібірскія прасторы нашых землякоў-выхадцаў з Рэчы Паспалітай ці з Літвы-Беларусі. Верыцца, што некалі будуць дадзены адказы на гэтыя пытанні, і маладыя навуковыя сілы Беларусі знойдуць на іх адказы... Што вернуцца на радзіму некалі гвалтоўна вывезеныя архівы уніяцкіх храмаў і ўвогуле многае з таго, што сёння зноў жа схавана за сямю пячаткамі ў Расіі і што абазначанае толькі ў кнігах «Вяртанне» Беларускага фонду культуры...

А пакуль нам трэба клапаціцца аб тым, што ёсць у нас, — каб не былі помнікі нашыя занядбаны, а унікальныя архівы ляжалі недаследаванымі...

...Капліцу, якую ў Мілавідах пабудавалі ўжо ўгонар паўстанцаў ў 30-х гг., я шмат разоў бачыла на розных здымках. Але хацелася самой паехаць туды і адчуць ўсё, што там адбывалася амаль паўтара стагоддзя назад.

І вось ў самым пачатку верасня, пабываўшы ў Слоніме і, як заўсёды, заехаўшы ў Жыровіцкі манастыр і сустрэўшыся там з паэтам А. Знічом (сённяшнім інакам братам Мікалаем), мы адправіліся ў Мілавіды.

Адшукаць гэтую вёску аказалася не проста: паехаўшы па шашы Слонім — Мінск і скіраваўшы паводле ўказальніка ўправа, мы праехалі ажно да вёскі Гуты і, перапытаўшы ў мясцовых грыбнікоў напрамак, развярнуліся і паехалі назад, да в. Лясной. А там, у канцы яе, спыніліся ў развілкі дарогі. Як і куды ехаць, калі няма ніякіх знакаў? Выручылі тыя ж грыбнікі, што вярталіся з лесу, нагружаныя вёдрамі і кашамі. Мабыць, калі б яны не расказалі падрабязна, што праз кіламетр скончыцца асфальт, але трэба ехаць спачатку па амаль занесенай пяском брукаванцы, затым па пыльнай ў гэты спякотны дзень гравійцы, нікуды не паварочваючы, да Стрэлава, мы блукалі б даўжэй. Але калі нарэшце пачаўся асфальт, то можна было паспадзявацца, што Мілавіды нарэшце нам пакажуцца. І праўда — праз кіламетр нарэшце ўбачылі чаканы дарожны знак. У каго запытацца, у якім жа напрамку ехаць на месца бітвы? Чамусьці на вуліцах не было бачна ні душы. Ці то шчыравалі ў гэты нядзельны дзень мілавідаўцы ў лесе, ці то адпачывалі ў хатах, напрацаваўшыся на сотках?

Мы павольна ехалі па Мілавідах. Вось магазін-кафэ «Грэцыя», вось каля СПК задумліва глядзіць удаль Фелікс Дзяржынскі, які, наколькі нам вядома, да Мілавідаў ніякага дачынення не мае. Аднак жа праз нейкі час знаёмства з гэтай славутай некалі вёскай сустрэлася і тое, што ўзрадавала душу: вуліца Паўстанцаў. У самым пачатку гэтай вуліцы, як аказалася, жыве настаўніца геаграфіі Валянціна Іванаўна Лопух, якая разам з дырэктарам мясцовай школы Марыяй Фёдараўнай Прымшыц завяла нас у школьны музей імя Каліноўскага.

Школе столькі гадоў, колькі славутаму паўстанню. Тут створаны музей, якім сапраўды можна ганарыцца: два тамы летапісу школы, яе выпускнікоў, яе гісторыі. Тут жа імёны тых, хто пачынаў ствараць музей, — заслужанага настаўніка рэспублікі Віктара Міхайлавіча Грынчыка і настаўніцы Ніны Сцяпанаўны Жылевіч. Многае зроблена з дапамогай старшыні калгаса Дзмітрыя Іванавіча Жука, які дапамог з фінансамі.

Аднак верш баранавіцкага паэта Алеся Корнева, прысвечаны адзначэнню 140-годдзя бітвы пад Мілавідамі, які быў праведзены сіламі энтузіястаў трохі прыгаломшвае аптымізм. Пакуль ў дзяржавы няма пэўнага погляду на падзеі 1863 г., пакуль беларускі погляд скіраваны толькі ў адзін бок...

## ПАМЯЦЬ

Не ў палітыцы, а ў факце,
Бы ў люстэрку, — сэнс рэалій.
На старым шырокім тракце
Людзі ў роздуме стаялі.

Розных поглядаў і веры...
І святар прыйшоў маліцца:
Злева ў гонар касінераў
Беласнежная капліца.

Справа — крыж маўклівы, чорны
На чыгунным абеліску.
Там, пад ім, ад непакорных
Мёртвым карнікам — калыска.

І зямелька калыхае
Прах мінулых ліхалеццяў.
Людзі кажуць: «Сёння хай ім
Згода будзе на тым свеце».

А на гэтым? Не, вякамі
У нас жыццё разлад не сцерла.
Побач помнік трэці — камень,
Быццам ком захраслы ў горле.

Эх, славяне! Склалі пальцы,
Хрысціцеся за пабітых.
На дарозе, на асфальце —
Нешта малалюдны мітынг.

Ад райцэнтра — анікога,
Хіба што дэістаў трое...
Верыць мушу толькі ў Бога,
А не ў панства, а не ў зброю.

Дзень удаўся сёння хмуры.
Людзі шэпчуць, уздыхаюць.
З-за мяжы імчацца фуры,
Косці продкаў калыхаюць.

*22 мая 2003 г.*

З радкамі гэтага верша мы і ехалі шэсць кіламетраў у бок Івацэвічаў на поле, дзе і адбывалася сама «бітва пад Мілавідамі». Быў ціхі, мяккі вераснёўскі дзень, лянівыя хмаркі плылі над лесам, і нейкая асаблівая цішыня панавала навокал. Помнікі стаялі паабапал шашы, па якой час ад часу праляталі машыны, пераважна легкавікі.

Капліца зблізку не выглядае такой бялюткай, як на фотакартках. Яна добра-ткі пашчэрблена часам, мабыць, колькі гадоў яе не турбавалі рамонтам. Зверху на ёй лёгка чытаюцца дата: 22.V.-1863 і надпіс: «Poległym powstańcom».

І ніжэй: «Pokój ich cieniom. 1863 roku. Wdzięczni rodacy».

Недалёка ад капліцы стаіць валун, на якім выбіты лозунг гэтага сумеснага супрацоўлення беларусаў, палякаў і літоўцаў: «За вольнасць нашу і вашу. Бітва пад Мілавідамі 22 мая (3 чэрвеня)».

І табліца са словамі: «Кіраўнік паўстання беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі».

Насупраць, на так званым «помніку карнікам» у выглядзе вялікага металічнага крыжа, ніякіх слоў няма, адно толькі ўверсе абазначаны літары ў памяць аб муках Хрыста: «ІНЦІ».

Тое, што тут удалося зрабіць, — гэта, безумоўна, сляды кароткага адраджэння пачатку 90-х тт., калі дэмакратычная грамадскасць з энтузіязмам узялася за аднаўленне памяці. За апошнія дзесяць гадоў амаль нічога новага тут не з'явілася.

І ўсё ж падставы для «стрыманага аптымізму» ёсць. Вось і ў газеце «Наша слова» (2007. № 6. 7 лют.) з'явіўся допіс Ганны Суднік-Матусевіч «Ці жывуць яшчэ ліцьвіны ў свеце?..», у якім аўтарка апісвае, як у вёсцы Дзягільні, на Койданаўшчыне, яна адшукала магілу ўдзельніка лістападаўскага паўстання 1830-1831 гт. Адольфа Янушкевіча — таго самага, які натхніў Юліуша Славацкага на напісанне «Песні Літоўскага легіёна». Па закліку сп. Ганны ды пры падтрымцы археолага Міколы Крывальцэвіча пачалася пошукавая праца. Але дамо слова самой Г. Суднік-Матусевіч:

«З Ракава прыімчаў на машыне вясёлы волат — мастак Фелікс Янушкевіч, што той адданы Літве шляхціц засцянковы! Толькі гукнулі ў рог, як ён, кінуўшы гаспадарку, на каня — і ў бітву! «Жыве паньства!» — пасмейваецца. На такіх адданых шляхціцах трымалася некалі Літоўская Зямля [маецца на ўвазе Беларусь. — В. І.]... Фелікс прывёз сваіх дзетак Валяр'яна ды Віктусю. Чыстыя анёлкі, але ж працавалі яны папраўдзе. Працавалі і Феліксавы браты Язэп з Казімірам, а скульптар Валяр'ян Янушкевіч ужо зрабіў праект будучага помніка ды ахвярує створаную ім выяву Маткі Боскай з Дзіцем.

Мы адкапалі надмагільную пліту Тэклі з Сакалоўскіх Янушкевічавай — Адольфавай маткі. Дарэчы, яна была ўнучкай Ганны Галэцкай з Касцюшкаў, роднай сястры Тадэвуша Касцюшкі. Тэкст выдатна захаваўся. Матка памерла ў 1860-м, праз тры гады пасля сына, які вярнуўся з Сібіры паміраць на Айчыне. Угары тэксту крыж, унізе — герб Любіч, які належаў да Янушкевічавага рода.

...Могілкі няшчадна разрабаваныя. Нічыйныя... Панскія...

Тутэйшыя людзі ўспамінаюць, што яшчэ пасля апошняй вайны тут стаялі магільныя скляпы, якія потым расцягалі на падмуркі хатаў, паразбівалі».

Тое, што шукальнікам усё ж удалося знайсці надмагільныя пліты і нават надпіс на камяні, пакладзеным у падмурак адной з хат, — абнадзейвае. Калі вывезлі архівы — дык засталіся (усё яшчэ засталіся!) ці камяні, ці надмагіллі, якія яшчэ магчыма зрабіць своеасаблівымі помнікамі, да якіх можна прыязджаць і ля якіх хаця б на Дзяды трэба запальваць свечкі.... Многае з памяці духоўнай знаходзіцца ў Польшчы — запісаныя ўспаміны, кнігі. Магчыма, некалі і яны будуць прачытаны і перакладзены, каб аднавілася памяць там, дзе засталося так нішчымна мала!

Што можам зрабіць — давайце зробім! Бо гэта — нашая зямля і нашая Памяць...

## ВІШНЕВА: ТРЫ МАГІЛЫ

Вёска Вішнева Валожынскага раёна дарагая сэрцу кожнага беларуса, які ведае і любіць сваю гісторыю. Я даўно хацела пабываць там — паслухаць імшу на беларускай мове, якія многія гады ладзіў у мясцовым касцёле ксёндз Уладыслаў Чарняўскі, паглядзець на роспісы, зробленыя славутым мастаком Фердынандам Рушчыцам, пахадзіць па мясцінах, звязаных з імёнамі Канстанцыі Буйло, Уладзіславы Францаўны — славутай цёці Уладзі, іншых вядомых людзей Беларусі, пабачыць школу, дзе працаваў Пятро Бітэль, і, па магчымасці, запісаць ягоныя аповеды пра «час і пра сябе». Думалася, што паедзем мы ў Вішнева разам з П. Бітэлем, бо ён не аднойчы запрашаў калег-пісьменнікаў на сваю радзіму

З ксяндзом Чарняўскім мы таксама былі знаёмыя. Калі я працавала галоўным рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі на Белдзяржтэлерадыё, ён, прыкладна ў 1988 г., прыязджаў да нас у студыю на запіс тэлевізійнай перадачы, і, як і на ўсіх, з кім сустракаўся, зрабіў вялікае ўражанне. Гэта быў незвычайны для таго часу чалавек, які дзеля любові да роднай Беларусі пайшоў насуперак усяму, што абкружала яго і прымушала прытрымлівацца прынятых правілаў. А правілы тыя былі — у касцёле мусіць гучаць польская мова! Але ён не ішоў насуперак сваёй душы, якая казала, што Бог чуе чалавека перш за ўсё на той мове, на якой ён гаворыць сэрцам.

Тады, у канцы 80-х, «прабіць» на тэлебачанні перадачу, у якой удзельнічаў святар, было няпроста, але ж магчыма, у адрозненне ад папярэдняга часу, калі пра гэта нават думаць не дазвалялася. І хаця давялося прыкласці шмат высілкаў, каб з экрана загаварыў вядомы і любімы беларускай інтэлігенцыяй ксёндз Чарняўскі, радасць мая ад таго, што гэта ўдалося зрабіць, была бязмернай. Але ягонае выступленне было надта кароткім — каля трыццаці хвілін. Таму, як мне здавалася, трэба было сапраўды ехаць і запісваць яго хаця б на аўдыёкасеты — на будучае...

Усё не атрымлівалася — справы, кнігі, вечны недахоп часу. І толькі 10 сакавіка 2005 г., калі нас, пісьменнікаў, запрасілі выступіць у Вішнеўскай сярэдняй школе, мы — малады паэт Вячаслаў Корбут, на той час дырэктар Літаратурнага фонду, Пятро Саковіч і мы з мужам (як заўсёды, ён быў за рулём) — паехалі ў гэтае былое мястэчка са слаўнай старажытнай гісторыяй. Як звычайна бывае, час апярэдзіў мае добрыя намеры: і ксёндз Чарняўскі, і Пятро Бітэль памерлі, а я цяпер спадзявалася хаця б пастаяць каля іхніх магілаў. Ведала, што айцец Уладзіслаў пахаваны каля касцёла, а вось Пётр Іванавіч — на

мясцовых могілках. Там жа і магіла Канстанцыі Буйло, — яна была пахавана ў Маскве, але ў 1989 г. урна з ейным прахам была перавезена менавіта сюды, у Вішнева, дзе прайшло яе дзяцінства і дзе бацька яе працаваў арандатарам і лясным аб'ездчыкам.

Думалася, што цяпер, амаль у сярэдзіне сакавіка, можна будзе падысці да іхніх магіл, — казалі, яны абедзве недалёка ад увахода на могілкі.

Ехаць да магіл пісьменнікаў — гэта як быццам зноў перачытваць іхнія творы, узгадваць лепшае, аналізаваць жыцці, якія ў кожнага — адметныя, поўныя драматычных падзеяў.

Я ўзяла з сабой кніжачку Дзіяны Чаркасавай «Люблю», дзе расказваецца пра творчасць і жыццё Канстанцыі Буйло. Горка было нанова асэнсоўваць той факт, што гэтая, адна з самых любімых народам паэтак (дасюль жа гучыць на Радыё «Свабода» мелодыя на яе словы «Люблю мой край, старонку гэту»!), на Беларусі жыла зусім невялікую частку свайго доўгага жыцця. З 1923 г. знаходзілася ў Маскве, што, хутчэй за ўсё, уратавала яе ад палітычных рэпрэсій 30-х гг. на Беларусі.

І ўсё ж рэпрэсіі яе не прамінулі, — быў арыштаваны муж, Віталь Адольфавіч Калечыц, і яна добра зведала, што такое быць жонкай «ворага народа». Званне заслужанага дзеяча культуры БССР атрымала толькі ў 1968 г., калі ёй споўнілася 75 гадоў.

... Дасюль шкадую, што не змагла паехаць на ейнае пахаванне ў чэрвені 1986 г. і што пасаромелася турбаваць яе сваімі візітамі пад час паездак у Маскву. Што так і не сказала ёй тых слоў, што насіла ў душы. Але нашае пакаленне ўвогуле неяк саромелася вялікіх, — я, напрыклад, ніколі не асмельвалася проста так, без пільнай справы, падысці да Максіма Танка ці Петруся Броўкі. А яны, нашыя класікі, былі людзьмі зычлівымі, клапаціліся пра маладых і, мабыць, мелі патрэбу ў шчырых, захопленых словах.

Канстанцыя Буйло класікам (і легендай!) стала ўжо неўзабаве пасля выхаду «Курганнай кветкі», якая адразу высунула яе ў першыя шэрагі літаратурнага жыцця. Легендай называлі яе многія крытыкі, гэтак жа назваў свой артыкул пра яе ў 1984 г. беларускі паэт Польшчы Віктар Швед: «Беларуская легенда».

Яна заплаціла за сваю адносную свабоду вершам пра Сталіна — але роўна настолькі, наколькі патрэбна было ёй застацца ў жывых. І ўсё ж плата была непамернай — у наступныя гады жыцця яна напісала нашмат меней, чым магла б і на што дазваляў спадзявацца яе талент.

Усе яны, творцы таго часу, плацілі за сваю творчасць і свабоду перакананняў непамерную цану. Але ніхто з іх не прадаў сваю душу — ні Уладыслаў Чарняўскі, ні Канстанцыя Буйло, ні Пятро Бітэль...

Едучы ў Вішнева, я зноў і зноў узгадвала яго спакойныя, добрыя вочы, яго лагодную гаворку — як у сапраўднага духоўнага айца. Нездарма ён колькі гадоў быў святаром і нёс людзям суцяшэнне ў самыя цяжкія атэістычныя часы. Перад паездкай паглядзела даведнікі — ці ёсць там што пра Бітэля?

Імя Пятра Бітэля паспела ўвайсці нават у 1-шы том «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», які выдала БелСЭ ў 1984 г. Але артыкул пра яго, які напісаў сумленны і шчыры Генадзь Каханоўскі, мабыць, быў моцна парэзаны. Толькі той, хто ведаў перыпетыі жыццёвага лёсу Пятра Іванавіча, мог здагадацца, чаму так «скачуць» і зусім не стыкуюцца лічбы ягонай біяграфіі: «БІТЭЛЬ Пятро Іванавіч (крыпт. П. Б. н. 6 (19).6.1912. г. п. Радунь Воранаўскага р-на), беларускі сав. паэт, перакладчык, краязнавец. Вучыўся ў Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарыях (1925-31), скончыў Мінскі пед. ін-т (1970)».

Адразу ўзнікала пытанне: як мог чалавек, які пачаў друкавацца ў прэсе ўжо з 1930 г., скончыць педагагічны інстытут толькі ў 58 гадоў?

І далей чытаем ў артыкуле: «У 1939-41 і ў 1946-50 на пед. працы ў Валожыне і Валожынскім р-не, у 1956-74 выкладчык бел. і ням. моў у Вішнеўскай сярэдняй школе».

А дзе падзеліся гады з 1950 па 1956? Дзе мог быць гэты нястомны працаўнік на ніве беларускай асветы і літаратуры?

Вядома, там, дзе засталіся ляжаць у вечнай сібірскай мерзлаце лепшыя сыны і дочкі Беларусі тых страшных сталінскіх часоў, якія па сёння таму-сяму малююцца як суцэльная ідылія народнага шчасця. У сапраўднасці ён быў арыштаваны ў 1950-м і засуджаны на 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах, адбываў тэрмін у Кемераўскай вобласці, Омску, Джэзказгане, у медных рудніках ды на розных будоўлях. Хацеў пісаць, і таму хімічным алоўкам выводзіў на папяровых мяшках з-пад цэменту перакладзеныя на беларускую мову радкі А. Міцкевіча аб свабодзе, якія дапамагалі яму выжыць там, дзе не вытрымлівалі і маладзейшыя. Пятро Бітэль вярнуўся на радзіму праз тры гады пасля смерці Сталіна, аднак настаўніцкую працу атрымаў значна пазней, а да таго жыў тым, за што яго і пасадзілі, — святарным служэннем Богу.

Да 1984 г. асобным выданнем у яго выйшла толькі паэма «Замкі і людзі», прысвечаная гістарычным падзеям, што адбыліся ў сярэдзіне

XIV ст. у Крэўскім, Трокскім і Віленскім замках, ды яшчэ асобныя кавалкі з паэм А. Міцкевіча «Конрад Валенрод», «Пан Тадэвуш» і «Гражына». У 1-м томе Біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменнікі» таксама ёсць артыкул пра П. Бітэля, напісаны Л. Гарэлік і А. Пяткевічам, дзе пра часы рэпрэсій у жыцці сябра нашага творчага саюза (ім ён стаў у 1986 г.), расказана больш падрабязна.

Пазней, уключна да самай яго смерці, выйшла яшчэ нямала розных твораў. Ён як бы спяшаўся — паведаміць і зафіксаваць хаця б частку таго вялізнага набытку, якім узбагаціў сваё нялёгкае жыццё.

Мы пазнаёміліся з ім недзе ў 1989 г., калі ён прынёс у часопіс «Спадчына» артыкул пра расстрэлы ў Катыні. Называўся той артыкул «І нашых там было нямала», і П. Бітэль, які і сам у 1933-1934 гг. служыў у Войску Польскім, пераканаўча даказваў у тым артыкуле, што сярод польскіх афіцэраў былі заходнебеларускія інтэлігенты — напрыклад, настаўнікі, якія былі прызваны ў войска напярэдадні вайны і, узятыя ў палон, расстраляны былі ўжо як палякі. Гэта была, бадай што, ці не першая ластаўка — вестка аб удзеле беларусаў і ў войску Андэрса (пра што нідзе ўвогуле не згадвалася, як быццам таго і не было). Толькі ў апошнія гады пачаліся згадкі і пра славутую бітву пад Монтэ-Касіна, у якой таксама ўдзельнічалі беларусы.

Бітэль шмат расказваў нам пра тыя падзеі, пра якія ён добра ведаў з аповедаў сваіх ацалелых сяброў. Я прасіла яго: «Пішыце!» Ён згаджаўся. Але сіл у яго, мабыць, заставалася ўжо няшмат, а дакументальная проза патрабуе надзвычайных высілкаў, ды яшчэ пры тым, што знайсці патрэбныя дакументы і сёння зусім няпроста: архівы КДБ, якія было прыадчыніліся на нейкі час, зноў намёртва сашчапілі свае пашчы...

... Дарога між старых дубоў і клёнаў, што і цяпер гатовы былі сашчапіць свае голыя магутныя галіны над нашай машынай, вілася чорнай змяёй між заснежаных палёў І вось Вішнева. Аднак нас чакала няспадзяванка: снег, які выпаў напярэдадні, тут быў нейкі асабліва пышны: снежныя гурбы высока атулялі дарогу, і мы ледзьве даехалі да касцёла, які ўзвышаецца пры ўездзе ў Вішнева. Касцельны двор, аднак, быў добра ўтаптаны, і ксёндз Уладыслаў — малады, нядаўна сюды прызначаны — павёў быў нас ў касцёл, ды мы спачатку ўсё ж падышлі да магілы ягонага папярэдніка.

Сапраўды, месца для апошняга прыстанку вялікага чалавека і патрыёта выбрана выдатнае: адсюль праглядаецца ўся дарога да Вішнева, і касцёл нібы атуляе магілу з поўначы ад сівернага ветру.

...Хвіліны маўчання каля магілы Уладыслава Чарняўскага, сярод пухкай, лёгкай суцэльнай белі, каля белага ж касцёла, што здаля

здаецца агромністым птахам, які ляціць да самага неба, — гэтыя хвіліны засталіся ў маёй душы, мабыць, назаўжды. Здалося, што душа яго была тут, з намі, што ён адчуваў наглыя сэрцы і ведаў, колькі ў іх любові і павагі...

Ці мы, каго Усявышні прывёў на гэтую зямлю не ў самыя горшыя, — але, мабыць, яшчэ не лепшыя яе часы, — здольныя гэтак жа змагацца за яе, змагацца справамі, нягледзячы на цяжкасці, перашкоды, на агульны вал раўнадушша, які штодзённа абрыньваецца на наглыя душы, — ці здольныя мы на штодзённы подзвіг працы і любові, як быў здольны на тое ксёндз Чарняўскі?!

Пазней мы пад'ехалі да дарогі, якая павінна весці на вясковыя могілкі, дзе навечна лёг Пятро Іванавіч Бітэль і Канстанцыя Антонаўна Буйло (Калечыц). Але другі раз адчуць такое ўзрушэнне не давялося: дарогі не было. Нізіну гэтак занесла снегам, што адолець яе было пад сілу хіба што трактару. Ды кароткі дзень ужо згасаў — імклівa і беспаваротна.

Мабыць, гэта знак, што трэба прыехаць сюды яшчэ раз. Зноў пастаяць у дзівосным касцёле XIV ст. — адным з самых старажытных на Беларусі, пагладзіць поглядам распісаныя Фердынандам Рушчыцам выявы апосталаў і, пабыўшы ля магілы беларускага ксяндза, прыйсці на вясковыя могілкі да К. Буйло і П. Бітэля. У школу, дзе, магчыма, зноў адновяць той музей, які тут быў некалькі гадоў назад і які, як нам сказалі, «закансерваваны» з-за рамонту. Дзе будзе заўсёды вісець мемарыяльная дошка на школе, якой прысвоена імя К. Буйло і дзе патрэбна прымацаваць яшчэ дошкі ў гонар П. Бітэля і У. Чарняўскага.

Яны — усе трое — заслужылі нашу ўдзячную памяць...

# ГОРАД МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА...

Хутка паеду ў горад майго дзяцінства і юнацтва — старадаўнюю Гародню. І, калі выдасца вольная хвіліна, зноў прынясу кветкі на магілу чалавека, які мяне вучыў некалі годнасці і мужнасці — а яны складалі асноўную дамінанту ягонай асобы апроч таленту і шмат чаго іншага, што як бы дапаўняла яго светлы і любімы маёй душой вобраз.

Гэты чалавек — Аляксей Карпюк (14.4.1920-14.7.1992).

Адзін пералік яго біяграфічных дадзеных уражвае: выхаванец польскай гімназіі ў Вільні і Наваградскага педвучылішча, якое скончыў перад Другой сусветнай вайной (1939), ён ў дваццаць два гады трапіў у нямецкі палон, сядзеў ў беластоцкай турме і ў канцлагеры Штутгоф, адкуль уцёк. На радзіме арганізаваў партызанскі атрад імя К. Каліноўскага, стаў яго камандзірам, потым, ужо ў складзе Чырвонай Арміі, прымаў удзел у вызваленні Варшавы, Познані, штурме Берліна. Узнагароджаны польскім залатым крыжам — ордэнам «Віртуці Мілітары», а таксама ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, шматлікімі медалямі. А ў канцы жыцця за сваю свабодалюбную дзейнасць быў выключаны з партыі, абвінавачваўся ў здрадніцтве — і, прыклаўшы неверагодныя намаганні, даказаў-такі абсурднасць і палітычную заангажаванасць праследаў.

Для мяне яго асоба была ці не самай вызначальнай у жыцці. І таму я дазволю сабе прывесці тут кавалак з маіх успамінаў пра яго, якія, разам з іншымі, невядома ці выйдуць некалі асобнай кніжкай.

Аляксей Карпюк — чалавек, які адыграў вялікую ролю ў маім жыцці... З чаго пачынаць успаміны пра яго? Канешне, з таго часу, калі ён, прачытаўшы мае першыя спробы пяра ў «Гродненскай правде», выклікаў мяне на вуліцу Ажэшка, дзе месцілася абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ісці давялося зусім недалёка: каб патрапіць да пісьменнікаў, трэба было толькі перайсці мост, бо дзіцячы дом № 1, дзе я тады жыла, знаходзіўся якраз насупраць дома Элізы Ажэшкі праз рачулку Гараднічанку. Пяройдзеш — і трапіш у абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў, якое дзялілася гэтым пісьменніцкім дамком яшчэ і з бібліятэкай.

Гадоў шэсць таму ў нас адабралі гэтыя два пакоі, — і неверагодным здаецца не сам факт вытурвання пісьменнікаў з дома, дзе яны некалькі дзесяцігоддзяў запар ладзілі розныя сустрэчы, імпрэзы, дзе пачувалі сябе часам лепей, чым у сваім жытле... Неверагодным мне здаецца тое, што там ужо няма таго духу вольнасці, роўнасці, разняволення, якое дало мне сілы выкараскацца з савецкага духу рабства і

які цяпер усё часцей называюць аўрай. А можа, варта было б застацца адной ў тых пакоях, і я зноў адчула б яе, тую непаўторную аўру, якую ствараў менавіта ён, Аляксей Нічыпаравіч?!

Я памятаю сваё першае ўражанне ад яго магутнай постаці, ад тых камандзірскіх інтанацый, з якімі ён адразу ж пачаў гаварыць з пятнаццацігадовай дзяўчынкай, быццам убіваючы мне ў галаву:

— Пішаш нядрэнна, Оля. Але каб стаць пісьменніцай, трэба многа, вельмі многа працаваць!

Божа мой, якой там пісьменніцай! Я накрэмзала колькі там вершыкаў, слепа падпарадкоўваючыся уладнай сіле творчасці, але крэмзала іх хутчэй бяздумна.

— Мы табе дапаможам. Ці ўмееш ты выступаць?

Я збянтэжана прачытала вершык.

— Добра! Інтанацый у цябе не хапае, але гэта можна паправіць. Значыць, я пагавару наконт цябе «наверсе».

У чым заключалася таямнічае абяцанне «пагаварыць наверсе», я зразумела праз які тыдзень, калі пакутліва сядзела на ўроку алгебры і спрабавала зразумець нейкае ўраўненне. Шырока расчыніліся дзверы, Карпюк узнік на парозе і, паклікаўшы настаўніцу, нешта коратка растлумачыў ёй, а пасля скамандаваў:

— Оля, на выхад!

«Выхад» той быў паездкай у Сапацкіно, у школу, на выступленне. У «газіку» ехалі Васіль Быкаў і Данута Бічэль.

Колькі такіх паездак было пасля! Карпюк умеў і любіў іх арганізоўваць. І самымі яркімі старонкамі маіх школьных успамінаў застануцца якраз тыя хвіліны, калі на сумным уроку расчыняліся дзверы, і Карпюк дзелавіта, амаль адразу павярнуўшыся назад і спяшаючыся, камандаваў:

— Оля, на выхад!

А я амаль бегла за ім і радавалася, што не буду ісці ў сталовую ў страі, што змагу пасля прыезду не адразу кіравацца ў дзетдом, а трохі пастаяць пад ліпамі ля Гараднічанкі, паглядзець, як ліхтары адбіваюцца ў чорнай вільгаці маленькай рэчкі і адчуць, як салодка пахне ладанам з адкрытых дзвярэй царквы, якая была у двух кроках ад дома Ажэшкі і педінстытута імя Янкі Купалы.

У 1961 г. я паступіла на рускае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мне было шаснаццаць гадоў, і разам з Рыгорам Семашкевічам мы былі самымі маладымі студэнтамі БДУ

На дзённым аддзяленні я вытрымала толькі два з паловай курсы. Было надта цяжка без аніякай дапамогі, таму ў 1963 г. я перайшла на

завочнае аддзяленне і пераехала ў Віцебск, да цёткі. Як ні хацелася мне ў Гродна, але ж там не было дзе нават спыніцца.

З Карпюком я пабачылася толькі ў 1965-м, калі ён наведаў Віцебск.

— Дурніца, што не напісала мне! Я б нешта прыдумаў! — былі ледзь не першыя ягоныя словы.

— А што вы можаце прыдумаць? Я і ў Віцебску ледзь прапісалася...

— Калі хочаш у Гродна, кажы!

— Канешне, хачу!

— То чакай!

Я загарэлася надзеяй. Ужо ведала — Карпюк проста так не кідае абяцанкаў. І праўда — месяцы праз тры ён мне патэлефанаваў:

— На лета я знайшоў табе працу ў лагеры, будзеш піянерважатай, а восенню пойдзеш працаваць у школу.

І я пераехала ў горад свайго дзяцінства.

Гэта таксама вялікая паласа майго жыцця: першая кватэра, шлюб, нараджэнне сына... Але гаворка тут — пра Аляксея Нічыпаравіча.

Першае, з чаго ён пачаў у Гродна, было:

— Ты сабрала кніжку вершаў?

Я і не думала пакуль пра кніжку. Хаця на першай жа сустрэчы студэнтаў ва універсітэце больш вопытны і сталы Эдуард Зубрыцкі запытаўся ў нас з Рыгорам Семашкевічам: «А ці гатовая кніжка?» У мяне да таго часу назбіралася, можа, пяцьдзесят больш-менш вартых вершаў. А трэба было нашмат болей.

— Дык садзіся і друкуй усё, што ёсць, а там паглядзім! — тут жа вызначыў маю праграму на бліжэйшы час Карпюк.

Я пачала працаваць у Гродна і паціху збірала вершы ў зборнік.

А тым часам літаратурнае жыццё ў Гродна вiравала: праводзіліся літаратурныя аб'яднанні пры газеце «Гродненская правда», дзе працаваў літкансультантам Васіль Быкаў, да якога вялікая літаратурная слава прыйшла з надрукаваннем ў Маскве яго «Трэцяй ракеты». У Гродна да гэтага яшчэ толькі прызвычайваліся, як прызвычайваліся і да таго, што ў Зэльве «праявілася» сваімі вершамі, якія стала магчымым друкаваць, Ларыса Геніюш.

Не буду сцвярджаць, што менавіта Карпюк дабіўся ейнага друкавання, — я ўсё ж была занадта маладая ў гэтай гасподзе і многага проста не ведала. Але менавіта ён упершыню павёз нас, гродзенцаў, да Ларысы Антонаўны, і гэтае знаёмства канчаткова перакуліла той свет, да якога я пачала пільна прыглядацца яшчэ з часоў XX з'езда

КПСС. Тады ж я даведалася пра БНР і ролю ў ёй Геніюш. Узаемаадносіны Ларысы Антонаўны і Аляксея Нічыпаравіча ў розныя гады складваліся па-рознаму, што можна прасачыць па ейных лістах рознага часу. Але я думаю, што А. Карпюк рабіў усё магчымае, што можна было зрабіць для яе ў тых хамскіх, бязбожных варунках, якія склаліся вакол Л. А. у Зэльве і вышэй.

Рукапіс маёй першай кніжкі «Раніца» (пазней мне прыпісалі атаясамленне яе з назвай газеты, якая выдавалася ў часы вайны) Карпюк сам павёз у выдавецтва і паказаў Петрусю Броўку.

Кніжка неўзабаве выйшла, і гэта была цалкам ягоная заслуга.

Аднак быў і іншы складнік нашага жыцця: усе мы былі пад пільным кантролем адпаведных органаў, а Карпюк даваў мне чытаць замежныя выданні, Салжаніцын, эмігранцкі друк, — усё тое, за што можна было і «схлопотать». Гэта была наша таямніца, пра якую я не казала нікому, нават бліжэйшым сябрам.

Аднак пазбегнуць непрыемнасцяў не ўдалося. І пра адну з іх ён апавядаў мне сам, прычым ў гумарыстычнай форме. З ягоных слоў расказваў пра яе пасля і Васіль Быкаў

Было гэта ў час Рэспубліканскага семінара творчай моладзі восенню 1970 г. Я нажыла сабе вялікую непрыемнасць: адмовілася ад Ганаровай граматы ЦК ВЛКСМ, якую мне павінны былі ўручыць у канцы гэтага семінара. Было нас пяцёра маладых, хто ведаў аб будучых узнагародах, і мы вырашылі абставіць гэтую адмову гучна: заявіць тым пратэст супраць русіфікацыі і супраць рэпрэсій ў БДУ (тады якраз выключылі з універсітэта А. Разанава і В. Яраца). Так сталася, што першаю выклікалі мяне, і я зрабіла так, як мы дамаўляліся. Але іншыя — спалохаліся. Быў вялікі скандал, і аб гэтым тут жа стала вядома «наверсе».

Карпюк, які гэтай ноччу ехаў у цягніку на сустрэчу з загадчыкам аддзела прапаганды С. Паўлавым, нічога пра гэта не ведаў. І таму, калі Паўлаў адразу накінуўся на яго за ідэалагічныя хібы гродзенскіх пісьменнікаў і дадаў: «А тут яшчэ гэтая вашая Іпатава!», Аляксей Нічыпаравіч бадзёра адрапартаваў:

— А што Іпатава? Маладая паэтка, цалкам знаходзіцца пад маім уплывам!

— Яно і бачна! — закрычаў ідэолаг, і перцу, якім ён пасля доўга пасыпаў беднага А. Н., мабыць, хапіла б на ўсе сталоўкі не толькі Гародні, але й Мінска...

Калі ж па гэтай справе ў Гародню была адпраўлена адмысловая камісія Саюза пісьменнікаў, ён, як не раз расказваў В. Быкаў, сустрэў старшыню камісіі А. Алешку такімі словамі:

— Як ты згадзіўся палівацъ памыямі гродзенскіх пісьменнікаў, то руку я табе не падам — бо не паважаю. Але як старшага ад Саюза пісьменнікаў, па службовай неабходнасці, я павінен цябе сустрэць — то давай павітаемся!

Разам з ім мы пасля пісалі тлумачэнне, якое Алешка і камісія павезлі назад у Мінск. Там гэтую справу хутка «патушылі» М. Танк і І. Шамякін. Аднак у Гародні мяне паспрабавалі выключыць з камсамола, што аўтаматычна пазбаўляла мяне працы на тэлебачанні, дзе я ў той час служыла. Аднак — не ўдалося, бо за мяне заступіліся амаль ўсе супрацоўнікі нашай тэлевізійнай студыі, — і гэты іхні пратэст доўгія гады саграваў маю душу...

Шмат можна ўзгадваць розных выпадкаў, звязаных з нашым аддзяленнем і асобай А. Карпюка.

Дарэчы, хацела б я узнавіць у памяці верш, які Данута Бічэль чытала на 60-годдзі А. Карпюка і які заканчваўся выдатным, як на мой погляд, азначэннем яго асобы:

Карпюк магутны, нібы зубр,
Які пасецца ў заапарку.

Заапаркам для гэтага магутнага зубра была ўся наша рэчаіснасць. З аднаго боку — у савецкай улады было як бы прызнанне аўтарытэту пісьменнікаў. І з нашым абласным аддзяленнем лічыліся: пісьменнікаў заўсёды запрашалі на розныя гарадскія і абласныя ўрачыстасці, ім у абыход чаргі давалі кватэры. З другога боку, існаваў заўсёдны нагляд, рэгулёўка дзейнасці і імкненне абмежаваць творчасць жорсткімі рамкамі дазволенага. Вось на гэтым і палягаў асноўны канфлікт Карпюка з уладамі — ён рэзаў праўду-матку ў вочы, а гэта не падабалася.

Яго цкавалі ў Гродна, можа, не так жорстка, як Ларысу Геніюш у Зэльве: усё-ткі быў ён кавалерам ордэна «Віртуці Мілітары», заслужаны партызан, аўтар многіх папулярных на Гродзеншчыне кніг, такіх, як «Данута» і «Вершалінскі рай». Аднак хто можа штосьці параўноўваць у такой справе, як цкаванне? Тым болей такое, якое абрынулася на яго, — выключэнне з партыі, абвінавачванне ў супрацоўніцтве з немцамі — з пачатку да канца сфабрыкаванае, пасля кінутае, як быццам нічога і не было.

Але было, было! Быў сжаўцелы ягоны твар, калі ён прыязджаў у Мінск, хадзіў па інстанцыях, нешта даказваў. Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў спрабавала неяк палепшыць сітуацыю, але ўдалося гэта не хутка.

Думаю, што і без мяне нехта абавязкова апіша, узгадваючы Аляксея Нічыпаравіча як мужнага барацьбіта, той уплыў і аўтарытэт,

якi ён меў у пiсьменнiцкiм асяроддзi. Сапраўды — у час самых сумных пленумаў i сходаў варта было толькi аб'явiць, што выступае Карпюк, як iранiчныя пiсьменнiкi, што дымiлi ў калiдорах i з'едлiва каментавалi прамоўцаў, адразу ж падавалiся ў залю. I не шкадавалi — прамовы нашага гродзенца былi заўсёды самымi яркiмi i жывымi, бо казаў ён тое, на што асмельваўся далёка не кожны.

Зараз мы ўсе перажываем час, калi ў шалёным вiры падзей нiбы пераціраюцца i канаюць усе ранейшыя культурнiцкiя i духоўныя каштоўнасцi. Але мне верыцца — у беларускай лiтаратуры назаўжды застанецца лепшае са створанага гродзенскiм рамантыкам Аляксеем Карпюком, якi ў тыя — савецкiя, таталiтарныя часы! — пражыў жыццё свабодным чалавекам...

Ягоныя творы любяць на Гродзеншчыне, асаблiва студэнты. Кнiгi яго ў бiблiятэках зачытаны да дзiрак.

А магiла яго — на новых могiлках недалёка ад былога азот-натукавага камбiната, на участку № 1, у цэнтры, на невялiкiм узгорку. Апошнi раз, калi я там была, ля гранiтнага шматкутнiка ляжала бел-чырвона-белая стужачка i гваздзiкi.

I я спадзяюся, што на Радаўнiцу i на Дзяды сюды будуць прыходзiць тыя, хто яго любiў i шанаваў пры жыццi, i тыя, маладыя, хто яго не ведаў. Бо ўжо пятнаццаць гадоў прайшло з часу смерцi Аляксея Нiчыпаравiча, вырасла новае пакаленне.

Можа, нешта ў гэтым новым пакаленнi ўсё ж будзе i ад яго вальналюбнай, няўрымслiвай, бясстрашнай душы?!

## СІНЯВОКІ ВАСІЛЁК...

Мы шукалі магілу Міхася Восіпавіча Касцевіча (Міхася Васілька; 1.(14)11.1905-3.9.1960) на старых гродзенскіх могілках, што месцяцца на вуліцы Антонава, вельмі старанна. Аляксей Пяткевіч паўтараў:

— Яна недзе тут, я добра памятаю!

Я таксама памятала, што яна недзе на самым пачатку, налева ад увахода. Але — як хто адводзіў вочы. Ды толькі нядаўна пад корань зрэзаныя дрэвы змянілі ўсе арыенціры. Мы ажно пратапталі па зарослым могільніку дарожкі, а магілу Васілька не знайшлі.

Потым аказалася: мы праходзілі зусім побач, але пахаваны ён быў не ў агульным шэрагу, а трохі наўзбоч, асобна.

Падумалася: трэба часцей прыходзіць сюды, да Міхася Восіпавіча. Мы ўсе цяпер такія занятыя, вечна ў нейкай мітусні, — а вось ён знаходзіў і час, і сілы, каб з намі сустракацца, клапаціцца. Можа, і па гэтай прычыне пайшоў з жыцця так рана, — зусім рана...

Не ведаю, хто ўпершыню расказаў пра мяне вядомаму паэту, тады супрацоўніку «Гродзенскай праўды» Міхасю Васільку, але аднойчы дырэктарка дзіцячага дома выклікала мяне, дзевяцікласніцу, у свой кабінет і загадала:

— Заўтра пасля школы аднясеш свае вершы ў «Гродненскую правду» да Міхася Васілька.

Асоба Міхася Васілька — знанага паэта былой Заходняй Беларусі, падпольшчыка і змагара з фашызмам, патрабавала вершаў не абы-якіх. І таму я ўначы не толькі перапісала ўсё, што ў мяне было начыркана на лістках, але і сачыніла нейкі дужа патрыятычны верш і паклала яго паверх свайго танюткага стосіка. З тым і пайшла ў рэдакцыю.

Міхась Васілёк, якому не было яшчэ і пяцідзесяці чатырох, выглядаў немаладым і хваравітым, сутуліўся і ўвогуле рабіў уражанне чалавека, які смяротна стаміўся ад жыцця і хацеў бы аднаго — схавацца ад надаедных вершаплётаў, ад газетных палос і ўвогуле ўсяго рэдакцыйнага цяжару. Толькі што, на маіх вачах, ён адбіўся ад нейкага маладога «генія», які чытаў вершы з завываннем і пасля кожнай страфы прыстукваў цяжкім, у асеннім брудзе, чаравікам па падлозе так, што ўздрыгвала на стале чарніліца. Калі надышла мая чарга мучыць яго вершамі, ён уздыхнуў, узяў стосік і стаў чытаць. Вочы яго былі пачырванелымі і пакутлівымі.

Патрыятычны мой верш, відаць, зрабіў на яго тое ж уражанне, што і завыванне «генія». Ён моўчкі адклаў яго ўбок, стаў цярпліва чытаць іншыя. Першы, другі, трэці...

Калі ён узняў галаву, я раптам убачыла, што вочы ў яго — пранізліва-сінія і зусім маладыя.

Калі быў прачытаны апошні вершык, ён усміхнуўся і зусім іншым голасам загаварыў:

— Ну што ж, малайчына. Русізмаў тут поўна, але ёсць вобразы. Ёсць настрой. Будзем друкаваць...

З таго часу я ўвайшла ў літаратурныя колы Гродна і, нягледзячы на тое, што была школьніцай, некалькі разоў выступала разам з Міхасём Васільком.

Ён быў вельмі вядомым на Гродзеншчыне. І не толькі вядомым, але і любімым. Яго паэзія, простая і трапная, мела свайго шматгадовага чытача. Думаю цяпер, што феномен Міхася Васілька можна параўнаць хіба з тым паэтычным бумам 60-х гг., калі паэзія бурліла на стадыёнах, збірала тысячныя аўдыторыі ў інстытутах. Нездарма пасля ў многіх сваіх выступленнях Аляксей Карпюк узгадваў такі эпізод: калі яны з Міхасём Восіпавічам на пачатку 50-х гг. прыехалі ў Скідэль і першаму далі слова яму, маладому тады пісьменніку, то ўся запоўненая сялянскімі фурманкамі плошча загула: «Васілька! Васілька!» — і ён змушаны быў перапыніць сваё выступленне і саступіць месца Васільку...

Дарэчы, хачу ўзгадаць і зусім нядаўні эпізод: у Атаве, калі я гасцявала ў спадарыні Івонкі Сурвіллы, старшыні Рады БНР, яна, расказваючы пра свайго мужа Янку, успомніла, што любімым яго вершам з самага маленства быў верш «Эх, каб грошы, толькі грошы!». Аўтара яна не ведала. Я з радасцю выслала ёй тэкст гэтага вядомага верша, які ў 30-я гг. на памяць ведалі сотні тысяч беларусаў...

Дык вось, выступленні Міхася Васілька вызначаліся, калі так можна сказаць, нейкай асаблівай сціпласцю. Ён чытаў, як быццам расказваў блізкаму сябру нейкае здарэнне — нягучна, без афектацыі. Але ўсе слухалі, стаіўшы дыханне, дый часта выступленнем кіравалі чытачы. Яны патрабавалі: «Як я пана перанёс!», «Эх, каб грошы!» — і ён чытаў вершы, і было бачна, як варушацца вусны ў слухачоў, якія паўтараюць за ім любімыя радкі...

Аднойчы перад пасяджэннем чарговага літаратурнага аб'яднання ён папрасіў занесці яму вершы дахаты, — мабыць, блага сябе пачуваў, а трэба было рыхтавацца да пасяджэння. Памятаю, як здзівіла мяне больш чым сціплая абстаноўка кватэры — даматканыя дарожкі, жалезны ложак. Тады я не разумела, што ён амаль не меў ганарараў, таму што сапраўды быў надта стомлены жыццём і выпрабаваннямі, а творы патрабуюць не толькі натхнення, але і звычайных чалавечых сілаў. Заробак жа літкансультанта не дазваляў надта раскашавацца.

Тады ж, мабыць, я і бачыла яго апошні раз, бо на тое літаратурнае аб'яднанне не пайшла, — у дзетдоме было нейкае свята. Запомніўся з тае апошняй сустрэчы твар паэта — зжаўцелы і пакутлівы, ціхі голас, нейкія збалелыя вочы, як быццам ён стаяў ужо на другім беразе вялікай чалавечай ракі...

На яго пахаванні 3 верасня 1960 г. я не была. Тады наш дзіцячы дом рабілі інтэрнатам, яго толькі што перавялі ў новы будынак за Нёманам, і там не было тэлефонаў.

Яго страту я адчувала як страту блізкага чалавека.

Можа быць, менавіта таму, паступіўшы на рускае аддзяленне БДУ імя Леніна, я вырашыла для сябе пісаць дыпломную працу на беларускім аддзяленні, і ў памяць аб Міхасю Васільку ўзяла тэму дыпломнай працы «Заходнебеларускі паэт Міхась Васілёк». Гэта выклікала напачатку вялікае здзіўленне: яшчэ не было выпадку, каб «русалкі», як нас называлі, звярталіся да беларускай тэматыкі дыпломных, а ў дадатак яшчэ і на беларускай мове! Аднак паставіліся да мяне з разуменнем, далі ў навуковыя кіраўнікі Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, і дыпломную працу я з поспехам абараніла.

Думаю цяпер — трэба пашукаць тую дыпломную, бо шмат там «накапана» было таго, што і па сёння не адкрыта для шырокай грамадскасці. Працавала ж я над гэтай тэмай не дзе-небудзь, а ў Вільні, у Дзяржаўным гістарычным архіве, а жыла ў невялічкай гасцінічцы пры Саюзе пісьменнікаў Літвы. Уладкаваў мяне туды — бясплатна! — Альбінас Жукаўскас, колішні старшыня Літаратурнага фонду Літвы і вялікі прыяцель беларусаў. Я і зараз узгадваю яго часта і з вялікай цеплынёй. Немалады, вельмі інтэлігентны, ён меў, здаецца, маці-беларуску і досыць добра гаварыў па-нашаму. А. Жукаўскас падарыў мне незабыўныя дні, асабліва ж вечары, калі ў гэтым мінігатэльчыку я бывала адзінай насельніцай. Сыходзіла дзяжурная, пажадаўшы мне добрай ночы. Я піла гарбату, глядзела, як на спачатку ярка-ружовым, пасля ружова-попельным, а затым сінім небе паступова цямнелі абрысы суседняга касцёла. Іх жа я бачыла, прачынаючыся нібыта ў нейкай казцы. Пасля ішла па ранішніх вуліцах Вільні, заходзіла снедаць у якую-небудзь кавярню (так не падобную і ў тыя, савецкія, часы да нашых сталовак!), а пасля да вечара гартала пажоўклыя газеты, якія за дзесяцігоддзі кранаў хіба што Арсень Ліс ды нястомны Генадзь Кісялёў, і выпісвала радкі з вершаў Васілька.

Гледзячы цяпер на сябе тую, жахаюся, што я была гэткай легкадумнай і не зусім разумела, што гэтыя імгненні не паўторацца, а казкі жыццё будзе даваць у будучым строга па адмераных мікраскапічных дозах. Такая Вільня ў маім жыцці ўжо не паўтарылася ніколі. Хаця

пазней, працуючы на Беларускім тэлебачанні рэдактаркай, я нямала перадач зрабіла менавіта па архіўных дакументах — і пра Камілу Дуніну-Марцінкевіч, і пра Валянціна Таўлая, і пра ўдзельнікаў Грамады. Ды гэта — іншая тэма. А тады, у час падрыхтоўкі маёй дыпломнай, маючы колькі месяцаў вызвалення ад працы, я часта наязджала ў Вільню і адкрывала для сябе вялікі беларускі пласт пасляваеннага беларускага жыцця. Тады ж пазнаёмілася з Зоськай Верас, Антонам Фабіянавічам Шантырам, Галінай Войцік, Янкам Шутовічам і ягонай жонкай Онай Міцютэ і многімі іншымі — і ўсё гэта дзякуючы Васільку...

Ягоны воблік і доля былі настолькі значнымі для мяне (асабліва барацьба за беларускасць, якую я тады проста не магла аддзяліць ад камуністычнага прымесу), што я ў сваёй другой кніжцы вершаў «Ліпеньскія навальніцы» (1973) прысвяціла яму верш, які доўга чытала ў час розных сустрэчаў перад самай рознай публікай:

МІХАСЮ ВАСІЛЬКУ

Цёмнай дажджліваю ноччу
Шашаль шуфляду точыць,
Газнічка скрыпіць з адчаем,
Ты — грамату вывучаеш.

Пад стомленымі рукамі
Кладуцца вершы радкамі.
Крамола ў хаце — вершы!
І цэнзар твой самы першы —
Пан камендант — смяецца:
«Быдла ў паэты рвецца!»

За кожны радок плаціў
Нямногім, што меў у жыцці...
Ападалі вячэрнія росы
На дзявочыя косы.
Табе не часта было іх кранаць —
У пастарунках ад болю канаць.
І верыць, у болю і крыўдзе,
Што праўда ўсё-ткі прыйдзе...

Як хочацца крыкнуць яму цяпер:
«Прыйдзе яна! Ты толькі вер!»
Ды сцяна, празрыстая, нібы шкло,
Аддзяляе нас ад таго, што прайшло.
...Паэзія рвецца праз краты,
Год тысяча дзевяцьсот трыццаты...

І яшчэ адзін верш быў прысвечаны ягонай памяці — у год ягонага сямідзесяцігоддзя, у 1975-м, мы ездзілі ў Баброўню. І я адразу ж, як у журналісцкім запісе, адзначыла:

Моўчкі крочу вёскай небагатай.
Не мая, здаецца, ў тым віна,
Што на месцы колішняе хаты
Пырнік, ды асот, ды бузіна.

Там жа, перад урачыстай вечарынай, напісаўся ўвесь верш, які я прачытала і якім былі надта незадаволены гродзенскія ўлады.

Ад тых здзекаў, ад ўсяго, што выпала яму на долю ў часы раздзялення Беларусі, а пасля і вайны, ён і згарэў так рана — у няпоўныя пяцьдзесят пяць гадоў.

Толькі пазней я даведалася некаторыя падрабязнасці пра ягонае няпростае жыццё, — што школу ён скончыў у бежанстве, у Казлове (пасля Мічурынску), што дадому вярнуўся ўжо семнаццацігадовым юнаком, а друкавацца пачаў пры Польшчы і быў літаратурным супрацоўнікам у папулярным часопісе «Маланка».

Руская адукацыя не выветрыла ў ім глыбіннае адчуванне душы беларускага селяніна, і таму яго вершы былі заўсёды трапныя і патрэбныя народу. І застаецца толькі дзівіцца іхняй энергетыцы — то з'едліва-іранічнай, то насмешлівай і вясёлай, дзівіцца таму, што, чытаючы Васілька, многія знешне ўяўлялі яго зусім іншым, чым ён быў у сапраўднасці, асабліва ж апошнія гады. На здымку ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (1984) ён выглядае гэткім мажным, упэўненым, «хрэстаматыйным». Я ж запомніла яго худым і невысокім, з сялянскімі спрацаванымі рукамі, звычайна маўчуном, але з гэткай часам то шчырай дзіцячай, то адчайна-спакутаванай усмешкай, што душу працінала нейкае адчуванне таямніцы, якая была ў ім. Можа, гэта было разуменне, што «светлая будучыня», дзеля якой ён столькі перанёс, адсоўваецца ўсё далей, што сіл, як і самога жыцця, ужо амаль не застаецца...

Няўжо прайшло ўжо сорак пяць гадоў з ягонай смерці? Як жа хутка прамільгнулі часы, калі я бегла па доўгай-доўгай вуліцы Леніна на літаратурнае аб'яднанне «Гродненской правды» з новымі вершамі, каб паказаць іх Васільку... Нашаму пакаленню выпала жыццё нашмат лягчэйшае, толькі вось абавязак бараніць беларускае Слова і клікаць да свабоды застаўся той жа. А яшчэ ледзь не самым важным для кожнага інтэлігента з'яўляецца абавязак бараніць памяць тых, хто нёс яго, Слова, праз гады пальшчызны, русіфікацыі і забыцця так, як нёс яго Міхал Касцевіч, што ўзяў сабе за псеўданім даўні паэтычны сімвал Беларусі — сінявокі васілёк.

# ІМЯ ЁЙ – ПАЛЫН...

Магіла Алеся Адамовіча (3.9.1927-26,1.1994) знаходзіцца амаль пасярэдзіне пасялковых могілак Глушы Бабруйскага раёна. Вялікі ружаваты ледавік-валун праглядаецца здалёк, хаця навокал апошняга прыстанішча Аляксандра Міхайлавіча павырастала ўжо шмат высокіх чорных агароджаў і каменных стэл.

Хаця пісьменнік і нарадзіўся ў в. Канюхі Капыльскага раёна, менавіта Глуша стала яго любоўю, і тут, дзе ён хадзіў у школу, спазнаваў навакольны свет, дзе чакаў бацьку з фронту і разам з маці як сувязны дапамагаў партызанам, а пасля разам з усёй сям'ёй Адамовічаў пайшоў у партызанскі атрад імя Кірава, — тут ён пажадаў застацца навекі. І калі памёр, калі яго гарачае, чуйнае да любой няпраўды сэрца нарэшце не вытрымала, сям'я пахавала яго менавіта тут, прывёзшы з Масквы, дзе ён жыў апошнія гады, фактычна выгнаны з Беларусі.

Усё сваё жыццё ён быў тым, каго называюць першапраходцам. У сваёй кандыдацкай дысертацыі па творчасці Кузьмы Чорнага дваццацішасцігадовы Адамовіч смела ўзарваў закамянелыя пласты маўчання аб выдатным празаіку, чый творчы шлях быў абарваны рэпрэсіямі. Яго творы аб «партызанцы» поўныя нечаканых і па-сапраўднаму наватарскіх дэталяў, а кнігу «Я з вогненнай вёскі...», напісаную ў сааўтарстве з Я. Брылём і У Калеснікам, з цяжкасцю дазволілі друкаваць.

Кожны ягоны твор быў падзеяй — аб ім спрачаліся, яго асуджалі барацьбіты за «светлае будучае», паколькі ён часцей за ўсё не адпавядаў раз і назаўсёды зацверджаным стандартам, і разам з тым творчыя адкрыцці Адамовіча ўздымалі дух супраціўлення ў тых, хто хацеў пераменаў.

Але самы вялікі чалавечы і творчы подзвіг Алеся Адамовіча ў тым, што ён быў першым, хто ўзняў свой голас ў імя Праўды аб Чарнобылі тады, калі гэтая праўда ўсімі спосабамі замоўчвалася.

Кнігі А. Адамовіча працягваюць выходзіць і пасля смерці дзякуючы найперш гераічным высілкам дачкі Наталлі, якая працуе з архівамі бацькі. На вокладцы яго апошняй кнігі «...Імя гэтай зорцы Чарнобыль» (Мінск: Каўчэг, 2006) ёсць радкі Васіля Быкава, з якім ён шчыра і аддана сябраваў многія гады: «Адамовіч не прывык вагацца, разлічваць свае шанцы і, здараецца, насуперак усялякай логіцы робіць! Хіба не сведчыць аб тым яго рашучы, грамадзянскі ўдзел у ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы? Учынак, які каштаваў Адамовічу немалых страт, затое ўратаваў тысячы людзей ад

немінучай бяды. Цяпер многія і не падазраюць, каму абавязаныя жыццём і здароўем».

...Раз-пораз прыязджаючы да магілы Алеся Адамовіча, я ўсякі раз узгадваю яго вясёлую ўсмешку, няўрымслівасць і клопат пра маладых творцаў. Яму хацелася, каб беларуская літаратура пазбаўлялася правінцыйнасці, каб яна была смелай і бескампраміснай. Тады не заўсёды яго разумелі нават калегі, з ім «браліся ў рожкі», папракалі ў вастрыні выразаў і азначэнняў той ці іншай з'явы. А ён і сапраўды быў бескампрамісным, бо глядзеў наперад, у наша сённяшняе, і разумеў, колькі завалаў трэба разгрэбці, каб наша грамадства стала адкрытым і свабодным.

Дарагі Алесь Міхайлавіч, Вашы парасткі даюць плён: Вашы маладзейшыя калегі годна нясуць сёння імя беларускага пісьменніка, не паддаўшыся на салодкія абяцанкі, якімі купляецца Праўда. Мабыць, і пра яе можна было б сказаць, што яна, праўда, горкая, як палын. Не кожны можа яе трымаць у душы. Вы — трымалі. І, магчыма, таму роўнага Вам няма і сёння...

## БЕЛАРУСКА МАРЫЯ

Калі пісьменнік Уладзімір Арлоў узгадаў імя Марыі Мацюкевіч (26.7.1949-7.1.2003) на Радыё «Свабода» ў сваёй перадачы «Імёны свабоды», я патэлефанавала яму і падзякавала за тое, што і ён памятае і любіць Марыю.

Настаўніца адной з Салігорскіх школ, яна была апантанай аматаркай роднага слова, літаратура была яе стыхіяй, краінай яе душы.

Колькі гадоў запар яна рыхтавала і праводзіла на Салігоршчыне літаратурныя святы, адкрытыя ўрокі па творах любімых паэтаў, класікаў. І заўсёды лейтматывам на гэтых імпрэзах была Свабода — таму што Марыи заўсёды запрашала да сябе толькі тых літаратараў, чые душы не падтачыла ржа ліслівасці і імкнення «падладжвацца» пад кан'юнктуру.

Вось чаму ўлады яе не любілі і не хавалі, асабліва апошнім часам, гэтай нелюбові. Калі ў Салігорску забілі яе сына, яна нідзе не магла знайсці справядлівасці, а мы, хто таксама быў у няміласці ў уладаў, не маглі яе абараніць.

Яна памерла вельмі хутка пасля сынавай смерці — не вытрымала збалелае сэрца. І лягла ў замерзлую студзеньскую зямлю побач з ім.

Калі мы апошнім разам былі на яе магіле, там ляжалі кветкі. Мабыць, адліга рэзка змянілася марозам, і яны, у ледзяных футаралах, гарэлі чырвонымі ліхтарыкамі на белым заснежаным грудочку скалелай зямлі.

Мне здалося — гэта гарэлі незгасальным агнём свечкі нашай памяці...

## У НЯБЕСНЫ ІРЫЙ

На магіле Лявона Драздова (2.07.1949 — 6.02.2007) на Лаўсанаўскіх могілках у Магілёве пакуль няма помніка: згодна з традыцыяй, яго паставяць толькі праз год пасля смерці.

Заўчасная смерць яго стала моцным ударам для магілёўскай суполкі Таварыства беларускай мовы і для ўсіх, хто спавядае ідэі дэмакратыі. Бо ён змог зрабіць тое, што ў таталітарныя часы не пад сілу многім: перамагчы ў сабе страх, смела пайсці насустрач парывам сваёй душы. А яна, прайшоўшы праз многія выпрабаванні, засталася і беларускай, і свабодалюбнай.

Лявон Драздоў нарадзіўся на Кругляншчыне. Па заканчэнні Уфімскага нафтавага інстытута вярнуўся ў Магілёў і ад 1973 г. працаваў на аб'яднанні «Хімвалакно» — займаўся пераважна прафсаюзнай дзейнасцю. У сакавіку 2005 г. па стану здароўя сышоў з пасады. Ад таго часу загадваў музеем і бібліятэкай прадпрыемства.

Калі мне патэлефанавалі з Магілёва і паведамілі пра ягоную смерць, я адчула душэўны боль і пустэчу. Адгукнулася на страту словамі некралога, які быў надрукаваны ў газеце «Наша слова» і якім я хачу закончыць аповеды пра людзей, што пахаваны на зямлі Беларусі і да чыіх магіл я заклікаю прыходзіць заўсёды, як здарыцца для таго нагода.

«Лявон Драздоў быў з тых мужчын, каго смела можна назваць рыцарамі — па трапяткіх адносінах да жанчыны, па адказнасці за сваё слова, па сумленнасці душы.

Ён любіў беларускую літаратуру, тонка і чуйна адчуваў паэзію. І гэта надавала яму моцы змагацца за яе, прапагандаваць паўсюдна, дзе толькі можна, што для навакольнага, спрэс русіфікаванага, пакорліва-згодлівага і раўнадушнага чынавенства, мусіць, было дзіўна і нават дзіка. Ад гэтага моцна пакутаваў, і дасюль памятаю ягоныя балесныя вочы, калі ён не змог «прабіць» паўторнае выступленне групы пісьменнікаў на «Хімвалакне», дзе мы выступалі першы раз недзе ў 2003 г. Усё ж разам з нястомным Алегам Дзьячковым дамогся іншага памяшкання, і на новую сустрэчу прынёс букет капрызна-далікатных лілей — і гэта ў заснежаным Магілёве!

Спагадлівы і сардэчны, далікатны і светлы, ён стаў сябрам нашай сям'і — прысылаў лісты, збіраўся прыехаць да нас ў вёску. Любіў вандраваць па Беларусі і фатаграфаваць тое, што западала ў душу.

З 2007 годам павіншаваў нас фотакарткамі з тых вандровак. Мне асабліва даспадобы прыйшоўся Глыбоцкі касцёл, — ён быў зняты

знізу так, што здавалася, што ўвесь гэты вытанчаны і строгі будынак зараз уздымецца ў высокае бяскрайняе неба.

Хто ж мог думаць, што душа Лявона Драздова неўзабаве сама ўздымецца да вечных неспасцігальных вяршыняў і паляціць ад нас?

Няхай увойдзе яна ў той куточак Ірыю, дзе жыве і тчэцца нябесная Беларусь — вольная, шчаслівая, вечная...»

## МАГІЛЫ НА ЧУЖЫНЕ

### *ВІНЦУК ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ*

Калі ў 1993 г. мне пашчасціла наведаць беларускія могілкі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі, Злучаныя Штаты Амерыкі), я сфатаграфавала шмат надмагільных помнікаў беларускім дзеячам, у тым ліку і помнік колішняму старшыні Рады БНР д-ру В. Жуку-Грышкевічу, пра якога тады ведала зусім няшмат. Толькі ўпала жалезная заслона паміж вольным светам і былым СССР, і паездку ў ЗША мы з рэжысёрам Валерыяй Скварцовай ўспрымалі як цуд. Таму стараліся працаваць колькі было моцы, каб паспець зафіксаваць як найболей ведаў пра дзейнасць нашых землякоў за акіянам — у тым ліку і пра В. Жука-Грышкевіча.

І ўсё ж кніга ўспамінаў пра яго, напісаная яго жонкай, вядомай грамадскай дзяячкай беларускай эміграцыі Раісай Жук-Грышкевіч, трапіла да мяне толькі праз дзесяць гадоў пасля яе напісання, — спадарыня Раіса падарыла мне яе з кранальным надпісам у Таронта, на дзень 25 Сакавіка 2003 г.

З таго часу я прачытала яе ўжо шмат разоў — з самай першай старонкі да апошняй, адбіраючы нейкія дадзеныя да артыкулаў ці проста чарговы раз знаёмячыся з мноствам людзей, пра якіх В. Жук-Грышкевіч пісаў артыкулы і ўспаміны. Да стагоддзя з дня ягоных народзінаў у 2003 г., які мы праводзілі яшчэ ў нашым Доме літаратара ў бібліятэцы, прачытала яго артыкулы і яшчэ раз упэўнілася, якая маштабная яго постаць у нашым беларускім жыцці і як важна, каб ён вяртаўся да нас ў поўным аб'ёме — і як таленавіты публіцыст, і як грамадскі дзеяч, і, нарэшце, як чалавек, які ўсё сваё жыццё служыў ідэі вольнай, свабоднай Беларусі. Усе яго артыкулы, успаміны, лісты поўняцца гэтай любоўю і гэтай верай у яе будучае.

Спачатку выпускнік, а потым і выкладчык Віленскай беларускай гімназіі, ён быў у 1939 г., калі ў Вільню ўвайшла Чырвоная Армія, арыштаваны і зняволены. Турмы мяняліся — Лукішкі, Беласток, Вялейка, Мінск, Полацк, Орша... Потым былі «папраўча-працоўныя лагеры на Белым моры і Паўночным Урале, дзе ён сустрэў мноства вядомых беларусаў», таксама зняволеных за ўяўныя правіны перад савецкай уладай.

Яму пашанцавала: ён вырваўся з лагераў, паступіўшы ў польскае войска, якое фарміравалася згодна з дамовай генерала Сікорскага з савецкім урадам аб сумеснай барацьбе з фашызмам са зняволеных грамадзян былой Рэчы Паспалітай. У складзе гэтага войска ён ваяваў

у Іраку, Палесціне, Егіпце, а таксама браў удзел у славутай бітве пад Монтэ-Касіна, дзе палегла шмат палякаў і беларусаў.

Аднак шмат каму ўдзел у войску генерала Андэрса выратаваў жыццё, — тыя, хто ацалеў, ужо не паддаліся на розныя абяцанні савецкіх энкавэдыстаў і засталіся жыць на чужыне, каб тут змагацца за вольную і незалежную Беларусь.

У 1946 г. В. Жук-Грышкевіч з жаўнерамі-беларусамі арганізаваў у Лондане Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, быў ягоным першым старшынёй. Пасля, пераехаўшы ў Канаду, спрычыніўся да арганізацыі першай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і арганізаваў лектарат беларус аведы пры універсітэце Таронта, дзе ён быў выкладчыкам. Там жа восенню 1952 г. абараніў доктарскую дысертацыю і стаў доктарам філасофіі.

Нейкі час працаваў на Радыё «Свабода» ў Мюнхене, пасля, зноў вярнуўшыся ў Канаду, арганізаваў Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, а таксама Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ).

З 1971 па 1982 г. быў старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — органа, які некалі атрымаў паўнамоцтвы ад Усебеларускага кангрэса 1917 г. і аб'явіў аб незалежнасці Беларусі. Вымушаная з'ехаць у эміграцыю, Рада БНР праз ўсе гады змагалася за беларускую незалежнасць і дасюль, да перадачы сваіх паўнамоцтваў, прадстаўляе беларусаў у вольным свеце.

Ужо гэты кароткі пералік можа даць хаця б прыблізнае ўяўленне аб пакручастым, але поўным змагання і мужнасці жыцці гэтага беларускага патрыёта. І нездарма на паховінах сярод многіх іншых кранальных словаў гучала адзіная нота, якую добра выказаў адзін з дзеячаў эміграцыі Міхась Тулейка: «Нам трэба верыць, што ўсе, хто працуе для іншых, для дабра свайго народа й Бацькаўшчыны, не паміраюць, яны жывуць вечна, бо іх учынкі вечныя».

## *МІКОЛА ГАНЬКО*

Міколу Ганьку (1924-1999) пашанцавала: ён ажно пяць разоў прыязджаў на радзіму пасля 45-ці гадоў развітання з ёю, калі думалася, што ніколі больш не ўбачыць дарагія сэрцу краявіды Маладзечаншчыны, родны хутар Калядзіна, рэчачку, дзе першы раз убачыў, як іскрыцца сонца ў празрыстай вадзе... Тады, у 1944 г., юнак звёз з Беларусі самае дарагое для яго — кнігу Якуба Коласа «Сымон-музыка». Яна ішла з ім па дарогах Польшчы, Нямеччыны, Аўстрыі, а таксама, калі на параходзе плыў ў Канаду, каб там пачынаць жыццё з пачатку.

Мікола Ганько разам з іншымі землякамі стварыў у далёкай краіне сваю Беларусь — з нацыянальнай царквой, з Беларускім домам, дзе дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем збіраліся, маліліся, святкавалі і раіліся па розных пытаннях свайго жыцця людзі, якія вымушаны былі пакінуць радзіму, але шчыра любілі яе.

Нягледзячы на глыбокую душэўную рану, якую кожны насіў ў душы ад усяго, што давялося перажыць: вайны, пераследаў, развітання з Радзімай, з сябрамі і сваякамі — яны акрэплі, знайшлі сваё месца ў новым жыцці і змаглі скансалідавацца ў Згуртаванне беларусаў Канады — уплывовую грамадскую арганізацыю, з якой сябравалі многія вядомыя палітыкі і да якой прыслухоўваліся палітычныя колы Канады. У архіве Міколы Ганька, які доўгія гады быў старшынёй гэтай арганізацыі, ёсць вітанні ад прэм'ер-міністра Канады і многіх іншых палітыкаў.

Тут, у Канадзе, яны спаўна адчулі, што ёсць жыццё ў вольнай дэмакратычнай краіне, і таму асабліва балюча было ім ўсе гэтыя гады адчуваць, у якой ідэалагічнай зашоранасці, у якім неразуменні таго, што ёсць сапраўдная свабода, жывуць у «камуністычным раі» мільёны іх суайчыннікаў.

Калі спала пражавелая жалезная заслона, якая дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем дзяліла іхні свет, яны адразу змаглі дапамагчы сваім землякам-беларусам, якія ў 1986 г. трапілі пад страшнае апраменьванне Чарнобыля.

Год за годам Мікола Ганько прыязджаў у Беларусь, якая стала да таго часу незалежнай, прывозіў хворым дзецям і дарослым лекі і неабходнае медыцынскае абсталяванне, грошы на якія збіралі па ўсёй Канадзе.

Ва ўсіх гэтых справах яму дапамагала рэдкая па самаахвярнасці і душэўнай чуйнасці жанчына — яго жонка Марыя Ганько, у дзявоцтве Кулеш.

Лёс склаўся так, што ёй давялося хаваць самага дарагога чалавека, якога яна шчыра кахала і чыю справу — абуджаць душы сваіх суайчыннікаў ад сну таталітарызму — працягвае сёння. У 2005 г., у Мінску, выйшла кніга яе ўспамінаў: «Каб сьведчылі пра Беларусь: Жыцьцё і дзейнасыць Міколы Ганька».

Марыя Ганько часта прыязджае на магілу мужа. Ён пахаваны на могільніку Rine Hill Cementari ў Таронта. Сюды прыязджаюць і іншыя канадскія беларусы — і тыя, хто разам з Міколам Ганько маліліся ў пабудаванай імі царкве, збіраліся на святы і рыхтавалі іх, хто дапамагаў і сёння дапамагае станаўленню сапраўднай незалежнасці дарагой для іх краіне. Прыходзяць і маладыя беларусы, хто з'ехаў з радзімы ці па

палітычных, ці па эканамічных прычынах, але захаваў любоў да Беларусі.

...А ў беларускай царкве святога Кірылы Тураўскага ў Таронта на святкаванні Слуцкага збройнага чына гучыць песня, словы якой напісаў брат Міколы Міхась і дзе ёсць такія радкі:

Мы не пахілім галоваў,
Не ўцячом із радоў,
Месца тваё зойме новы,
Помнім ахвярную кроў...

Светлы твой дух адлятае
Долю і Волю шукаць...

Ён сапраўды ўсё сваё жыццё шукаў і адстойваў і шчаслівую долю беларусаў, і іхнюю волю...

## ***АЛЯКСЕЙ ГРЫЦУК***

Аляксей Грыцук памёр 30 мая 1976 г. і пахаваны на гарадскіх могілках у Кінгстане, што ў 250 кіламетрах ад Таронта (Канада). Кінгстан знаходзіцца па дарозе ў сталіцу краіны — Атаву, і таму, едучы туды, канадскія беларусы заязджаюць да ўдавы Аляксея Грыцука Вольгі Грыцук-Дуброўскай, аўтаркі кнігі «Мы стваралі сваю Беларусь», у якой яна апавядае пра свайго мужа — аднаго са стваральнікаў Згуртавання беларусаў Канады.

Вольга Грыцук і яе дачка Юльяна і самі актыўныя грамадскія дзяячкі беларускай дыяспары. Праўда, у апошнія гады актыўна нагадваюць пра сябе і гады спадарыні Вольгі, і пэўная адарванасць ад Беларускага цэнтра ў Таронта.

Хто быў Аляксей Грыцук? Мабыць, найлепшае ўяўленне аб ім дасць некралог (які друкуецца ніжэй), напісаны ягоным шматгадовым сябрам Міколам Ганьком і ўключаны ў кнігу «Каб сьведчылі пра Беларусь». Як жывы паўстае з яго чалавек, які горача любіў Беларусь і змог, будучы магістрам Варшаўскага універсітэта, падняцца ў чужой краіне, што не прызнавала замежных заслуг і дыпломаў, з чорнарабочага да дырэктара бібліятэкі і — амаль што — да дыпламаванага доктара філалогіі. Амаль што — таму што да абароны сваёй дысертацыі пра Максіма Багдановіча ён не дажыў усяго толькі год.

Я прывезла гэтую дысертацыю на Беларусь, каб перадаць яе ў музей Максіма Багдановіча як сведчанне таго, наколькі сіла паэтычнага таленту паэта падтрымлівала і мацавала духоўныя сілы людзей, адарваных ад роднага края.

Да магілы яго дабрацца няпроста. Але няхай тыя, хто прачытаюць гэтую кнігу, ведаюць: на кінгстанскіх могілках Cataraqui ляжыць чалавек, які разам з іншымі ствараў Беларусь якраз такой, якую мы хочам нарэшце пабудаваць: вольную, шчаслівую і вечную...

## СІЛА ДУХУ

*Спраўна па дарозе ідзе аўтамабіль. Знаёмая дарога. Шмат разоў па розных патрэбах прыходзілася сюдою праяжджаць. То ў Манрэаль, то ў Кінгстан. Думкі то забягаюць наперад, то зноў вяртаюцца дзясяткі год назад. Сумнае падарожжа сяньня. Пару гадзін таму атрымалі вестку, што адышоў на вечны супачынак дарагі сябра Алёша Грыцук. Цяжкая бязлітасная хвароба перамагла. Спынілася вясёлае, бадзёрае, поўнае надзеяў і плянаў жыцьцё чалавека, які жыў ня толькі для сябе, але заўсёды думаў і дбаў пра свой народ і Бацькаўшчыну. Любіў прыпамінаць мінулае, але заўсёды глядзеў і думаў наперад.*

*Хачу, дарагія чытачы, падзяліцца з Вамі сваімі сьціплымі ўспамінамі пра Алёшу Грыцука, якога я знаў на працягу больш чым трыццаць год.*

*Прыпамінаю такое здарэньне. Лета 1938 г. На нашым хутары, што знаходзіўся пад Галяновым, часта мелі заняткі жаўнеры польскага войска, якога 86-ты полк пяхоты стаяў у Галянове. У часе з адных такіх заняткаў у нашу хату забег падхаронжы рэзэрвы. Разгледзеўшыся па хаце, папрасіў напіцца. Мама пытаецца: «Малака ці квасу, панок?» — «Кубак малака, цётачка», — адказвае «па-нашаму» пан падхаронжы. Бацькі зацікавіліся, пачалі весьці гутарку.*

*— Адкуль будзеш родам, сынок?*

*— Ад Белавескай пушчы.*

*— Дзе гэта? Гэта мусіць ад Бельска, там, дзе добрае сукно на касьцюмы робяць, — здагадваецца тата.*

*Тата пытаецца пра гаспадарку. Ага, мой тата мае сто дзесяцін зямлі й матаровы млын.*

*Сьвісток. Жаўнеры пайшлі «ў атаку». Бачылі мы яшчэ пару разоў «нашага падхаронжага», нават як адвозіў Кажухоўскіх дзяўчат дадому з балю. Дарэчы, пасьля мы даведаліся, што гэты «наш падхаронжы» быў бы афіцэрам. Калі б наадрэз не адмовіўся зьмяніць веру й нацыянальнасць.*

*Мінула лета. Рэзэрвісты вярнуліся дадому. Прыйшла вайна. Новыя людзі, новыя падзеі, новыя перажываньні й клопаты.*

*Позьняе лета 1945 г. Я сам адзін сярод чужыху Зальцбургу, Аўстрыя. Сумна за домам, няма падзяліцца сваімі думкамі й перажываньнямі. Аднойчы вечарам ад аднаго з украінскіх сяброў даведаўся, што ў другім лягеры ёсьць Беларускі камітэт. Быў чацьвер. У пятніцу мушу ісьці да працы, не магу дачакацца суботы. Раніцай пяшком прыбег туды, дзе было сказана. Распытваю. Накіравалі. Уваходжу, з правага боку дзьвярэй — стол. Прыпёршыся да стала, малады прыстойны чалавек жартуе з сакратаркай. Падыходжу, прадстаўляюся.*

*— Дакумэнты якія маеш? Ведаеш таго? Чуў пра тое? Адкуль? З-пад Галянова? Я там рэзэрву адбываў. Сколькі дзяўчат было ў Кажухоўскага? Я, напэўна, у вашай хаце быў. У твайго таты два громаадводы на дварэ. Адна белая карова з чорнай галавой, а рэшта чорныя з белымі галовамі.*

*Я кажу, што бацькі называлі цябе «наш падхаронжы». Так, таму што наш, дык і быў бы падхаронжым, каб не вайна. Аляксей Грыцук называюся.*

*Спатыкаемся часта. Гутаркі заўсёды накіроўваюцца на грамадзкія тэмы. Пры адным з такіх спатканняў выявілася думка выдаваньня інфармацыйнага лістка для беларусаў, што апынуліся ў Аўстрыі. Каб які рататар, машынка да пісаньня, матрыцы й паперы, дык я кажу, крыху маю практыкі, дык можна паспрабаваць. Алёша за пару дзён кажа, ёсьць рататар і машынка. Дырэктар УННРА дае прыдзел матрыцаў і паперы, арганізуем рэдкалегію й будзем выдаваць «газэту».*

*Слабая друкарня, малады друкар вымазаўся чарнілам з галавы да ног, Алёша памагае. Складаюць сшыткі Алесь, Оля. Алёша арганізуе «кальпартаж» новага выданьня «Зь беларускага жыцьця», № 1, Зальцбург, Аўстрыя.*

*Беларускі камітэт у Аўстрыі хоча навязаць лучнасьць зь беларусамі й беларускім жыцьцём у Заходняй Нямеччыне. Легальна чужынцам не дазваляюць улады пераезд мяжы. Грыцук на аднэй з нарадаў кажа, што пры дапамозе суседзяў і іхных арганізацыяў ёсьць магчымасць пераходу мяжы «начорна». Хто можа зь нейкай карысьцяй адбыць такое падарожжа? Грыцук пайшоў, вярнуўся, ды пайшоў яшчэ раз. Прынёс весткі, навязана лучнасць.*

*Пачынаецца эміграцыя. Апынуліся ў Канадзе. Адбылі кантракты. Далучаемся да арганізацыйнага жыцьця, запачаткаванага тымі, што прыехалі крыху раней зь Італіі. Ізноў рататар, машынкі да пісаньня, паседжаньні рэдкалегіі «Беларускага эмігранта» й Галоўнае ўправы на прыватнай кватэры таго ці іншага. Алёша Грыцук здабыў*

*ад нікога незалежнае памяшканне пры слаўным гузікавым інтарэсе. Асабіста на гэтым ён выйшаў стратным, але праз год часу таронтанская група беларусаў мела святліцу. Дзякуючы Грыцуку мелі пазьней лепшую сьвятліцу, але праз цэлы час Алёша стараецца сам, падганяе іншых, каб набыць свой Дом, заарганізаваць парафію БАПЦ у Таронта.*

*Сабралі крыху грошай, знайшлі аб 'ект. Грошай не хапае, каб даць задатак. Алесь Грыцук пазычае свае апошнія грошы й зацягвае на сябе доўг, каб толькі беларускае жыцьцё трывала. У грамадзкім доме патрэбныя кватаранты. Алесь Грыцук пакідае выгодную кватэру й пасяляецца ў шумным і нявыгадным памяшканні Беларускага дому пры 1000 Дандэс.*

*Я набыў першы аўтамабіль. Алёша пасьля пару тыдняў кажа: «Ну цяпер, Мікола, ня будзе праблемы з адведзінамі нашых далейшых асяродкаў». Па розных справах і нагодах то Манрэаль, то ў Садбуры або іншыя мясцовасці. З аднаго такога падарожжа вярталіся ў галалёд васемнаццаць гадзін з Манрэалю. Алёша прадэклямаваў хіба мне палову беларускай літаратуры й расказаў навейшую гісторыю Эўропы, абы толькі шафёр не заснуў, бо іншыя пасажыры спалі.*

*Аляксей Грыцук ажаніўся, прыдбаў сабе хату, павялічылася сям'я. Ягоная хата сталася другім Беларускім домам. Усе былі вітаныя ў яго хаце, адкуль бы хто не зьявіўся. Зьмяніліся абставіны жыцьця, пайшоў на далейшую навуку. Здабыў новую прафэсію, але й мусіў некалькі разоў мяняць месца жыхарства. Аднак дзе б ня быў, у якіх матэрыяльных умовах, на кожны зьезд, на кожнае сьвяткаваньне, на кожную сустрэчу або паседжанне — у пагоду ці сьнег, летам ці зімой, ажно толькі сёлета першы раз за дваццаць пяць год ня змог Алёша Грыцук быць на сьвяткаваньні 25 Сакавіка.*

*Я ведаў, што Алёша хоча ведаць, як усё адбылося. Сколькі людзей? Як Акадэмія? Мастацкая частка ці добра ўдалася?*

*Вось чым жыў Аляксей Грыцук. Мала гэтага. Калі толькі мог, заўсёды цягнуў сваю хоць невялікую сям 'ю. Стараўся як мог прышчапіць тое самае сваёй дачушцы. Сяньня ўжо, калі тэлефанічна гутарыў з Оляй, дык яны міма свайго нявысказанага гора й жалю цікавяцца тым, што адбываецца ў беларускім жыцьці. Мінула тры тыдні ад таго, як цябе адправілі на вечны супачынак, але парасткі твайго жыцьця. Алесь, мы бачым. Ты пражыў недарэмна на гэтым сьвеце.*

*Перада мной пажоўклыя ад часу лісткі «Зь беларускага жыцьця», Нядзеля, 16 чэрвеня 1946 г. № 7, Зальцбург, Аўстрыя.*

*Ня памятаю, хто пісаў перадавіцу, але зьмест і асабліва яе заканчэньне вельмі добра падсумуюць мае ўспаміны праАлёшу Грыцука й чаму Ён быў такім. Чаму міма магчымасці быць афіцэрам быў толькі «нашым падхаронжым», калі падобныя яму сталіся паручнікамі й маёрамі — іхнымі, ня нашымі...*

*«Беларуса напаўнялі сілаю духу вялікія чыны мінуўшчыны. Напаіла яго сілаю духу родная зямля. Гэтую сілу ўлівалі ў ягонае сэрца казкі гаманлівых бароў і таямнічых пушчаў. Легенды цёмна-блакітных вазёр і рэчак. Матчыны песьні й калыханкі пра войнікаў-змагароў яшчэ ад, калыскі паклалі пачатак сілы й верыў яе...*

*...Вяла, вядзе й будзе весьці яго наперад няўмiручая сiла духу.*

М. Ганько

## ЯНКА СУРВІЛЛА

«Ён жыў, як і ўсе мы, Беларуссю», — гэтак праз дзесяць гадоў пасля смерці свайго мужа Янкі Сурвіллы ахарактарызуе стан яго душы Івонка Сурвілла, сённяшняя старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сакавік 2004 г. Мы павольна ідзём на могілкі ля касцёла св. Стэфана ў прадмесці Old Chelsey ля Атавы. Касцёл і могілкі знаходзяцца ў прыгожым парку. Спадарыня Івонка расказвае пра першую сустрэчу са сваім будучым мужам у Парыжы. Гэта рамантычная гісторыя кахання з першага погляду, кахання, якое доўжылася ўсё жыццё.

Магілу Янкі Сурвіллы можна пазнаць здалёк: ля падножжа ляжыць бел-чырвона-белы вянок, які нібыта асвятляе шэрую, яшчэ не прасохлую пасля зімоўя зямлю, вільготныя, з медзяным адлівам сосны.

Яна прыбірае магілу, і ў рухах яе, — ласкавых і асцярожных, адчуваецца і даўні боль страты, і радасць ад таго, што зараз яна тут, каля яго, свайго адзінага і дарагога чалавека. Я ціха дапамагаю ёй, і светла-тужлівы настрой гэтай выдатнай жанчыны перадаецца маёй душы. Сапраўды, яны абое жылі Беларуссю, працавалі для яе, аддаючы на гэтую працу ўсе сілы і час. А цяпер іх агульную справу працягвае толькі яна — так распарадзіўся лёс.

Узгадваю фотакарткі ў хаце спадарыні Івонкі: вось яны, маладыя, прыгожыя, адухоўленыя — у Мадрыдзе, у часы, калі разам рабілі беларускія перадачы на Мадрыдскім радыё. Гэта быў сапраўдны подзвіг. Да 1958 г. Іспанскае радыё згаджалася даваць беларусам магчымасць рабіць перадачы толькі раз у год, да дня 25 Сакавіка. Затое ад 1958 г. былі гэта штодзённыя радыёперадачы, якія спачатку

рабілі ўтраіх, а ад 1961 г. — толькі Івонка з мужам, удваіх. Усяго было зроблена больш за тры тысячы радыёперадач!

Яны ішлі з вольнага свету, і іх, нягледзячы на ўсе перашкоды і «глушылкі», чулі на Беларусі...

«Янка ўважаў іх найбольшым асягненнем свайго жыцця», — заўважае сп. Івонка. А былі яшчэ і шмат якія вялікія акцыі, якія рабілі беларусы Канады і ў якіх Янка Сурвілла прымаў самы дзейсны ўдзел. Апроч таго, рабіў ён выдатныя здымкі, і, хаця былі яны зроблены на прафесійным узроўні, заўсёды лічыў іх толькі сваім хобі.

Ён быў чалавекам, які, служачы Беларусі, бачыў яе толькі свабоднай і шчаслівай.

Аб тым, як любілі і паважалі беларусы Канады Янку Сурвілу, сведчыць некралог, напісаны Міколам Ганьком, які 7 чэрвеня 1997 г. прысутнічаў на паховінах і змог дакладна перадаць атмасферу той, далёкай ужо, падзеі:

*«Пры касцёле ўжо сабралася шмат народу. Родныя, прыяцелі, сябры па працы й вялікая колькасьць сяброў Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Дамавіну паставілі перад аўтаром, накрытую адпаведным пакрывалам з букетам бел-чырвона-белых кветак ад жонкі. А па бакох — ад сям'і ды прыяцеляў. З правага боку стаіць бел-чырвона-белы сьцяг, букет ад ЗБК і вянок нацыянальнага колеру ад Канадыйскага сэктару Рады БНР.*

*...Багаслужба адбывалася ў францускай ды ангельскай мовах. Прыгожае прынагоднае слова было сказана пра Янку, — што ён рабіў, кім ён быў для сям'і, што рабіў для грамадства, а асабліва для сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі.*

*...Ён якраз для яе так шмат працаваў і месяц перад сваім адыходам ў вечнасьць аўтару гэтых радкоў даваў запавет пра захаваным нашага нацыянальнага скарбу — Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*...Я прачытаў верш Янкі Купалы «Заваяваным», а на заканчэнне «Сьпі пад Курганам герояў» Міхася Ганька.*

*Бел-чырвона-белы сьцяг схіліўся над дамавінай пры сьпеве апошняй звароткі. Запанавала абсалютная цішыня.*

*... Пад магутнымі клёнамі спачыў яшчэ адзін сын Беларускага Народу, бязьмерна адданы сваёй Бацькаўшчыне-Беларусі, якую бязьмежна любіў, для якой безупынна працаваў да таго часу, пакуль змог».*

...Не ўсе з нас, беларусаў, змогуць хаця некалі пабываць на гэтых могілках і пакланіцца чалавеку, які жыў для свабоднай Беларусі, — але мы павінны памятаць пра тых, хто набліжаў да нас Свабоду...

## *ВАСІЛЬ МЕЛЬЯНОВІЧ*

Так і стаіць у мяне уваччу: незвычайна рухлівы, нягледзячы на таўшчыню, эмацыянальны і дзелавы. Гэта ж ён, адным з першых прыехаўшы на Беларусь пасля абвяшчэння незалежнасці, зайшоў у Вярхоўны Савет да дэпутата Уладзіміра Заблоцкага і абвясціў, што хацеў бы запрасіць групу журналістаў-тэлевізійнікаў, якія маглі б паказаць у Беларусі жыццё і дзейнасць эмігрантаў. Той звярнуўся да мяне, і я, узяўшы з сабой цудоўнага рэжысёра Валерыю Скварцову, паехала за акіян — працаваць і знаёміцца з беларускай эміграцыяй, з вольным дэмакратычным светам.

Васіль быў нашым асноўным спонсарам і гідам, ён сядзеў за рулём машыны і вёз, вёз, вёз нас ад штата да штата, ад чалавека да чалавека, ад знаёмства да знаёмства. І ва ўсіх ягоных размовах, ва ўсіх успамінах заўсёды моцна і нязменна гучала адна нота: Беларусь. Беларуссю поўніліся яго дзіцячыя ўспаміны пра Лунінеччыну. Беларусь і свабода былі тэмай яго планаў на будучыню, у якой ён хацеў бачыць сваю радзіму вольнай і заможнай — такой, як Амерыка, якой быў удзячны за тое, што прытуліла іх сям'ю, што дала магчымасць і яму стаць адукаваным і забяспечаным, у той час як на радзіме «кулацкую» сям'ю вывезлі б у Сібір. Дарэчы, сімвалам рэпрэсій і бязглуздасці бальшавіцкай улады стаў для яго матор, прывезены бацькам з Амерыкі ў 1939 г., які яшчэ перад вайной забралі бальшавікі і які ўсе пяцьдзесят гадоў так і праляжаў у закінутай пуні. Беларусь была з ім усюды — у аздабленні ягонага катэджа, у вялікай колькасці нацыянальных сімвалаў, у яго ўборах. Паказваў нам беларускую кашулю-вышыванку, у якой любіў хадзіць на святы.

Прыехаўшы на могільнік у Саўт-Рыверы, пайшоў на магілу бацькоў узгадваў, як бацька выразаў абразы для беларускай царквы, якім ён быў гаспадаром і як тужыў па рачулцы ў Азяродах. Надпісы на іх магілах Васіль зрабіў паляшуцкія, простыя. Так гаварылі на яго радзіме: тато, мамо...Так я і сфатаграфавала яго там — у роздуме, ва ўспамінах.

Калі паміраў, завяшчаў, каб яго ўсё ж пахавалі не з бацькамі, якія засталіся ў Амерыцы, а на роднай зямлі. Там ён і ляжыць зараз — на могільніку ў вёсцы Азярніцы Лунінецкага раёна. А ў мяне застаўся ўспамін: фотакарткі і відэаплёнка аб беларускім некропалі ў Амерыцы. І твар Васіля Мельяновіча, калі ён гаварыў пра Беларусь...

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Гэтую кнігу хочацца скончыць спадзяваннем, што некалі мы, беларусы, здолеем сабраць у адно звесткі пра ўсіх, хто служыў справе Свабоды і Незалежнасці нашай краіны — ад часоў яе зняволення і па сённяшні дзень.

Я напісала далёка не пра ўсіх, пра чые апошнія прыстанкі хацела б узгадаць. Напрыклад, пра магілу Алеся Гаруна ў Кракаве, Пятра Крэчэўскага, Васіля Захаркі і Міхася Забэйды-Суміцкага ў Празе, Максіма Багдановіча ў Ялце. Не ўзгадваю я і пра пахаванні ў Мінску (Я. Купалы, Я. Коласа, У. Караткевіча, М. Стральцова, В. Бечыка і многіх, многіх іншых) — для гэтага патрэбны былі б тамы ды тамы...

Змест жа кнігі, што я зараз прапаную чытачу, склалі толькі падарожжы самых апошніх гадоў па мясцінах, дзе я змагла зрабіць здымкі (хай мне даруюць майстры фатаграфіі за іх недасканаласць), узгадаць, чым дарагія нам усім людзі, чыім магілам разам з аднадумцамі я змагла пакланіцца.

Бо мы і сёння змагаемся за Свабоду...

**ЗМЕСТ**

